# ПОЛЫМЯ РЭВОЛЮЦЫІ

ЧАСОПІС ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА, МАРКСІСЦКА-ЛЕНІНСКАЙ ТЭОРЫІ І КРЫТЫКІ

ОРГАН ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА СОВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

*КНІГА ПЯТАЯ*



ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
МЕНСК—1936

*Вл. Маякоўскі*

## ДВА МАІ

Сёння
забыты
нагайкі паліцыі.
Ад сцягаў
і неба
агнём свіціцца.
Паставіць вуліцу—
і вуліца ў нас
Ад натоўпаў
у смерч
развіхурыцца ў раз.
У Еўропу рванецца—
і шалёны роў яе
Пойдзе зрываць
палацаў стопавярхоўе.
Але нас
не любоў спаяла,
а мір.
Рабочых
на бойку
паклікалі мы.
Яшчэ прыдзецца,
мусіць,
і тут і там
Паўстаннем прайсці
па іх
рубяжам.
Іхны
бог
па ранейшаму
тлусты з твару,

З хвастом залатым,
на мільёны—
тавараў.
Сядзіць
расфуфыраны,
наадэкалонены,
Паядае
за дзень
дзесяць калоніяў.
Але хутка
мы радасць
да іх павернем;
Забітасць
вырвем
З сэрца з карэннем!
Але будзе:
кругі
пашыраюцца пэўна
і Крэст...
і Проф...
і Комінтэрна.
— І гэта будзе
астатні...
А покуль—
У сэрцах
нянавісці
вышэй токі!
Покуль
не зломім
наўкол
прыганятых—
Ірвіся
віхром
па мужыцкіх хатах,
Нясіся асфальтам
на заклік—
змагацца!—
— Вайна, вайна,
вайна
палацам!..
А зараз—
карціна
другая,—
Будучыні
Першамая.
Няма
ні зім,
ні восеней,
ні футр.
Скрозь-вясна...

Вясёла жывуць!
Да месяца
і да сонца—
два ключы:
Хочаш—
выключ.
Хочаш—
уключы.
І мы,
і Марс—
абедзве планеты
Зляцеліся разам
на свята гэта.
Каля месца,
што звалі
„пустыня Гобі“
(Толькі пазнай яе
зараз,
паспрабуй!).
Мільёнамі
становяцца
ў рад
Самалёты
на першамайскі парад.
Сотня год
без самага малага,
Як банда
знішчана капіталава!
І вось пачынаецца
чырвоны парад.
Па тысячах
стройныя сцягі
гараць.
Пусцілі па небу
фарбуючы газ—
І неба—
сцягамі—
чырвонае ўраз.
Па радыё, к зоркам,
управа, улева
Гімны працы
раструблены ў спевах.
І не міргнуўшы
(прыемна і ім!)
Планеты ў адказ
рассылаюць гімы.
Гукамі радасці
повен прастор
І сонца

гульням
адзін рэжысёр.
А музыка
плешча
пад небазвод,
Покуль сігнал заіграе:
„Разлёт!“
І к сонцу
атрад
марсіанамі ўскінут.
Купаюць
у промнях
самалётавы спіны.

*Пераклаў Ю . ЛЯВОННЫ.*

*Якуб Колас*

## У МАЙСКІЯ ДНІ

Пеў я песні калісь
У журботным тоне
Проста, без прыкрас,
Бо не меў я волі,
Бо быў я ў палоне,
Бо такі быў час.
Тое ліха сёння
Адышло далёка,
Зарасло быллём;
Цёмнае прадонне,
Дзе адчай галёкаў,
Знішчана суздром.
Гляну я навокал
Ды зірну я ў далі—
Шырыня, разгон!
Цешаць мае вока
Сонечныя хвалі
Нашых ясных дзён.
Вольныя разлогі
Без мяжы-граніцы—
Гмах калгасных ніў!—
Воля перамогі,
Водблескі зарніцы,
Аб якіх не сніў!
Па зямлі раскутай
Веснавым напевам
Носяць шум вятры—
Сказ, нідзе нячуты,
Радасць-неспадзевы,
Новыя дары!
І шуміць мне вецер
Роднае краіны,
Як вяшчун-баян:
„Пройдзе май па свеце
Зорнаю пуцінай,
Разагнуўшы стан.
Няхай вар'яцее
Гітлер цемрашалы

І яго хаўрус:
Май вясною вее,
На пагост з'імшалы
Сцеле ім абрус".
Ходзіць вецер долам
Лёгкаю паходкай
І вядзе свой бай:
„Пройдзе май вясёлы
Шумнаю паводкай,
Пераможны Май!"
Веснавым напевам
Па зямлі раскутай
Носяць шум вятры:
Большэвіцкім гневам
Знят ланцуг пакуты,
Вы—гаспадары!"
Песнямі прывета
Ветру ўторац дalі,
І мы ім у тон—
„Дзякуем за гэта,
Партыя і Сталін!
Шчыры вам паклон!"

25.IV-36 г.

*Платон Галавач*

# НОСЬБІТЫ НЯНАВІСЦІ

**Памяці**

**салдат польскай арміі, стаўшых у рады барацьбітоў за справу рабочага класа і закатаваных белапалякамі ў Слуцку, у тысяча дзевяцьсот дваццатым годзе:**

**Амелянчыка Міхася,**
**Ярмаліцкага Петрака,**
**Камінскага Алеся;**

**памяці**

**чырвоных партызан Случчыны, закатаваных белапалякамі ў тысяча дзевяцьсот дваццатым годзе:**

**Бенько Нічыпара.**
**Бычэнкі Міхася,**
**Грачука Яўхіма,**
**Красуцкага Сцяпана,**
**Раўтовіча Міхася,**
**Сімановіча Антона,**
**Саладухі Пятра,**
**Сцепановіча Пятра,**
**Цішкевіча Міхася,**
**Цішкевіча Мікалая,**
**Цішкевіча Максіма.**

**Таварышам,**

**палітычным вязням фашыстоўскіх турмаў Польшчы,**

**таварышам,**

**якія не гледзячы на тэрар і пагрозу смерці, вядуць барацьбу за дыктатуру рабочага класа.**

*„Привет живым! Да здравствует наша победа!"*

Было каля дванаццаці гадзін ночы, калі падпаручык польскай арміі Крумінькі пашоў з вечарынкі ў доме старшыні гарадской думы. Ён адчуваў яшчэ на сваім локці руку палкоўніка Шэмета, яшчэ лунаў перад вачыма ў яго пышнавусы твар палкоўніка, і толькі што развітаўся з гаспадаром, які правёў яго аж на ганак, а мыслямі быў ужо далёка ад іх, у заўтрашнім. У галаве наспявала рашэнне. Яго можна будзе ажыццявіць або заўтра, або ніколі. Рашэнне ўзнікла адразу пасля слоў палкоўніка і так усхвалявала Крумінькага, што ён пачаў баяцца, каб гэтай празмернай усхваляванасці не заўважылі. З гэтай

прычыны ён хутка, спаслаўшыся на неабходнасць выкананьня аднаго з абавязкаў па службе, адпрасіўся ў гаспадара і палкоўніка з вечарынкі і разьвітаўся з імі.

Усё адбылося нечакана. Старшыня гарадской думы наладзіў вечарынку з нагоды імянін аднае з сваіх дачок. Незадоўга да гэтага яго выклікаў да сябе палкоўнік Шэмет, камандзір акружнога этапа і не зусім ласкава выказаў сваё нездавальненьне дзейнасцю думы сярод насельніцтва і яе ўплывам. Дума ў горадзе існавала з часоў нямецкае акупацыі. Існаваньне яе было дазволена, пасля адыходу немцаў, з умовай актыўнага падтрыманьня ўлад у барацьбе з большэвікамі і палкоўнік патрабаваў гэтага. Каб перапрасіць палкоўніка і бліжэй пазнаёміць яго з так званымі мясцовымі дзеячамі, гаспадар упрасіў яго прыйсьці на вечарынку. Акрамя палкоўніка, сярод запрошаных было некалькі афіцэраў, у тым ліку і падпаручык Крумінські. Знаёмячы палкоўніка з Крумінскім, гаспадар сказаў: «Падпаручык з тутэйшых, значыць як-бы і беларус і паляк. Маю смеласьць заявіць— сымбаль, увасабленьне саюза нашых народаў».

Палкоўнік сядзеў у мяккім утульным крэсле каля стала. Ён падаў падпаручыку руку, а гаспадара пахваліў за трапна выказаную думку. «Калі з большэвікамі будзе скончана,—сказаў ён,—саюз нашых народаў, вялікага і меншага, асьвеньчаны барацьбой супроць агульнага ворага, расквітнее нябачна». Прысутныя згаджаліся з палкоўнікам, лісліва паддаквалі яму, прасілі праявіць большую клапатлівасьць у адносінах да думы і гаварылі паміж сабой пра добрасьць пана палкоўніка.

Крумінські слухаў тутарку і маўчаў, стрымліваючы сябе каб не засмяяцца. Яго маўклівасьць кінулася ў вочы. Адзін з гасцей, сусед па крэслу, папракнуў яго за ганарлівасьць. Каб апраўдацца, Крумінські папрасіў прабачэньня, спаслаўшыся на сваю схільнасьць да адзіноты. І тады раптам за яго заступіўся палкоўнік і пахваліў за ўдумлівасьць. Гэта здзівіла Крумінськага. Але яшчэ больш здзівіла яго палкоўнікава ўважлівасьць, праяўленая пасля вячэры ўжо. Госьці размясьціліся слухаць беларускія рамансы, у выкананьні вядомай у павеце сьпявачкі, спецыяльна запрошанай дзеля палкоўніка. Зьбіраючыся пайсьці сесьці на канапу, палкоўнік узяў гаспадара, з якім гутарыў пра становішча на фронце, за гузік сурдута, а падпаручыка за локаць і павёў з сабою да канапы. А як сеў, паведаміў і навіну, якая так моцна ўсхвалявала Крумінськага.

Разьвітаўшыся з гаспадаром ужо на самым ганку, Крумінські некалькі секунд стаяў на месцы, чакаючы каб звыкліся з цемрай вочы. Пасля сышоў з ганку на тратуар, які слаўся пад нагамі ледзь прыметнай шэрай паскай і пашоў у канец вуліцы. Ішоў сьпяшаючыся. Наспеўшае ў галаве рашэньне патрабавала неадкладна пайсьці да сваіх, расказаць ім пра ўсё і заўтра-ж дзейнічаць. Ідучы ўслухоўваўся ў свае крокі. Па абодвы бакі вуліцы стаялі цёмныя, шэрыя ад часу і недагляду, дамы. У ніжніх паверхах дамоў былі шчыльна пазачыняты вакяніцы, а ўверсе вокны пазавешаны густой тканінай фіранак. З-за вакяніц і шчыльных фіранак, у вуліцу не даходзіла ні сьвятло, ні гукі. Ніштто ў гэтую пару не парушала цішы апусьцелай цёмнай і гразкай вуліцы, а густыя хмары, якія сунуліся над зямлёю, яшчэ больш пасілялі яе, заглушаючы водгульле крокаў.

Дайшоўшы да месца, дзе вуліца крута павяртае ўлева на загараддзе, да кальвінісцкіх могілак, Круміньскі прыпыніўся. Яго здзівіла, што па ўсёй вуліцы ў такую пару не напаткаў патруля. Прыслухаўшыся да наваколля, ён пашоў у завулак направа. З завулка ён хутка трапіў на маўклівы і гразкі пляц гарадскога рынку, перашоў яго наўскасяк і апынуўся перад патрэбным яму домам. Гэта быў белы двухпавярховы дом. Круміньскі ведаў яго. Наверсе жылі жандармы, а ўнізе ў сутарэнні—майстэрня, гаспадар якой рабіў хамуты, сядзёлкі, аброці, сырычныя і ладзіў сёдлы. Хамут і сядло намалёваны на саржавелым кавалку бляхі, прыбітым да сцяны каля брамы.

Круміньскі прайшоў паціху абмінаючы дом і зірнуў на адно з вокан сутарэння. На акне каля самай шыбы вазон. Гэта знак, што можна зайсці. Павярнуўся і гэтак-жа паціху падаўся ў браму і пад лесвіцу ў дзверы майстэрні. Чыркаючы запалкі прайшоў цёмны калідорчык. На стук дзверы адчыніліся не адразу. Раней санлівы і злосны голас гаспадара майстэрні пытаў хто стукае. Увёўшы Круміньскага ў майстэрню, гаспадар затрымаў яго ў сваім цёмным пакоі і адчыніў дзверы ў суседні асветлены. Тады Круміньскі змеціў побач з сабою складзеныя каля сцяны хамуты. Ён усміхнуўся. Ён заўжды ўсміхаўся, як заходзіў сюды і пазіраў на хамуты і сядзёлкі. Насустрач яму з другога пакоя пашоў Дубравец, нясучы ў руках гімнасцёрку, у якую ўшываў гузікі. Гэта быў мужчына год сарака пяці, русавалосы, з густымі, каротка падстрыжанымі вусамі. Ён падаў госцю руку, затрымаў яго ў дзвярах, вярнуўся загасіць у сваім пакоі святло і тады ўжо запрасіў госця за сабою ў бакоўку.

— Сядай, таварыш падпаручык, чаго так позна?—Падаў Круміньскаму крэсла і сам сеў насупроць яго.—Лены не бачыў яшчэ?

— А хіба прыехала?

— Так, і з важнымі навінамі.

— У мяне таксама важныя навіны. Я толькі што з вечарынкі, ад старшыні гарадской думы. На вечарынцы быў палкоўнік Шэмет. Ён сказаў, што ўчора на нашу станцыю прыбылі платформы з французскімі самалётамі. Іх рыхтуюць для ўдзелу ў наступленні.

Дубраўца паведамленне здзівіла:

— Самалёты на нашай станцыі? Гэта точна?

— Думаю што точна...

— Ну вядома. Я разумею цяпер. Лена прывезла з цэнтра паведамленне, што на адзін з участкаў фронта пасылаюцца самалёты, і загад знішчыць іх, калі будуць на нашым участку. Значыць, трэба знішчыць,—сказаў Дубравец.

— Так...

— Якім чынам?

— Узарваць. Інакш нельга.

— Так. Гэта небяспечна для выканаўцаў, вельмі...

— Гэта пэўная смерць, калі ні на месцы ўзрыву, дык пасля,—расстрэл. Я не ведаю дзе стаяць платформы з самалётамі, але ведаю, што іх будуць уважліва ахоўваць.

Памаўчалі.

— Колькі чалавек трэба?

— Чатыры.

— Думаеш менш нельга?

— На шэсць платформ—не. Але заўтра зранку можна схадзіць на станцыю і паспрабаваць даведацца.

— Гэта трэба ведаць точна.

— Трэба каб са мною пашла Лена. Мы пройдземся з ёю на шпацыр. Гэта з ранку, а ўвечары ўзрыў.

Яны не гаварылі пра тых, хто пойдзе выконваць загад цэнтра; Дубравец ухіляўся гэтае гутаркі свядома, бо давялося-б назваць і Крумінскага, а ён не хацеў гэтага зрабіць. Што пойдзе менавіта Круміньскі, ён ведаў, як ведаў гэта і сам Круміньскі. Думка ўзарваць платформы з самалётамі ўзнікла яшчэ на вечарынцы, а асабісты ўдзел у аперацыі мысліўся сам сабою. Яго здзівіла-б, калі-б Дубравец запытаў, ці пойдзе ён, настолькі моцным было рашэнне непрыметна выспеўшае ў свядомасці.

— У Лены я бываю вельмі часта. Заўтра не трэба каб мяне бачылі ў яе,—сказаў Круміньскі.

— Я пашлю Сцёпку і а дванаццатай вы спаткаецеся ля дзвярэй ілюзіёна.

Нейкі час яны абудвы маўчалі. Дубравец зноў узяў у рукі адкладзеную раней гімнасцёрку і пачаў разглядаць яе. Круміньскі падняўся ісці.

— Ці цёпла на дварэ?—запытаў Дубравец, адчыняючы дзверы сваёй бакоўкі.—Можа марозік?

— Здаецца цёпла,—Круміньскі здзіўлена прыўзняў бровы, адгадваючы чаму Дубравец пытае пра надвор'е. Далібог-жа не памятаю, здаецца, гразь. Ну так, гразь,—прыпомніў ён рыначны пляц.

Перад дзвярыма Дубравец доўга трымаў руку Круміньскага, як бы збіраўся што гаварыць, а сказаў толькі сваё звычайнае:

— Значыць да заўтрага, таварыш падпаручык.—Пацiснуў руку і вярнуўся ў кватэру.

* * *

Лена, дачка мясцовага настаўніка сярэдняй школы, працавала ў партыйным камітэце ў ролі тэхнічкі. Яе абавязкам было дастаўляць і хаваць літаратуру і размяркоўваць яе, хаваць і размяркоўваць зброю, і патрэбную час ад часу жаўнерскую вопратку. Гэта была рухавая, высокая дзяўчына з густымі, незвычайна светлымі валасамі, з парай цёмных, колеру спелай вішні, вачэй на крышку кірпатым твары. Гэта надавала яе твару выраз задзірыстасці і адразу раскрывала ўласцівую яе характару рухавасць. Назаўтра пасля спаткання Круміньскага з старшынёй падпольнага партыйнага камітэта Дубраўцам, Лена роўна а дванаццатай гадзіне дня ішла да ілюзіёна. Яшчэ здалёк Лена пазнала Круміньскага. Ён стаяў залюбаваўшыся распухшымі пупышкамі на дрэвах. З самага ранку Лена дазналася пра мэту свайго спаткання з Круміньскім і адразу дагадалася пра небяспеку, што пагражае яму, бо хоць пра выканаўцаў аперацыі ёй і не сказалі ніводнага слова, але яна ведала, што ў іх ліку будзе Круміньскі, самы блізкі ёй чалавек. Старалася не думаць пра небяспеку, гэта нібы ўдавалася але калі пайшоў насустрач ён, у грудзях як бы што апала. Можа таму і працягнула да яго абедзве рукі.

— Міша!

Ён стаяў перад ёю абрадаваны.

— Чаго ў цябе такі спалоханы твар?

Хмыкнула, закусіла верхнюю губу і твар адразу стаў весялейшым.

— Напалоханы! Выдумляй! У мяне ніколі твар не бывае напалоханы.—Ухапілася рукамі за яго локаць і, саштурхнуўшы з месца, павяла тратуарам. Наперадзе была рэчка, мост цераз яе і за мостам кварталы горада з разбуранымі, абгарэлымі будынкамі, з закапцелымі, ад дыму пажараў, сценамі дамоў, з узгоркамі на месцы згарэўшых дамоў і над усім белы, як турма, абгароджаны высокай каменнай сцяной, касцёл са збітай званіцай.

Выгараўшыя кварталы горада былі падобны на могілкі, на якіх помнікамі стаялі абкураныя, напоўразбураныя сцены камяніц і ўцалеўшыя печы драўляных дамоў, каля якіх шнырылі галодныя сабакі, над якімі кружыліся з крыкам вароны. Абмінуўшы гэтыя месцы ішлі адной з галоўных вуліц горада па вузкім і паразламваным тратуары з дошчак і, месцамі, збітых цэмантовых плітак. Ішлі міма нязграбных, нізкіх, брудных і цёмных камяніц з сутарэннямі, збудаваных купцамі міма драўляных мяшчанскіх дамоў за частаколамі, з расфарбаванымі ў сіняе і напалову аблезлымі ад часу вакяніцамі. Насустрач ім даўгім абозам ехалі сялянскія фурманкі. Абознікі ішлі па гразі вуліцы побач са змучанымі, стомленымі коньмі. На калёсах, замошчаных саломай, сядзелі легіянеры. Салдацкі гоман і крыкі, гоман велізарнай стаі наляцеўшых варон і тарахценне калёс запаўнялі вуліцу, рабілі яе цеснай і гэта перашкаджала бачыць святло веснавога сонца, адчуваць яго цяплыню, бачыць зялёныя парасткі муравы каля платоў і чуць як булькоча мутная вада ў раўчуку ля тратуара.

За горадам яны не пашлі па шасе, а па сцежцы, утаптанай і сухой, што ішла наўпрост цераз станцыю ў чыгуначны пасёлак і ў хвойнік, побач з пасёлкам, які ў некалішнія часы быў месцам гулянак гарадской і пасялковай моладзі. Хвойнік даўгой паласой цягнуўся ад станцыі ўздоўж чыгункі да ўскраіны горада, да самых гарадскіх могілак, за якімі пачынаўся лес. Далёкі лес ахутаны туманнай сінявой, а наперадзе густой зялёнай сцяной стаіць хвойнік. Ён вабіць да сябе.

— Пяройдзем станцыю і адразу туды.—Круміньскі паказаў на хвойнік.—У горад вернемся з могілак.

Наблізіўшыся да станцыі, пашлі зусім ціха. Лена ішла прытуліўшыся да Круміньскага, нахіляючыся да яго і гладзіла яго руку, на якую абапіралася. Гэтак яны дайшлі да будынка станцыйнага складу, абмінулі яго і пустыя таварныя вагоны, што стаялі на пуці каля самага складу. Абмінулі яшчэ станцыйную вадакачку і за ёй убачылі таварны вагон, прычэплены да платформ. Вагон раскрыты. Звесіўшы з вагона ногі, грэюцца на сонцы два легіянеры. Яны пазіраюць на афіцэра з паненкай і, перакінуўшыся словамі, усміхаюцца. Вагон на пяць якіх крокаў ад сцежкі. За вагонам нагружаныя платформы, уважліва накрытыя брэзентам. У канцы платформ, далёка ад сцежкі, вартавы з вінтоўкай напагатове. Калі абмінулі вагон, убачылі побач з платформай другога вартавога. Вартавы пазіраў на афіцэра, павярнуўшыся тварам. Афіцэр пазіраў насустрач яму, бачыў ягоны твар і за ім бачыў платформы з незвычайным грузам, клапатліва захаваным пад брэзентам. Ён кінуў некалькі раз поглядам у бок платформ ужо

і тады, як абмінулі вартавога, угадваючы пад запыленым брэзентам бліскучыя даўгія целы новых, бяскрылых яшчэ самалётаў.

— Гэта яны,—сказаў Круміньскі і Лена мацней сціснула яго руку, нічога не адказаўшы. Затым, як перасеклі пуці, яна раптам злавіла сябе на думцы аб тым, што здарыцца ўвечары. Ёй стала страшна і яна памкнулася ісці шпарчэй. Старалася не думаць аб гэтым, а страх нарастаў і яна міжвольна зірнула ў твар Круміньскаму. Можа хацела разгадаць яго думкі. Ён адгадаў у яе поглядзе палахлівасць і сустрэў яго ветлівай усмешкай.

— Як багата сонца,—сказаў ён.—Павінны быць краскі.

Яго словы пра сонца і краскі яшчэ больш напалохалі яе, але яна апамяталася, схамянулася неяк, адарваўшы ад яго погляд і тады азвалася:

— Але, падснежнікі...

За пуцямі ўздоўж іх, цягнулася агарожа з калючага дроту. Абмінуўшы яе сышлі са сцежкі ў хвойнік. Адсюль Круміньскі зноў бачыў платформы, укрытыя брэзентам. Да іх сажняў пяцьдзесят—шэсцьдзесят. Вартавы павольна крочыў ад сцежкі ў канец платформ.

Над імі цень, які дзе-ні-дзе прарываюць разрэджаныя промні сонца, лёгкія подыхі ветра ў верхавінах маладых хвой і густы пах смалы. Пад нагамі мякаць зямлі, даўно нікім няходжанай, слізкай ад густога насцілу хвойных іголак. Яны ішлі і ішлі хвойнікам і чым далей адыходзілі ад станцыі, тым спакайнейшай рабілася Лена. Небяспека, пра якую думала, аддалялася з тым, як аддалялася станцыя. Каб замацаваць заспакоенасць, яна нават азірнулася, ці далёка станцыя. Цяпер улева ад іх быў невысокі чыгуначны насып, а за ім поле і горад. Над горадам тырчэў вузкі комін лазні. У Круміньскага нарадзілася жаданне гаварыць аб сабе, пра сваё дзяцінства.

— Разумееш,—казаў ён,—шасе і шасе і нідзе яму канца няма, зусім не ведаеш, куды едзеш, дзе спынішся. Па шасе едуць і едуць людзі, а наш воз стаіць у баку, у канаве, конь наш распрэжаны і я баюся, што ўсе пераедуць, а нас і казакі дагоняць і фронт. Маці ляжыць, нежывая ўжо, на пяску, на падушцы, а мы з сястрой стаім каля шасе і просім людзей дапамагчы. А яны паглядзяць і едуць. Потым нейкія знайшліся: выкапалі ямку каля шасе, знялі дошку з нашых калёс, падклалі яе пад плечы маткі і пахавалі. Тады я толькі апамятаўся, пачаў думаць, што-ж гэта са мной будзе? Людзей баяўся. Добрымі здаліся толькі тыя, што матку пахавалі. Каля маткі я і не быў. Папрасіў іх, запрог каня, ды і паехаў. Яны едуць і я еду, яны стануць, станаўлюся і я, а магіла маткіна так засталася. Дзе яна, я памятаю і калі-небудзь можа з'езджу глянуць на тыя месцы...

Лена моўчкі ішла поруч з ім, адчуваючы яго руку і пазірала нерухомымі вачыма ў далячынь перад сабою.

— Так я ў ваш горад трапіў.—Сястру цераз бежанскі камітэт адна пані ўзяла, а мяне баньшчык. Цяпер смешна, а тады я дужа баяўся яго, хоць і меў ужо васемнаццаць гадоў. Павёў ён мяне ў лазню, загадаў памыцца, а тады загадаў дапамагаць. Ён мыў нізенькага і вельмі-ж тоўстага чалавека. Той сядзіць сагнуўшыся, сапе, стогне, а гаспадар мой круцішча каля яго, трэ і мые. Як лёг той на

лаўку, гаспадар сунуў мачалку мне ў руку, а я гіджуся, стаю і нічога не раблю, дык ён нагой ледзь не пераламаў мне ног. Пасля гэтага мяне ў лазню не вадзіў, дома работы хапала і біў мяне, біў так, што калі-б не ўцёк я ў нацыянальны польскі полк, сам мусіць забіў бы яго. А так, бачыш, да падпаручыка даслужыўся.

— Навошта ты гэта гаворыш?

— Ды каб ні ўсё гэта, то я можа і цябе не спаткаў бы.

— Ну во, гавары...

— Баішся?

— Мяне цяпер не трэба палохаць, а то і ён будзе палахлівым... Усміхнулася.

— Ён будзе смелым. Яго біць не будуць, як мяне.

— Ён будзе такім як бацька...—пагладзіла яго твар.—Такі-ж неспакойны, толькі больш шчаслівы...

Яны выйшлі з хвойніка на чыгуначны насып, Крумінські першы сышоў з насыпа і расхінуў рукі. Лена скокнула і стала на цыпачках на пяску, падхопленая яго рукамі. Ад чыгункі яны пашлі да дарогі і хутка вярнуліся ў горад.

* * *

У маленечкім пакоі Дубраўца сабралася аж сем чалавек. Ад гэтага ў бакоўцы няма дзе павярнуцца і душна. Тут Дубравец, Крумінські, легіянер юнак Бараўскі, Шаўрук і яшчэ двое, якіх Крумінські да таго не сустракаў.

— Зрэжам пеўніку крылечка,—кажа Шаўрук. Пасля Дубравец дае слова Крумінскаму. Крумінські дастаў аловак, паперу і пачаў гаварыць.

— Платформы з самалётамі стаяць на пуці ўлева ад пасялковага пераходу. Каля самай сцежкі вагон з вартай, а платформы за ім адна за другой. Вартавых, двое, з аднаго боку і з другога. Платформы стаяць так:—накідаў алоўкам на паперы план размяшчэння платформ і паказаў яго прысутным.—На месцы трэба быць не пазней як без чвэрткі дзевяць, а яшчэ лепш крышку раней. Пайсці павінны пяць чалавек...

— Чаму пяць?—перапыніў яго Дубравец.—Учора ты гаварыў, што трэба чатыры чалавекі і мы чатырох вызначылі.

— Я гаварыў пра чатырох без мяне.

— Я пра гэта думаў, але табе нельга пайсці.

— Мне нельга не пайсці.

— Чаму?

— Лена прынясе мне на кватэру вопратку. А пятай гадзіне таварышы праходзяць да мяне, пераапрануцца і я вяду чатырох легіянераў. У такім выглядзе я гарантую выкананне. Разумееце, афіцэр вядзе салдат, гэта зусім натуральна,—дадаў ён, спаткаўшыся поглядам з Дубраўцом, каб яшчэ больш пераканаць яго.

— А гэта такі правільна прыдумана,—сказаў Шаўрук.

— Але нам вельмі важна таварыша Крумінскага захаваць у войску.

— Пайсці важней,—не згадзіўся Крумінські.

Усе момант маўчалі. Дубравец раней, чым згадзіцца з Крумінькім, абвёў поглядам прысутных. А пасля сказаў:

— Давайце вырашым пытанне аб Крумінькім. Я згодзен каб уключыць таварыша Крумінькага ў лік выканаўцаў загаду Цэка і прапаную вызначыць яго адказным за выкананне.

Круміньскі ўсміхнуўся.

— Інакш нельга, таварышы,—сказаў ён.—Я распрацоўваў план, увесь час думаючы пра сябе як выканаўцу.

— Добра,—падняўся Шаўрук.—Нам нельга рызыкаваць. Загад павінен быць выкананы, мы ўсе разумеем як гэта важна. Я згодзен.

Шаўрука падтрымалі іншыя.

— Значыць вырашана,—загаварыў Дубравец.—Таварыш Круміньскі ідзе. Як бы і ўсё...

На сцяне насупраць Дубраўца, вялікая рэпрадукцыя з карціны Рэпіна «Крестный ход в Курской губ.». Вялізарны натоўп людзей, канец якога губіцца ў схаваным пылам далячыні. Наперадзе барадатыя вясковыя багатыры нясуць багата, але без густу прыбраную ікону. За іконай ідуць паны і сытамордыя купцы, пані з абразом, папы ў бліскучых рызах, чыноўнікі ў гузіках, а за імі натоўп і ў натоўпе, над ім, мужыкі ў медалях і стражнікі з бізунамі. Яны на конях. Раз за разам нахіляюцца стражнікі то на адзін, то на другі бок і б'юць людзей бізунамі, каб хаця не асмеліліся яны пайсці разам з гаспадарамі жыцця за іхным богам. А ў баку ад натоўпу, паспяваючы за ім, спяшаюцца сагнуўшыя, пакалечаныя, абвешаныя лахмоццем рызманоў, жабракі. Так думаў пра карціну Дубравец і гаварыў:

— Кожны з нас з самага дзяцінства свайго прынёс нянавісць да разбэшчанага, адзічэлага панства, якое, каб захаваць спакой свайго сытага жыцця, патрабуе нашай крыві. Мы гэтай крыві не дадзім, мы маем сілы зберагчы яе. Вы разумееце, таварышы, што ідзеце на небяспечную справу, якая можа патрабаваць ад кожнага з вас і вашага жыцця. Пры неасцярожнасці вас можа раніць і ў часе ўзрыву. Па другое, вас могуць схапіць. Тады турма, допыты і пагроза расстрэлу. Вы гэта ведаеце. Гінуць страшна, калі не ведаеш, за што гінеш, а мы ведаем, што калі давядзецца аддаць жыццё, дык за тое, каб было на зямлі ў працоўных людзей жыццё шчаслівае, каб не сядзелі з веку ў век і ніколі на ягоным карку розныя Чапскія, Патоцкія ды Радзівілы. Аддаць жыццё за такое, гэта вялікая справа, таварышы...

Дубравец гаварыў прыцішаным голасам, пазіраючы на таварышоў. Ён думаў, што можа слоў гэтых і не трэба, але не мог не сказаць іх перад развітаннем.

— Цяпер то ўжо напраўду ўсё,—сказаў ён.—Час разыйсціся.

Развітваючыся Дубравец жартаваў і, паціскаючы руку Крумінькаму, жартуючы пашкадаваў, што заўтра, відаць, таварыша падпаручыка разжалуюць. Жарт падтрымаў Шаўрук, гаворачы, каб Круміньскі чына не шкадаваў, бо, маўляў, у старой арміі і сам спрабаваў узбіцца на чыны, але не пашанцавала, значыць Круміньскі будзе не адзін сярод нешчаслівых у гэтай справе.

* * *

У той-жа дзень, гадзіне, а чацвертай, з аднаго двара на цэнтральнай вуліцы горада выйшла маладая, дужа проста апранутая жанчына. За плячыма ў яе быў велізарны клумак, абвязаны прасцінай. З клумку тырчэлі кавалак рукава памытай сарочкі, падвязкі кальсон. Усё сведчыла пра тое, што жанчына жыве тым, што бярэ мыць бялізну і зараз нясе аддаць ужо вымытую. Жанчына прайшла квартал цэнтральнай вуліцы і звярнула ў адзін з завулкаў, у якім хутка спынілася, прыхіліўшыся клумкам да загарадзі. Пастаяўшы так пашла далей. Ішла патупіўшы позірк, стараючыся хутчэй абмінуць сустрэчных. Хутка яна зайшла ў адзін з двароў і таропка пастукала ў дзверы першай ад вуліцы кватэры. Дзверы адчыніў Круміньскі, які ўзяў у жанчыны клумак і панёс яго да сябе ў пакой, куды следам зайшла і сама жанчына. Круміньскі паклаў клумак, не развязваючы ў кут, а тады павярнуўся да прыйшоўшай.

— Стамілася?

— Ага, ледзь прынесла.

— Чаму-ж ты?

— А хто-ж бы панёс? Памыла і нясу бялізну, на мяне ніхто і ўвагі не зверне. Баялася, каб толькі знаёмых не спаткаць. Там жа і гранаты,—сказала яна, паказваючы на клумак.—Па праўдзе кажучы, я баялася несці. Іду, а па спіне мурашкі бегаюць, як прыпомню. Як сустракала паліцыянтаў дужа смешна было, думала, во калі-б здагадаліся, ды ўзялі мой клумак...—І раптам змянілася ўся, уздрыганулася і зірнула на Круміньскага знаёмымі яму палахлівымі вачыма:

— Як жа я заўтра буду?.. Як мне страшна! Я баюся...— Падышла, закінула рукі яму на плечы, а галаву прытуліла да грудзей. Ён адной рукой узяў яе за плечы, каб падтрымаць, а другой пачаў гладзіць яе валасы, абвязаныя беленькай прасценькай хусткай. Яна маўчала, усё шчыльней туляючыся да яго і раптам задрыжэла ўся, а плечы затрэсліся як у ліхаманцы. Паціху павёў яе да крэсла і пасадзіў. Яна рукамі закрыла твар. З пад прыціснутых да твару далоней прасочваліся слёзы.

— Так-жа нельга. Дай твае рукі, Лена, вось так.

Далоні рук былі мокрыя і мокрыя былі шчокі. З воч слёзы паволі аплывалі на твар і яна не сцірала іх, не адбірала рук.

— Як-жа гэта ты, Лена, а?

— Мне дужа страшна. Я баюся.—Уздрыганула, схапілася рукамі за яго, зноў прытулілася галавой да яго, але хутка выпрасталася, узяла яго рукі і пачала гладзіць.

— У нас будзе магчымасць выратавацца і ўцячы. Кінуўшы гранаты, мы толькі адзін момант счакаем, пакуль узрыў, а тады кінемся ўцякаць. Вартавы будзе зняты намі... Галоўнае ўскочыць у хвойнік, а там лягчэй ужо дабегчы да пасёлка і схавацца, або бегчы хвойнікам аж у лес.

Яна, ёй гэтага хацелася, паверыла ў такую магчымасць выратавання і тады зноў вочы наплылі слязмі.

— Ты, Лена, зусім сёння не падобна на сябе.

— Я не буду. Гэта пройдзе. Вось глядзі, я ўжо спакойная. Бачыш?—Падняла да яго заплаканы твар. У гэты час пастукалі ў дзверы. Чуваць было, як хтось выцірае на ганку ногі.

— Свае, трэба ісці адчыніць.

— Ідзі адчыні.

Першым прышоў Шаўрук, а праз нейкі час прышоў Бараўскі, а за ім і Ключынскі. Не было толькі Багдановіча. Круміньскі развязаў клумак, прынесены Ленай, выняў гранаты, загорнутыя ў фрэнчы і паклаў іх на сваім ложку пад падушкай. Шаўрук і Ключынскі змянілі сваю вопратку і ўжо былі гатовы ісці. Круміньскі ўсё часцей паглядаў на гадзіннік. Заставалася дваццаць хвілін да часу, вызначанага для адыходу, а Багдановіча ўсё не было. Гэта трывожыла.

— Што ж гэта з ім? Не разумее як час дораг, ці што?

Круміньскі раз за разам падыходзіў да акна, як толькі чуліся ў вуліцы чые крокі.

— Зараз прыдзе,—супакойваў яго Шаўрук.

Але час ішоў, а таго не было. І ніхто нічога не разумеў. Паглядалі друг на дружку, як бы чакаючы адказу на свае думкі.

— Баіцца?

— А можа з ім што здарылася?

— Можа ўзялі яго?

— Чаго-ж так раптам?

Шаўрук паціскаў плячыма, нічога не разумеючы.

— Ва ўсякім выпадку мы не маем часу чакаць.—Круміньскі зірнуў на гадзіннік.—Застаецца тры хвіліны. Мы ідзем.

— Як-жа з ім? Няўжо збаяўся?

Памаўчалі.

— Збаяўся, а тады будзе баяцца арганізацыі і чаго добрага пойдзе да іх... У такіх выпадках гэтым канчаецца.

Памаўчалі. Круміньскі стаяў ля акна, трымаючы ў руцэ гадзіннік. Ля стала ўсхваляваная стаяла Лена.

— Не можа гэтага быць... ч-орт...—злаваў Шаўрук.

— Чакаць больш нельга.—Круміньскі паклаў гадзіннік у кішэню.—Ён альбо арыштаваны, альбо збаяўся і тады можна чакаць брыдасць.—Яшчэ раз зірнуў у акно. Няма. Лена пабудзе ў кватэры пасля нас яшчэ дзесяць мінут. Калі прыдзе, адразу-ж яго да Дубраўца. Калі не—таксама адразу паведаміць Дубраўцу... Раптам падаўся да Лены і ўзяў яе за плечы, ад чаго яна ўздрыганула.— Бывай, Лена. Беражы сябе... і яго...

Лена пазірала ў твар яму і ён бачыў, як нарастаў у яе вачах спалох. Яна не адказвала і не адрывала ад яго погляду. Гэта цягнулася толькі некалькі секунд. Потым апамяталася і пацягнулася губамі да яго вуснаў.

— Я ўсё праведаю сёння-ж, схаджу да яго дадому.

— Але раней трэба папярэдзіць Дубраўца на ўсякі выпадак.

— Я так і зраблю. Бывайце, таварышы.—Развіталася з усімі і яшчэ раз з Круміньскім, ужо без слоў. А за гэтым яны ўзялі пад бекешы гранаты і пашлі. Лена бачыла іх, як праходзілі двор, адзін за адным, пасля ў вуліцы. Круміньскі пашоў тратуарам, а Шаўрук, Бараўскі і Ключынскі, па бруку. Пазірала ўслед ім, аж пакуль зніклі

яны, а тады адыйшла ад акна, адчула, як ніколі за ўсё жыццё сваё, адзіноту і незвычайную, жудасную цішыню і, прыслухаўшыся да яе, зноў пашла да акна. Іх ужо не было, яна і не чакала ўбачыць іх, яна проста хацела адыйсці ад цішыні, якая палохала яе. Але вуліца была як і раней нешматлюднай, і ў ёй не адчувалася трывогі, якая жыла ў Лены. Гэтак-жа час ад часу праходзілі людзі, свяціла сонца і крычалі дзеці, а за акном, на двары, на самай сцежцы, чырыкалі, пераскакваючы з месца на месца, вараб'і. Яна прыпомніла, як удзень слухалі з Крумінькім за горадам жаўранкаў. Яны пазіралі ўверх у цёмную сіняву, запоўненую сонечным святлом і спевамі. Спевы не сціхаючы плавалі ў сіняве і адтуль час ад часу, рассыпаючыся трэлямі, падалі на зямлю шэранькімі камячкамі самі птушкі. Успаміны адштурхнулі яе ад акна, яны абудзілі страх, які адчувала на станцыі. Яна села на ложак, і паклала тварам на падушку галаву, і нерухома ляжала так, як ёй здалося, бясконца доўга. Пасля апамяталася, таропка звязала свой клумак і сабралася ісці. Багдановіч не прышоў.

* * *

Ішлі моўчкі. Двое наперадзе, Шаўрук і Бараўскі, а Ключынскі за імі і тратуарам Крумінькі. На завароце, як выходзілі на вуліцу, што далей вяла на шасе, Крумінькаму захацелася азірнуцца: ён ведаў, што Лена ў цягонай кватэры і напэўне яшчэ стаіць ля акна. Азірнуўшыся, ён не ўбачыў ужо дома ў якім жыў, яго засланілі другія дамы, але змеціў у вуліцы чалавека, які ішоў следам за імі і які, як толькі Крумінькі азірнуўся, павярнуў у адзін з двароў. Нічога не гаворачы таварышам, Крумінькі хутка азірнуўся яшчэ раз і зноў змеціў таго-ж чалавека. Як набліжаліся да завароту на сцежку, неўзаметку азірнуўся яшчэ раз і змеціўшы таго-ж чалавека, які на гэты раз зноў кінуўся хавацца ў трапіўшыя пад бокам вароты, зусім упэўнена сказаў:

— За намі сочаць, таварышы. Я тры разы змеціў таго-ж самага чалавека, які ідзе туляючыся па завуголлю. Вунь ён зноў,—азірнуўся Крумінькі і цяпер і Шаўрук і іншыя ўбачылі, як чалавек, які ішоў следам за імі так на адлегласці квартала, раптам спыніўся і чамусьці зняў з галавы шапку.—Трэба спяшацца,—сказаў Крумінькі і яны прыспешылі крокі.

Сонца заходзіць. Даўгія цені дамоў ускраіны засланяюць вуліцу. Яны ідуць мінаючы нізкія драўляныя хаты, бачаць свае постаці ў цёмных вокнах хат і яшчэ больш прыспешваюць крокі.

— Ну, сволач!—кідае некаму па адрасу Шаўрук.—Так гэта яму не абыйдзецца...

Усе пазіраюць на яго, але не пытаюць, каго ён лае. Крумінькі дастае гадзіннік і ўглядаецца ў непрыметную рухомасць стрэлак. Час бясконцы і чалавек у часе як бы для таго толькі, каб паспець здзівіцца таму, што ўбачыць. Чалавек павінен быць не госцем часу, а гаспадаром яго. Свет, як бы ён не быў вялікім ў сваёй нязмернай бясконцасці, не павінен быць загадкай для чалавека. Зямля—цэнтр свету. Яна парадзіла людзей—гігантаў мыслі, пакаленне якіх ідзе. Яны прымусяць час дзейнічаць згодна іхнай волі

і раскрыюць усе загадкі свету, раскрыўшы самую страшную з іх— панаванне чалавека над чалавекам.

— Дванаццаць хвілін на дзевятую,—кажа Крумінькі. Калі шпіён не ведае нашых намераў, мы паспеем... Памятайце адно, нам трэба ўсяго некалькі секунд жалезнай вытрымкі і поўнага ўсведамлення, што рабіць. Тады ўсё.

Яны ідуць шпаркімі крокамі. Справа дзме свежы вецер. Замінаюць ісці цяжкія падрыўныя гранаты «Навіцкага». Крумінькі прытрымлівае іх левай рукой. Усяго гранат пяць штук: дзве ў яго і тры ў таварышоў. Ён час ад часу азіраецца, але цяпер нічога не бачыць і гэта непакоіць яго, але ён нічога не гаворыць таварышам. Азываецца-ж Шаўрук, паказваючы густыя белыя зубы:

— Зробім мы ім кірмаш,—кажа ён,—горача стане. Хоць і злавяць, заўтра парагачу ўволю.

Ён шырокаплечы, круглатвары і ўхмылка выдае чалавека дужа добрага. На яго пазіраюць і Крумінькі і Бараўскі.

— Парагочаш, як дадуць двадзесце пеньць,—кажа ззаду Ключынскі.

— Мне не прывыкаць, а вось табе як усыплюць.

— А я вазьму і прывыкну, думаеш не здолею!

— А ты як?—пытае Шаўрук Бараўскага.

— Я?—Бараўскі павяртае да Шаўрука галаву і Крумінькі бачыць густую сіняву яго вачэй, у якіх нараджаецца ўсмешка.—Мяне бацька біў, я таксама прывык.

— Бацька, гэта брат, не тое, давядзецца і табе прывыкаць.

Бараўскі смяецца і прыпамінае свае дзяцінства і бацькоў, пазіраючы ў далёкае поле. Мо' таму, што дзяцінства ягонае цяпер дужа далёка, яго і можна прыпомніць толькі так, углядаючыся ў загубленую, у сіняве і змроках блізкага вечара, далячынь, у якой нічога няма.

Набліжалася станцыя. Ад хвойніка і з поля да станцыі набліжаўся вечар. Вецер заціх, як бы стаіўся. Крумінькі нават прыслухоўваецца да ветру, падстаўляючы яму твар і ўлаўлівае гукі, якіх не можа адгадаць. Яны даходзяць з горада.

— Мы падыходзім,—папярэджвае ён.—Дзейнічаць ў адзін момант. Я здыму вартавога, а вы кідайцеся да платформ. Бараўскі, за ім Шаўрук і Ключынскі, а я кіну гранаты ў дзве першыя...

Крумінькі зноў, як змоўк, пачуў нешта знаёмае ў гуках, што даходзілі з горада. Стукат і гул, акурат як едуць коннікі. Ён адгадаў гэта і азірнуўся, але нічога не ўбачыў.

Падыйшлі да складскога будынку, мінулі таварныя вагоны, набліжаліся да вагона, у якім варта. З вагона выглянуў адзін з легіянераў і падаўся назад у вагон, у якім ужо гарэла лямпа. Крумінькі цяпер зусім выразна чуў конскі тупат. Калі азірнуўся, убачыў на полі больш дзесяці коннікаў. Яны былі на адлегласці кілометра. Крумінькі нічога не сказаў. Яго таварышы таксама пачулі тупат і ўбачылі коннікаў. І ўсе, як і Крумінькі, дагадаліся, чаго яны едуць. Усе разумелі, што шпіён сачыў за імі, не ведаючы куды яны ідуць і вярнуўшыся паведаміў пра іх, а коннікаў паслалі, каб нагнаць і ўзяць іх. Конскі тупат і гул нарастаў. Яны не паспеюць даехаць,

але яны могуць як-небудзь папярэдзіць варту, калі здагадаюцца. Круміньскі бачыць платформы, укрытыя брэзентам, аднаго з вартавых, на гэты бок платформ. Ён у канцы і стаіць тварам да поля. А пасля, абмінуўшы вагон з вартай, бачыць і другога вартавога. Вартавы павяртае да Круміньскага твар, трымаючы на пагатове вінтоўку. І ён прыслухоўваецца да зусім ужо блізкага конскага тупату. Круміньскі пазірае ў твар салдату. Салдата мала дзівіць тое, што сцежкай ідзе афіцэр і трое легіянераў. Яго больш дзівіць такі таропкі тупат коней, відаць іх гоняць з усяе сілы. І ён думае, куды так спяшаюцца коннікі. Здагадаўшыся, што коннікі пад'язджаюць да станцыі не па шасе, а сцежкаю, ён пачаў аб нечым дагадвацца, але не паспеў нават прадумаць адгадкі. Круміньскі выцяг на хаду руку з рэвальверам і стрэліў яму ў грудзі, а пасля кінуўся да платформ. Ён бачыў, як падаў падстрэлены вартавы, як абмінаючы яго бег Шаўрук і чамусьці ўсміхаўся, паказваючы густыя белыя зубы. Бачыў узмахі рук таварышоў, брэзент і колы платформ, раз за разам кінуў абедзве гранаты, але не чуў узрыва, бо нешта грукатлівае ўзнялося за плячыма, навалілася на яго і кінула тварам у пахучую мякаць пяску паміж шпал.

* * *

Калі пашлі таварышы, Дубравец доўга стаяў пры стале, вакол якога сядзелі яны. Ён усё яшчэ як бы бачыў іх перад сабою, адчуваў іхную прысутнасць і да драбніц прыпамінаў кожнага з іх. На стале перад ім ляжалі кучкай дробненькія кавалачкі паперы. Ён пачаў разглядаць іх. Гэта была схема стаянкі платформ з самалётамі, якую рысаваў Круміньскі, які паведамляў таварышам свой план знішчэння самалётаў. Ён сабраў усе кавалачкі паперы і кінуў іх у печ. За гэтым падабраў мяцёлкай накіданыя на падлозе недакуркі папярос і таксама кінуў усё ў печ. І зноў стаў каля стала, прыслухоўваючыся да навакольнага.

У суседнім пакоі чуліся галасы. Гэта гаспадыня нешта гаворыць сыну. Сцёпа рухавы і разумны хлапец. Ён, як і бацькі, ведае пра Дубраўца, што ён комуніст і моцна сябруе з ім. Дубравец не баіцца гаварыць з ім пра самае сур'ёзнае і час ад часу дае яму тое або іншае даручэнне. Комсамольцам будзе,—думае Дубравец і крыху нават зайздросціць яму. Ты, Сцёпка, вырасцеш у самы раз,—не аднойчы казаў Дубравец.—Тады такое жыццё пачнецца, што я і сказаць не ўмею. І ўсё жыццё вашым будзе, усё для такіх як ты. Сцёпка пазіраў яму ў вочы сваімі, у якіх гарэў бляск радасных, хоць і не разгаданых яшчэ лятункаў. Але само нішто ў рукі не трапляе,—гаварыў Дубравец.—Не вялікае шчасце гатовым жыць, што нехта зробіць. Гэтак паны жывуць, самыя паскудныя людзі, а ты шчаслівым будзеш, як усе такія як ты, ды твой бацька будуць шчаслівымі. Аднойчы гаворачы так, Дубравец расказаў Сцёпу пра смерць свайго бацькі. Бацька мой мужыком быў,—казаў ён.—Гэта, Сцёпка, як і твой бацька, пачэснае племя. Умеў сябе паважаць, але працаваць вымушан быў на зямлі, якую выпрашваў у графа Чапскага. І вось неяк не дагадзіў бацька мой графу, а той загадаў пабіць яго, хоць закону на гэта і не было. Пачаў тады

бацька мой, мужык, з графам Чапскім судзіцца. Але як не судзіўся, усё графа апраўдывалі, а бацьку крыўдна было. Дайшло з судамі да самага сената, але і сенат графа апраўдаў, а на бацьку наклаў заплаціць усе выдаткі па суду, якіх сабралася, ажна сто два рублі з капейкамі. Прадаў тады бацька каня і апошнюю карову, заплаціў выдаткі па суду, а сам павесіўся... А трэба, каб людзям вешацца цераз графоў не даводзілася...

У пакоі, побач з бакоўкай, у якой жыў Дубравец, Сцёпа вучыў урок. Ён уголас чытаў сам сабе, а пасля пераказваў прачытанае на памяць. А Дубравец усё стаяў каля стала. Ён ведаў, што прастаіць так доўга да часу, калі Круміньскі з таварышамі дойдзе да станцыі. Гэта яшчэ не так хутка, можна было-б пайсці ў пакой, дзе працуе гаспадар і дапамагчы яму, ён лічыўся ў гаспадара работнікам і не мала рабіў з ім разам. Але стаяў на месцы. Сышоў, як адчыніў дзверы Сцёпа і сказаў, што прышла Лена. Гэта абрадвала яго. Ён спаткаў яе ветлай усмешкай і запрасіў сесці. Але Лена не села.

— Багдановіч не прышоў,—сказала яна паціху.

— Як не прышоў?

— Яго чакалі да апошняй хвіліны і пашлі без яго. Пасля яшчэ я была ў кватэры больш дзесяці мінут, думала, што прыдзе...

Нейкі час маўчалі, некалькі секунд.

— Чаму-ж ён не прышоў.

Яна не адказала.

— Ты думаеш—збаяўся?

— Так зразумелі ўсе і прасілі паведаміць, бо ў такім выпадку...

— Я разумею...

Лена маўчала.

— Трэба даведацца, ці дома ён. Ты, Лена, ідзі дадому і адпачывай. Як бы не было з Багдановічам, але сёння пачнуцца вобыскі і арышты. Не трэба трапляць на вочы пасля таго. А я пашлю Сцёпу даведацца, ці дома Багдановіч і заўтра самым ранкам пра ўсё паведамлю табе.

Дубравец клікнуў Сцёпу.

— Правядзі цётку. Яна пойдзе дадому, а ты схадзі да Багдановіча і дазнайся, ці дома ён. Калі няма, запытай у гаспадыні, ці не пашоў куды. Калі дома, няхай заўтра раніцою прыдзе. І толькі заўтра. Ну, і, вядома, будзь асцярожным.

— Я разумею.

Сцёпа стаяў пaглядаючы з пад ілба на Лену, а ў ваччу загараўся знаёмы Дубраўцу бляск.

— Схадзі, Сцёпа, гэта вельмі важна,—сказаў Дубравец і смяючыся паклаў яму на галаву руку, ускалашмаціў яго і без таго непаслухмяныя валасы.

Яны пайшлі, а Дубравец пачаў хадзіць па пакоі. Хацелася дайсці адказу на пытанне, што здарылася з Багдановічам? Дубравец прыпамінаў Багдановіча з першых дзён, як пазнаёміўся з ім. Прадумваў кожны яго крок, звязаны з партыйнай працай. Ці дастаткова ён ведаў Багдановіча? На гэта не так лёгка было адказаць. Ён быў упэўнены і ўчора і сёння, што Багдановіч пойдзе з таварышамі, а той не пашоў. Чаму? Збаяўся? Гэта толькі, ці можа яшчэ што

перашкодзіла пайсці? А можа арыштаваны? Але чаму так раптоўна? Усе гэтыя пытанні ў соты раз паўставалі перад ім і ён шукаў на іх адказу і не хацеў наваt падумаць, што Багдановіч мог здрадзіць. Спадзяваўся, што многае стане зразумелым, як прыдзе дадому Сцёпа.

Дубравец усё хадзіў па пакоі і не заўважыў, як да акна падкраўся вечар. У пакоі пацямнела. Ён зірнуў на гадзіннік. Стрэлкі рухаліся як заўсёды спакойна, амаль непрыкметна. Ён пазіраў на гадзіннік у адну кропку цыферблата. Паміж гэтай кропкай і мінутнай стрэлкай адлегласць менш чым у два сантыметры. Зусім нязначная частка часу. Мінутная стрэлка сціскае яго ўсё больш і больш і Дубравец, не адрываючы ад стрэлкі позірку, напружвае слых. Пачынаецца рэзь у вачу і ў вушах нараджаецца звон і ён не адразу разумее, што здарылася, калі чуе гукат узрываў, ад якога звіняць у акне шыбы. Ён не паспеў адрозніць і злічыць, колькі было ўзрываў, і некалькі секунд стаіць нерухома, як застыглы, слухае цішыню, што прышла за ўзрывамі. Слухае, баючыся скрануцца з месца. Ён як бы бачыць Крумінскага з таварышамі, якія хочуць выратавацца і баіцца перашкодзіць ім тым, што скранецца з месца. Жывыя, ці не?—думае ён, пазіраючы праз гушчыню змрокаў у памутнелае неба, як бы чакаючы ў яго адказу на сваё пытанне. Як адказ даносіцца некалькі стрэлаў, а пасля зноў цішыня, ужо бясконца доўга. Кінуліся ўцякаць, а ў іх стралялі,—думае ён і хоча, каб яшчэ былі стрэлы, гэта сведчыла-б, што яны ўцякаюць, што ёсць магчымасць выратавацца. Але стрэлаў больш не чуваць, ён сыходзіць з месца, паціху ходзіць з кута ў кут, спыняецца каб прыслухацца і зноў ходзіць, аж пакуль прышоў дадому Сцёпа.

— Па вуліцы прайсці нельга,—сказаў Сцёпа.—Кажуць, дзесьці нешта ўзарвалі, дык кругом патрулі і ўсіх арыштоўваюць.—Твар яго быў незвычайна ўзбуджаным.—Вы не ведаеце, дзядзька, што ўзарвалі?—запытаў ён.

— Не ведаю, браток. Ну, а ці бачыў-жа Багдановіча?

— Ага, няма яго. Цётка кажа, што некуды пашоў надвячоркам яшчэ і не прыходзіў. Крычыць, баіцца, што можа і ён пашоў на тыя ўзрывы.

— Не, ён туды не пашоў. Дзякую, браток, што схадзіў.

— Во, нашлі за што дзякаваць.

— Маладзец ты, Сцёпа, дзякую, а цяпер ідзі, адсунь вазон ад акна і вучыся.

Сцёпа узняў на Дубраўца вочы, поўныя радаснага бляску і ўдзячнасці і пашоў, а Дубравец зноў спыніўся каля стала. Перад ім сталі чарадой пытанні, адказаў на якія ён мог спадзявацца прычакаць заўтра толькі. Гэта былі пытанні пра лёс таварышоў і сярод іх самае загадкавае: што-ж здарылася з Багдановічам?

* * *

Апрытомнеўшы, Крумінскі ледзь паспеў глянуць на стаяўшых перад ім, як вочы зноў закрыліся, настолькі вялікай была стомленасць. Але яго сілай узнялі і пасадзілі. Тады адчуў боль у правым плячы і ў галаве. Дакрануўся да галавы рукою. Яна была забінта-

вана. Галаву як бы абцугамі сціскалі, так балела. Ён адразу прыпомніў, што з ім было ўвечары і дагадаўся, што ён у турме. Ён аглядаў камеру, пакуль афіцэр, які быў тут, даваў распараджэнні жандармам. У камеры было цёмна і ён не разглядзеў, ці ёсць у камеры акно. Бачыў толькі шэрыя, цесна ссунутыя сцены.

Ён моўчкі ўзняўся з ложка, калі запрапанавалі ісці. У калідоры асляпіла святло і ён зажмурыў вочы і доўга ішоў так. Яшчэ больш асляпіла святло ў пакоі, куды прывялі яго. За сталом сядзеў вайсковец з расплікнутым каўнярoм мундзіра і пагладжваў рукой шыю. Круміньскі зразумеў, што гэта следчы, а яго прывялі на допыт. Усведамленне гэтага ажывіла яго, як бы адагнала стомленасць, але калі допыт пачаўся, а ён сеў у крэсле перад сталом, стомленасць зноў скавала ўсё цела. Круміньскі аддаўся напльву думак. Дзіўна,—думаў ён,—як трымаюцца ў паветры жаўранкі, амаль на адным месцы, толькі крыллі ледзь прыкметна дрыжаць...

— Ваша прозвішча і імя?—ставіў пытанні следчы, утаропіўшы ў яго вочы.

Лена сачыла за жаўранкамі высока закінуўшы галаву і шырока раскрыўшы вочы, ні разу не міргнуўшы імі. Тады вочы ў яе зусім як спелыя вішні, такія цёмныя.

— Нацыянальнасць?

Шапачка ўпала на пясок, так высока яна закінула галаву.

— Кажаце паляк?—Следчы яшчэ больш ўтаропіў вочы.—Дзе бацькі і хто яны?

А калі ў яе на галаве прасценькая хустка, яна яшчэ цікавей, яшчэ бліжэй тады. Такая як прынесла клунак.

— З кім бачыліся ўдзень, ад самага ранку?

У Дубраўца смешна падстрыжаныя вусы. Бараўскі нават сказаў, што яго па вусах пазнаеш, што комуніст.

— Я цэлы дзень быў дома, адзін.

— Добра. А тых, з кім рабілі сваю справу, таксама не бачылі?

Шаўрук пераскочыў цераз вартавога. Ён бег усміхаючыся, гэта ад таго, што паспелі. А як беглі Бараўскі і Ключынскі, не бачыў. Ключынскі кінуўся бегчы, як толькі паспеў выстраліць у вартавога.

— Хто яны?

— Я не разумею, пра каго вы гаворыце.

— Дарэмна прыкідваецеся. З кім вы ўчора былі, мы ведаем і хочам толькі, каб вы сумленна ўсе расказалі, як афіцэр польскай арміі.

Той, што туляўся па завуголлю ідучы за намі, вядома шпіён. Ён пачаў сачыць, калі збіраліся да мяне таварышы. Конны раз'езд паехаў пасля яго паведамлення. Яны не ведалі, куды мы ідзем, проста хацелі схапіць нас, западозрыўшы нешта няладнае. Інакш папярэдзілі-б варту па тэлефону.

— Калі ведаеце, навошта-ж пытаць?

— А хто ў вас у горадзе ёсць з самых блізкіх знаёмых?... жанчына... Хто яна?

Няўжо шпіён прасачыў і за Ленай? Што-ж тады? Яна дзесяць мінут чакала, а шпіён вярнуўся туды. Але-ж ён перш за ўсё павінен быў паведаміць пра нас, а тады ўжо. А на гэта трэба больш дзесяці мінут...

Круміньскі аж заплюшчыў вочы, каб святло не перашкаджала думаць. Трэба было ў момант прадумаць усё.

— У мяне няма ў горадзе блізкай жанчыны.

— Вы дарэмна хаваецеся. Пра вашых таварышоў,—следчы іранічна вымавіў апошняе слова,—мы ўсё ведаем. Яны ўжо далі свае паказанні і расказалі, з кім і дзе вы былі ўчора, перад тым, як пайсці... Так... і пра жанчыну. Вам няма чаго таіцца. Нас не дужа і цікавіць, скажаце вы пра іх, ці не, мы самі ведаем, што вы былі разам і ведаеце іх, а яны вас. Калі не хочаце адказваць, я не буду пытаць аб гэтым. Вам горш будзе, а не мне. Я меркаваў, паколькі я пачынаю толькі справу, зрабіць як лепш для вас... Так... і для вашых таварышоў...

«Яны ўсе жывыя». Гэтая думка прышла ўслед за словамі следчага.

— Вамі цікавіцца сам пан палкоўнік, так... Ён разумее, што вы не па сваёй ахвоце пашлі на здраду, а ў парадку іхнай дысцыпліны. Мы хочам ведаць, хто паслаў вас. Вы разумееце, вядома, што пагражае вам, калі будзеце маўчаць. Падумайце аб маіх словах. Пан палкоўнік зычыць вам дабра і прасіў, але, але, прасіў пачаць справу так, каб даць вам магчымасць апраўдацца. Справа ідзе аб вашым жыцці, а пан палкоўнік гатовы падаць вам руку ратунку...

Следчы пакручваў у пальцах левай рукі аловак, а правай усё расціраў сваю шыю.

Шпіён больш нічога не ведаў, вядома так, ён толькі натрапіў на наш след, як збіраліся і парашыў прасачыць. А за горад пабаяўся пайсці і паведаміў. Таму і коннікі. А больш нікога не ўзялі, вядома не.

— Падумайце,—сказаў следчы.

Круміньскі змоўчаў. Целам усё з большай сілай авалодвала стомленасць. Следчы крыкнуў. У пакой увайшлі жандармы. Круміньскі ўзняўся і пашоў да дзвярэй, у цмяна асветлены калідор турмы.

— Падумайце, пан падпаручык, над сваім лёсам і маімі словамі,— сказаў наўздагон яму следчы. Круміньскі нічога не адказаў і на гэты раз.

У расчыненыя дзверы камеры з калідора ўварвалася святло і Круміньскі здзівіўся свайму ценю. Але святло адпаўзло да дзвярэй і з гэтым цень знік, а каб звыкнуцца з цемрай камеры, Круміньскі заплюснуў вочы. Стаяў не выходзячы з месца, пакуль перасталі бразгаць, запіраючы за ім дзверы. Як расплюснуў вочы, змеціў перад сабою ўгары вузкую паску неба. Акно з кратамі да ўсяго было яшчэ з двара закрыта спецыяльным шчытом з дошчак. Паміж шчытом і сцяной у гары быў пакінуты невялічкі прасвет, каб зняволены бачыў толькі вузкую паску неба і не мог бачыць вуліцы. Пастаяў пры акне і пашоў да дзвярэй. Не разумеючы, навошта, упёрся плячыма ў дзверы і націснуў іх. І самому стала смешна, што зрабіў гэта. Уцякаць не збіраўся, ведаў, што ўсякія спробы зрабіць гэта— бескарысны. Пастаяў і пашоў да ложка, лёг адпачыць.

Ён не памятаў, ці даўно лёг. Здаровыя ўчэпістыя рукі сціснулі плечы і ўзнялі з ложку.

— Разаспаўся, як на пярыне ў мамкі.

Вочы бачылі перад сабою жандарма і цемру камеры, расхінутую ў бакі, да сцен, святлом з калідора. За дзвярыма камеры стаяў другі жандарм.

— Пашлі,—сказаў жандарм і адыйшоў крыху ў бок ад ложка.

Яго прывялі ў той-жа пакой, дзе дапытваў следчы. Як адчыніліся дзверы пакоя, па лакіраванаму казырку шапкі, па кароценька падстрыжаных вусах і падстрыжаных вожыкам валасах на круглай галаве пазнаў палкоўніка Шэмета. Палкоўнік стаяў за сталом, злосна пазіраючы насустрач Круміньскаму. А калі жандармы зачынілі дзверы і, бразнуўшы шпорамі сталі за дзвярыма, палкоўнік загаварыў крыклівым голасам:

— Як ты асмельваешся насіць мундзір афіцэра польскай арміі! Ты... ты хто такі?

Круміньскі прыпомніў палкоўніка, як ён быў на вечарынцы ў старшыні гарадской думы. Прыпомніў ягоныя ўляганні за спявачкай, пахатлівыя позіркі на яе, яго прыглушаны рагаток і таемнае паведамленне аб прысланых французскіх самалётах. Ён зразумеў злосць палкоўніка і губы пачала рассоўваць усмешка. Хацелася сказаць: не крычыце, пане палкоўнік, усёроўна мы вас перахітрылі, мы абрэзалі крыллі вашых лятункаў пра паспяховы наступ на фронце і заваяванне большэвіцкіх гарадоў.

— Ты хто такі?—паўтарыў палкоўнік сваё крыклівае пытанне.

— Падпаручык польскай арміі, пане палкоўнік.

— Большэвік, а не падпаручык!

І раптам змяніў тон. Скрануўся з месца, пачаў хадзіць ад сцяны да сцяны, за сталом, адсунуўшы крэсла.

— Гэта ганьба, пане падпаручык. Я не хацеў паверыць у ваш удзел у здрадзе. Не хочу верыць і зараз. Гэта... гэтага нельга зразумець. Я пераконаны, што вы не маглі самі дадумацца да гэтага. Вас уцягнулі, прымусілі, напэўна далі грошай... Але айчызна ўсё здолее дараваць, калі вы назавеце іх. І мы заплоцім за гэта... а да ўсяго, я гэта на сябе вазьму, павысім вас у чыне.

Круміньскі не здолеў захаваць усмешкі.

— Што? Пан падпаручык! Памятайце дзе вы!

— Я памятаю.

Палкоўнік спыніўся і паклаў на стол куртатую далонь сваёй рукі.

— І да ўсяго-ж пан паляк? Пан падпаручык паляк?

— Так.

— Маўчаць! Пан садзейнічае большэвікам у справе ўдушэння свайго народу.

Круміньскі стаяў нерухомы і стомлены.

— Няхай пан назаве тых, хто скіраваў яго на шлях здрады і мы ўсё даруем. Ну? Сядзьце і назавіце мне іхныя прозвішчы і дзе яны.—Палкоўнік сеў, узяў аловак. Але Круміньскі стаяў на месцы. Чаму-ж пан маўчыць? Я ўсё раблю ў інтарэсах пана. Альбо пан сёння ўсё скажа, альбо будзе позна...

— Я не разумею, чаго пан палкоўнік хоча ад мяне. Раз усе мае таварышы арыштаваны, што-ж яшчэ?

— Я хочу ведаць, дзе ваш партыйны камітэт і хто ў ім.

— Я гэтага не ведаю, пане палкоўнік.

— Пан не хоча сказаць?

— Не ведаю.

— Пан жартуе?

— Не.

— А што, калі нам ужо ўсё вядома?

Круміньскі варухнуў плячыма:

— Тады навошта-ж распытваць мяне?

— Маўчаць! Я даю пяць мінут на развагі. Пан прадумае ўсё і скажа. Камітэт, яго склад і кіраўніка пан ведае... Пяць мінут, а пасля я загадаю гаварыць з панам крыху інакш...

— Мне няма над чым думаць. Пан палкоўнік дарэмна мяне страшыць. Мяне страшылі ўсё жыццё, з самых малых год і білі, і я перастаў баяцца. Мне няма над чым думаць. Я пану палкоўніку нічога не скажу.

— Я ўсё-такі даю пяць мінут... Падпаручык! Табе будзе страшна!..

Круміньскі адвёў позірк ад палкоўніка і пачаў углядацца ў карту на сцяне. Ён разумеў, што палкоўнік вядзе з ім гульню, за якой пачнецца сапраўдны допыт, з катаваннямі і здзекамі і па тым, як будуць дапытваць, ён будзе ўгадваць, як трымаюцца таварышы.

Палкоўнік паклаў недакураную папяросу на партабак і зірнуў на гадзіннік.

— Ну! пяць мінут прайшло. Ці падпаручык усё яшчэ мае намер займацца жартамі?

Круміньскі здзіўлена варухнуў плячыма. Палкоўнікава гульня надакучала яму.

— Я нічога не скажу.

— Канчаткова?

— Так.

Палкоўнік узняўся і крыкнуў жандармам.

— Зняць мундзір!

Жандармы схапілі Круміньскага за плечы, і пачалі расшпіляць гузікі мундзіра.

— Сарваць!—крыкнуў палкоўнік, падыйшоў і з усяе сілы ірвануў мундзір сам. Круміньскі не ўстояў на месцы, а мундзір затрашчэў па швах.

— Сарваць і вон!—крыкнуў палкоўнік. Ён затупаў перад Круміньскім, размахваючы кулакамі.—Я табе зраблю страшна!..

Калі жандармы выштурхнулі Круміньскага ў калідор, палкоўнік адчыніў дзверы габінета і крыкнуў наўздагон ім:

— На ніз яго!

* * *

Гэта была яма. Яго ўпіхнулі ў вузкую, чорную дзірку дзвярэй і адразу заперлі іх. Намацваючы нагамі сходкі, ён сышоў на падлогу. Іх было тры—тры сходкі ўніз, у цемру, якой ён доўга не мог пранязь вачыма. Ён паціху ішоў у цемры ў адзін бок два крокі, два ў другі, потым далей ад дзвярэй. Рабіў нясмелыя крокі, рассоўваючы цемру, разбаўляючы яе колерам сваёй гімнасцёркі, бялявасцю свайго твару і рук, якія выстаўляў перад сабою, каб намацаць, што напера-

дзе. Рукі натыкаліся ў цемры на нешта халоднае і мякаватае. Ён дагадваўся, што рукі намацваюць сцяну. Мяккай яна пэўне здаецца ад дотыкаў да яе пальцаў. А можа ад таго, што на ёй цвіль? Пальцамі аднае рукі ён бярэ пальцы другой, каб пазнаць, ці вільготныя, але абодвума рукамі дакранаўся да сцяны і нічога нельга пазнаць, а ўбачыць, што на пальцах нельга. Ён стаіць на адным месцы. З памутнеўшай цемры выступаюць ледзь прыметныя шэрыя плямы. Гэта сцены. Ён робіць яшчэ крок і стукае па сцяне костачкамі пальцаў. Гук мяккі і зусім глухі, ён адскаквае ад сцяны і растае ў цемры, не прасякаючы за сцяну. Сцяна таўстая, за ёй нічога не пачуеш. Ён больш не стукае. З'яўляецца жаданне бачыць сваю руку. Ён выстаўляе яе наперадзе, каля сцяны і ўглядаецца. Рука з шырока растапыранымі пальцамі робіць некалькі рухаў ад сцяны да твару, да вачэй і назад. Здаецца, што ён бачыць руку, хоць ён упэўнены, што бачыць толькі ледзь прыкметныя хістанні ценяў у цемры, а руку ўяўляе, бо добра ведае яе. Гэта да таго выразна, што ён як бы бачыць барадаўку на ўказальным пальцы рукі. Вось ён адразу знаходзіць яе.

«Дзіўна,—кажа ён сам да сябе і дзівіцца свайму голасу, да таго ён прыглушаны. Мо' гэта таму, што перасохла ў горле? Ён адкашліваецца, і зноў паўтарае сказанае раней слова і сам усміхаецца свайму голасу. Гэтак можна і звар'яцець. Трэба проста адпачыць. Ён стаміўся, не выспаўся, гэта ўсё ад стомленасці. У камеры ложак быў злева ад дзвярэй. Ён па звычцы робіць тры крокі ўлева і натыкаецца рукамі на сцяну. Ложак пэўне не тут. Зусім жа не абавязкова, каб ён у кожнай камеры быў на адным і тым-жа месцы. Тут ён можа стаяць і ля сцяны супроць дзвярэй. Ідзе туды і нічога не знаходзіць. Памятае, што і ўправа ад дзвярэй каля сцяны ложка няма, але не верыць сабе і павольна, каб не стукнуцца аб што каленямі,—ён яшчэ з дзяцінства ведае як гэта балюча,—ідзе ўздоўж сцяны ажна ў кут і хутка рукой натыкаецца на дзверы. А ложка няма. Здзіўлены спыняецца, каб памяркаваць, што-ж такое. І здагадваецца, што ложка няма зусім. Ну, вядома, на вошта-ж бы яго кідалі ў гэту яму, калі-б хацелі, каб ён мог адпачываць на ложку?

Ён спыняецца каля дзвярэй і абмацвае іх. Гладкія, нават няма за што зачапіцца пальцамі. Пасля намацаў невялікую круглую дзірку, закрытую з калідора жалезнай засаўкай. Гэта вочка для перамаўленняў з наглядальнікам. У яе прасоўваецца два пальцы і ўсё. Пачаў стукаць у дзверы. Стукаў нагамі, раз за разам паўтараючы з перапынкамі пяць удараў. Урэшце пачуліся крокі. Хтосьці падыйшоў і адсунуў з вочка засаўку. У яму пучком уварвалася цмянае святло з калідора сутарэння.

— На чым спаць?—запытаў Крумінькі ў таго, хто быў за дзвярыма. Замест адказу бразнула жалезная засаўка, адрэзаўшы пучок святла і тое, што было ў камеры, апала і знікла.

Значыць развідняла, дзень,—падумаў ён і тады адразу прыпомніў таварышоў.—Іх, безумоўна, гэтак-жа дапытвалі і яны ў гэтых-жа ямах, можа нават побач, за сцяной. Сама рука пацягнулася да сцяны. Удары адскаквалі ад сцяны і глухлі. Каменны мяшок: камень знізу, з бакоў, зверху. Адчуваеш, як ціснe на думкі гэта камен-

ная гара і думкі пад ёю паварочваюцца пацїху, баючыся быць раздушанымі. З думкаю пра таварышоў ажылі ўспаміны пра Лену. Нават не так: Лену ён памятаў праз увесь час, а цяпер усплылі ўспаміны пра першыя спатканні з ёю.

Каб не стаяць на месцы, Круміньскі пачаў хадзіць. Пяць крокаў у адзін бок і пяць назад. Цесна. Калі ісці з кута ў кут наўскасяк, будзе больш. З кута ў кут было шэсць крокаў.

... Першы раз яны спаткаліся на адным з паседжанняў, якое скончылася ноччу. Дадому іх накіравалі разам: гэта нагадвала гулянку афіцэра з паненкай і ніяк не наводзіла на думкі аб нелегальным паседжанні. Ён ішоў з ёю, падтрымліваючы яе за локаць рукі, баючыся, што знаёмства на гэтым спатканні і скончыцца. Але праз нейкі час яны зноў сустрэліся, а яшчэ пазней, ім даручылі надрукаваць на сцеклографе некалькі сот экземпляраў адозвы для вёскі, з поваду масавых арыштаў сялян. «Друкарня» змяшчалася ў оптычнай майстэрні. У майстэрні была адбіта вузенькая каморка без акна. Канапа і столік. Калі гаспадар зачыняў майстэрню, яны засталіся ў каморцы і ўсю ноч працавалі. Раніцою гаспадар выпусціў іх, а ўвечары зноў пакінуў у каморцы. Яны двое сутак былі без сна. Досвіткам абодвы настолькі стаміліся, што ледзь валодалі рукамі. Парашылі, каб адпачыць хоць крышку, працаваць па чарзе. Апошняй друкавала Лена. Накладваючы на сцеклограф і здымаючы з яго лісткі паперы, Лена ледзь трымалася і час ад часу схілялася галавой да самых рук, клала твар на рукі і колькі секунд адпачывала. Ад гэтага, калі Круміньскі зірнуў на яе, увесь яе твар быў запэцканы фарбай, як і рукі. Круміньскі зарагатаў.

— Што такое?

Замест адказу ён падаў люстэрак, які ўзяў у майстэрні оптыка. Лена доўга пазірала ў люстэрак, жмурачы вочы, паціскала здзіўлена плячыма, а потым павярнулася да Круміньскага і працягнула рукі, каб запэцкаць твар і яму. Ён пераняў яе рукі, затрымаў іх, а яе неяк нечакана прыхінуў да сябе і пацалаваў. Рук не пушчаў і яна не вырывала. Пацалунку крыху здзівілася, але нічога не сказала, а падалася бліжэй да яго і жартуючы пачала туліцца шчакой да яго твару. Хутка прышоў оптык. Яны рагочучы выціралі насоўкамі вочкі, а ён упрошваў хутчэй пакінуць майстэрню, баючыся каб не засціглі ў майстэрні старонніх наведвальнікі.

З майстэрні оптыка яны выйшлі а восьмай гадзіне раніцы. Каб не звяртаць на сябе ўвагі і каб адвесці ў бок след, калі-б за імі надумаліся сачыць, яны пашлі не дадому, а за горад на рэчку. Далёка за рэчкай, у лугах, дзе стаялі цяжкія, вільготныя туманы, над самымі туманамі плыло сонца. Насустрач сонцу над берагамі рэчкі падымалася пара. Стоячы над берагам яны мыліся, пасля Круміньскі сядзеў на траве, а Лена паласкала насоўкі, запэцканыя фарбай. Стомленасці як і не было і яны ўмовіліся, што спаткаюцца ўвечары.

Пад вечар лістоўкі былі адасланы ў вёску, а часткова былі раздадзены для расклейкі па гораду. Атрымалі такое заданне і Лена з Круміньскім. Пасля дзевяці вечара па гораду хадзіць было забаронена, а лістоўкі расклейваць сама што пасля дзевяці, калі на вуліцах

нікога няма. Каб было смялей, узялі яшчэ аднаго таварыша, які служыў у мясцовай жандармерыі. Той узяў вінтоўку і пачаў вадзіць Лену і Круміньскага, апранутага ў штацкае, па гораду, як арыштаваных. На іх не звярталі ўвагі і яны абыйшлі так некалькі кварталаў самага цэнтру горада. Заставаліся апошнія лісткі і было вырашана расклеіць іх на рынку. Але як пачалі клеіць тэкст, запалілі сернічку. У гэты час іх аклікнуў з вуліцы паліцыянт. Яны кінуліся ўздоўж сцяны і зніклі хутка ў адным з вузенькіх рыначных завулкаў. Паліцыянт некалькі раз выстраліў наўздагон ім. Яны таксама адказалі стрэлам, каб паліцыянт не так смела гнаўся за імі. У гэтыя хвіліны Круміньскі адчуў незвычайную трывогу за жыццё Лены. Пазней яны блукалі па гародах, пераходзілі гразкую канаву, пакуль дайшлі да кватэры аднаго з таварышоў. Дайшлі спакойна, але настолькі былі запэцканы ў гразь, што амаль цэлую ноч абмывалі і сушылі адзёжу, каб назаўтра не выклікаць ніякіх падазрэнняў. Гэта было пачаткам іхных самых блізкіх адносін.

Успаміны прыходзілі чарадой, адганяючы стомленасць. І ўсё-ж стомленасць усё мацней і мацней авалодвала целам. Ногі ўсё гэтак жа рабілі шэсць крокаў з кута ў кут, цераз камеру. Хто ведае, колькі яны пратрымаюць яго ў гэтай яме? Трэба захоўваць сілы. З гэтым прыпомніў, што даўно не еў. Падыйшоў і пачаў стукаць у дзверы. Вочка хутка адчынілася, але ніхто не азываўся.

— Харчы!—сказаў Круміньскі. Тады з-за дзвярэй хрыпаты голас адказаў:

— Няма загаду на харчы.

— Як гэта?

Вочка моўчкі закрылася. Жандарм—наглядальнік пашоў ад дзвярэй, нясучы за сабой бразгат шпор. Трэба было берагчы сілы, заснуць, каб не быць зусім кволым, калі прыдуць біць. Усё яшчэ не жадаючы верыць, што няма ложка, Круміньскі абыйшоў камеру ўздоўж сцен, памеркаваў, спыніўшыся, а пасля падаўся да сцяны, што супроць дзвярэй і сеў на падлогу, прытуліўшыся да сцяны плячыма. І адразу цела праняў холад: ён быў і ад халоднага каменняя сцяны і ад падлогі і яшчэ ад таго, што плячыма і нагамі ўгадваў цвіль на сцяне і бруд на падлозе. Ён сядзеў пазіраючы ў бок дзвярэй. Адтуль непрыметнымі хвалямі наплываў сон. Вочы зліпаліся на момант, расплюскаліся, пакуль не наплывала наступная хваля сну і з кожным разам усё больш і больш цяжэлі павекі. Круміньскі падцягнуў ногі да сябе, паклаў на калені рукі і заснуў, схіліўшы на рукі галаву.

Ён не мог уявіць, ці доўга спаў. Першым, пасля сну, было адчуванне голаду. Круміньскі ўзняўся і пашоў да дзвярэй. Доўга і са злосцю стукаў у дзверы, пакуль прышоў жандарм. Калі адкрылася вочка, ён падаўся тварам бліжэй да яго.

— Скажы, каб далі харчы.

Гаварыў са злосцю, з якой стукаў у дзверы.

— Не загадана даваць харчы.—Зноў той-жа хрыпаты голас. Потым пучком святло ўдарыла ў твар і знікла вочка, засланіла жалезная засаўка. Было смешна і крыўдна на самога сябе. На чорта было клікаць жандарма. Мог бы здагадацца, што харчы не даюць

зусім свядома, маючы на мэце змарыць, а пасля гэтага вырваць патрэбныя ім паказанні. Але колькі-ж часу гэта працягнецца? За сябе ён зусім спакойны. Ён спакойны і чакаючы катаванняў. Біць будуць, ён гэта ведае, але калі? Як зусім змарнее з голаду? Гэта нават лепш—хутчэй страціць прытомнасць, каб не было адчування болю.

Непрыметна для сябе пачаў хадзіць, каб запамятаць на голад. Цікава, што цяпер: дзень ці ноч? Прыпомніў як з дзвернага вочка пучком ударыла ў вочы святло, калі адхінуўся ад яго жандарм. Але ён не паспеў зразумець: дзённае святло ў калідоры сутарэння, ці электрычнасць? Ён страціў адчуванне часу. Каб даходзілі звонку хоць якія гукі, тады лягчэй было-б арыентавацца ў часе. А так нават не будзе ведаць, колькі часу прабудзе ў гэтай яме.

З'явілася думка клікнуць жандарма і запытаць аб часе ў яго, але махнуў рукой і не пашоў да дзвярэй. Доўга хадзіў па камеры з кута ў кут. Часам лавіў сябе на тым, што ідзе спяшаючыся. Калі з-за дзвярэй даходзіў грукат ног жандармаў, спыняўся і напружана чакаў, што ідуць біць. Пасля зноў хадзіў. Калі ногі стамляліся, садзіўся на сваё месца каля сцяны і засынаў. Гэтак некалькі разоў. У галаве раіліся цяжкія і незразумелыя сны, дужа падобныя на сапраўднасць. Некалькі разоў у сне ён, усхапіўшыся, прыўзнімаўся і чакаў. Хацелася, каб хутчэй прышлі катаваць. Але за дзвярыма было ціха і ён зноў садзіўся да сцяны і драмаў. А пасля, прахапіўшыся гэтак, убачыў прыадчыненыя дзверы. Гэта спалохала. Як-жа гэта ён не пачуў іх з калідора, каб хоць крыху падрыхтавацца. Але ў камеру ніхто не ўваходзіў, а працягнулася толькі рука жандарма і пачуўся хрыпаты голас:

— Пану харчы.

Гэта не адразу дайшло да свядомасці. Чаму харчы, калі павінны былі прыйсці біць.

— Пану харчы,—перараказаў жандарм. Гэта я ад сябе прынёс, шкада...

Круміньскі падыйшоў да сходак і ўзяў у руку селядца і кавалак хлеба.

— Дзякую.

Дзверы зачыніліся. Круміньскі адыйшоў ад сходак і паднёс хлеб да губ. Адчуў яго пах і не ўкусіў. Хлебны пах ап'яняў. Голад не цётка,—прыпомніў ён прымаўку. Колькі-ж часу я не еў?

Пасля, як з'еў селядца і хлеб, зноў сеў да сцяны і задрамаў. У сне ўбачыў шырокае круглае возера, абкружанае гарамі так, што да яго ніяк нельга падыйсці. Ён доўга спрабаваў зрабіць гэта і не здолеў. Страшэнна стаміўся. Ад стомленасці і праснуўся. Хацелася піць, смага сціскала горла. Зліпліся перасохшыя губы. Падняўся і пашоў на сходкі да дзвярэй, каб паклікаць жандарма. Жандарм прышоў хутка і адкрыў вочка.

— Вады, піць!—сказаў Круміньскі.

Вочка закрылася і за дзвярыма пачуўся прыглушаны рогат.

— Сволачы!

Яго абманілі. Сялядца далі наўмысне.

А цераз некалькі гадзін прышлі жандармы. На гэты раз ён не спалохаўся. Яму было ўсёроўна. Ён толькі ўзняўся і стаў пры самай

сцяне, расставіўшы ногі. Але жандармы ў камеру не пашлі, адчынілі толькі дзверы і самі, зірнуўшы ў камеру, адступіліся ад дзвярэй. Можа іх напалохаў бляск вачэй ягоных? Яны стаялі моўчкі, трымаючы ў руках рэвольверы.

Зноў на допыт—здагадаўся Круміньскі.

— Выходзь!—крыкнуў жандарм і яшчэ далей адступіўся ад дзвярэй.

Гэта быў той-жа габінэт і зноў палкоўнік Шэмет. Значыць гульня, якую надумаўся весці палкоўнік, яшчэ не скончана.

Палкоўнік узяў са стала графін з вадою і пачаў павольна наліваць ваду ў шклянку. Вада пузырылася ў шклянцы, паблісквала ў сонечных праменнях, звінела булькаючы і Круміньскі адчуў яе смак. Ён варухнуў перасохлымі губамі. Палкоўнік заўважыў гэта і ўзяў у руку шклянку, ускінуўшы на Круміньскага вочы. Круміньскі прыкусіў губу.

Палкоўнік піў адкінуўшыся на спінку крэсла, выставіўшы з каўняра гімнасцёркі валяк. Стрымліваючы сябе Круміньскі назіраў, як змяншаецца ў шклянцы вада. Ён быў зусім спакойны і нічым бы не выказаў сваёй смагі, калі-б не ўзнялася да губ здрадніцкі рука: захацелася сцерці з губ накарэўшую плёнку смагі.

— Пан падпаручык хоча піць?

Круміньскі прыпомніў выпадак на фронце, каля Немана. У палон было ўзята чалавек дваццаць чырвонаармейцаў. Іх дапытвалі, каб дазнацца, хто сярод іх комуністы. Дапытваў таксама палкоўнік. Калі чырвонаармейцы не выказалі комуністаў, палкоўнік загадаў тапіць іх. Чырвонаармейцаў раздзявалі да ніжняй бялізны, звязвалі рукі і ногі і спіхвалі з берага ў раку. Хто выплыве, таму дарую жыццё—сказаў палкоўнік. Спіхнутыя ў раку не спрабавалі плыць, знікаючы ў вадзе. Іхныя таварышы стаялі на беразе, моўчкі пазіраючы адзін аднаму ў вочы. Гэта было прысягай. Яны чакалі сваёй чаргі, каб быць спіхнутымі ў раку. Калі аднаму з чырвонаармейцаў неяк удалося ў вадзе ўжо вызваліць рукі і ён пачаў плыць да супроцьлеглага берага ракі, палкоўнік загадаў расстраляць яго. І калі расстрэляны тапелец на адзін момант нерухома лёг на вадзе, распрастаўшы рукі, чырвонаармейцы запелі інтэрнацыянал. Яны пелі стоячы тварам да ракі, а за плячыма ў іх стаялі здзіўленыя легіянеры і збянтэжанае афіцэрства. Палкоўнік разгубіўся, кінуўся з крыкам да чырвонаармейцаў, загадваючы маўчаць і некалькі чалавек расстраляў сам. За палкоўнікам на чырвонаармейцаў, кінулася некалькі афіцэраў і пачалі растрэльваць іх. Песня слабела, яе заглушалі стрэлы, і ўрэшце змоўкла. Над рэчкай, на самым беразе яе, на ўтаптанай, акрываўленай, тлустай траве ляжалі трупы застрэленых чырвонаармейцаў. А ўнізе праплывала спакойная у сваёй шырыні цёмная сінява ракі.

Круміньскаму гэтага ніколі не запамятаць. З таго дня ён назаўжды стаў комуністам; да таго былі нясмелыя, няўпэўненыя крокі да іх.

«Гэтага нельга запамятаць, таварыш Круміньскі»,—сказаў ён, звяртаючыся мыслямі да сябе.—«А ты... піць захацеў...»

— Чаму-ж падпаручык маўчыць?

— Мне няма аб чым гаварыць з панам палкоўнікам.

— Ці так. Ці добра падумаў пан над адказам?

Палкоўнік паказаў жандармам на дзверы і яны выйшлі. Кругмінськi ўбачыў у вачах палкоўніка хітраваты бляск, які хутка знік за абвіслымі жаўтаватымі павекамі вачэй.

— Не так,—сказаў палкоўнік.—Я хочу гаварыць з панам падпаручыкам усё яшчэ як з салдатам нашай айчыны, сумленна і проста. Мы далі пану час падумаць і, нават, прымушалі пана падумаць. Яшчэ ёсць час вырашыць: калі пан скажа, дзе партыйны камітэт і хто яго кіраўнік і ўдзельнікі, пану будзе даравана жыццё, поўная воля... Пан яшчэ зусім малады. У пана наперадзе ўсё жыццё і не абы якое, калі пан захоча жыць не ў імя выдуманага і смешнага шчасця для ўсіх, а для сябе. Хай пан ацэніць маю добрасць.

Крумінськi маўчаў. Палкоўнік адпіў яшчэ вады са шклянкі і зноў гаварыў:

— Вайна хутка скончыцца. У самыя блізкія часы, у месяц—два, большэвіцкае войска разбяжыцца: яно босае, голае і галоднае. Вайны не будзе. Пан здолее вярнуцца на радзіму, служыць, мець сям'ю... Пан павінен разумець, што калі не выбярэ гэтага жыцця, выбярэ сабе смерць і ў самым хуткім часе будзе ляжаць у бруднай яме, дзе чэрві. Хай пан падумае: маладосць, жыццё і сыры пясок, чэрві...

— А яшчэ што, пане палкоўнік?

Палкоўнік здзіўлена прыўзняў галаву, варухнуў жоўклымі, зморшчанымі павекамі.

— Яшчэ.

Пры гэтых словах палкоўніка скурчыла неяк. Ён заміргаў вачыма, пацёр адну аб другую далоні рук. Потым схамянуўся і ўзняў здзіўлёныя вочы. Зверху на яго павузеўшымі вачыма пазіраў Крумінськi. Ён стаяў зусім вольна, заклаўшы за спіну рукі, крыху ўскінуўшы ўгору галаву і смяяўся.

— Смешна?!. А вось зараз пабачу, як ты засмяешся. Я ўсё ведаю, але хацеў выратаваць жыццё.—Вядзіце!—крыкнуў палкоўнік.

Адчыніліся дзверы і ў пакой наперадзе жандармаў увайшоў Язэп Багдановіч. Палкоўнік стаяў за сталом, не зводзячы з Крумінськага вачэй. Багдановіч як зірнуў на Крумінськага, здзіўлена прыўзняў плечы, здавалася, вось—вось нешта скажа. Схудзелы, бледны твар яго заліла чырвань. У вачох была прыкметна разгубленасць. Ён шукаў поглядам воч Крумінськага і сароміўся іх. Відаць было, што ён не чакаў спаткаць Крумінськага, не падрыхтаваны да гэтага і цяпер нешта вырашае для сябе. Крумінськi зірнуў на яго і адвярнуўся. Ён адчуваў на сабе дапытлівы позірк палкоўніка і разумеў, што трэба быць як ніколі спакойным.

— Пан падпаручык не ведае гэтага хлопа.

— Не.

— Ну, пэўне-ж, я так і ведаў. А хлоп пана падпаручыка ведае?

Крумінськi кінуў позіркам на Багдановіча і адвярнуўся. Багдановіч колькі секунд маўчаў.

— Ці можа таксама запамятаў ужо за гэты час?

— Я ведаю,—глуха сказаў Багдановіч і зноў пачаў шукаць поглядам вачэй Крумінськага.—Я павінен быў ісці разам з імі.

— Вывесці.

Жандармы штурханулі Багдановіча ў калідор і зачынілі дзверы.

— Што-ж скажа падпаручык цяпер?

Яны стаялі адзін перад другім маўклівыя. Гэта цягнулася некалькі секунд. На губах палкоўніка параджалася хітрая ўсмешка. Ён заўважыў нерухомасць погляду Крумінскага і заўважыў, як уздрыганулі яго вусны. Іх варухнула нахлынуўшае пачуццё крыўды, што не разгадаў усяго, што адбылося. Трэба было ўсё асмысліць і зразумець і не толькі тое, што адбылося ў яго перад вачыма, але і яго адносіны да ўсяе справы, да лёсу таварышоў, якія на волі. Ад напружання скрыганулі зубы.

— Скажаш?—Выгнуўшыся, палкоўнік знізу зазірнуў яму ў твар.

— Не...

Гэта было хутчэй адказам на свае думкі, чым на пытанне палкоўніка.

Палкоўнік пазваніў і адразу ўвайшлі жандармы.

— На ніз!.. Кірыльчыка!..

* * *

Калі Крумінскі пачуў за плячыма ў сябе голас палкоўніка Шэмета, які загадваў прыслаць Кірыльчыка, ён міжвольна ўздрыгануў. Кірыльчыка, начальніка мясцовай контрразведкі, ён ведаў. Пра яго нават на волі гаварылі са страхам і трывогай. Палкоўнік сваю гульню скончыў і перадаў справу Кірыльчыку. Цяпер бліжэй канец ёй. У адну з мінут прыдуць у камеру на чале з Кірыльчыкам жандармы. Жандармы будуць стаяць каля дзвярэй, шчыльна прычыніўшы іх за сабою, а Кірыльчык выйдзе наперад і моўчкі будзе доўга стаяць перад ім. Кірыльчык называе гэта псіхалагічным уздзеяннем. Высокі, з уросшай у плечы, як у гарбуна, галавой, ён будзе доўга стаяць так, з засунутымі ў кішэні рукамі, пахвілінна аблізваючы языком таўстыя, мясістыя губы, пачмыхваючы носам. Пасля выне з кішэні руку і павольна ударыць у твар, абавязкова ў твар і ўсяго адзін раз, а тады адыйдзе і кіўне галавою жандармам. Жандармы пачынаюць біць неахвотна, лена, нават не вельмі моцна, потым звярэюць ад сваіх удараў, ад крыві і стогнаў збіваемага і б'юць, каб біць, каб збіць чалавека ў скрываўлены кавалак мяса, пакуль іх не спыняць. Тады яны паслухмяна, але раз'юшаныя, адыйдуць, кінуўшы сваю ахвяру.

Пра такія збіванні Крумінскі чуў не адзін раз. Няўжо-ж і яго будуць біць гэтак-жа? Ці здолее ён маўчаць, каб не застагнаць. І каб не паказаць, што ён баіцца. Самае страшнае ўдары ў жывот і ў твар, і адчуванне вялікай крыўды ад бездапаможнасці. Страх будзе пакуль будзе адчуваць боль, да страты прытомнасці. Ён пра гэта думае не ўпяршыню. Значыць, каб утрымацца да таго часу.

У калідоры, у адной з камер па незвычайнаму моцна стукнулі дзверы. Крумінскі застыў на месцы. Ён ведаў: лепш было-б, каб прышлі тыя зараз, хутчэй. Калі давядзецца доўга чакаць, ён будзе ўвесь час думаць пра іх і страх будзе нарастаць. Прыслухаўся. У цішыні ён адразу пачуе іхныя крокі: яны будуць цяжка тупаць ботамі. І тады здолее падрыхтавацца, каб сустрэць іх зусім спакойна.

Ужо некалькі разоў Круміньскі прыслухоўваўся да нейкіх глухіх гукаў, якія даходзілі згары. Цяпер прышла здагадка, што ўгары над ім камера. У камеры чалавек. Ён ходзіць. Круміньскі чуе, калі ён ходзіць. Здагадка ўмацоўвалася. Каменныя клеткі. У кожнай чалавек. Прыходзячы сюды, чалавек пачынае думаць пра сваё дзяцінства.

Круміньскі хадзіў па камеры з кута ў кут, па сваёй звычайнай сцежцы: шэсць крокаў у адзін канец і шэсць назад. Цесна. Людзі з часам вызваляць сябе з каменных клетак, збудаваных для іх гаспадарамі жыцця і раскрыюць для сябе нязмерную шырыню свету. Каменныя клеткі турмаў застануцца на зямлі як надпісы, як сведкі часу, у які жыве ён.

Круміньскі прыпомніў адзін з гарадоў, у якім ён быў не так яшчэ даўно. Гэта было адразу пасля адыходу з гораду Чырвонай арміі. Ён пашоў знаёміцца з горадам і трапіў у гарадскі сад. У садзе, у самым цэнтры яго, стаялі кругом чалавек дванаццаць легіянераў. Змеціўшы яго, афіцэра, яны расступіліся і адзін з іх, неяк нясмела сказаў, паказваючы на пясчаны насып, зроблены сярод зялёнай травы саду:

— Дошчачку выкінуць трэба, іх напісалі за міравую рэволюцыю!

Над насыпам высілася дошчачка і па свежа абцясанаму было па рускі напісана вялікімі друкаванымі літарамі:

«Тише, граждане! Здесь спит юный комсомолец Коля, погибший за мировую рабочую революцию».

— Мы ваюем не з мёртвымі,—сказаў ён і пашоў далей у глыб саду. Ходзячы там, ён баяўся, што ўрэшце прыдуць другія легіянеры, растопчуць нагамі магільны насып, вырвуць з яго дошчачку з надпісам і закінуць яе ў траву. Але калі вяртаўся з саду, убачыў магілу некранутай і абрадаваўся.

Круміньскаму захацелася ўявіць невядомага яму юнака комсамольца Колю. Які быў ён? У працягу апошніх паўтары год, ён не раз бачыў комсамольцаў: і на нелегальных партыйных сходах і арыштаваных, пад канвоем легіянераў. Вельмі часта гэта былі хлапчукі і дзяўчаты па шаснаццаць—семнаццаць год. Гэта акурат, які быў ён сам гады за два да вайны.

У вёску летам наязджалі дачнікі. Сыны дачнікаў хадзілі ў кароценькіх чорных штанах і кпілі з тых, якія хадзілі ў зрэбным. Каб адпомсціць, зрэбнікі аднойчы павялі старэйшага хлапчука дачніка ў лес і пратрымалі яго там да вечара, наўмысне, каб яму камары накусалі ногі. Пазней у гэтага хлапчука Круміньскі ўбачыў свісток і пачаў марыць аб ім. Аднойчы ён папрасіў у хлапчука дазволу свіснуць, а той не даў, назваўшы яго заразным. Гэта пакрыўдзіла. У той-жа дзень ўвечары Круміньскі прыцікаваў хлапчука і сарваў свісток з яго шыі. У двары на крык паніча збегліся ўсе дарослыя, каб адабраць свісток. Яго загналі ў кут паміж хатай і клецяю. Уцячы нельга было, перад ім быў высокі плот з дошчак і ён шыбануў свісток за плот. Яго злавілі і набілі, але свістка не адабралі. Цэлую ноч ён марыў пра свісток, запамятаўшы на крыўду, і з сонцам палез за плот шукаць яго. За плотам быў агарод суседа. Ён доўга поўзаў, хаваючыся, па градах, шукаючы свістка у гарбузах і ў агурочніку і ў траве каля плоту. Ён увесь вымак ад расы, запэцкаўся у гразь і пабадзіў крапі-

вой рукі, ногі і твар, але свістка не знайшоў. Шукаў так некалькі разоў і ўсё дарэмна. А цераз год, вясною, перад самым вялікаднем, увайшла ў хату сястра, яна хадзіла капаць хрэн, і падала яму цацку. Гэта быў свісток, паржавелы, забіты зямлей, сагнуты, але той самы, аб якім ён так доўга некалі марыў. Абрадаваны ён доўга выкалупваў з свістка зямлю, чысціў яго і выпроствў, седзячы на гары. Праз нейкі час свісток быў зусім як новы. Ён асцярожна агледзеў яго і паднёс да губ. Ён некалькі разоў дуў у яго, то моцна, з ўсёй сілы, то ціханька, ледзь датыкаючыся да яго губамі. Свісток маўчаў. З'едзены іржой ён сапсаваўся і перастаў свістаць. Але ў гэта не хацелася верыць. Ён яшчэ і яшчэ падносіў да губ бліскучы канец свістка і ўрэшце заплакаў ад крыўды і бяссілля што-небудзь зрабіць. Не верылася, што свісток сапсаваўся і ён не выкінуў яго, а схаваў на гары пад кроквай і некалькі разоў хадзіў спрабаваць яго, усё яшчэ спадзяючыся пачуць пераліўчаты звонкі свіст.

Крумінскі не заўважыў, як адчыніліся дзверы камеры. Калі ён павярнуўся тварам да дзвярэй, яго на момант асляпіла святло электрычнага ліхтарыка і не паспела яшчэ сыйсці з вуснаў усмешка, абуджаная ўспамінамі пра свісток, як абудзілася пачуццё страху. Па сходках, сагнуўшыся, ад чаго плечы яго здаваліся на адным узроўні з вушамі, сышоў Кірыльчык. Ён трымаў у левай руцэ ліхтарык, шукаючы святлом Крумінскага, яго твару. За ім сыйшлі, гэтак жа сагнуўшыся, як бы рыхтуючыся біць яго галовамі, жандармы. Адзін з іх прычыніў за сабою дзверы. Момант адзін Крумінскі нічога не разумеў. Было падобна, што ў стройны лад мыслей уварвалася нешта зусім незнаёмае і лішняе. Потым зразумеў, што прышлі біць яго і ўсё цела, ужо угадваючы боль, напружылася, нервы наструнілося да звону ў вушах і ён застыў на месцы. Некалькі ўсяго секунд стаяў ён так, адчуваючы як да апошняга сціскаецца ў тугі камяк усё цела, як туга нацягваюцца нервы. Да болі ў вачах. Стоячы ён чуў, не адгадваў, а чуў як стукае сэрца і чуў як сапе, набліжаючыся да яго, Кірыльчык. А Крумінскі нават стрымліваў дыханне. Святло ліхтарыка спаўзло з твару на грудзі і ён, павёўшы за святлом погляд, убачыў каля грудзей сціснутыя ў кулакі рукі. У твар дыхнула пахам гарэлкі. І за гэтым, ускрыкнуўшы, Кірыльчык ударыў кулаком у грудзі каля левага пляча. Удар быў не вельмі моцным, але за ім Крумінскі адчуў, што цела вызваляецца ад несцерпнага напружання. Ён здолеў скрануцца з месца і адступіўся да сцяны. Ужо калі адчуў локцямі рук холад сцяны, ударылі ў твар і адначасова ботам у калена і зноў кулаком у грудзі. Кірыльчык узвізгнуў і адскочыў, але адразу накінуліся жандармы. Удары сталі больш частымі. Хаваючы ад удараў твар, згінаўся, аддаляючыся ад сцяны галавою, але тым з большай сілай ударяўся аб яе. Калі ўпаў на падлогу, памятаў яшчэ, што трэба як небудзь схаваць твар і лёг на падлогу грудзямі. Тады адчуў тварам прыемны холад падлогі, які расплыўся па целу і знік у густой і цяжкай цішыні. Калі ён пасля паспрабаваў расплюснуць вочы, цішыня, густая і чорная размашыста пагойдвалася. Ён як бы плаваў у ёй сваім згубленым, стаўшым чужым, целам. Пасля цішыня разарвалася, напоўнілася незмаўкаючым звонам, а цела апала на холад каменнай падлогі і адчулася больш як сваё. Цела заныла

тупым і нясцерпным болем. Балелі і сківіцы, так моцна былі сціснуты зубы. Паспрабаваў прыўзняць галаву. Звон пасіліўся і перад вачыма замітусіліся няўлоўныя, рознакаляровыя іскры. Падцёг па падлозе руку і тварам лёг на яе. Твар саграваў уласным сваім дыханнем. Паспрабаваў разняць вусны, але яны толькі шавяліліся, пачуўся ціхі, прыглушаны стогн. За гэтым раптам мільганула страшная думка пра страту здольнасці гаварыць; ён ведаў пра выпадкі, калі чалавек нямее пасля збіванняў. Правяраючы сябе, з сілай разняў вусны і пачуў уласны голас, як назваў імя Лены. І тады захацелася адчуць на ілбе прыемную прахладу яе рукі.

* * *

Калі Лена прышла да Дубраўца, у яго сядзеў незнаёмы ёй мужчына.

— Мы ўсё яшчэ не ведаем, што з Багдановічам,—сказаў Дубравец,—але за гэтыя дні яны ўзялі яшчэ некалькі нашых. Давайце мяркаваць на самае горшае. Яны можа быць ведаюць гэту нашу кватэру, я так уяўляю і, калі ведаюць, пастараюцца ўзяць нас у апошні дзень, мяркуючы, што нас збярэцца больш. Ім нават выгадна крыху пачакаць, каб мы супакоіліся і сталі менш асцярожнымі. Так, Лена?

— Так.—Яна пазірала ў твар яму, яшчэ не разумеючы, да чаго ідзе гутарка.

— Гэта ў горшым выпадку. А можа і не быць таго, тады добра, але трэба сёння думаць пра магчымасць горшага. Мы зменім нашу кватэру. Спатканні ўсе будуць у яго,—кіўнуў галавою на незнаёмага. Час ад часу я буду заходзіць да цябе. Ты, Леначка, усіх ведаеш і адрасы і адразу звяжашся з усімі, гэта калі здарыцца што тут у мяне. Але ты не палохайся,—засмяяўся ён, змеціўшы і здзіўленне і трывогу ў поглядзе Лены.

— Не, я ўсё разумею, але-ж ты так гаворыш...

— Гэта адно,—сказаў Дубравец,—да гэтага давядзецца табе, Леначка, з гэтым таварышом лісток адзін надрукаваць. Таварыш друкар.

— Саламонам мяне завуць, давайце паздароўкаемся,—сказаў незнаёмы.

Лена пацiснула яго руку.—А мяне Ленай.

— Добра,—сказаў друкар.—Я ведаю, дзе вы жывеце і ўвечары зайду. А цяпер бывайце. Лена сачыла поглядам за друкаром аж пакуль ён знік за дзвярыма.

— Гэта беспартыйны чалавек. У яго сын там, чырвонаармеец. А тут у яго «амерыканка». Ніхто не ведаў, а ён прышоў да аднаго з нашых і сказаў пра «амерыканку».

— Гэта вельмі добра,—абрадавалася Лена,—бо я думала, што лісток на сцеклографе давядзецца цiскаць. Я, здаецца, расказала, мы аднойчы з Міхалём на сцеклографе друкавалі, запэцкаліся ў фарбу, ледзь адмыліся... Ну што чуваць? Што там?—Яна ўзнялася з зэдліка, на які была прысела і падалася бліжэй да Дубраўца.

— Іх білі? Так?..

— Сядзь, я раскажу. Нам давялося дазнацца толькі, што іх па некалькі разоў дапытвалі, што справу цяпер вядзе сам Кірыльчык.

— Іх білі...—паўтарыла Лена.

— Ты не хвалюйся. Мы-ж ведалі, што будуць біць і напэўне білі, вядома...

— Няўжо-ж хутка канец?.. Так хутка... Што-ж рабіць, таварыш Дубравец?

— Мы зробім усё, што здолеем, каб іх выратаваць. Калі будзе такая магчымасць, то толькі ў самы апошні дзень, па дарозе...

— Я баюся... таварыш Дубравец.

— Мы зробім усё, што здолеем.—Ён стаяў над ёю, схіліўшыся да яе галавы і пальцамі перабіраў рог яе хусткі. Ты-ж не маленькая і комуністка, павінна разумець, што хвалявацца табе ў тваім стане не можна, хоць я і мала разумею ў такіх справах. Выпусціў з пальцаў хустку і лёганька паклаў руку на галаву ёй, пачаў гладзіць.—Табе трэба быць як мага больш спакойнай, не маленькая-ж. Ён злаваў на сябе, што не знаходзіць слоў, якія хацеў бы сказаць у гэты момант Лене, а Лена схапіла рукамі яго за пінжак і хуценька прытулілася галавой да яго. Ёй не хацелася, каб Дубравец убачыў на яе вачах слёзы.—Я баюся,—сказала яна яшчэ раз. Гэта вельмі цяжка.

Калі Лена сабралася ісці дадому, Дубравец перадаў ёй густа спісаны алоўкам лісток паперы. Лена асцярожна склала яго, каб не скамячыць і схавала ў валасах пад хусткай. Дубравец усміхнуўся. Тады яна сказала:—Адсюль ніколі не згубіцца і не дужа знойдуць, калі-б шукалі.

Надвячоркам дадому да Лены прышоў друкар, з якім пазнаёміў яе Дубравец. Ён прывітаўся з хатнімі, паглядзеў на Лену, на леніну маці, у вачах якой блукалі цені спалоху, зноў на Лену, пытаючы поглядам, ці можна што гаварыць і калі Лена, смяючыся, заківала галавою, сказаў:

— У мяне ўжо ўсё падрыхтавана, варта хутчэй пайсці.

Леніна маці здзівілася:

— Дык гэта з вамі і старыя ёсць?

Тады друкар па смешнаму неяк варухнуў плячыма.

— А што ты зробіш, калі трэба.

Яны пашлі. Дома друкар адразу завёў Лену ў хлявушок, у якім стаяла яго карова і паказаў на вузкія дзверы адгародкі.—Там,—сказаў ён, а сам пашоў у хату і вярнуўся з лямпай. У цесным закутку хлева, каля дроў стаяла друкарская машына, якую Дубравец назваў «амерыканкай». Дровы былі пакладзены так, што калі-б у закутак зайсці з двара, а там таксама былі варотцы, можна было-б убачыць толькі дровы, пакладзеныя аж пад самую страху.—У два рады дровы,—вытлумачыў гаспадар, а тут сена ляжыць і ніхто нічога не можа падумаць, калі, канечне, не пашукаць добра.

Машына стаяла каля самых дроў, а ля яе ляжала скрынка са шрыфтамі і папера. Гаспадар павесіў на сценку лямпу, прымасціўся на плашцы дроў, а Лену запрасіў сесці на зэдлік і пачаў корпацца ў шрыфтах. Ён сядзеў сагнуўшыся над шрыфтамі і Лена не заўважыла, як у яго ў руцэ апынулася верстатка. Ён пачаў набіраць. Набіраў моўчкі і толькі як убачыў уважлівы погляд Лены, вытлумачыў, вядучы пальцам па радку набора:

— Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся... Гэта я ведаю, хоць яшчэ ніколі не набіраў для вас. А цяпер давайце разам, вы гаварыце мне.

Лена слова за словам пераказвала змест лістка і за кожным словам гаспадар схіляўся над скрынкаю, пацямнеўшай ад свінца і друкарскай фарбы, дастаючы пальцамі літары. Цень ягоны гойдаўся па сцяне збоку ў Лены. Лена за сваім голасам чула, як пастукваюць літары, становячыся адна за адной, бачыла пацямнеўшыя коньчыкі пальцаў наборшчыка. Калі ў пальцах была літара, над імі кожны раз схілялася пасівелая галава наборшчыка. Схіліўшыся, ён паціху паўтараў словы, сказаныя Ленай.

Позна ўночы, крадучыся завулкамі, Лена ішла дадому. Непадалёк аптэка. Яна дойдзе да аптэкі, купіць там што, а тады пойдзе смялей, не баючыся напаткаць патруль. Некалі горад быў шумны і пявучы. У такую пару сама што чуліся альбо заліхвацкія песні п'яных, альбо сумныя дзявочыя песні. А цяпер каб хто запеў, гэта напалохала-б усіх. Па гораду, па ўсіх яго вуліцах і завулках, крадучыся ходзіць напалоханая цішыня. Над горадам зорнае неба, але мігценне зор палахлівае і трывожнае, як і подыхі веснавога ветру, што нагадвае неспакойнае дыханне заснуўшых людзей.

Дома дзверы Лене адчыніла маці і паціху пацалавала яе. Гэта было выяўленнем радасці, што дачка вярнулася да яе. Маці сказала ёй пра вячэру, якую прыгатавала, а сама паціху пашла і хутка Лена пачула, як яна зашапталася ў спальні з бацькам. Слухаючы іхны шэпт, яна пашла ў свой пакой і стала на сваім заўсёдашнім месцы пры акне. Кожны крок дзяцей сваіх бацькі ахоўваюць сваёй трывогай. Яна таксама хутка будзе маткай. Гэта вялікая радасць даваць пачатак жыццю. Чалавек так лёгка мірыцца са сваім адыходам з жыцця таму, што бачыць працяг свайго жыцця ў дзецях. Яна носіць пачатак новага жыцця ў сабе. Маці. Ёй спрадвеку прызначана ў жыцці быць крыніцай любові і пяшчот. І яна не здрадзіць гэтаму прызначэнню. І як ніколі, як ніводная маці будзе багатая гэтымі пачуццямі. Але як не менш святое пачуццё, яна будзе насіць у сабе і пачуццё нянавісці. З малаком, з сваёю крывёю, яна прышчэпіць пачуццё нянавісці і яму. Чалавек, якому яна дасць жыццё, прынясе гэтую нянавісць непарушнай праз сваё жыццё, ідучы дарогай у новы свет, зусім іншы ад таго, у якім жыве яна.

За акном нерухома стаялі радам высокія тапалі. Над імі чарадой, табунамі махнатых і бяскрылых птушак плылі хмары. А яшчэ вышэй, за хмарамі, гасячы зоры святлела далёкая, дрыготная сінява.

* * *

Раніцою на трэці дзень па ўсяму гораду, на частаколах і брамах, на сценках камяніц і драўляных дамоў, на лесвіцах і нават на дзвярах контрразведкі аказаліся расклеяныя комуністычныя лісткі, падпісаныя павятовым камітэтам комуністычнай партыі большэвікоў. Лісток расказваў пра інквізітарскую дзейнасць дыфензывы, называючы доўгі спіс закатаваных у яе засценках. Расказваючы адначасова праўдзіва пра становішча фронта, пра перамогі Чырвонай арміі, лісток клікаў непакорных і смелых у партызанскія атрады, на ба-

рацьбу. Лісткі ўзнялі на ногі дыфензыву. Па вуліцах, завулках і на дварах пашлі жандармы, зрываючы лісткі, сашкрэбваючы іх нажамі. Гадзіне а дзесятай лісткоў ужо нельга было ўбачыць, але праз гадзіну яны адначасова з'явіліся і на станцыі сярод пасажыраў і на рынку ў сялянскіх вазах. Чыясьці нябачная рука падкладвала іх пад чамаданы і клункі пасажыраў, пад тарэлкі на сталах станцыйнага буфета і засоўвала ў сена на вазах на рынку. Толькі што заспакоіўшыся, дыфензыва зноў узняла свае сілы: на вуліцах з'явіліся коннікі, а па рынку зашмыгалі жандармы, перапранутыя і ў форме.

Коннікаў як ніколі яшчэ багата з'явілася на вуліцах увечары. Пазней уночы на гарадскія ўскраіны і на чыгуначны пасёлак пашлі ўзброеныя групы жандармаў і легіянераў, а на другі дзень па ўсяму гораду была расклеена абвестка прыгавору палявога суда, падпісаная палкоўнікам Шэметам. У абвестцы пісалася, што пастановаю палявога суда камандзіра акружнога этапа дня дваццаць сёмага красавіка тысяча дзевяцьсот дваццатага года, за здраду і змову супроць войска польскага, прыгавораны на кару смерцю цераз расстрэл чатырнаццаць чалавек салдат і цывільных. Сярод чатырнаццаці прыгавораных быў падпаручык арміі польскай Міхал Крумінскі, паляк, салдат Бароўскі Ромусь, паляк і цывільныя: Шаўрук Аляксей, Ключынскі Уладзімер і Багдановіч Язэп. У канцы абвесткі паведамлялася, што прыгавор цераз дваццаць чатыры гадзіны будзе выканан.

Каля абвестак першымі пачалі збірацца дзеці, пасля жанчыны і пазней, убачыўшы, што паліцыянты, якіх стала на вуліцах больш як заўсёды, не разганяюць людзей, пачалі збірацца мужчыны. Людзі нясмела загаварвалі паміж сабой, перачытаўшы абвестку, насцярожана азіраліся і толькі адыходзячы асмельваліся кінуць адно—два словы. Потым жандармы ўзялі некалькі чалавек за выказаныя імі каля абвесткі словы ў дыфензыву. Вестка пра гэта ў момант абляцела ўвесь горад. Людзі баяліся гаварыць. Падыходзілі, моўчкі чыталі прозвішчы і імёны прыгавароных да расстрэлу і адыходзілі гэтак-жа моўчкі, саступаючы месца другім. Так праходзяць жывыя каля мерцвякоў, баючыся парушыць словамі іхны спакой, прыходзячы развітацца з імі.

Даведаўшыся пра абвестку, Дубравец сабраўся пайсці ў чыгуначны пасёлак, але перад тым зайшоў да Лены. Яго сустрэла леніна маці. З нейкай надзеяй, якую хавала ў сабе, яна кінулася насустрач Дубраўцу.

— Няўжо-ж гэта і ўсё? Няўжо-ж нічога нельга зрабіць?

Яна пытала, пазіраючы Дубраўцу ў вочы, працягваючы да яго дрыглівыя рукі, у якіх трымала няскончаныя карункі.

— Мілы чалавек, як-жа, а?..

— Мы ўсё зробім, каб іх выратаваць, хоць гэта, Тацяна Максімаўна, вельмі цяжка.

Са свайго пакою выйшла Лена. Збляднелы твар яе быў спакойным. Дубравец пашоў да яе і моўчкі пацісnуў яе руку. Следам пашла і маці, нясучы перад сабою карункі, забываючыся пакласці іх.

— Я іду ў пасёлак,—сказаў Дубравец.—Мы збярэм свой баявы атрад і зробім засаду каля могілак. Калі будзе магчымасць, мы вырвем іх.

Лена пазірала гэтак-жа спакойна і нельга было зразумець, верыць яна ў магчымасць вызваленьня, ці не.

— Таварышы сыйдуцца каля могілак ужо сёньня ўночы, а ўсе нашы заўтра будуць на ўсякі выпадак на вуліцы.

Ад Лены Дубравец адразу падаўся ў пасёлак. Там ён зайшоў на кватэру да дэпоўскага слесара і знайшоў патрэбнага яму чалавека. Гэта быў малодшы брат Шаўрука, гэткі-ж здаравяка, толькі больш маўклівы і з больш рухавымі, неспакойнымі цёмнымі вачыма. Ён клікнуў гаспадаровага самага малодшага сына, нешта шапнуў яму і той пайшоў з хаты, а цераз некалькі мінут у хату прышло яшчэ двое. Гаспадыня паставіла на стол скавароду з салам і бутэльку гарэлкі і госьці расселіся за сталом. Трымаючы ў руках відэлец, накрэсліваючы на стале дзяржаньнем відэльца план мясцовасьці, што вакол кальвінісцкіх могілак, Дубравец расказаў аб меркаваньнях партыйнага камітэта.

— Трэба сама менш дванаццаць чалавек. Сёньня звечара ўсе павінны быць на месцы ў хаце Сяргея Пыжа. Досвіткам пярэйдзеце ў зараснік. Выбірайце месца як мага бліжэй да могілак, каб у патрэбную мінуту дзейнічаць не трацячы дарам ніводнае секунды. Мы будзем у натоўпе, блізка і ўлічым усё да дробязі. Толькі пасьля гэтага пашлем да вас хлапчука, Сьцёпу. Ён скажа сваё імя і перадасьць, што рабіць. Тады вы падыходзіце бліжэй і даяце залп па легіянерах з варты. Мы здолеем зрабіць гэта калі можна будзе толькі ў апошнія мінуты, калі іх прывядуць. Самае лепшае, калі будзе чытацца прыгавор, тады варта будзе найменш падрыхтаванай да нечаканага нападу. Самы момант нападу вызначыць таварыш Шаўрук. Ён адказны за ўсё. Пачынаеце дзейнічаць толькі пасьля нашага паведамленьня. Да таго ніводнага кроку, інакш мы страцім некалькі чалавек яшчэ, зусім бескарысна для справы і не выратуем таварышоў. Кожны з вас сваім непрадуманым учынкам можа загубіць усіх. Без загаду таварыша Шаўрука ніводнага кроку... Гэта адно,—сказаў Дубравец, а другое і не менш важнае, чым бы не скончылася наша спроба выратаваць таварышоў, неабходна заўтра вывесьці з гораду партызанскі атрад. Фронт недалёка. Мы выраслі, каб дзейнічаць шырока, каб зьбіраць вакол сябе ўсе нашы сілы. Заўтра для гэтага найбольш удалы выпадак. У горадзе будуць папярэджаны ўсе таварышы. Трэба, каб былі папярэджаны ўсе і вашы на пасёлку.

У хаце стаяла напружаная цішыня. Цёмныя вочы малодшага Шаўрука сталі нерухомымі і большымі пад прыўзнятымі ўгару брывямі. Ён блукаў поглядам ужо ў заўтрашнім і нібы зусім не чуў, што гаварыў Дубравец.

— Як шкода, што мала ў нас зброі,—сказаў ён, калі Дубравец змоўк.—Людзей хапіла-б, а зброі зусім мала... Каб хоць адзін ручны кулямёт...

— У кожнага з вас будзе маўзэр,—сказаў Дубравец.—Калі давядзецца дзейнічаць, гэта не горш вінтовак. Калі не давядзецца дзейнічаць, вы ўзброенымі ўвойдзеце ў натоўп. Мы павінны заўтра вынесьці з гораду ўсю зброю. Там яна будзе больш патрэбнай.

Калі ўсё было вырашана і былі вызначаны людзі, якім даручалася партыйным камітэтам ісьці баявой дружынай на выратаваньне та-

зарышоў, Дубравец яшчэ раз папярэдзіў Шаўрука і прысутных аб адказнасці, яшчэ раз сказаў, што дзейнічаць яны пачынаюць толькі пасля належнага папярэджання і сабраўся пайсці. Але ў самым парозе яго пераняў гаспадар, які з'явіўся дадому.

— Прышлі і на самыя вароты наляпілі,—сказаў ён.—Усё страшаць. Наляпілі, а самі, аж пяцера іх, стаяць і чакаюць, што будзе. Ну, мы спачатку не пашлі чытаць, а потым перакінуліся словамі і пашлі ўсе адразу.

Іх ад варот адцерлі, а самі кругам сталі. Адзін у голас прачытаў... Тыя ўсё стаяць, чакаюць, што хто скажа, а мы маўчалі. Пасля неяк адзін; другі шапкі знялі і ўсе за імі знялі і без шапак стаялі. Кожны разумее, за што людзі гінуць. Гэта іх больш за ўсё напалохала. Галоўнае, узяць няма каго, а ўсіх нельга. Пашлі яны на станцыю, да начальства мусіць, каб паведаміць, што ўбачылі, а мы назад у дэпо.

Пасля гаспадар зірнуў на стол, на некранутую гарэлку і закуску і здзіўлена развінуў рукі:

— З-за стала госці вылезлі, а на стале ўсё нечапанае. Так не можна. Ты, Тарасавіч,—звярнуўся ён да Дубраўца, павінен са мною выпіць. Мы равеснікі,—вытлумачыў ён,—куды толькі разам не траплялі, дзе толькі не былі, а я цяпер часта думаю: Тарасаў гэта сын, ці не Тарасаў? Ты лепш за мяне гора чалавечае ўбачыў і падняў яго высака. Калі чалавек расце, ды для сябе толькі жыве гэта адно, а калі жыве для ўсіх такіх як сам, усіх іх падымаючы, тады зусім іншае: за такім кожны рабочы чалавек скрозь пойдзе.

Гаспадар падаўся да стала, а за ім, ад парога ўжо, вярнуўся і Дубравец і прабыў у хаце яшчэ чвертку гадзіны.

* * *

Калі вярнулася прытомнасць, першым, што адчуў Крумінські, было здзіўленне: узняўшы галаву ён убачыў перад сабою і падлогу і шэрую сцяну камеры. Гэта не было сном. Вакол яго святло, якога не было ўвесь час. Падцёг ногі і локцямі рук паспрабаваў абапёрціся на падлогу, каб сесці. І адразу ўскрыкнуў, уздрыгануўшы. Правая рука была або вывіхнута, або зламана, не мог валодаць ёю. Гэта напалохала: нельга-ж будзе рабіць правай рукой. А за спалохам прышла на памяць невялікая зала, у якой яго ў апошні раз дапытвалі і абвясцілі прыгавор. Гэта-ж адтуль яго і прывялі ўжо сюды ў камеру, а не на ніз, таму і святло. І рукі не будуць больш патрэбнымі ніколі. Гэта нават смешна, што пашкадаваў рукі.

Абапёрся на локаць левай рукі, пасля на далонь і сеў. Каб зноў не ўпасці, так кружылася галава, падаўся да сцяны і прыхінуўся да яе плячыма. Перад ім на халоднай каменнай падлозе камеры ляжалі далонямі яго рукі. Ён доўга разглядаў прыпухлыя збітыя пальцы. Іх напэўне таптал і ботамі. Падняў левую руку і паднёс яе да твару. Пальцы баляць калі згінаць іх. Разглядаючы пальцы, змеціў на сцяне, дзе дзверы, ледзь прыкметныя цені, якія то сыходзіліся, то разыходзіліся, знікалі і зноў з'яўляліся. Цені прыпомнілі аб жыцці па за сценамі турмы. Цені адтуль. Вуліцай праходзяць людзі, а іхныя цені лунаюць на сцяне яго камеры, парушаючы яго адзіноту. Па цені ён пазнаваў, калі да яго ішла Лена.

Абапіраючыся на сцяну ўзняўся на ногі і стаў супроць акна. Яно закрыта шчытом з дошчак, але зверху відзен кавалак неба. Па чыстаму колеру сінявы неба Круміньскі ўгадвае, што цяпер ранак. Раніпіняе неба светлае, чыстае ад хмар, якія збіраюцца пазней. І на дварэ багата сонца. Ён даўно не бачыў сонечнага святла, не адчуваў яго цяплыні. Думае пра гэта і не ўмее думаць пра смерць, якая зусім блізка. Затое пра смерць напомнілі харчы, якіх прынеслі на гэты раз больш як заўсёды. Гэта выглядала як грубы і зусім ужо лішні здзек. Вядуць чалавека на забойства і стараюцца накарміць яго лепш, чым кармілі-б, калі-б збіраліся выпусціць на волю, дзе патрэбны сілы. Круміньскі ўздрыгануўся, убачыўшы ў місцы з кашай кавалак мяса на абламанай напалову аголенай костцы. Ён узяў хлеб і кубак з варам і зараз-жа выклікаў жандарма і сказаў вынесці кашу. Жандарм зірнуў на яго здзіўленымі, неразумёнымі вачыма.

— Пан не хоча есці.

Яго здзівіла, што чалавек, якога амаль марылі голадам, адмаўляецца ад мяса.

Цераз некалькі гадзін прышлі жандармы. Круміньскі чакаў іх і пайшоў з камеры зусім спакойна. Адно толькі, перад адыходам спыніўся каля дзвярэй і аглядзеў уважліва камеру. Так робіць чалавек, баючыся пакінуць што-небудзь у вагоне поезда, выходзячы з яго. На турэмным двары яго асляпіла сонца і ў вушы ўвайшоў адразу гоман горада, які быў непадалёк, вакол турэмнае агарожы. Круміньскі спыніўся, зажмурыўшы вочы, пасля абрадавана зірнуў на сонца. Сонца кружылася, дрыжэла жывым агнём, прапальваючы густую сіняву і патанаючы ў ёй. А то як бы расплёсквалася гуллівымі агнямі і знікала, і вочы не бачылі сонца, а бачылі шырокія палымнеючыя плямы на сіняве. Гэта адзін момант, а потым зноў вынырала сонца і кружылася, падымаючыся ўгару над бруднымі аблезлымі сценамі астрога і над пашарэўшымі ад пылу ліпамі ў нейчым садзе за турэмнай агарожай. Пыл жоўтымі воблакамі ўзнімаўся над горадам і ападаў на яго.

— Проша, проша.

Жандармы падштурхоўвалі ў плечы, вядучы на сярэдзіну двара, дзе двума шарэнгамі стаялі канвойныя легіянеры. Непадалёк ад іх, вакол драўлянай калодкі стаяла ўжо некалькі чалавек, выведзеных з камер. Яны ўсе пазіралі насустрач Круміньскаму і сярод іх Круміньскі ўбачыў Шаўрука, Бараўскога і Ключынскага. Таварышы падаліся насустрач яму, працягнулі рукі, а Шаўрук, як расцалаваўся з ім, аглядзеў яго і жартуючы заківаў галавою:

— Здарава-ж яны цябе, таварыш падпаручык, размалявалі.

Круміньскі прыпомніў Дубраўца, які заўжды звяртаўся да яго так і развінуў, усміхаючыся, рукі.

— Не горш як цябе.

Ля драўлянай калодкі, седзячы на карачках, раскладаў агонь барадаты мужчына. Побач ляжалі на пяску кайданы, а на калодцы абцугі і малаток. Круміньскі дагадаўся, што гэты будзе скоўваць іх.

— Багдановіч. Глядзіце, Багдановіча вядуць,—сказаў Ключынскі.

Усе здзіўлена пазіралі на зарослага барадой, схудалага мужчыну, які ішоў да іх, збянтэжана блукаючы поглядам на іхных тварах.

— Вось і я,—сказаў Багдановіч і пачаў вітацца з таварышамі.— А то колькі часу не бачыліся...

Ніхто з таварышоў не ведаў, што было за гэтыя дні з Багдановічам і ніхто не разумеў, чаму яго прывялі да іх, да смертнікаў. Яго сустрэлі маўклівымі і дапытлівымі поглядамі. Ён змеціў у поглядах неўразуменне і недаверлівасць і разгубіўся.

— Я баяўся, што можа і не ўбачымся,—дадаў ён да сказанага.

— А чаго-ж ты тут?—Гэта пытаў Шаўрук.—Мы думалі...—ён не дагаварыў сваёй думкі. Яго перабіў Круміньскі.

— Не трэба... Няхай таварыш Багдановіч вытлумачыць.

— Вытлумачыць, чаму я тут.—Багдановіч здзівіўся.—Але як-жа? А дзе-ж мне быць, раз вы тут усе. Што-ж я... хіба... Ды я зараз раскажу, чаму я тады не прышоў. Усё з-за жонкі. Мне развітацца з ёю захацелася і з дзецьмі, раз на такое ішлі, ведаў, што не ўбачу. Ну, я крыху неяк расхваляваўся, здаецца дзяцей больш, як звычайна, песціў, вядома шкада. А яна здагадвацца пачала, схапіла за шыю і не пускае. І дзяцей напалохала: трымайце кажа, бацьку на смерць будзе... Вырваўся я ад яе і ў апошнюю мінуту і каб паспець, ледзь не бягом бег. Каля базарчыка наперся на жандарма, збіў яго з ног. Ну ён за мяне. Другіх паклікаў. Куды, кажуць, прэш так. А я, ну што-ж я ім скажу, як бы языка лішыўся, маўчу, узлаваў. На тое ліха нічога не здолеў прыдумаць, можа тады і пусцілі-б, а так узялі і павялі ў дыфензыву. Потым пачалі допытваць. Я маўчаў, пакуль не ўведаў пра вас усяго, а як уведаў, прызнаўся...

— Паказаў, што комуніст?

— А як-жа? Вылучылі мяне тады, павінен жа быў я ісці разам з вамі? Вас расстрэльваць будуць, а я што-ж, ратавацца? Усё жыццё я не дараваў бы сабе гэтага.

— Які-ж ты дурань, Язэп. Які дурань.

Шаўрук стаяў паводзячы плячыма, пазіраў на таварышоў.

— А мы, брат, думалі—іншае што—сказаў Ключынскі.—Думалі, ці не збаяўся ты...

— Збаяўся? Чаго-ж мне баяцца? Каб не той дурань жандарм, я акурат паспеў-бы...

— Ах, які-ж дурань, які дурань,—не мог супакоіцца Шаўрук.— Нібы без яго мала яшчэ растрэляных будзе. Ці без цябе тут не абыйшлося-б? Дурань! Там кожны чалавек дораг, а ён, герой. Растрэльвайце, я комуніст... Яны растраляюць, вядома. Ды яшчэ як...

Падышоў афіцэр. Ён праверыў па спіску прозвішчы выведзеных на двор і загадаў стаць па пяць у рад. Афіцэр падазваў жандармаў і загадаў падаць кайданы. Рукі заклалі за спіну. А калі надзелі кайданы ўсім, кавалю загадалі скаваць разам па пяць чалавек. Каваль прыкаваў ланцуг да кайданаў Круміньскага, які стаяў крайнім, і, працягнуўшы яго паміж рук у Багдановіча, Ключынскага і Бараўскога, пачаў другім канцом прыкоўваць да кайданаў Шаўрука.

— Рабі не на тандэт, мацней скоўвай,—параіў яму Шаўрук,— а то вернемся з таго свету паноў біць.

Каваль палахліва прыўзняў вочы і ў адказ закашляў. Ён не пазіраў ні на скованых ім, ні на жандармаў. Калі адыйшла першая пяцёрка, ён гэтак-жа скаваў пецярых наступных, а за імі яшчэ ча-

тырох і тады пашоў з двара, нясучы у руках малаток і абцугі. Каля брамы ўжо ён быў спыніўся, каб азірнуцца, але да яго падаўся жандарм і ён таропка знік за адчыненай форткай у вуліцы.

Афіцэр падаўся да канвоя. Рады канвойных сталі раўнейшымі. Над радамі паблісваючы на сонцы, пагойдваліся штыхі. Высокі танклявы афіцэр стаяў перад застыглымі легіянерамі, а непадалёк ад яго стаялі, скучыўшыся, скаваныя смертнікі.

— Намі збіраюцца палохаць народ,—гаварыў у кругу Крумінскі.—Мы павінны быць як ніколі спакойнымі. Мы ведаем за што ідзем паміраць.

А афіцэр гаварыў легіянерам:

— Каб не падпускаць нікога блізка ў вуліцы... І каб ніякіх гутарак паміж сабой... і ніякіх выкрыкаў...

— Пець, таварышы—гаварыў у кругу Шаўрук.—Будзем пець ідучы. Боязка будзе ім, а не нам...

— Біць! калі надумаюцца пець,—загаварыў афіцэр. Без папярэджанняў.

— Нашымі песнямі мы будзем клікаць на барацьбу.

Хтосьці сказаў:

— Біць загадвае. Думае—ложай вінтоўкі можа забіць рэволюцыю.

— Біць яны майстры,—сказаў Шаўрук.

Афіцэр тымчасам сеў на каня і паехаў да турэмнай брамы. Смеротнікаў павялі радамі, а канвой стаў з бакоў з вінтоўкамі ўзятымі на руку. Калі брама адчынілася, афіцэр узняў руку і крыкнуў:

— На вуліцы—маўчаць! Хто абзавецца, застрэлю на месцы. І паехаў у браму, у якую уварваўся гоман горада. Узгадніўшы крокі пашлі за браму смертнікі, абкружаныя канвоем, прагна ўглядаючыся ў канец завулка, дзе відзён быў пярэсты натоўп людзей, і конныя жандармы. І тады ўзбіўчывы, нервовы тупат ног канвоя і смертнікаў і ў таропкае цоканне конскіх падкоў уварваўся, кінуты ў канцы завулка, прарэзлівы крык:

— Вя-ду-у-ць!..

А за гэтым крыкам, у якім адчувалася цікавасць, змешаная са страхам, у завулак рынуўся ўстрывожаны гоман натоўпа з вуліцы.

* * *

Ужо з усходам сонца да цэнтру горада пачалі збірацца людзі і хутка ўся вуліца была запалонена пярэстым натоўпам гарадскіх і вясковых людзей. У вуліцы з'явіліся патрулі. Яны зганялі людзей на тратуары, у двары і завулкі, ачышчаючы вуліцу. Натоўп рос. Людзі цісnуліся на тратуарах, іх цісnулі тыя, што стаялі ў дварах, і сыходзілі з тратуараў на брук. Патрулі крычалі, пагражалі, размахваючы вінтоўкамі і зноў зганялі людзей з бруку на тратуары, цяснілі іх да платоў, у двары. На дапамогу ім з'явіліся патрулі конныя. Яны раз'язджалі па вуліцы, уздымаючы воблакі пылу, крычалі і гразіліся бізунамі.

У натоўпе былі і Дубравец і Лена. З вечара перад гэтым было паседжанне партыйнага камітэта. Паседжанне абмеркавала і ўхваліла прапановы, зробленыя Дубраўцом. Справа ішла пра спробу арганізацыі выратавання прыгавораных да растрэлу і пра неабходнасць,

незалежна ад таго ўдасца ці не ўдасца выратаваць таварышоў, арганізаваць сілы так, каб з гораду вывесці сабраны партызанскі атрад. З самага ранку ў натоўпе былі растаўлены члены партыйнай арганізацыі. З радні смертнікаў была арганізавана дэлегацыя да палкоўніка Шэмета, якая прасіла дазволу самім пахаваць расстраляных і на сваіх рускіх, як прынята тут называць, а не на кальвінісцкіх могілках. Палкоўнік дэлегацыю прыняў, накрычаў на яе, пагражаючы быць з усімі комуністамі не менш жорсткім і ў далейшым, але, як ён сказаў, з прычыны сваёй добрасці, дазвол на пахаванне даў. Атрымаўшы такі дазвол, радня прыгатавалася да пахавання і цяпер у адным з завулкаў стаяла некалькі хурманак з новымі дамавінамі. У Дубраўца ў сувязі з гэтым былі свае меркаванні, пра якія ён сказаў партыйнаму камітэту і якія спадзяваўся ажыццявіць. Гэта было пачаткам помсты за таварышоў.

Побач з Дубраўцом і Ленай, не адыходзячы ад іх, быў і Сцёпка. У патрэбную мінуту Сцёпка пойдзе з натоўпа ў зараснік за могільнік і перадасць Шаўруку што рабіць. А цяпер ён стаіць моўчкі, блукаючы задуменным поглядам па тварах людзей, якія вакол яго, за якімі ён нічога не бачыць і чакае, што скажа Дубравец. Побач стаіць Лена. Сцёпка ведае, як цяжка ёй і не адыходзіць ад яе, ахоўвае, каб яе не штурхалі. Лена рукой трымаецца за Дубраўца, а другую час ад часу, адымаючы ад грудзей, кладзе на галаву Сцёпкі, альбо на яго плячо і тады ён усім целам уздрыгвае, а да горла пачынаюць падступаць слёзы. Слёзы ад радасці, што ён разам з Ленай і Дубраўцом, разам з людзьмі, якіх баяцца паны, якіх судзяць і растрэльваюць. І сам сабе, у думках, ён клянецца быць такім як яны, як тыя, каго будуць растрэльваць, каб і яго калі такі час будзе, трэба было весці на растрэл.

У гоман натоўпа ўварваўся палахлівы крык:

— Вя-ду-уць!

З завулка беглі да натоўпу дзеці. Натоўп калыхнуўся, падаўся бліжэй. Па натоўпу хваляй прабег трывожны гоман і за ім глыбокая, непарушная, напружаная маўклівасць. Усе цягнуліся, паглядалі за рог белай двухпавярховай будыніны. Адтуль выехаў афіцэр. Ён трымаў у руцэ аголеную шашку. Ён сядзеў высока ў сядле, пагойдваючыся за рухамі каня, ганарыста паглядаючы на людзей, што скучыліся цеснай сцяной па абодвы бакі вуліцы. За афіцэрам паказаліся першыя канваіры, а пасля і яны, смертнікі, каго ўсе чакалі ўбачыць. Худыя, заросшыя, у парванай і бруднай адзёжы, скаваныя ў рады ланцугамі, яны маўкліва, вачыма, у якіх была і радасць, і туга, і незвычайная суровасць, пазіралі насустрач людзям.

Цішыня. Чутна, як горача і ўсхвалявана дыша натоўп. Размерана стукаюць боты канваіраў. Бразгаюць, пазваньваючы, кайданы на руках смертнікаў і ланцугі, якімі яны скаваны. Цокаюць па бруку капытамі коні.

Цішыня. І ў цішыні нарадзілася песня. Яна ўскалыхнула натоўп, сарвала людзей з месца, штурханула бліжэй да вулічнага бруку.

Вихры враждебные веют над нами,
Темные силы нас злобно гнетут.
В бой роковой мы вступили с врагами..

Песня патанула ў крыках галашэння, у узрыдах. Афіцэр, павярнуўшыся ў сядле, замахаў шапкай, патрабуючы спыніць песню. А песня мацнела, зноў залунала над вуліцай, над крыкамі і галашэннем.

На бой кровавый,
Святой и правый
Марш, марш вперед,
Рабочий народ...

Конь гарцаваў пад афіцэрам і, не слухаючы яго, не жадаючы павярнуцца назад, узняўся на дыбкі і пайшоў бокам. Афіцэр схаваў шашку ў ножны, ірвануў каня ў бок і калі той, пагарцаваўшы, пашоў побач з канваіруемымі, пачаў біць іх па тварах бізуном.

Песня абарвалася. Хтосьці з натоўпа крыкнуў:

— Нашто-ж біць! І так-жа на смерць вядуць!..

Яго падтрымалі:

— Каб самога так. Бач, морда якая панская...

І за гэтым асмялеўшыя галасы:

— Не біце!..

— Не маеце права біць!..

— Не чапайце!..

Лена ўздрыганула, пахіснулася, глытнуўшы паветра, але схапілася рукамі за Дубраўца і ўтрымалася, каб не ўпасці. І адразу ўсім целам падалася наперад, да бруку, адкуль пазіралі на яе абрадаваныя вочы самага блізкага ёй чалавека. Каб не адарвацца ад іх, каб не страціць іхнага позірку, яна пашла, распіхваючы наперадзе людзей, вядучы за сабою Дубраўца. Крумíньскі бачыць яе, кіўнуў ён галавою і ідзе, не адрываючы ад яе абрадаванага погляду. Яна сабрала ўсе сілы каб усміхнуцца ў адказ яму і кіўнуць яму галавою, напружыла ўсе мускулы твару, але захлынулася паветрам, на вочы апала мутная вадзяністая заслона, галава закружылася і яго твар аддаліўся і знік. Ён ажыў потым у яго голасе, калі зноўку пачулася песня.

Афіцэр павярнуў каня, пад'ехаў да канваіруемых і зноў пачаў біць іх. Прыкаваныя друг да дружкі з рукамі за спінамі, яны не мелі магчымасці бараніцца ад udaраў, засланіць ад бізуна твары і схілялі галовы абрываючы песню. Але пелі тыя, што ішлі за імі і тады афіцэр загадаў канвойным, каб білі. Легіянеры ўзнялі вінтоўкі, замахнуліся, пачалі біць ложамі ў плечы. Зноў закрычаў і загаласіў натоўп і ўжо не стрымліваючыся, штурхаючы пярэдніх, сышоў з тратуараў на брук і пашоў за смертнікамі іхнай апошняй дарогай. А ззаду, за натоўпам, паехалі хурманкі з дамавінамі.

Дубравец ішоў у натоўпе, падтрымліваючы Лену. Побач ішоў Сцёпка. А вакол, апярэджваючы іх і друг дружку, спатыкаючыся, спяшаліся жанчыны. Лена бачыла на вачах у іх слёзы і не саромілася сваіх слёз.

— Я вытрымаю, бачыце, я іду зусім спакойнай,—казала яна. Я ўсіх іх бачыла, і Міхаля. Ён кіўнуў галавою...

— Я адказаў ім, яны бачылі нас.

Хутка звярнула вуліца ў бок могілак. Палахлівыя, падсляпаватыя хаты ўскраіны адступіліся ад шасе ўбок, за канавы, за платы

і частаколы, быццам збаяліся афіцэрскай аголенай шашкі, акрываўленага яго бізуна.

У натоўпе было душна: ад вяснавога сонца, ад разгарачанага дыхання людзей і ад густога едкага пылу. Пыл воблакамі ўздымаўся з пад ног канвою і шматтысячнага натоўпу людзей, кружыўся над людзьмі і павольна асядаў на іх.

Калі наперадзе, непадалёк ўсталі сцяной высокія, бязлістыя яшчэ, бярозы і ліпы кальвінісцкіх могілак, афіцэр спыніўся, махнуў шашкай і коннікі, якія ехалі за канвоем, спыніліся, павярнулі коняй да натоўпу і пачалі стрымліваць яго. Заднія ішлі, ушчыльняючы натоўп і, калі пярэднія сталі нерухома і прабівацца па шасе стала немагчымым, натоўп ззаду развінуўся на бакі, сышоў з шасе за канавы, займаючы ўсю прастору дарогі аж да платоў, да палісаднікаў і хутка стаў перад коннікамі шырокай жывой сцяной, маўклівай і суровай, слухаючы зноў ўзнікшую песню паведзеных на смерць. Песня то нарастала, то абрывалася, змаўкала і зноў мацнела. Па натоўпу хваляй прайшлі галасы:

— Б'юць!

— Зноў б'юць іх!

І бездапаможны жаночы крык:

— Эх, людзі вы мае, што-ж гэта такое?!.

Натоўп калыхнуўся, загаманіў і рушыў з месца, абыходзячы коннікаў па канаве, каля сялібных платоў, прымусіў іх адыйсці і зноў спыніўся ўжо каля самой агарожы могілак, калі падаспела з гораду ўзброеная рота легіянераў, якая загарадзіла далейшую дарогу штыхамі вінтовак.

* * *

Іх дванаццаць чалавек у дружыне, пасланай партыйным камітэтам на выратаванне таварышоў. Перад гэтым яны цэлую ноч былі ў хаце аднаго з сваіх таварышоў, куды сыйшліся з вечара, а досвіццем перабраліся ў зараснік да могілак і цяпер ляжаць за куп'ем, за кустамі, непадалёк друг ад дружкі. У самай сярэдзіне Шаўрук малодшы. Ён кіраўнік дружыны і адказны за выкананне загаду, які будзе перададзены ім ад Дубраўца.

Яны размясціліся непадалёк ад спарахнелай, паросшай мохам, магільнікавай агарожы. За агарожай густа драўляныя і жалезныя крыжы, каменныя пліты і мрамарныя і каменныя помнікі, а над усім высокія бярозы, ліпы, елкі. Па верхавінах дрэў ходзіць лёгкі вясновы вецер, як вартавы. Ён прыносіць першыя весткі з гораду, гукі далёкай і знаёмай песні іхных таварышоў. Перад гэтым да могілак пад'ехалі коннікі легіянеры, каб адагнаць людзей, што прышлі да могілак ранкам з гарадской блізкай ускраіны і бліжэйшых вёсак. Легіянеры раз'язджалі па шасе, пакрыквалі на людзей, лаяліся, потым ад'ехалі ў канец могілак. Да могілак набліжаўся афіцэр, за якім канвой вёў прыгаворанных да растрэлу.

— Вядуць ужо,—кажа Шаўрук. Давайце пададзімся яшчэ крышку бліжэй да могілак, на ўсякі выпадак.

Яны паўзуць, падмінаючы маладую мураву, трымаючы ў руках маўзеры, пакуль Шаўрук рукой дае знак спыніцца.

— Цяпер, каб ніводнага гуку,—кажа ён ціхім голасам. Некалькі мінут маўчыць, пазіраючы як ідуць да могілак таварышы, абкружаныя канвоем. Канвой з бакоў у два рады і за канвоем не відаць таварышоў. Над могілкамі, па верхавінах дрэў ходзіць вецер, разносячы песню і гоман натоўпу.

— Бывайце, таварышы!—нясуцца галасы смертнікаў да натоўпу.

— Не даруйце нашай смерці!

— Хай жыве комунізм!

Над галасамі смертнікаў віецца піскл явы крык афіцэра:

— Маўчаць! Перастраляю!.. На месцы!..

І Шаўрук бачыць, як ён размахвае ў паветры шашкай, б'е ёю. Калі пазней з'яўляюцца яшчэ легіянеры і вінтоўкамі загараджваюць дарогу натоўпу, ён як бы да самога сябе паціху кажа:

— Іх дужа багата, вельмі багата...

* * *

Горад, галасы людзей, што плылі гоманам следам за імі, крыкі і галашэнне і таварышы, якіх яны змецілі сярод людзей, усё засталася ззаду. Яны крыкнулі таварышам і ўсім, хто пашоў за імі, свае апошнія словы развітання і цяпер ідуць моўчкі да шырокай, нахіленай на бок, брамы могілак. Крумінські часта хадзіў сюды раней. Могілкі сустракаюць яго як добрага знаёмага. Вось злева, непадалёк ад брамы, старая векавая ліпа. Яна засохла. Верх яе зламаны пяруном. Камель абадраны. Пад ліпай, над таўстымі, з добрае дрэва, яе галінамі, белая цагляная будка з крыжам наверсе. У сярэдзіне будкі, за кратамі над дзвярыма, крыж з распятым чыгунным хрыстом, у якога адламана адна рука. Угары на будцы надпіс: «ад помору, вады, агня і вайны пазбаві нас». І дата: «год 1848».— Гэта было дужа даўно,—думае Крумінські і ўвага рассейваецца. З-за брамы талакой выступаюць магільныя насыпы і крыжы, шэрыя каменныя пліты і чорныя мрамарныя помнікі. На плітах і на помніках надпісы. Некаторыя зараслі мохам, а некаторыя ўсё яшчэ блішчаць пазалотай. Крыжы, помнікі і пліты тоўпяцца паміж бяроз і ліп. Паўз дарогу больш за ўсё помнікаў і пліт і жалезных крыжоў, а драўляныя адсунуты ў бок, да агарожы, за якой зараснік. Багацейшым і на могілках больш пашаны.

За могілкамі, акурат куды іх вядуць, сонца. Яно ідзе да небасхілу і па зямлі сцелюцца доўгія цені помнікаў і дрэў. Цені плямамі на зямлі. Густыя цені ёлак і тканінай цені ад безлістага яшчэ галля бяроз. Крумінські пазірае на сонца, яно не так цяпер слепіць, як на турэмным двары і думае пра сябе. На гэтых могілках кавалак яго дзяцінства, там дзе сястра. Пра сваё дзяцінства ён часта расказваў Лене, яна любіла распытваць. Лену ён сёння бачыў і Дубраўца і другіх. Яны прышлі развітацца з ім. Нават не выказанае ўголас гэтае слова гучыць недарэчна. Каб толькі гэта не пашкодзіла ёй,— думае ён і міжвольна ўсміхаецца. Лена заўжды гаварыла, што ў іх будзе сын. Крумінські прыпамінае дзяцей, якіх бачыў. Малыя, яны дужа смешныя, ходзяць як качкі, а то нейк бокам, адным плячом наперад. І гэтыя абавязкова спяшаюцца ідучы, бегаюць.

Сонцава святло праз галле дрэў, як праз сіта прасейваецца і рабіць у вачах. Крумінькі адрывае погляд ад сонца, кідае погляд на таварышоў і спыняе яго на надмагільных надпісах. Чорная, з сінім адценнем, пліта: «Адам Даманскі. Нарадзіўся 24 кастрычніка 1821 году, памёр 21 красавіка 1901 году». За ёй высокі помнік з надпісам: «каханаму мужу і бацьку ад жонкі і дачок. Амельяну Гаронка. Нарадзіўся 17 жніўня 1829 году, памёр 9 ліпеня 1908 году».—І гэты жыў восемдзесят год,—кажа пацiху Круміньскі і ўсе павяртаюць да яго галовы.

— Пра што ты?—пытае Шаўрук.

Круміньскі ківае ў бок помніка галавою:

— Пабагату жылі людзі, па восемдзесят год усё.

Шаўрук нічога не адказаў, зірнуў толькі неяк здзіўлена на Круміньскага і адвярнуўся. У яго вачах Круміньскі разглядзеў за здзіўленнем і палахлівасць.

— Не трэба было пра гэта,—думае Круміньскі,—асабліва цяпер і слухае як стукаціць капытамі конь афіцэра па аголеных каранёх дрэў на дарозе. З бакоў пад нагамі канваіраў шамаціць сухое леташняе лісця дрэў.—Вядома не трэба было,—і Круміньскі, кідае ўкрадлівы погляд на Шаўрука. Твар у Шаўрука, як і ў іншых, збіты. На твары закарэўшыя палоскі крыві. Шаўрук угадвае ягоны погляд, павяртаецца і ківае галавой на помнік злева. У помнік устаўлены невялічкі здымак не старога яшчэ, чыста паголенага вусатага мужчыны. Вусы канцамі закручаны ўгору... «Чалавек. Памаліся за мяне. Прыдзе час, памоляцца і за цябе»,—чытае ўголас Шаўрук надпіс, зроблены на помніку пад здымкам і кажа:—Вясёлым, відаць, быў нябошчык,—і яшчэ раз пераказвае ўголас надпіс.

Усе ўсміхаюцца, усміхаюцца і асобныя з канваіраў, але палахліва адварачваюцца ад іх. Канваіраў палохаюць ускудлычаныя, укрытыя пылам іхныя валасы. Валасы пазліпаліся над ілбамі ад крыві. Кроў, плямы крыві і на тварах, парасяканых бізуном. Канваіраў палохае іхны выгляд і тое, што яны жартуюць, ідучы на пэўную смерць. І адзін з канваіраў, вылаяўшыся, гаворыць:

— Яшчэ весяла ім. Маўчаць трэба...

— Дурань,—кажа да яго Шаўрук.—Не я-ж цябе растрэльваць буду, а ты мяне, чаго-ж ты баішся.

— А ён наперад баіцца, каб хаця і яго калі не растралялі,— кідае адзін са смертнікаў.

— Яго абавязкова растраляюць,—жартуе Шаўрук.

Легіянер лаецца і замахваецца вінтоўкай, але апускае яе не ўдарыўшы.

* * *

Шчыльным радам стаяць легіянеры. Штыхі іхных вінтовак на ўзроўні грудзей чалавека. Штыхі злёгку пагойдваюцца. На штыхах паблісквае сонца. Людзі стаяць супроць штыхоў маўклівыя і насцярожаныя. Час ад часу пярэднія павяртаюць галовы і просяць задніх не націскаць. Маўклівасць парушаецца ціхім працяглым галошаннем, падобным на песню, якім жанчына расказвае пра дзяцінства свайго сына, паведзенага на расстрэл. Жанчына стаіць закрыўшы твар рукамі. Галосячы яна хістаецца ў бакі. Побач з ёй плачуць іншыя.

Слёзы і на вачах у Лены, хоць яна стаіць нерухомая і маўклівая. Час ад часу прарываюцца як стогны, поўныя роспачы ўзрыды. Страціўшы сілы ў галошанні, бацькі і мацеркі пачынаюць думаць, што вось-вось іхных дзяцей заб'юць. Тады прарываюцца ўзрыды. Ім усё яшчэ ніяк не верыцца, што дзеці іх будуць мёртвымі, забітымі.

— А-а-ай!—нясецца над натоўпам. Людзечкі мае!.. Ратуйце!..

Лена ўздрыгвае і абодвума рукамі хапаецца за Дубраўца. Дубравец гладзіць яе рукі, акідваючы поглядам рады легіянераў, што загарадзілі дарогу на могілкі, пазірае на рулі вінтовак, нацяглых у грудзі людзям і як бы ў чым праконвае сябе, гаворачы паціху: «дужа багата іх». Пасля яшчэ раз акідвае поглядам рады легіянераў, нахіляецца і нешта зусім ціха шэпча на вуха Сцёпку. Аж два разы так. Сцёпка ківае галавой, што ўсё зразумеў, кідае погляд на Лену і непрыметна адыходзіць ад іх, знікаючы ў натоўпе.

* * *

Іх спынілі ў самым канцы могілак і паставілі блізка шырокай і доўгай ямы, нядаўна выкапанай. Частка легіянераў стала на абодвы бакі ад ямы, а рэшта, двумя радамі, па камандзе афіцэра, стала супроць іх на адлегласці пятнаццаці крокаў. Яны стаялі на мяккім свежым пяску і кожны адчуваў за плячыма халоднае дыханне глыбока разрытай зямлі.

Угары над імі верхавіны дрэў. Там галасы птушак, крыкі гракоў. Гракі табунамі ўздымаюцца над верхавінамі бяроз і з крыкам кружацца над імі. Яны нагадваюць варон і Круміньскі прыпамінае старую рускую салдацкую песню, якую некалі спявалі ў вёсцы. «Понапрасну, воран, в'ешься над моею головой. Ты добычи не дождешься, я солдат еще живой».

Непадалёк ад магілак хата і двор, агароджаны частаколам. Каля хаты кусты чаромхі. Чаромха зялёная ўжо і хутка будзе цвісці. Лена вельмі любіць чаромху, пах яе кветак. Чаромха будзе цвісці і пад яе акном, а яна будзе цэлымі вечарамі прастойваць ля акна, на іхным улюбёным месцы.

За могілкамі луг і поле. З поля даходзяць спевы жаўранкаў, здаецца, яны ляцяць разам з промнямі заходзячага сонца, якое плыве блакітнай рэчкай, паміж награмаджаных гарамі, па баках яе, чорных хмар.

— Акурат як рэчка,—кажа Шаўрук, паказваючы кіўком галавы на неба. Круміньскі пазірае туды і бачыць выгінастую вузкую паску неба, падобную на рэчку. Пра рэчку думае Шаўрук, прыпамінаючы выпадак на фронце, да таго, як яго пакінулі працаваць у тыле ў белых.

Перад усходам сонца полк увайшоў у сасновы лес у раёне мястэчка Крыжамполь і чакаў задачы. Адпачывалі. Хацелася легчы на зямлю і заснуць. Сонца толькі што ўзнялося, вялікае і цёплае. Зеленела трава, густа пасярэбраная расой. Пахла смалой і праскамі. Пасля кукавала зязюля і ў думках ён загадваў, ці доўга будзе жыць яшчэ. Пасля каманда: на коней і эскадрон, з прыдачай аднаго кулямёта, рушыць у авангардзе палка па дарозе да мястэчка. Праехалі два кілометры, перабраліся цераз рэчку Чарніцу і хутка апы-

нуліся ў чыстым, укрытым узгоркамі, полі. У баку відзен быў невялічкі лясок. І раптам з ляска па эскадрону залп вінтовачнага і кулямётнага агня. Камандзір эскадрона перастроіў эскадрон на ходу для атакі і яны панесліся на лясок. Ехалі шпарка і коні з усяго разгону ўдарыліся ў замаскаваную агарожу з калючага дроту і эскадрон адхлынуў назад, пакідаючы трупы таварышоў.

Афіцэр чытаў прыгавор, а Шаўрук не слухаў яго, думаючы пра сваё. Адным з першых на агарожу наехаў старшыня эскадрону. З разгону стаў конь, мятнуўся ўбок, гатовы скакаць, а ў гэты момант проста ў яго ўдарыла гармата і знарад знёс старшыну з сядла. Пятнаццаць чалавек не далічыліся ў эскадроне, калі вярнуліся да палка, гэта акрамя параненых. Камандзір не меў ніякага права рабіць выхаду ў поле, не паслаўшы разведку, думае Шаўрук, і пэўне гісторыя скажа, хто вінаваты ў смерці пятнаццаці камандзіраў і баявога старшыні эскадрона.

Афіцэр прачытаў прыгавор палявога суда, схаваў яго ў кішэнь шыняля і загадаў зняць са смертнікаў кайданы.

— Дазваляю развітацца,—сказаў ён, калі кайданы знялі. Толькі хутчэй, не цягніце.

Гэта ўсім напомніла пра блізкую смерць. У Крумінскага ўздрыгануў твар. Ён падаўся да Шаўрука.

— Давай пацалуемся, таварыш падпаручык,—зноў словамі Дубраўца сказаў Шаўрук.—Нам васмідзесяці год не пражыць, нічога не зробіш.—Ён усміхнуўся і абняў Крумінскага.

— Мне Лены шкода,—сказаў Крумінскі.—Хутка дзіця.

— Яно будзе шчаслівей за нас.

— Дзякую.

Так яны ўсе развіталіся адзін з другім і шчыльным радам, каб адчуваць друг дружку локцямі рук, сталі непадалёк ад ямы.

— Пець,—сказаў адзін з іх,—каб там ведалі, што мы не баімся смерці.

— Інтэрнацыянал пець,—запрапанаваў Крумінскі. Ён прыпамінаў як пелі чырвонаармейцы, калі іх кідалі ў Нёман.

Пець пачалі няроўнымі, нязгодненымі галасамі і афіцэр іранічна скрывіў губы. Ён падаўся ўбок і закурыў. Але калі галасы ўзмацнелі і ўзнялі песню, у якой жыла апошняя мара людзей адыходзячых з жыцця, сагрэтая ўсёй глыбінёй іхных пачуццяў, песню, якая абудзіла на тварах легіянераў страх, афіцэр выхапіў з зубоў папяросу і закрычаў змоўкнуць.

— Завязаць вочы!—загадаў ён і легіянеры, якія стаялі з боку, кінуліся выконваць загад афіцэра.

— Мы не баімся смерці.

— Вы заб'еце нас, але застануцца жывымі нашы браты...

Афіцэр крыкнуў:

— Тое-ж будзе вашым братам і бацькам.

— Дурань,—сказаў яму Шаўрук.—У нас браты не толькі па крыві. Усіх іх не перастраляеце. Некалі яны растраляюць цябе. Яны ёсць і сярод тваіх салдат...

Афіцэр міжвольна азірнуўся на салдат, адышоў у бок яшчэ далей і, крыкнуўшы каманду, узмахнуў шашкай, рассякаючы паветра.

* * *

Ляжалі нерухома, чакаючы загаду партыйнага камітэту. Іхных таварышоў правялі па могілках, пэўне хутка пачнуць растрэльваць, а загаду ніякага і яны нервуюцца.

— Як толькі нас паведамяць, пададзімся яшчэ лявей,—кажа Шаўрук малодшы.—Ніводзін наш стрэл не павінен будзе прапасці дарма.

Яны чуюць бразгат адкінутых ад ямы рыдлёвак, каманду афіцэра. Пасля невялікай паузы афіцэр чытае прыгавор. Пра гэта яны дагадваюцца па манатоннаму голасу афіцэра, хоць слоў не чуюць. Усе дапытліва пазіраюць на Шаўрука.

— Мы-ж можам спазніцца,—кажа адзін з іх і ў ва ўсіх па целу бягуць казытлівыя мурашкі страху, што не паспеюць выратаваць таварышоў: У іх дрыжалі рукі, сціскаліся ад нецярплівасці сківіцы, а Шаўруку перашкаджаў дыхаць каўнер кашулі. Ён ірвануў рукой і расхінуў каўнер, вырваўшы гузікі.

— Што за чорт!

— Мы не паспеем...

— Можа не трэба чакаць?

— Давайце паўзці, каб не спазніцца, не ляжаць-жа тут.

— Нельга. Нам паведамяць, што рабіць,—сказаў Шаўрук.

— Калі-ж яны паведамяць?

— Зараз павінны паведаміць. Так умоўлена. Калі толькі будзе надзея на выратаванне, нам скажуць.

— Як гэта калі будзе? Калі будзем ляжаць, то вядома не будзе.

— Тут багата войска. Можа здарыцца так, што мы і іх не выратуем і самі апынімся ў іхных руках.

— За сваю скуру баімся...

— Глупства. Без карысці смерць не геройства...

У гэты час збоку ад іх трэснула нешта. Усе ўпіліся поглядамі ў кусты. Адтуль выпаўз хлапчук.

— Я Сцёпа,—задыхаючыся сказаў ён.—Страляць не трэба, а паўзці назад і ісці дзе ўсе людзі.

— Так сказаў Дубравец?

— Ага, каб не стралялі, а паўзлі назад, дзе людзі,—паўтарыў ён,

Па раду прагучэлі галасы нездаволення і ніхто не скрануўся з месца.

— Трэба паўзці,—сказаў Шаўрук прыцішаным голасам і адвярнуў ад таварышоў твар трасянуўшы галавою. Вочы наплылі слязмі і ён рукавом сцёр іх.—Хутчэй,—махнуў рукою.—А ты паўзі наперад і калі што, папярэджвай.

Сцёпка знік за кустамі і за ім папаўзлі друг за дружкай, маўклівыя, патупіўшы ў зямлю вочы, дружыннікі.

* * *

Усе ведалі, што яшчэ момант, яшчэ некалькі мінут і песня сціхне, а за могілкамі прагрымяць стрэлы і ніхто не хацеў верыць, што яны будуць і таму так нечакана для ўсіх прагрымелі два залпы

і прыкавалі ўсіх да месца. Нават легіянеры, што стаялі перад натоўпам, неяк палахліва варухнуліся і застылі прыслухоўваючыся. Стрэлы парадзілі мёртвую цішыню. Яна цягнулася доўга: некалькі секунд, мінуту. Потым пачулася некалькі стрэлаў па аднаму. Гэта вызваліла людзей ад ацапянення. Над натоўпам залуналі зноў галашэнні і ўскрыкі жанчын і каб стрымаць сябе, Лена сцяла вусны, заглушыўшы крык.

— Трэба было галасіць як пускалі іх куды не след,—сказаў афіцэр, які стаяў з легіянерамі. На яго паглядзелі з дакорам і з нянавісцю. Нехта сказаў:

— Не галасіце на радасць ім.

Лена таропка азірнулася на голас і з воч пырснулі слёзы. О, як удзячна яна была таму, хто сказаў гэтыя словы.—Так, так, не трэба плакаць на радасць ім,—паўтарыла яна пачутыя словы, звяртаючыся да акаляючых, упрашваючы іх маўчаць.

З брамы выехаў афіцэр, махнуў рукой, у якой трымаў бізун:

— Дазваляецца радні забіраць іх.—Рукой паказаў у бок, адкуль яшчэ нядаўна данесліся стрэлы і паехаў на людзей. Натоўп раздаўся на бакі, прапусціў афіцэра і легіянераў, якія ішлі за ім, а пасля рынуліся ў браму на могілкі, абыходзячы магільныя насыпы, топчучы іх.

Трупы растраляных ляжалі на траве побач з ямай, якую былі прыгатавалі для іх. Усе ляжалі тварамі ўгару, відаць было, што іх так паклалі пасля ўжо, падняўшы з месц, дзе яны падалі. Бацькі і радня растраляных кінуліся да трупаў. Жанчыны ўпалі каля іх на зямлю. І маўкліва стала на калені каля Крумінькага Лена, паклаўшы на плячо яму дрыглівыя рукі. Яна доўга стаяла так, аж пакуль пад'ехалі фурманкі з дамавінамі, пасля ўзнялася і, як прысягаючы сказала, узняўшы ўгару руку:

— Будзем памятаць іх, таварышоў нашых, братоў... За нас яны, за тых, хто век жыў без радасці, робячы на другіх, хто гора нёс на сабе і здзекі... Іхная кроў на нашых штандарах будзе, як сонца...

Яна закрыла твар рукамі, пахіснулася і апала зноў на калені.

— Ззаду легіянеры, глядзіце,—сказаў нехта з натоўпу.

Растраляных паклалі ў дамавіны. Шасцёра мужчын узялі труну Крумінькага, а за імі другія шасцёра дамавіну Шаўрука. З натоўпу выходзілі мужчыны і бралі адну за другой дамавіны, адыходзячы, каб даць месца наступным.

— Панясем на руках,—сказаў Дубравец. Ён быў сярод шасцярых, якія трымалі дамавіну Крумінькага. Давайце падымем на плечы, лягчэй будзе несці,—запрапанаваў ён і падаў знак ісці. На шасе сталі і панеслі двума радамі. За дамавінамі пашла радня, а за ёю ўсе, хто быў на могілках. Ішлі спакойна, не размаўляючы, зняўшы шапкі. Свежыя дамавіны, узнятыя над галовамі людзей, пагойдваліся ў такт іхнай хадзе. На дамавінах адлюстроўваліся водблескі чырвані, якой густа ўкрылася на захадзе неба. Людзі ішлі ў горад. Разам з дамавінамі растраляных, яны неслі ў горад трывогу. Яе адчулі там і насустрач камендант горада вывеў пауроты легіянераў, якіх паставіў па абодвы бакі дамавіны, а сам паехаў наперадзе. Перад тым як паехаць, камендант крыкнуў:

— Каб ніводнага гуку мне.

Яму ніхто нічога не сказаў. Ён чуў толькі тупат тысяч ног і ўсхліпы і прымаўленні жанчын. Яго расцвельвала галошанне маткі Шаўрука, падобнае на жалобны спеў, перапоўненае скаргай

У сырой зямлі я
насядзелася,
Жывучы, гора я
нацярпелася

Камендант завярнуў каня і закрычаў на жанчыну і маці спыніла, збаяўшыся крыку, свае скаргі.

У горадзе на тратуарах стаялі кучкамі людзі. Каля тратуараў як і ўдзень, сталі патрулі. Яны зганялі людзей з тратуараў, заганялі іх у двары і ў кватэры. Горадам ішла трывога і нарастала. Запёршыся ў кватэрах, людзі на момант адчынялі вокны, высоўвалі з акон галовы, каб зірнуць у вуліцу, і таропка хаваліся, зачыняючы іх. Гандляры спяшаліся зачыніць крамы і хаваліся ў крамах самі, каб перачакаць пакуль пройдзе вуліцай гэтая нябачная яшчэ ў горадзе дзіўная хаўтурная працэсія, абкружаная ўзброенымі легіянерамі.

Працэсія гэтак прайшла цераз увесь горад. За горадам камендант спыніў легіянераў, а сам ад'ехаў на край шасе і стаяў так, аж пакуль працэсія знікла за агарожай рускіх, як іх тут звалі, могілак. Ён стаяў так доўгі час, пра нешта мяркуючы. Наўкола гусцелі змрокі, збіраючыся ля могілак. З могілак ішло прыглушанае адлегласцю водгулле галасоў. Яны пасілялі трывогу. Палкоўнік Шэмет прасіў каменданта наглядаць за хаўтурамі. Ён правёў іх па гораду, але што ў іх там на могілках? Памеркаваўшы, ён загадаў легіянерам акружыць могілкі і сам павёў іх.

У гэты час на могілках мужчыны капалі яму для магілы. Непадалёк на магільным насыпе, уросшым дзёрнам, стаяў Дубравец. Ён гаварыў, а далей, каля самай капліцы, што сярод могілак, чалавек трыццаць пяць мужчын з гарадскіх і з чыгуначнага пасёлка ладзіліся стаць у два рады. Шаўрук малодшы і яшчэ двое зім, аднекуль з-за капліцы прынеслі вінтоўкі і раздавалі іх тым, хто станавіўся ў рады. Натоўп слухаў Дубраўца і палахліва азіраўся на мужчын, што збіраліся ля капліцы. Адзін за другім ішлі да капліцы з натоўпу мужчыны.

— Нас не мала, таварышы, мы збярэм свае сілы ў народзе. З намі пойдзе, хто не хоча цярпець панскага гвалту, здзекаў і катаванняў, хто не збаіцца аддаць жыццё сваё за комунізм...

— Легіянеры! Ідуць легіянеры!—крыкнулі з натоўпу.

Дубравец на момант прыціх, каб зірнуць у бок горада, убачыў легіянераў, якія сышлі з шасе і ланцужком рушылі да могілак і сказаў:

— Яны пабаяліся крануць нас у горадзе і цяпер ідуць каб адпомсціць за страх, які перажылі. Яны ведаюць, што кроў нашых таварышоў з'яднае нас, стане нашым штандарам. Хто застаецца тут, бывайце, таварышы, і ведайце, мы хутка вернемся. А хто ідзе з намі, хай становіцца ў нашы рады, пад штандар партызанскага атрада імя чатырнаццаці.

Дубравец паказаў рукой у бок капліцы. Над радамі людзей з вінтоўкамі, якія стаялі там, развіналася чырвонае палатно штандара.

Дубравец развітаўся з Ленай, узяўшы яе руку, а тады яшчэ раз сказаў:

— Бывайце, таварышы! Мы вернемся разам з Чырвонай арміяй.

Ён сышоў з магільнага насыпу, падаўся да таварыша, які трымаў сцяг і пашоў у глыб могілак. Калі за ім крануўся атрад, з натоўпу выступіла яшчэ некалькі чалавек і подбежкам пашлі даганяць іх. Натоўп стаяў нерухома, запамятаўшы на легіянераў, маўкліва пазіраючы ўслед атраду. Усе ведалі: за могілкамі чыгунка, а за ёю непадалёк лес. Калі атрад паспее перайсці высокі чыгуначны насып, легіянеры нічым не здолеюць пашкодзіць яму. І ўсе чакалі стаіўшы страх, не адрываючы вачэй, ад ледзь прыметнага, у змроках вечара, чыгуначнага насыпу. Ён высока ўзнімаўся над могільнікавай агарожай, прасвечваючыся паміж дрэў.

Легіянеры ішлі да могілак крадучыся, разыходзячыся шырока, каб падыйсці да могілак з трох бакоў. Яны хутка падыйшлі да самай агарожы могілак і палезлі цераз яе, ломячы яе, валячы на зямлю, на блізкія магільныя насыпы. У вароты ўехаў камендант, побач з ім увайшло ў вароты некалькі легіянераў. Легіянеры трымалі на руках вінтоўкі, гатовыя страляць і калоць. Камендант спыніўся перад натоўпам, абкружаным легіянерамі, і моўчкі аглядзеў яго.

— Н-ну?—сказаў ён, чаму-ж яшчэ не пахавалі? Мітынгуеце?..

На яго пазіралі і палахліва і здзіўлена і нехта сказаў голасам, у якім была зусім не схаваная радасць, якая і штурханула чалавека гаварыць:

— Не зловіце, яны пашлі!..

— Хто пашоў?

— А вунь! партызаны!..

Камендант і легіянеры і ўсе, хто стаяў тут убачылі, як мільганула над чыгуначным насыпам яшчэ некалькі постацей партызан і зніклі за імі. Камендант крыкнуў, выхапіў шашку і пагнаў па могілках каня, а за ім пабеглі легіянеры, ужо скучыўшыся адзін за адным.

— Прапала, не зловяць—азваўся зноў той-жа абрадаваны голас.

— І пабаяцца,—сказаў яшчэ другі нехта,—яны смелыя толькі з мёртвымі.

— Не, комуністаў яны і мёртвых баяцца.

Апошнія словы сказала жанчына і гэта і ўсё, што пачула яна, ўзрадавала Лену. Усе апошнія дні Лена хадзіла носячы ў сэрцы страх за жыццё самага блізкага ёй чалавека і яго таварышоў. Іхная смерць была цяжарам, які, здавалася, яна ніколі не здолее панесці. Калі іх растрэльвалі, з яе вуснаў вырваўся крык роспачы, жудасны крык збалелай пакутамі за іхнае жыццё душы. Гэты крык яна прыглушыла сцяўшы вусны. Гэта было пачаткам жадання схаваць гора ў самой сабе. Ведаючы, што Дубравец і таварышы ўвечары пойдуць з гораду, пачала баяцца адзіноты. Пачуццё адзіноты дало сябе ведаць з асаблівай сілай, калі выпусціла руку Дубраўца. Яно хала-

дам праняло цела і скавала яго. Што-ж яна будзе рабіць? Да каго пойдзе? Здавалася не здолее знайсці адказу на гэтыя пытанні. Але пачула галасы загаварыўшых і ўся істота яе напоўнілася радасцю. У галасах зусім не было страху перад крыклівым афіцэрам.

Лена адыйшла ад дрэва, ля якога стаяла да гэтага.—Давайце пахаваем іх,—сказала яна,—а то вернецца і пачне зноў вязацца.

Падыйшлі мужчыны. Яны бралі дамавіны на вяроўкі, асцярожна неслі іх да выкапанай ямы і ставілі адну ля другой на яе дно. Калі ўзялі апошнюю, з лесу данесліся стрэлы партызан. Гэта было першым салютам над магілай чатырнаццаці растраляных комуністаў.

Красавік 1935 – красавік 1936 гг.

*Аркадзь Куляшоў*

# ЛЮДЗІ ПРАГНУЦЬ

*Аксане прысвячаю.*

## I

Гарачыня. Народ аж
Забіўся пад вазы.
Два маляры на продаж
Прынеслі абразы.
Крычаць яны, праходзячы
Праз тлум на кірмашы:
— Ікона багародзіцы!
— Езус на крыжы...
Святочны ўзнялі верхал
Царкоўныя званы.
Праз плошчу
Едуць верхам
Вайсковыя чыны.
А што ні чын—
Вядомы
Ці рабаўнік,
Ці кат:
То ён рабіў пагромы,
То гвалціў ён дзяўчат.
У доўгай рызе поп ідзе,
Нясе кадзіла дзяк.
І едзе ўсіх паперадзе
Генерал Булак—
Бялюсенечкай хусткай
Свой уцірае твар
„Народнай“, беларускай
Рады гаспадар.
За тое,
Што ўрачыста
Мястэчкі рабаваў,
Яму партфель міністра
Далі—
Вайсковых спраў.
На хутары,
Пад грабам,

Склікае штаб Булак,
Каб вызначыць маштабы
Разгорнутых атак.
Ён марыць—
Аж да Оршы,
Па сушы, па вадзе,
Праз пушчы,—
Пераможны
Шлях банды павядзе.
Маёнтак пад мястэчкам,
Багатыя сады
І рыба ў панскіх рэчках
Усё яго тады.

2

Нажом, у лесе, вострым
Крывы адсекшы сук,
Карэц—зрабіў з бярosты
Учора парабчук.
Вазок. Ды канюшына.
Ды рыжы жарабец.
І прадае жанчына
Мёд,
І чарніц карэц.
І лесам, і—укропам
І лістам, і—карой,
Кароўім вым'ем цёплым
Прапах капот на ёй.
Цікавы позірк кіне
На іх, ці ў іхні бок—
Што больш рабіць жанчыне,
Арыне Касянок?
І квас, што быў у збане
Ёй дапамог якраз—
Узнікла на паляне
У іх знаёмства ўраз.
Пра дробязныя рэчы
Яры і явары,
Пра новыя сустрэчы
Гавораць маляры.
Пра здраду і каханне,
Пра хутарскіх кароў,
Пра доўгае рыканне
І сум чужых быкоў.
— А ў лесе за ярамі
Утульны ёсць куток...
Жартуе з малярамі
Арына Касянок.
І вось вядзе штабістаў

З карчмы Арынін муж—
Шырокая маніста,
Узор з чырвоных руж.
І кожны са штабістаў
Нясе на шаблі смерць,
І кожнаму з іх выстаў
На стол гарэлкі чверць.
На хутары, пад грабам,
Склікае штаб
Булак,
Каб уявіць маштабы,
Шляхі сваіх атак.
На іх адразу-ж скоса
Зірнулі маляры
І адышлі ад воза,
І зніклі на гары.
Ці кажучы іначай:
Ўдвох яны пайшлі
Па цёплай,
Па гарачай
І спаленай зямлі.
Іх з кірмашовай плошчы
Паклікалі лясы
На поўныя прыгоршчы
І ягад, і расы.

3

Умоўныя тры свісты
Пад кручай у бары,
Цяпер яны—
Армейцы,
А не маляры.
Кусты. Карчы ў апенках.
На свіст
Ідзе
у яр
Мікола Рагавенка—
Іхны камісар.

У гэты час на Ўсходзе
П'е конніца ваду
І коннікі ў паходзе
Мінаюць Старадуб.
Малых дзяцей у зыбках
Пакінуўшы,
Байцы
Імчаць праз Новазыбкаў,
Унечу і Клінцы.
І закіпае Іпуць,
рвуцца коні ў брод—

На дне халодным выб'юць
Яны агністы год!
У водблеску-ж падковы,
Які мы ў скарб збярэм,
Я чую стогнаў словы,
Магутны крык паэм—
Паэм недрукаваных,
Напісаных клінком
Паэтаў, катаваных
Крывавым бізуном!
Герояў невядомых
Бессмертных, бо яны
У нас саміх і ў домнах
Краіны і вясны!

Каля вады крынічнай
І ўсцяж, каля ракі,
І на тапаграфічнай
Карце—цень рукі.
І цень праб'ецца коса
У чорнае дупло,
Нібы зязюлі позняй
Шэрае крыло.
Як стане цёплай парай
І чырванню рака—
Скранецца камісара
Цвёрдая рука,
Бо кляты вораг блізка
І зачакаўся конь
І ўжо над ярам нізка
Сонечны агонь...
І скажа Рагавенка
Байцу:
— Ідзі, Адам,
Сачыць—за пяцісценкай
І іхным штабам.
Там
Адбудзецца нарада
У іх...
У час згадай
На сцяг свайго атрада
І—мужна памірай,
Калі пачнуць пытацца
Пра нас, пра нашу часць,
Прыгожыя палацы
І волю абяцаць.
І вось яна дарога
Твая, і знаеш сам,
Што больш табе нічога
Я не скажу, Адам,
Ідзі!

Таптаў атаву
Адам, і на вадзе
Спявала сонца славу
Адамавай хадзе.
Яна была патрэбнай,
Упартаю хадой,
Яна—кашуляй зрэбнай
Над яснаю вадой,
Як ветразем бадзёрым
Пранеслася...
— Цяпер
Якубе, пагаворым
Пра цвёрды твой намер
Ісці маладзіковай
Расой, на крык савы,
Туды, дзе за дубровай
Ля гаю вартавы...

Якуб

Вартуе ад напасці
Арынін хутар, дом.
І я адтуль да часці
Павінен з языком
Прысці. Прыду.

Рагавенка

Жывога
Павінен ты, Якуб,
Прывесці вартавога
Насустрач нам...

Якуб

Пад дуб.
Пад той, каля якога
Ішлі мы на кірмаш.
Там параслі мурогам
Шляхі, што ў горад наш.
І там з палонным бавім
Мы час, на паплавы
Глядзім...

Рагавенка

Цяпер уявім,
Якуб, што вартавы...

Якуб

Мае пачуе крокі.

Рагавенка

У сенцы павядзе,
Дзе пачаліся скокі
І звоняць шпоры,
Дзе
У закаханай згодзе
Шляхцянак лёгкі крок,
Пад воплескамі ходзіць
Арына Касянок.
Як змоўкне і аслепне
На досвітку сава,
У цёмным будуць склепе
Якуба...

Якуб

Катаваць.
Я ведаю. Ніколі
Маліць не стану іх,
Хоць прагнуць будзе волі
Туга вачэй маіх,
Хоць пазіраць у вочы
Мне будуць груганы,
Але, я лягу тройчы
На дно свае труны.
Калі-ж адлемантуюць
У склепе шампалы
Я ўстану і пачую
Халодны пах смалы.
І крыкну енкам слёзным,
Збалелаю душой,
Пра тэкст лістоўкі грознай,
Што ў куртцы скураной,
У рукаве, пад ватай
Зашыў.
Я не схлушу.
І вось уявяць каты,
Што кволую душу
Расчуліць можна, скажам,
Прылівам пачуцця
Любосці, і пейзажам...
І шэлестам трысця...
Яны пачнуць пытацца
Пра нас, пра нашу часць,
Прыгожыя палацы
І волю абяцаць.
Я-ж павяду, свядома,
Каб затрымаць іх штаб,
Друкарні невядомай
Шукаць пад вяз ці граб.
І будзе мне вяроўку

На згубу віць груган,
Другі—выпытваць лоўка,
А я—ні слоў, ні ран
Не чуць. І грымне кара
На іх. І на кані
Убачу камісара,
Сваіх сяброў...

### Рагавенка

Зірні!

У першабытны шорах
Бярозавых лясоў,
Узняўшы шаблі, вораг
Урэзаўся. І кроў,
Здавалася, кіпела
На шаблях.
Цуглі грыз
Табун драпежны. Пена
Крывёй ляцела з пыс
На папараць. І енкам
Азвалася зямля.
Мікола Рагавенка
Знікае, а пасля
Выводзіць на дарогу
Армейскага каня.
І чуе той трывогу
У сумных фарбах дня,
У тым, што быў у шкодзе
І канюшыну скуб,
У тым, што падыходзіць
Да іх цяпер
Якуб,—
І ў тым,
Што адчувае
Сяброўскую руку,
Упэўненую сілу,
У пошуку,
Якуб
І чуе голас родны:
— Да заўтра!
Першы крок...
І сыпануў халодны
З-пад капытоў пясок.
Скрозь ноч,
Пад золкім раннем
Ляці, жывая здань,
Гарачым хваляваннем,
Імклівым сэрцам, стань!

4

Сталы сервіраваны.
Засланы абрусы.
У зале два баяны
Прабуюць галасы.
Красуюцца дзве новых
Іконы на куце.
На блюдах фарфуровых,
У млявай пекнаце,
Ружоваю гарою
Ляжаць парасюкі...
Пад яблыкаў вагою
Згінаюцца сукі.
І паграажаюць, нібы,
Грукочучы аб шыбы
Наліваў кулакі.
Рыпяць калёсы, ганкі—
Цалюткі двор гасцей:
Вясёлыя шляхцянкі
Суседніх валасцей;
Прыехалі міністры
За трыццаць тры вярсты—
Палохалі іх свісты
І трэслі іх масты.
На легкавой машыне
Прыбыў замежны госць—
У чыстай палавіне
Пачнецца весялосць.
І выб'е з бутляў коркі,
Сваім сябрам на здзек,
Па прозвішчу Штапоркін—
Вайсковы чалавек—
Ад кожнае па чарцы
Гарэлкі адап'е,
Бо мае ў гаспадарцы
Інтэрасы свае...
Сябры скіпяць ад смагі
І пазайздросцяць:
— Кот...
І выйдзе з роўнавагі,
І шпорай грымне бот.
Налягуць баяністы
На млявыя басы,
За стол палезуць чысты
Бароды і вусы.
Ужо міністр асветы
У іх за тамаду.
І вершамі паэты
Хвалююць грамаду.

І першы верш—у гонар
Замежнага гасця,
Са шчырым пажаданнем
Шчаслівага жыцця,
У гонар генерала
Наступны верш. У ім
Ваяцкі звон метала
І перамогі гімн...
Над генеральскім станам,
Урадавым сталом
Кадзілі вершаваным
І ладанам, і тлом
Яны... У адзіноце
Ігнат Штапоркін піў.
Аб змучанай істоце
І сковыце крапіў,
Што кожны дзень на ўзгорку
Сякуцца капытом,
У кухні вёў гаворку
Ігнат з гаспадаром.
І пазяхала зяпай
Звярынай печка. Дым
Над іхняю канапай
Плыў, ці здаваўся ім.
Бразкочучы заслонкай
Знікала ў хатні змрок
Гаспадарова жонка
Арына...
— Касянок!
П'ю за вачэй прадонне
Тваіх...—І піў Ігнат,—
Хай гіне ў іх палоне
Не кволы кот, а кат.
Я—кат. І я ў палоне
Тваім,—аж млеў Ігнат.
Мы ехалі... Світала
Над логавам ваўкоў.
На зброі генерала
Яшчэ дыміла кроў.
І нас вяла дарога
Праз нерухомы лес.
Ля дрэўца маладога
Каня спыніў я,
Злез
І аб бяросту выцер
Кроў са свайго клінка.
У генеральскай світе
Ніхто за дзівака
Тады, ці за вар'ята,
Не палічыў мяне.

Усе сказалі:
— Катам
Недрэнным будзеш!—мне.
І ўслед за мной панеслі
Гарачыя клінкі,
Каб імі накрыж крэсліць
Высокія сукі.
— У нашым гусце!—басам
Пракаркаў чорны птах.
І чалавечым мясам,
Крывёю гай прапах.
Не лёгкую пасаду
Прымеў я. І цяпер
У лепшы кут не сяду,
Дзе п'е віно прэм'ер,
Такі прыемны, слаўны,
Такі чароўны!
Паж.
Як выгляд мець дзяржаўны
Хацеў бы ён,
Заўваж!
— Але-ж хацеў-бы...
— Рухі
Прыстойныя. І мне
Здаецца так, што мухі
Ён не забіў-бы?..
— Не!
— Забіў-бы маці! Дзіўны
Ты чалавек, Аніс...
Ён не такі наіўны
І не ліслівы ліс.
Перад гасцём замежным
Яму—не пі, не еж,
І хоць здаецца смешным
У ролі ён,
Але-ж—
Прыкідвайся харошым,
Спявай сініцаю—
Мець будзеш войска, грошы
І амуніцыю,
І вопратку, па модзе,
З англійскага сукна
Пашытую.
У паходзе
Спатрэбіцца яна.
За слуцкую пшаніцу
І за аршанскі лён
Каштоўную крыніцу
Набыткаў мае ён.
Для арміі-ж гарматы

Ї так набудзе ён,
За спаленыя хаты
Ї за хаўтурны звон.
Паселішчаў...
Тым часам
Ён стаў маім сябром:
Ён—словам, я—абзацам,
Я—фінкай, ён—пяром,
Мы разам—палім,
Нішчым,
Штурхаем у нябыт,
Рагочам папялішчам,
Дзе жахам край спавіт.
Даўно... у час вакацый
У садзе гарадскім,
У шэлесце акацый
Пасябраваў я з ім.
Была інтымнасць шчырай,
Бо хвалявала нас,
Усё—гусіны вырай
Ї вечаровы час.
Ї смутак сэрцы грыз нам
Адзін... Мы беглі ў цень,
Спявалі. Ананізмам
Амаль не кожны дзень
Хварэлі... Так, хварэлі,
Шаноўны гаспадар!
Вісяць, вісяць арэлі
Маіх юнацкіх мар
Над кручаю. Абразай
Лічыў бы ён, прэм'ер,
Маё жаданне разам
З ім балявацць цяпер.

5

Вылазячы з заспаных
Яроў, з глыбокіх ям,
Два сябры нечакана
Сустрэліся...
— Адам?
— Якуб?
Перапалохаў
Да смерці ты мяне...
Не чуў цябе, бо мохам
Паўзу, каб у гумне
Схавацца.
— Вартавога
Ты не заўважыў?
— Не.

— Паўзі!—А ты?—Я следам.
— К гумну паўзці?—Але.
І сонным, цёплым летам
У ценях і ў святле
Паўзлі маладзіковым,
Паўз ціхі сад паўзлі,
Сагрэтыя суровым
Святлом сваёй зямлі.
Падхоплены адзіным
Дыханнем іхных мэт,
У важкі сказ быліны
Сяброўства клаўся след.

Якуб

Ціпэй, ты чуеш крокі?

Адам

Так, гэта вартавы.
Ён там, дзе гай высокі,
Дзе змогся крык савы,
Амаль на ўзлессі...

Якуб

Бачу,
Іду,—туды, дзе ён,
Туды, каб мець удачу
Сабе, яму-ж...

Адам

Палон?

Якуб

Але. Сваё-ж заданне
Ты выканай, Адам.
Табе на развітанне
Хачу сказаць, што нам—
У розныя дарогі,
Што мне, калі зграшу
неўдачай, дапамогі
Не трэба. Не прашу.

Адам

Чакай.

Якуб

Да заўтра!

Хмары-ж
Звісалі над зямлёй,
Куды знікаў таварыш
У куртцы скураной.

6

Штапоркін

Я ведаю іх справы
Дзяржаўныя—яны
Партфеляў прагнуць, славы,
Каб мець пасля вайны,
У сталым абавязку,
Трон на чужым гарбе...
Аддзякуе-ж за ласку
Чым, думаеш, табе
Пан генерал?

Аніс

Фальваркам.

Штапоркін

Наіўны чалавек...

Аніс

Маёнткам?!

Штапоркін

Бітым каркам.
І дажывацьмеш век
Тут у балоце, ў садзе...

Аніс

Жартуеце!

Штапоркін

Чаму-ж
К сабе за стол не садзяць
Цябе, хоць ты і муж
Прыгожай бабы?

Аніс

Дзіва
Вялікае!

Штапоркін

Чаму?

Аніс

Мне п'янаму ўласціва
Талеркі біць.

Штапоркін

Таму?
Ха-ха! Цудоўны хлопец,
Ці думаў ты аб тым,
Што ўсіх збяры—не хопіць
Тады харомаў ім
Самім, дзівак!

Аніс

Не веру!
Ажно збялеў Аніс,
Затросся і сякерай,
Рашучасці,
Павіс
Над галавою ката,
— Не веру!—
Паплыла
У дзікім танцы хата,
Талеркі са стала
Пасыпаліся...
Варта
На ганак узышла.
І поступ свой выпростаць
Апошняю луной.
Ішла пад вартай постаць
У куртцы скураной.
Калі яны ступілі
На стомлены парог,
Адлегласці трубілі
У пеўнікавы рог.
Пастух склікаў каровы
На ўранкі гнаць туды,
Дзе п'юць расу дубровы
І босыя сляды.
— Затрыманы!—
Агністы
Адлюстраваўся штых
У люстры, і міністры
Дранцвеюць:
— Большэвік!
І зябкай трасцы шротам
Іх падсякае млосць;
Знікае чорным ходам
У сад замежны госць.
Там цемра. Шофер марыць...
І кліча госць:
— Аллё!
І асвятляюць фары
Блакітнае галлё.

— Штапоркін!—басам гучным
Пракаркаў генерал.
— Ігнат!—і здаўся штучным
Такі яго запал.

7

Ужо ні сон, ні цемень
Не спавіе зары
І крэсіва аб крэмень
Не высячэ іскры.
Чуваць, як за шалёўкай
Цярушыць сена вол
Рагамі.
І рыдлеўкай
Сабе капае дол
За гаспадарскай стайняй
Пад яблыняй Якуб,
У жальбе аднастайнай
Світальнага ку-ку...
Нібы з віроў пустэчы
Ўсплываюць міражы,—
У іх працяг сустрэчы
Нядаўняй... І нажы,
Ці вострыя,
Аб плечы
Прабуе кат:
— Кажы!
— Ага!—ён тупнуў ботам,
— Маўчыш?
— Няма... дурных.
І забыццё...
А потым
Далёкі скрогат крыг
І холад... Кат Штапоркін
Катуе і кляне
Якуба.
— Зоркі, зоркі
Мы на тваёй спіне
Нажом вырэзваць будзем,
Як павядзем у склеп,—
Каб не хапіла грудзям
Паветра, каб аслеп,
Каб лёг канаць пад грушу,
А ўсё прасіў-бы піць—
Вось так, вось так прымушу
Цябе я гаварыць.
Але сабе спачатку,
З гаспадаром маім,
Капаць ты пойдзеш хатку—

Магілу, перад тым,
Як з намі ў мураваны
Патрапіць склеп!..

Ізноў

У лесе спеў шляхцянак—
Ужо яны дамоў
Раз'ехаліся рана,
Чуваць іх песні скрозь.
Анісу загадана
Вінтоўку браць...
І вось...—
— Спрытней!
От бо заўзяты
Ўрадзіўся абібок!
Рагоча прыганяты—
Шчарбаты Касянок.
Такі ў яго ў рабоце
Узрушаны настрой,
Як быццам на вылёце
Пільнуе ў вішнях рой,
Нібы пад пер'ем хмарак,
У зараве раслін
Ён бачыць свой фальварак
У сотні дзесяцін.
На камень сеў, прыкладам
Выводзіць на траве
Сваё імя.
Над садам,
Над ім зара плыве.
Якуб зірнуў на хмарку
Ружовую ўгары,
Скруціў сабе цыгарку
І моўчкі закурыў.
Ён знаў, што неўзабаве
Да Касянка прыдзе
Па неадкладнай справе,
Уладаром падзей,
Ігнат Штапоркін. Бразне
Аб шпору шпорай—
Дзінь...
Акіне вокам вязня
І дасць загад:
— Вядзі!
І вельмі ўсхваляваны,
Шчаслівы Касянок
У недамураваны
Іх павядзе скляпок.
Што-ж? Цесную дамоўку
Капаючы, маўчы
І думай пра лістоўку

Што ў куртцы...
— Не сячы
Карэнняў!—
Выбух злосці...
І ў меру цярплівосці
Аніс Якубу так
Даводзіць:
— Глянь, дзівак!
Як хараша, як густа
Яны ўраслі ў твой кут,—
Ні горача,
Ні пуста
Табе не будзе тут.
Ляжацьмеш, як на Духа
Паніч у гамаку—
І шэптам лашчыць вуха
Анісу Касянку...
„А што, калі палашчу
Лапатай?". І Якуб
У вочы глянуў:
— Яшчур...
— Але-ж не труп, не труп,
Але-ж...
„А што, як рэзну
Па чэрапе?"
— Але-ж,
Ты не гукацьмеш весну
З дзяўчатамі! Памрэш
І ляжаш тут. І гэта
Мне прынясе карысць.
І я ўяўляю лета
У жніўні—
Як гарыць
Яно ўрачыстым часам
І яблыкі пад ім
Па два зрасліся разам
Тут у садку маім...
І падаў яблык круглы
У зарава зары,
Зайскрыліся тры вуглі—
Тры зерні на жвіры.
І сок гарэў аскомай—
Эмалевай луской
І неабавязковай,
Якубавай тугой.
Але яна упартай
Рабілася ў цішы,—
Па чэрапе лапатай
Ударыць, уцячы...
Адгэтуль бегчы, бегчы

Да вольнага жыцця,
Пад першым дубам легчы
І плакаць, як дзіця.
Чуць дзятлавы удары
І як крычаць драчы,
Як перун б‘е...
Ударыць...
З маланкай.
Уцячы...
Птушыных сцежак колькі,
Неходжаных дарог
Відаць было, а толькі
Ён уцякаць не мог.
Хай тры жыцці сустрэў бы
Ўзамену аднаго,
Але такой патрэбы
За мала для яго.
Якую людзям радасць
Назад я прынясу?
Мо‘ арахоў атраду
Пастанне натрасу?
А бацька твой этапам
На катаргу ішоў—
І быў заўсёды вартым
Сваіх таварышоў...
На барыкадах Прэсні
Апошнім паміраў—
Яго прокляў намеснік
Нябёснага цара...
Адзін на волі-б спаў ты
У дубняку, Якуб,
І штаб не затрымаў ты,
І сам сабе не люб!

(*Працяг будзе*)

*В. Брэдэль*

# Сцяг

Ідзе дробны дождж, капае на расніцы, ліпне да твару і вопраткі. Холадна, ад сырасці, якая пранізвае скуру, баляць косці. Арнольд падняў каўнер паліто і глыбока засунуў рукі ў кішэні; яго твар зусім мокры. Ён ідзе з цэнтра горада і ўжо здалёк можа назіраць за Папенштрасэ.

Ён бачыць, што на вуліцы няма нікога. Карла таксама няма.

Праходзячы міма ліхтара, Арнольд кідае позірк на гадзіннік. Да ўмоўленага часу засталася адна хвіліна. Ён ужо праходзіў тут апоўначы і нічога падазронага не заўважыў. Але дзе-ж Карл? Не можа быць каб ён падвёў—гэта зусім выключаецца. Няўжо яго злавілі? Магчыма ўсяго некалькі хвілін назад? Ні ў якім выпадку не прыцягваць да сябе ўвагу. Не спыняцца, ісці далей. Што сказаць, калі мяне запытаюць, куды я іду? Што наогул можна сказаць? Што будзе гучэць больш падобна да праўды? Ужо за поўнач. Гм! Я згубіў ключ і хачу пераначаваць у сябра. У якога сябра? Гуго Кольц жыве на Рынгвег. Рынгвег, 21. Не дрэнна... Значыць неадкладна павярнуць на Папенштрасэ.

Арнольд падыходзіць да заводскай сцяны. Карла нідзе не відно. Ён крыху прыцішвае хаду.

— Пст! Хало! Арнольд!

Гэта ўсяго толькі шэпт, але насцярожаны Арнольд адразу-ж чуе. Карл стаіць ля ўваходу. Калі Арнольд падыходзіць і падае яму руку, ён шырока ўсміхаецца.

— Усё ў парадку?

— Вядома!

— Усё пры табе?

— Увага!—чуецца замест адказу. Карл напружана глядзіць у маленькае, слаба асветленае акенца прахадное будкі.—Чуеш?

Арнольд чуе слабы звон.

— Палова,—шэпча Карл.—Зараз ён робіць абход. Праз дванаццаць, самае большае пятнаццаць хвілін ён вернецца. Ну і шанцуе-ж нам, ён забраў свайго сабаку. Толькі яго я і баяўся. Цяпер усё ў парадку.

— Пагода не вельмі перашкаджае? Гэты ледзяны дождж і наогул? Шэф сказаў, што калі нам пакажацца занадта рызыкоўным, на гэты раз можна спакойна адкласці.

Карл павольна паварачвае галаву і глядзіць на Арнольда, здзіўлены:

— Ад-кла-сці? Значыць—усё было дарэмна?

— Глупства! Ён сказаў толькі, што калі пры дрэннай пагодзе гэта пакажацца табе занадта рызыкоўным, ты павінен асцерагацца.

Карл уздыхнуў з палёгкаю.—А я ўжо падумаў, што ўсё лопнула. Справа-ж ідзе як па маслу.

Яны стаяць толькі некалькі хвілін, глядзяць у акенца праходнай будкі і ўслухоўваюцца ў цемень, але гэтыя хвіліны, здаецца, ніколі не скончацца. Проста перад імі вісіць доўгая чорная труба. Абодва глядзяць на яе; Арнольд з нерухомым і жорсткім тварам, Карл з лёгкай усмешкай: «Я ўзбяруся па табе, як кошка і заўтра на цябе будуць глядзець тысячы людзей».

Яны чуюць крокі. Вартаўнік ідзе назад. Да іх даносіцца яго голас. З кім ён размаўляе? З сабакамі. Вядома, з ім-жа яго сабакі. Вось ён уваходзіць у будку, корпаецца каля печкі, садзіцца.

— Пашлі!—Карл падымае высокае вядро, якое стаіць за ім. Арнольд ідзе за ім. Кожны крок, кожны рух абдуманы і ўзважаны, усе пытанні лішнія, абодвы ў дакладнасці ведаюць сваю задачу.

Ён не павінен быў браць з сабою вядро. Як ён падніме яго ўгору? Арнольду хочацца адгаварыць, але ў апошні момант гэта не варта.

На Карле яго зялёная куртка, туга сцягнутая поясам. З боку нешта целяпаецца. Арнольд пільна ўглядаецца: гэта падвойны крук, звычайны крук мясніка. Сцяг у яго, напэўна, пад курткаю.

Яны пераходзяць вуліцу і падаюцца да таго месца, дзе да фабрычнай сцяны прылягае матэрыяльны склад; Арнольд аглядаецца, нікога не відаць, вокны ў дамах цёмныя. Карл не глядзіць ні на права, ні на лева, ён падыходзіць да пэўнага месца сцяны, ставіць на зямлю вядро і кажа:—«Цяпер дапамажы мне».

Яны рыхтаваліся да гэтага шмат дзён і нарэшце ўсё ішло выключна добра, чаму-ж можа быць няўдача ў гэты апошні момант? І ўсё-ткі ў Арнольда дрыжаць калені. Ён наогул моцна ўсхваляваны і ведае гэта (і гэта яшчэ больш узмацняе яго хваляванне). Карл зусім спакойны; яго рухі цвёрдыя і пэўныя. Ён стаіць на плячах Арнольда, чакае, потым сярдзіта шэпча: «Давай-жа, давай!»

Адно мгненне Арнольд думае—не даваць яму вядра і параіць: ідзі так! І ўсё-такі ён падымае вядро, трымаючыся леваю рукою за сцяну. Яно здаецца яшчэ цяжэйшае, чым меркаваў Арнольд: Госпадзі, ён жа не ўзбярэцца з ім на трубу! Вядро пацягне яго ў бездань. Гэта сапраўднае самагубства.

— Яно занадта цяжкае, Карл, пакінь яго тут.

— Ты з глузду з'ехаў?—чуецца над ім.—Давай сюды!

Арнольд падае вядро. Для гэтага яму трэба напружыць усе свае сілы. Нагнуўшыся за вядром, Карл амаль перакульвае Арнольда; плечы Арнольда так баляць, што ён ледзь стрымліваецца каб не застагнаць.

Вядро знікае за сцяною. Зараз-жа падцягваецца і Карл. Арнольд ва ўладзе адзінай думкі: толькі-б усё добра скончылася! Калі Карл знік за сцяною, ён, не гледзячы на ўмову, застаецца стаяць на месцы, потым некалькі аглушаны, з дзіўным адчуваннем страху, пераходзіць на другі бок вуліцы, заходзіць у пад'езд і бачыць, як

Карл—маленькая цёмная маса—паўзе па даху склада. Ён задумліва праводзіць тыльным бокам рукі па ілбу і палохаецца: на ілбу выступілі буйныя кроплі поту.

На працягу многіх дзён вывучаў Карл дарогу цераз сцяну і дах да дымавое трубы; кожны крок ён прарабляў у думках сотні разоў. Ён ведае і тое што на сярэдзіне трубы не хапае адной жалезнай прыступкі. Вельмі магчыма, што іншыя могуць быць паламанымі. Гэтая труба старая і даўно ўжо не скарыстоўваецца.

Але не толькі днём, нават ноччу была запоўнена яго галава думкамі аб тым, як ён узбярэцца на трубу. Неяк раз ён стаяў высока на версе і размахваў... Усё ўжо было зроблена. Горад унізе спаў. Як з глыбачэзных нетраў зямлі, пылалі агні мартэнаўскіх печаў. І раптам ён стаў падаць, падаў усё хутчэй і ўсё кіжэй, ён адчуваў паветра як кампактную масу, ён раскрываў рот, крычаў, задыхаўся... і прачнуўся. Гэта было агіднае адчуванне. Ён ляжаў у пасцелі і галава яго кружылася нібы ён сапраўды падаў. Добра, што ён не верыць у забабоны.

Цяпер, узабраўшыся на першую прыступку, ён убачыў над сабою жахліва высокі, зусім як выпрастаны палец—трубу, ён успомніў гэты сон.

Лезці было не цяжка. Уся справа ў нервах. Толькі не разгубіцца, захаваць спакой і не спяшацца. Прыступка за прыступкай падымаецца ён угору. Праўда, вядро, якое вісіць на кручку, вельмі цяжкое і можа пацягнуць яго ў бяздонне, але скора ён ад яго пазбавіцца. Без вядра гэты пад'ём быў-бы прыемным.

Карл надзвычайна сцеражкі. Раней чым ухапіцца за новую прыступку, ён спрабуе ці моцная яна і ніколі не хапаецца адразу абедзьвума рукамі. Міжвольна думае ён пра Арнольда. Ну і смешны быў ён сёння! Усхвалёваны і разгублены! А звычайна-ж ён такі спакойны. Цяпер ён стаіць унізе і, магчыма, дрыжыць. Карл усміхаецца.

Калі-ж будзе нарэшце правал, дзе не хапае аднае прыступкі? Ён на мгненне спыняецца і глядзіць угору на трубу, але не можа разгледзець правала. Раптам Карл глядзіць уніз і міжвольна рукі яго мацней націскаюць на прыступку. Ого, ён дасяг ужо значнай вышыні, значна вышэй дамоў; вуліцы сталі зусім вузенькімі, Хернерштрасе здаецца праведзенаю пад лінейку.

Калі-б я зараз выпусціў... Глупства! Далей! Гэтае праклятае вядро, вось дык вага! Наперад, наперад!

Карл зноў падымаецца. Як тонкія змейкі паўзуць у яго галаву дурныя думкі: калі-б я зараз выпусціў, проста выпусціў... усё скончана. Усё ў мінулым. Гм! Толькі выпусціць.—Ён стараецца адагнаць гэтыя думкі і не можа, яны астаюцца і свідруюць, перапоўзваюць з галавы ў рукі і ногі, плешчуцца у крыві, ахопліваюць ледзяным жахам. Яму здаецца, што апора пад яго нагамі знікае.

Нібы ўцякаючы ад гэтых думак, Карл падымаецца хутчэй, таропка хапае прыступку за прыступкай, як быццам наверсе яму не будзе небяспекі. Ці не лепш павесіць вядро тут? Ці досыць гэта высока? Без вядра было-б значна прасцей. У яго такое адчуванне, быццам доўгая рука цягне яго ўніз. Раптам яго рука ідзе ў пустэчу.

Карла ахапляе моцны страх, які зараз-жа пераходзіць у пачуццё палёгкі. Ён амаль дасягае мэты.

Ён вымае з-за пояса крук з вядром і вешае яго на прыступку. Ён дазваляе сабе кароткі адпачынак, больш зручна прымайстроўваючыся.

Колькі я ўжо часу лезу? Тры, магчыма, чатыры хвіліны. Не больш? Яму здаецца, што прайшло некалькі гадзін.

Тут вецер мацнейшы! А ён жа дабраўся толькі да паловы. Ці бачыць яго Арнольд? Наўрад. Добра што дождж перастаў. Але жалеза ўсё-такі мокрае і страшна слізкае. Змажа ён яго пасля. Праўда, гэта яму яшчэ давядзецца зрабіць. Калі яго цяпер хто-небудзь убачыць, які-небудзь нацы, ён падыме дзікае выццё і ў адну секунду яны збяруцца ўнізе, як зграя крыважэрных ваўкоў. Тады,— ну, тады ўжо лепш кінуцца ўніз.

Кінуцца ўніз. Вось яно—зноў. Гэта было-б зусім не так цяжка. Толькі на адно мгненне выпусціць, толькі на адно нікчэмнае мгненне...

Карл голасна гаворыць: «Мае нервы моцныя, як карабельны трос. Яны вытрымаюць. І што такое наогул уся гэтая пагулянка? Я не першы раблю такія рэчы». У тое-ж мгненне ён успамінае свой сон. Ха-ха, добра што ён не верыць у забабоны.

Карл перамагае правал і падымаецца далей. Спачатку яму лёгка, больш нічога не цягне яго ў бездань. Ён стараецца не глядзець уніз, але не можа ўтрымацца: яму хочацца ведаць як высока ён узлез. Госпадзі, ці будзе гэтаму калі-небудзь канец? Ён глядзіць уверх і яму здаецца, што труба вырасла, стала даўжэйшай, вышэйшай. Нічога не зробіш, далей.

Карл падымаецца і падымаецца.

Вакол свішча вецер. Гэта злосны вецер і ён так сцябае Карла, быццам цэліцца іменна ў яго.

Раптам Карл спалохана заміраe—труба хістаецца. Вядома, труба хістаецца ўзад і ўперад. Ён адчувае гэта зусім выразна. Жахлівае адчуванне. Ці заўсёды яна хістаецца?

У Карла вялікае жаданне вярнуцца. Вярнуцца? Назад? Нічога не зрабіўшы? А Арнольд? Таварышы? Адозва? Няўжо-ж я палахлівы? Няўжо-ж я занадта многа ўзяў на сябе?

Усёроўна, далей! Не глядзець ні ўверх, ні ўніз, толькі падымацца. І Карл ўпарта глядзіць на каменную кладку перад сабою і лезе, лезе.

... *Все выше, и выше, и вы-ы-ше...* Спачатку ён гэта думае, потым мармыча. Нарэшце ён спявае спачатку ціха, потым усё мацней... *Стремим мы полет наших птиц.*

Песня яго супакойвае. Яно так палягчае пад'ём... *Все выше, и выше и вы-ы-ше...*

Карл не адчувае больш халоднага ветру, не прымячае хістання трубы. Яму не трэба больш праганяць страшныя думкі, ён спявае і падымаецца, і падымаецца.

Яго рука зноў трапляе ў пустэчу, але на гэты раз не правал, а канец. Асцярожна абмацвае ён верхнія цагліны. Кладка мацнейшая, чым ён думаў. Толькі не разгубіцца, толькі не сарвацца ў гэты

апошні момант. Ён падцягваецца, абхватвае цагліны, садзіцца верхам на трубу.

— Ну, дабраўся! Спускацца будзе лягчэй, цяпер-жа мы ведаем дарогу. Але стаяць тут на краю і махаць як... Канец дурным думкам, выканаць заданне і назад.

Наверсе Карл адчувае сябе надзвычай упэўнена, ён выключна настроены. Ён жа дабраўся і сцяг будзе лунаць! Асцярожна разматвае ён закручаную вакол цела чырвоную матэрыю і зараз-жа пачынае прымацоўваць яе да громаадвода. Ніжні край ён завязвае вузлом, для верхняга ў яго ёсць моцная скаба. Яна ўтрымае матэрыю на гладкім жалезным пруце.

Карл лічыць, што ў яго можа быць галавакружэнне, і гэта вядома правільна. Але які д'ябальскі чмут, што пранізвае ўсё цела хвалямі дрыжыкаў, зноў і зноў варочаецца для яго з спакусай кінуцца ўніз. З цяжкасцю адводзячы позірк ад бяздоння, усю ўвагу сканцэнтраваўшы на прымацаванне сцяга, працаваў ён там, на версе, на адзінокай вяршыне.

Цяпер хутка назад, чырвоны сцяг, вядома, ужо відзён ва ўсім горадзе. Змазка пойдзе хутчэй. Ці бачыць яго Арнольд і ці усё яшчэ дрыжыць? Яшчэ адзін позірк на плоскія дахі складаў і цэхаў, на печы, кучы вугалля і падвесныя ваганеткі, на горад, з яго нібы прыклееным адзін да аднаго дамамі,—і Карл перагінаецца цераз край трубы, аддае сцяг ветру і спускаецца ўніз.

Спускацца значна лягчэй. Яму зноў хочацца спяваць, але на гэты раз не ад страху, а ад радасці, ад захаплення. Самае цяжкае зроблена, заданне выканана. Ён ужо каля правала, дзе вісіць вядро. Карл зрывае насавую хустачку, якую прывязаў на краю правала, і хавае яе. Леваю рукою ён трымаецца, правую апускае ў вадкае мыла і змазвае прыступкі. Зразу па дзве. Няхай той хто захоча падняцца і сарваць сцяг, зломіць сабе шыю. Карл працуе старанна. З прыступак сцякае мыла. Вядро пусцее і становіцца лягчэйшым. Не гледзячы на холад і сырасць Карл адчувае, што спацеў і бялізна прыліпла да цела.

Пустое вядро ён зноў вешае на пояс. Калі ён саскоквае на дах склада, яго ахапляе пачуццё велізарнага шчасця. Усё зроблена. Усё выканана. Усё зроблена не дрэнна.

Карл нахіляецца цераз сцяну. Там, як умоўлена, стаіць Арнольд. Карл перадае яму вядро і злазіць на зямлю. Не затрымліваючыся, але і без залішняй таропкасці, пераходзяць яны вуліцу. На Херніштрасэ Арнольд шэпча.

— Удала!

— Колькі гэта працягвалася?—цепер гэта цікавіць Карла больш за ўсё.

— Каля васьмі хвілін.

Восем хвілін? Восем хвілін? Глупства, ён памыляецца. Гэта цягнулася значна больш!

Моўчкі ідуць яны далей. Арнольд усё яшчэ нясе пустое вядро. Раптам яны заўважаюць два сілуэты. Вядро можа іх выдаць.

— Я завярну тут на Хауерштрасэ. Да пабачэння.

— Дай мне вядро.
— Атрымлівай! Скажы: ты спяваў на версе? Авіяцыйны марш?
Карл, смяючыся, ківае:—Так!
— Чаму?
— Я баяўся.
— Баяўся? Вось што! Ну, спакойнай ночы!
— Спакойнай ночы!

Раней чым увайсці ў пад'езд, Карл яшчэ раз глядзіць на дымавую трубу. Высока на версе палымнее і палошчацца на ветры маленькі, але выразна бачны нават ноччу чырвоны сцяг.

*Уладзімер Хадыка*

# ЧЫРВОНЫЯ РАДКІ

## Слова правадыра

Плыў дым, вясеннім кветкам горак,
Разводдзе злыбеднай тугі
Ў той час, як выкінуты корак,
Начамі біла ў берагі.

Насіў з агнём саломы вехаць,
Да сонных хат прыбіты, змрок—
Каб ім не ўстаць, не пераехаць
На той, ў праменнях сонца, бок.

І ў крыках цемрадзі люстранай
Святое слова ўжо расло:
Яно галіа людзям раны,
Давала ў рукі дзён вясло.

Як меч, направа і налева,
Ссякала прышлых лоз папас,
На зброд зляцеўшы громам гневу,
І ласкай бацькаўскай на нас.

І перакат вірлівай плыні
На чорных рэках мы змаглі—
Што ўсе навекі, як святыню,
Мы гэта слова зберaглі.

## Пачатак свету

На свет я роджаны пургою,
У душу мяцелі пелі мне.
Зямлі сатрап адной нагою
Стаяў, асуджаны, ў труне.

І перад грозным ценем кары
Быў дзікі гэст яго рукі...
Гублялі чорныя гусары
Свае разбітыя палкі.

Перахрысціўшыся на месяц,
Яны гадалі ў злой бядзе—
Каго апошні раз павесіць
Ім перад смерцю прыпадзе.

Як блізкай гібелі парука,
Знікаў святочны іх парад.
І ноч, як збродлівая сука,
За імі бегла наугад.

І ў голасе наступных вёсен,
Прыходам досвітных грымот—
Маё вітанне аддалося,
Адкуль лічу свой першы год.

Адкуль ідзе пачатак свету
І песен хмель не знае дна
Аб тым, хто край прывёў да мэты,
Каму паэтамі прапета
Усім сэрцам ода не адна.

## Байцы

Быў час, катораму ў вяках
Не знаді роўнага па сіле.
Байцы, забыўшы слова—страх,
У смерці ласкі не прасілі.

У суровых далягдядаў шыр
Укуўшы моцна сэрца мякаць—
Ад крыўды зраненай душы
Адно у сне маглі заплакаць.

Прышлі нягодзе той канцы,
Прыціхлі кулі бітвы лютай...
І тыя-ж самыя байцы
Адзінай песняй працы скуты.

Нясуць па роднай старане
Здабытае баямі імя...
Чужая роспач не кране
Нішто, збудованае імі.

Чужога свету ляжа прах,
Свой чорны марш дасніць ў магіле...
Ёсць час, катораму ў вяках
Не знаді роўнага па сіле!

## Зацішак

Над маім над высокім парогам
Распускаецца клён малады.
Краскі лёгенька выбеглі логам
Паглядзецца ў люстэрак вады.

Дні ім гнуткія станы не ломяць,
Ветры долу галовы не гнуць —
Толькі свісне іх след па саломе,
Калі трэба страху прамінуць.

Хмар бур'ян як касою скасіла.
Толькі з песні гукнецца калі—
Як таптала нячыстая сіла
Аксаміт рабаванай зямлі.

Мы цяпер сваё права тут пішам
І не знаем заморскіх гасцей...
Помнім толькі адно, што зацішак
Перад громам бывае часцей.

Што ў вятроў недалёка да здрады—
Могуць з ростані рынуць і рваць...
Што смяротным агнём кананады
Давядзецца іх нам сунімаць.

## Рэволюцыі салдаты

Па шырокай бурнай далі
Хмары слёзы раскідалі —
У дзіклівым моры злосці
Паласкалі вашы косці.

Воляй, рошчанай вякамі,
Гартаванымі рукамі—
Вы з імглы наперад грэблі,
Цераз багны клалі грэблі.

Грузлі ў твань каней капыты,
Хліпаў след, даждэом размыты.
І гарэў усход крывёю
Над прытоптанай зямлёю...

У першай бітвы першым громе
Вы кавалі шчасця промень,
Кожны крок вы ўпарта бралі,
Век назад не адступалі.

Век не ведалі пачэсней
Мы легенд народнай песні—
Песні славе вашай зброі,
Бязыменныя героі.

І ў куплет, на песен грані,
Залацей за сонца—стане
Слаўнай смерці вашай дата,
Рэвалюцыі салдаты.

У паход няснёнай сілы
Будуць вашы зваць магілы—
Пройдзем мы гатовым строем,
Скінем шапкі перад боем.

Перад вашым светлым ценем
Мы загад, як радасць, стрэнем—
Быць, як вы, што далі бралі,
Век назад не адступалі.

*М. Пасльядовіч*

# ВУЧОНЫ ВЕРАБЕЙ

Цэлы тыдзень не бачылі піонеры свайго дзеда Брыля—старага калгаснага вартаўніка. Ён знік. Быў—і няма старога вартаўніка! Яго бліскучая бярданка ўжо не з'яўлялася ўранку, ці ўвечары за агарожай малочнай фермы...

Дзеці засумавалі. Віця Шымкавец забыўся і на свой новы радыёпрыёмнік: засталося толькі зрабіць элементы Лекланшэ, купіць дзве лямпы—і ўсё. Але работа валілася з рук. Таямнічае знікненне дзеда, якога так любілі школьнікі і нават дарослыя калгаснікі, устрывожыла Віцю Шымкаўца.

— Тата,—пытаўся ён можа дзесятым разам у бацькі,—чаму яго не відаць?

— Каго?—перапытваў бацька, хоць і ведаў ужо пра каго ідзе гутарка.

— Антося Мікалаевіча.

Бацька хітра ўсміхаўся.

— Адкуль-жа я ведаю. Спытайце ў старшыні...

— І старшыня казаў, што не ведае.

Трактарыст Бірулік выдумаў нават і такое: прыелася дзеду быць малапісьменным, дык ён накіраваўся вучыцца ў акадэмію. Хоча дзед Брыль перакваліфікавацца на прафесара...

Трактарыст Бірулік гэтак-жа хітра ўсміхаўся, як і Віцяў бацька, як усміхаўся хітра старшыня і некаторыя калгаснікі. Гэта было незразумела для малых грамадзян калгаса «Новы свет». Праўда, некаторыя сцвярджалі, што дзед нікуды не знік, што ён акуратна ходзіць кожную ноч на варту! Гэта была загадка для многіх калгаснікаў. Многія заўважалі, што на варце нікога няма, і пасля таго, як знік дзед Брыль, новага вартаўніка не прызначылі. Тады Віця Шымкавец пайшоў у праўленне і ад імя піонерскага атрада прапанаваў свае паслугі. Старшыня весела зарагатаў:

— Вельмі дзякую! За калгаснае дабро, пакуль што, вам няма чаго непакоіцца: дзед Брыль пакінуў добрага намесніка. Можаце, як казаў дзед Брыль, спакойна спаць, жэўжыкі!

— А хто яго намеснік?—зацікаўлена спытаў у старшыні Віця.

— Гэта сакрэт! Калі вернецца дзед, тады можна, калі ён дазволіць, сказаць. Ну, бяжыце гуляйце, будуйце самалёты, паравозы. Яшчэ раз дзякую, рэбяты, за прапанову паслуг! І—нікому ні слова, пра што мы тут гаварылі. Дзед Брыль пасля разззлуецца.

Віця Шымкавец вышаў з канцэлярыі. Адну хвіліну яму здалося, што каля кузні мільганула руля дзедавай бярданкі. Але гэта быў зман: гэта каваль Караткевіч прыладжваў да сеялкі нейкі жалезны прэнт.

Дык няўжо не раскажа дзед Брыль пра вучонага вераб'я? Абяцаў-жа! Абяцаў не хлусіць, а гаварыць так, як было! Ĭ вось праз дзень здарылася нешта...

Віця ўспамінаў, якія маглі быць прычыны? Праўда, у той апошні вечар дзед Брыль нечага ўсхваляваўся. Расказваў пра дзікіх гусей і дайшло да таго, што быццам бачыў у аднае птушкі конскія капыты... Піонеры зарагаталі, але дзед Брыль зусім не пакрыўдзіўся, нават не звярнуў увагі. А ён не любіў, калі хто смяяўся ў часе яго хлусні. «Няверыш? Га? Ну, то няхай другі хто вам так выдумае! Бывайце здаровенькі, жэўжыкі!» Ĭ пойдзе абражаны. Цэлы тыдзень не захоча сустракацца з насмешнікамі... Так, дзед Брыль тады не пакрыўдзіўся. Ён гаварыў і час-ад-часу пазіраў на будынкі. Быў цёплы вясновы вечар. У лёгкім змроку ўрачыста гудзелі майскія жукі. Непарушна застылі ў садзе абсыпаныя белым снегам цвету ігрушы і яблыні. У полі варочаючыся дахаты, заспявалі дзяўчаты вясёлую песню. Дзед Брыль схамянуўся, не скончыў апавядання і рушыў ад дзяцей.

— Праз некалькі дзён я вам раскажу пра вучонага вераб'я,— гукнуў ён ужо здалёк.—Спакойнай ночы, дзеткі!..

Такім быў дзед у апошні той вечар! Віця цяпер успомніў, як старанна агледзеў дзед затвор у бярданцы, выняў з кішэні і пералічыў патроны... Няўжо ён рыхтаваўся да чаго, ведаў пра нешта?— думаў Віця Шымкавец.—А можа яго хто забіў?

Верка нават заплакала, калі Віця выказаў раніцою ў школе такую страшную здагадку. Хлопцы хадзілі хмурныя, як-бы страцілі самага дарагога чалавека. Валодзька расказаў, што дзед Брыль выгабляваў яму такія дошчачкі для радыёпрыёмніка, якіх і на заводзе не зробяць. Алесю ён дастаў аркуш тонкай моцнай паперы на мадэль самалёта, а Косціку Хаўстовічу падарыў два блакітных трусы... Выявілася і дзедава слабасць: ён прасіў Міколку, старшынёвага сына, каб той яго вучыў «большай», як казаў дзед, грамаце і каб гэтага ні адна жывая душа ў калгасе не ведала!

«Сорамна мне будзе тады,—сказаў Міколку дзед,—калі даведаюцца, што я, сівы чалавек, з вамі вучоны хаўрус вяду. Мяне, казаў дзед Брыль, даўней пан у школу не пушчаў, вучыў на канюшні лазою і бізуном. Гэта вам, жэўжыкі, пры савецкай уладзе ўсюды дзверы адчынілі. Толькі вучыцеся, не лянуйцеся! Усё для вас прыгатавана савецкай уладай. Дзякуйце Леніну, Сталіну. Ĭ панскі палац вам пад школу аддалі... «Вось я пайду да настаўнікаў і праверу, хто на пяцёрку здае, а хто кол атрымлівае. Тады гультая блізка да сябе не дапушчу!..»

Пасля пачалі шнырыць нядобрыя чуткі. Быццам каля Лісіных нор Верасоўскай пушчы, у непраходным пушчары, знайшлі забітага кулакамі чалавека. Ĭ чалавек той, як гаварылі вельмі падобны на дзеда Брыля. Старшыня на сходзе растлумачыў, што гэта хлусня. Дзед Брыль жывы і здаровы... Тады нехта шапнуў, што бачылі, як стары

калгасны вартаўнік заявіўся на вечарынку ў Пяшчанку, пратанцаваў лявоніху і знік. А разам з дзедам прышлі на вечарынку і пашлі за ім зноў два незнаёмыя дзяцюкі ў капелюшах. Яшчэ быццам бачылі вартаўніка, калі пазаўчора нізка пралятаў над калгасам паштовы самалёт. З самалёта вытаркнуў галаву дзед Брыль, сарваў з галавы шапку і памахаў калгаснікам, якія працавалі на полі, але ніхто не разабраў яго умоўнага знаку: было гэта «дзень добры» ці «бывайце здаровы».

— Я-ж казаў, што наш дзед Брыль у акадэмію паляцеў!—наліваючы ў машыну бензін, пажартаваў зноў трактарыст Бірулік.

Вучні пабеглі ў праўленне, дзе разбіралі скінутую з самалёта пошту. І не было там ніякай весткі ад дзеда—адны газеты і журналы.

Пакуль лістаносец, суровы і маўклівы, Сцяпан Хмара падпісваў алоўкам, каму што атрымаць, Віця разгарнуў новую газету. Можа ў аддзеле «здарэнняў» знойдзе ён што-небудзь? Перагарнуў адну старонку, другую, трэцюю і... аж падскочыў ад незвычайнага здзіўлення. Зверху чацвертай старонкі цёпла ўсміхаўся, прыжмурыўшы вочы, дзед Брыль! Ён быў у скураной куртцы, у скураной шапцы, з навушнікамі і з лётніцкімі паднятымі на лоб, акулярамі! Абапёрся дзед Брыль аб самалёт, стаяў радасны і горды...

— Гэта не дзед! Не можа быць!—пачалі хлопцы вырываць у Віці газету.—Дай зірнуць!

— Ён!—крычаў Віця.—Во, і ямінка на правай шчацэ відаць. Такое прыметы ні ў якога другога чалавека я не бачыў. І левы касмыль барады крыху карацейшы ад правага... А подпіс на што?! Чытайце!

— Ну, сёння такі давядзецца паставіць на варту дзедавага намесніка,—глянуўшы ў газету, сказаў старшыня.—Цяпер усе ўжо будуць ведаць, што дзеда Брыля няма ў калгасе...

Толькі цяпер старшыня адкрыў сакрэт, вярней, раскрыла сакрэт газета і старшыня вымушан быў гэтае пацвердзіць. Так, дзед Брыль сапраўды быў у навуковай камандыроўцы! Паляўнічы аддзел Акадэміі Навук праводзіў вывучэнне баброў і стары калгасны вартаўнік, як добры знаўца звярыных сцежак і логаваў, быў запрошан для дапамогі. Экспедыцыя мела заданне злавіць аднаго бабра для заапарка. Бабра злавіў дзед Брыль і ён-жа даставіў рэдкую жывёліну на самалёце ў сталіцу. На здымку ў газеце дзед быў паказан перад пасадкай на самалёт, каб вярнуцца зноў на месца, якое трэба было абследваць. У распараджэнне экспедыцыі, пісалася ў газеце, дадзен самалёт і грузавая машына...

Але ніводнага слова не было ў газеце пра тое, чаму такою таямніцаю быў абкружан дзедаў выезд з калгаса. Усё гэта рабілася з ведама старшыні і трактарыста Біруліка і яшчэ трох членаў праўлення. Віцяў бацька, казалі, таксама ведаў і не хацеў гаварыць. Наогул ніхто нічога не растлумачыў пра нечаканае знікненне дзеда Брыля. Старшыня сказаў, што гэтае зробіць стары сам, як толькі вернецца з сваёй навуковай камандыроўкі...

... гэта было ў апошні дзень, калі канчаліся заняткі ў школе. Вучняў распускалі на летнія вакацыі. Быў праведзен урачысты ве-

чар. Самых лепшых па вучобе прэміравалі паездкай на экскурсію ў Маскву, пуцёўкамі ў дамы адпачынку. Наперадзе было такое цудоўнае лета! Лес, поле, цёплы і ласкавы вецер. Больш часу было загараць, купацца ў рэчцы, лавіць вудою акунёў і плотак. А можа і сом нарвецца, калі закінуць моцны шнур каля трох алешын, дзе некалі дзед Брыль наглядаў выдраў.

Віця марыў. Вось яго цяпер прэміравалі паездкай у Маскву. Ён будзе блізка каля вялікага правадыра працоўных усяго свету таварыша Сталіна, агледзіць Крэмль, пабачыць у маўзалеі Леніна, пра якога так многа з захапленнем чытаў.

— А ты, тата, ездзіў у экскурсію, як вучыўся?—запытаўся ўвечары Віця ў бацькі.—Цябе пасылалі?

— Пасылалі,—буркнуў бацька.

— А куды цябе пасылалі?

— Да печкі на жарстве стаяць.

За тое, што да яго такія клопаты, Віця будзе яшчэ лепш вучыцца. Як падрасце, ён паедзе ў Арктыку працаваць радыётэхнікам, страляць белых мядзведзяў. На поўначы многа белых мядзведзяў, пясцоў, гусей. Гэта нічога, што палярная ноч цягнецца аж два месяцы, а то й больш, калі адны толькі зеленаватыя сполахі віхурацца высока ў цемры! Віця не такі палахлівы! З ім паедуць найлепшыя яго сябры, будучыя героі Савецкага Саюза. Можа нават захоча паехаць і дзед Брыль...

— Табе ліст ад дзеда,—раптам перарваў бацька Віцявы дзёрзкія мары.—Я зусім быў забыўся... Ды і ты, хлопча, забыўся на старога! Нядобра. Ён вас так любіць...

Віця схапіў канверт. Так, яны зусім забыліся на старога калгаснага вартаўніка! Ну, але-ж у іх ёсць апраўданне: залікі здадзены на выдатна! Ёсць чым пахваліцца, калі звернецца дзед Брыль! Дзед Брыль толькі ўзрадуецца. Дык што ён піша? Неяк было дзіўна: упершыню бачыў Віця, як піша стары. Такі нязграбны почарк быў і ў Віці, калі ён вучыўся яшчэ ў першым класе. Адна літара такая маленькая, што ледзве разбярэш, а другая—на два сантыметры!

«Здаровы жэўжыкі!

Прыязджайце да мяне заўтра ў Ласіны брод, дзе я ў навуковай камандыроўцы. Я выстараўся, каб самы глаўны вучоны начальнік навуковай камандыроўкі таварыш Шэрман падаў для вашай кампаніі аўтамабіль. Аўтамабіль прыкоціць заўтра раніцою. Толькі не падвядзіце, жэўжыкі! І нікому, апрача тых, хто едзе, не гаварыць, што пісаў я—

самы глаўны вучоны паказацель звярыных нораў Антось Мікалаевіч Брыль».

Віця рынуўся з хаты. Зараз-жа трэба далажыць піонерважатаму, загадчыку сямігодкі! Цяпер ужо яны даведаюцца, чаму такою таямніцаю ахутан дзедаў ад'езд! На збор! Усе піонеры, на збор! Дзед Брыль падаў свой голас!.. А як паглядзіць стары вартаўнік на тое, што Віця Шымкавец едзе ў Маскву?!

Машына сапраўды прыбыла раніцою. У кузаве была навалена

свежая мяккая трава. Прыветлівы малады шофер запрашаў, каб хутчэй садзіліся. Дарога далёкая і іх трэба сёння-ж назад прывезці, бо экспедыцыя ўжо заканчвае работу.

— А хто гэта накасіў травы?—запыталіся, узбіраючыся на машыну, вучні.

— Адзін наш чалавек...—неяк падазрона зірнуў на вучняў шофер.—Ну, усе селі?

— Усе. Запушчайце матор.

Як хараша летам імчацца на машыне! Новенькі горкаўскі форд чырыкаў лагодна, як дзівосная зялёная птушка. Але вецер свістаў у вушах, быстра мільгалі ўкопаныя абапал шашы белыя слупкі. Роўная гладкая істужка дарогі бясконца бегла пад калёсы і клубілася лёгкім пылам за машынай. Ураз мінулі поле, пашлі балотныя альховыя кусты, сенажаць. Гэта тут, як апавядаў дзед Брыль, заграз быў лось! Гадоў чатыры таму назад ездзіў Віця Шымкавец па гэтай дарозе ў раён. Нават не па гэтай, а па той, што марнела з боку: збуцвелыя чорныя кавалкі дрэва, яловыя і альховыя сукі, сасновыя карчы. Гэта звалася ласінай грэбляй. Усе духі вытрасе, пакуль яе праедзеш! А то яшчэ бывала, што зломіцца вось, ці дуга, або гужы парвуцца... Аднойчы быў праваліўся праз гнілое ламачча конь Віцявага бацькі. Поўдня, сабраўшы ўсю вёску, цягалі каня з дрыгвы!

— На той год тут будуць рабіць асушку,—перамагаючы посвіст ветра і шум матора, крычыць Віця Міколку.—Пракапаюць магістральны канал...

Міколка згоднаківае галавою. Белы бусел ганарліва ступае па дрыгве, выглядае жаб. Тыя гады ўвесну, закасаўшы штаніны, вясковыя хлопцы шнырылі за гнёздамі качак. Але гэтае, нарэшце, не спадабалася дзеду Брылю. «Я вас пад суд аддам, самаўпраўцы!— крычаў ён на хлапцоў, засцігнуўшы іх на балоце.—Што вы, нягоднікі, разбураеце паляўнічую гаспадарку?! Няма ў вас пашаны і любові да карыснае жыўнасці. А што каб тваю хату гэтак развярнуў, як вы гнёзды нішчыце? Ідзіце лепш воўчыя драпежніцкія логавы бурыце!..»

Віця таксама быў добры майстар, можна сказаць, самы глаўны завадатар такіх налётаў. За дзень ён да пяцьдзесят яец збіраў. Некаторыя яйцы былі нават наседжаныя. Дзён праз шэсць з іх маглі-б вылупіцца качанята. Такога яйца ўжо не скарыстаеш на яечню.

Дзед быў напорысты. Ён пайшоў у школу і заявіў дырэктару, піонерважатаму. Падняўся шум. Стары калгасны вартаўнік правы! Пачалі пісаць у насценгазеце, маляваць карыкатуры. За тое, што Віця не слухаўся, высалапіў дзеду язык,—намалявалі і яго. У насценгазеце Віця быў падобны да бусла: доўгая, у акрываўленым пер'і, шыя, вострыя маленькія вочы, а на пальцах замест пазногцяў драпежныя кіпцюры. Палахліва ўцякала ад Віці качка, крэкчучы: «ратуйце нас ад шкодніка!»

Віця засмяяўся ад такой карыкатуры, хоць у нутры было балюча і крыўдна. Але горш за ўсё было тое, што сябры адвярнуліся ад яго і сталі як-бы не прызнаваць. Віця пачарнеў ад нуды і такое знявагі. Хадзіў хмурны і маўклівы.

У такім настроі яго і застаў аднойчы дзед Брыль. Віця панура цягнуўся ў школу, а стары варочаўся з варты.

— Пхе!—выгукнуў дзед Брыль, зірнуўшы на Віцю.—Ці не ракам ты сёння ўстаў?

— Мг-м,—прамармытаў нешта незразумелае Віця і хацеў абыйсці дзеда. Але стары схапіў хлапца за руку.

— Гонару колькі. А можа крыўдна, што цябе прабралі? Дык прабач мне, жэўжык. Я, як паляўнічы, павінен сачыць, каб карысная звярына, ці птушка гадавалася добра. Падрасцеш, станеш паляўнічым, тады сам зразумееш. Трэба знішчаць толькі тое, што зло народу чыніць. Ваўкоў трэба знішчаць, каршуноў. А ты—птушыныя гнёзды! Нядобра, унучак! Не па закону робіш!

Раптам дзед азірнуўся, бы апасаючыся, што яго падслухаюць, потым нахіліўся да Віці і шапнуў:

— Прыходзь пасля заняткаў да мяне! Я табе нешта пакажу і раскажу! Добра?

— Добра,—абы адчапіцца ад ненавіснага дзеда, сказаў тады Віця.

— Толькі нікому пра гэтае ні слова!—зноў шапнуў дзед Брыль.— Такое я табе скажу... Ну, каці ў школу,—ужо сурова дадаў, зглядзіўшы, што іх размовай зацікавіліся вучні, якія ішлі па вуліцы.

«Чакай, я да цябе так пайду, як авечка да ваўка!—злосліва засмяяўся Віця.—Але што за сакрэт такі? Што ён пакажа? Можа стары выдумляў, каб падлізацца да Віці? А можа схадзіць?»

Пасля заняткаў Віця не вытрымаў, і гародамі накіраваўся да дзедавай хацінкі. Стары сустрэў яго радасна. Упершыню Віця быў у яго хаце. Стары жыў адзін, як бабыль, і рэдка каго запрашаў да сябе. Ён лічыўся ў вёсцы за дзівака. Зямлі ў яго зусім не было і хата стаяла на выгане, каля сцяжынкі, што вяла да воўчай грады. Некалі дзед Брыль быў панскім парабкам. Але пасля таго, як ужо сыны пана Жылінскага дачуліся, што з іх бацькі пасмяяўся іхны-ж парабак (што прывучаная выдра патанцавала на шляхетнай галаве)—Брылю не было месца ў маёнтку. Дзед Брыль перасяліўся ў вёску. За тое, што дзед Брыль памагаў рыбай у галодныя гады, вяскоўцы дазволілі яму пабудаваць хату на выгане. Ён стаў пасвіць вясковых кароў, увесь час цягаючы за сабою стрэльбу. Зімою ён цэлыя дні гібеў у лесе, або на рэчцы. Як пачалі арганізоўвацца калгасы, дзед Брыль запісаўся першы.

Віця з цікавасцю аглядаў хатнюю дзедаву гаспадарку. І яго вельмі здзівіла, што ў хаце ў дзеда было чысцей, чым у некаторых другіх вяскоўцаў. На сцяне, каля печы, вісела старэнькая, як і сам дзед, дубальтоўка, лісіныя і воўчыя скуры, якія дзед Брыль не паспеў здаць у паляўнічую кааперацыю. Пад палком былі акуратна складзены дзеравяныя пасткі.

— Я табе, жэўжык, зараз пакажу нешта,—крыху хваляваўся стары.—Вось у гэтым куфэрку схавана.

Ён адчыніў куфэрак і дастаў адтуль пакунак, абвязаны белай анучкай.

— Пазаўчора забіў каршуна. А на нагах у каршуна было вось што.

Невялічкае белае кольца коратка дзвынкнула на стале.

— Прачытаеш, што нам напісана?—урачыста спытаў дзед, калі Віця ўзяў кольца і спрабаваў разабрацца ў замежных літарах.

— Не-е,—разгублена адказаў хлапец.

— Ну, дык і я не прачытаю,—прызнаўся стары.—А твой настаўнік з сямігодкі, што па заграічнаму балбатаць вас вучыць, прачытае. І ліст напіша. А мне на гэты ліст адказ дадуць. Вучоныя, прафесары!

Стары сеў насупроць Віці і растлумачыў.

— Гэтае кольца надзелі на каршуна ў адной краіне. Надзелі для таго, каб ведаць, дзе гэтая птушка лятае. Можа яна ўвесь час аж да самай сваёй смерці жыве на адным месцы, а можа апыніцца за тысячы кілометраў? Літары на кольцы—назва станцыі, або чалавека, што налапілі на ногу гэтае кальцо. Скажам, я забіў такую птушку, дык трэба паведаміць таму, хто начапіў на яе кольца. Трэба паслаць кальцо і ліст... Выходзіць, што я ўсёроўна што вучоны. Навуцы дапамагаю...

Дык вось які гэты дзед Брыль! І ніхто ў калгасе гэтага не ведаў! У вёсцы глядзелі на яго, як на дзівака.

— А як-жа вы пішаце за граніцу?—нецярпліва, круцячы ў руках алюміневае кольца, запытаў Віця.—Вы-ж і па тутэйшаму толькі сёлета крыху павучыліся пісаць.

Дзед ухмыльнуўся.

— Не можна пакуль што гаварыць. Хопіць з цябе сёння. Мне няма часу. Ужо на варту трэба ісці. А заўтра прыходзь лісты ад вучоных табе пакажу. Дзеда Брыля ўсе вучоныя ведаюць! Пхе...

Пасля высветлілася, што лісты да вучоных пісаў дзеду настаўнік сямігодкі. Вучні пачалі цікавіцца дзедам Брылем, у яго апавяданнях пра прыроду было многа цікавага і захапляючага. Было многа і казачнага. Так пачалася вялікая дружба!

Віця зразумеў, што дзед Брыль быў правы, калі ўзняў гвалт супроць іх гвалтаў над птушынымі сем'ямі. На другі год піонеры наладзілі ахову птушыных гнёздаў. Яны сачылі, каб не толькі людзі, але і сабакі не трывожылі малых качак.

Дзед Брыль быў вучоны верабей! Гэта не ведалі калгаснікі, ці, калі праўду казаць, не цікавіліся раней гэтым. А вось Акадэмія навук знайшла ў старога вартаўніка такія якасці. Дзеда абралі, як ён пісаў у лісце, «вучоным паказацелем звярыных логаваў».

І цяпер вучні едуць да яго ў госці.

Машына мінула шырокія бязмежныя палі, МТС, сілосныя вежы і доўгія кароўнікі. Пачыналася пушча. Ужо даўно звярнулі з шашы і форд павольна прабіраўся між стагодніх дубоў і елак. Таўшчэразныя арэшыны шырока раскідалі ў бакі свае вецце. Форд чырыкаў прыглушана, пасоўваўся павольна. На кабіну падалі з дрэваў празрыстыя кроплі расы.

— Сто-ой!—раптам пачулі піонеры знаёмы голас.—Стой!

Мільганула незнаёмая новенькая дубальтоўка. Дзед Брыль трухам бег да машыны. Пад пахай стары асцярожна трымаў нейкую чорную пляскаватую рэч. Дзесяткі рук працягнуліся з машыны да дзеда.

— Мы вам паможам узлезці! Што гэта ў вас пад пахай?—не разабраліся спярша дзеці.

— Парапаха,—цяжка дыхаў дзед, узлазячы, пры дапамозе вучняў, у машыну.—Парапаха, Паганяй!—скамандаваў ён шоферу, усеўшыся сярод дзяцей.

— Гэта-ж чарапаха!—закрычалі экскурсанты, прыгледзеўшыся да чорнай рэчы.—Якая-ж гэта парапаха?

Дзед бліснуў памаладзелымі вачыма.

— Я наўмысля зманіў, каб праэкзаменаваць вас. Зла́віў я яе каля рэчкі. Сказаць праўду, другую чарапаху за сваё жыццё злавіў. Вельмі яны рэдкія ў нас. І толькі ў гэтай пушчы жывуць. Недалёка ад бабровых хатак. Гэта вярсты тры адсюль. Ну, як у вас, жэўжыкі, з вучобай?

— На выдатна здалі.

— Малайцы,—усміхнуўся дзед.—А я канчаю сёння навуковую камандыроўку. Во,—паказаў ён на новенькую дубальтоўку,—прэмію атрымаў. Дзвесце семдзесят пяць рублёў каштуе!

— А чаму вы, Антось Мікалаевіч, не сказалі, куды едзеце? Чаму гэта таямніца?—запытаў, нарэшце, Віця Шымкавец пра тое, што так хвалявала і трывожыла вучняў.

Дзед Брыль сурова зірнуў на вучняў.

— Не можна было. Дазналіся-б якія зладзеі, што я не на варце, а ў камандыроўцы—увесь-бы калгас абакралі. Дык я згадзіўся паехаць з такой умовай, каб ніхто гэтага не ведаў.

Няхай зладзеі думаюць, што стары вартаўнік не пакінуў свайго паста. Мяне яны, зладзеі, як агня баяцца. Пхе, я вучаны ў гэтай справе верабей!.. І я ўпэўнены, што ніхто нічога не крануў.

— Нічога,—пацвердзілі піонеры.—Ды і мы пільнавалі.

— То-та!—дзед Брыль горда і пераможна ўсміхнуўся.—То-та яно, жэўжыкі! Пакажу я вам, што зроблена нашай навуковай экспедыцыяй, бабровыя хаты пакажу ды—дахаты.

Добра ў лесе начаваць, а дома яшчэ лепей!

*А. Дудар*

# ДЗЯЎЧЫНА

Твой пакойчык прытульны, спакойны і белы
пахне цёплай пяшчотай нетрывожаных дзён.
Нібы жнівеньскі сад духам яблыкаў спелых,
пахам моцных антонавак радуе ён.

Каля люстры—падручнік англійскае мовы,
пара сшыткаў і некалькі строгіх тамоў:
гэта ўсё так прывычна і кожны раз нова,
як чарнявая шапка тваіх валасоў.

У табе светлы розум і моцнае сэрца.
Што ў табе ад былых, ад забытых часоў?
Як цябе уявіць без партрэтаў на сценцы?
Як цябе уявіць без разважлівых слоў?

Маладая, як майскае сонца дзяўчына
нібы сонечны зайчык у блакітных лугах—
ты размову вядзеш самавіта і чынна,
а вясёлыя знічкі гараць у вачах.

Ўся гарыш ты святлом агнявой нашай эры,
калі горы грымяць, калі зоры пяюць,
калі радасць высокую поўнаю мерай
людзі новыя з новай крыніцы бяруць,

калі шчасце—не грэх, прыгажосць—не загана,
калі праца як песня ўстае над зямлёй,
ты умееш злучыць агнявое каханне
з незвычайнаю мудрасцю справы сваёй.

Ўсюды ты—на заводзе, на пожні і ў клубе.
На вучоным дакладзе і ў майскіх садах
я адразу пазнаю пунсовыя губы
і чырвоны значок на высокіх грудзях.

Калі-ж ты свае вочы як зоры запаліш,
бляск у сэрца сыходзіць да самага дна,
пачуццё залівае шырокаю хваляй
бераг дружбы і шчырасці светлага дня.

І жыццё і вясна і маё захапленне—
гэта ўсё для цябе, гэта ўсё прад табой,
мой таварыш, дзяўчына майго пакалення,
мой таварыш, дзяўчына краіны маёй.

19/IV 1935 г.

*Владзімір Кандраценя*

# ФІНАЛ

## I

У канцы снежня трыццатага году па выглянцаванай палазамі дарозе стомлена брылі два мужчыны. Амаль ні ў якім сяле яны не затрымліваліся, а калі нават і рабілі прыпынкі, то не на доўгі час. Тутэйшая мясцовасць, куды яны паспелі ўжо трапіць, напаўнялася ў гэтую пору чужымі людзьмі—лесарубамі і вазакамі; адсюль вазілі лес аж у некалькі суседніх раёнаў,—таму новы чалавек, апрануты на манер лесаруба, не вельмі кідаўся ў вочы. Каб хто ішоў з гэтымі невядомымі мужчынамі ў адну дарогу, то напэўна звярнуў-бы ўвагу на тое, што яны надта строга прытрымліваліся аднаго кірунку— з усходу браліся на захад. Пад прасторнымі ботамі рыпеў настуджаны марозам снег. Мужчыны здарожыліся, спацелі і, каб асвяжыць змораныя целы, ішлі з расхінутымі крысамі цёплых ватовак.

Навакол было пустынна і маўкліва—паабапал вузенькай дарогі шырока разлеглася снегавая роўнядзь: усё адно як хто заслаў гэтае поле белай прастынёю. На захадзе, у бялесай далячыні, поле агінаў густы лес: праз ранішнюю імглу ён здаваўся чорным і залішне суровым. На высокім месцы каля таго лесу тырчэла адзінокая вышка.

Падарожнікі рэдка перакідаліся словам. З-за крутога ўзгорка нечакана паказалася фурманка. Мужчыны моўчкі хапіліся зашпільваць ватоўкі... Са скарчанелых ад холаду пальцаў выслізалі непадаткія гузікі. Тымчасам высокі мужчына глыбей націснуў вушатую шапку. Падарожнікі сышлі з дарогі; паўз іх прашурхала палазамі фурманка. Чалавек, што бокам ляжаў на голых санях, аж прыўзняўся і ўсё глядзеў у плечы незнаёмых. Чорны конь лёгка нёс сані і фурманка хутка растала ў ранішняй імглістасці. Высокі мужчына з адутлаватым тварам стаяў сярод дарогі, як аглушаны громам. Ён сударгава ўчапіўся за сухую, як трэска, халодную руку спадарожніка і аж закалаціўся ўвесь, нібы ў ліхаманцы.

— Владэк...—задыхаючыся, прахрыпеў высокі адутлаваты мужчына.—Гэта знаёмы мой... Гаспадарыць на чужым кані... У-у... д'ябал!...—скрыгануў ён зубамі; твар таргануўся, скрывіўся дзікай грымасай: тоўстыя пасінелыя губы нацягнуліся тугімі гумкамі і агалілі бель зубоў.

— Не хвалюйся, Аркадзь. Ну, пойдзем. Чаго стаяць? Будзь майстрам у такіх выпадках. Ты дастаткова вучыўся, але часта пасуеш... На цябе залішне кепска ўплывае алкаголь.

Медзвядзёвая постаць Аркадзя аж трэслася, нібы ён чакаў, што зверху вось-вось грукне па галаве пярун... Ён цяжка ступаў і паранейшаму сударгава сціскаў сухую руку спадарожніка.

— Ты чытаеш мне натацыі? Хочаш зрабіць з мяне адмысловага прафесіянала?.. Я не пра тое... У мяне кіпіць...: тут!...—тыкаў ён тоўстым пальцам у шчыльна абцягнутыя ватоўкай шырокія грудзі. У зрэнках бліскалі благія аганькі. Ніжняя сківіца сударгава торгалася.

— Прашу, супакойся,—роўным голасам, як зазвычай, даводзіў сваё Владэк, і ад гэтага спакойна разважлівага тону ў аркадзевым нутры ўскіпвала яшчэ большая злосць.

— Але ты зразумей!..—не ўнімаў свайго гневу Аркадзь.— Забралі ўсё дачыста, зрабілі жабраком... Калі ласка, маўляў, бяры, грамадзянін Жуковіч, сякеру, пілу і ідзі лес валяць! Чуў такое, га? Кроў маю атруцілі... Я павінен адпомсціць! Ненавіснага чалавека я мыслю ператварыць у груду мяса і касцей...—ён ужо не крычаў, а шыпеў, гнеўна паблісваючы расшыранымі зрэнкамі валавяных вачэй.—Я ўчыню такую расплату... такую, ад якое ў жылах людзей зледзянее кроў і страх агорне самых дужых... Мне часам да таго хочацца ўчапіцца зубамі ў яго горла... перагрызці храсткі... адчуць, як уздрыгваюць у прадсмяротнай агоніі чужыя мускулы...

— У цябе, я бачу, нервы гуляюць.

— Нервы? Што—нервы! Глупства...

Прымоўк Аркадзь, абмяк: бурнае нервовае ўзбуджанне перайшло ў меланхолію.

— Чорт з імі, з нервамі,—махнуў ён рукою, як чалавек, які канчаткова страціў надзею знайсці тое, чаго ён шукае.—Але падумай: іхнія сейфы непарушна захавалі вайсковыя таямніцы...

Зноў ажывала хваравітае хваляванне, і ледзянелі чорныя зрэнкі валавяных вачэй. Аркадзь прыкусіў ніжнюю губу, але гэта не дапамагала: расла і падымалася з сярэдзіны злосць, сляпая і непераможная.

— Прыкра варочацца з пустымі рукамі...

Владэк нездаволена зморшчыўся, быстрыя карыя вочкі прыжмурыліся і над пераноссем прарэзаліся глыбокія баразёнкі.

— Ад выпадковае няўдачы няма чаго сумаваць,—холадна і строга сказаў ён.—У некаторых выпадках лепей адступіць, чым ляцець у бездань.

— Я, прынамсі, гатовы на ўсё. Можа тут вінаваты крыху і нервы, але...

— Няўдалая, скажу табе, рэч—бdensь на рызыку. Нам могуць перарэзаць дарогу.

Збоку Аркадзь пільна паглядзеў у сухі вытачаны профіль владэкавага твару. У гэтым поглядзе праслізала тонкая іронія.

— Владэк. Я цябе не разумею. Ты заўсёды быў адважны і дужы наперакор сваёй незавіднай камплекцыі... ха-ха... Ты дзівіўся смелай рашучасцю і...

Сапраўды ў Аркадзя цвёрда ўсталявалася была думка, што сухія рысы дробнага твару шаноўнага калегі ніколі не краналі зудлівыя пальцы хвалявання. Владэк, гэтае немудрашчае на выгляд стварэнне, вельмі нагадваў нейкі пачварны аўтамат, дзеянні якога ўкладаліся ў простую, але надзвычай рызыкоўную формулу: «Трэба?—значыць ёсць!» Перад яго замысламі ўсе перашкоды ператвараліся ў нішто. Гэта была нейкая здань, а не чалавек; гэта быў той самы (калісьці вычытаны ў рамане) фантастычны чалавек—невідзімка... Прынамсі ў такім спецыфічным святле бачыў Аркадзь свайго калегу.

— Дзівіліся ўсе і...

— Нічога не было дзіўнага. Я—стары воўк, зубы на гэтым з'еў.

— Ха-ха... З'еў зубы і дрэйфіш? Ну, не злуй. Паслухай, што я табе скажу. З ім я не ладзіў змалку. Ён быў дужэйшы за мяне, гэты худы, але карчукаваты пастушок. Аднойчы, памятаю, схапіліся мы накрыжкі: я любіў мерацць сілу з аднагодкамі. Я напінаў, памятаю, кожны мускул, але сілы мае слабелі-слабелі, і я зразумеў, што буду ляжаць падыспадам. Тады я ўеўся зубамі ў кастлявае плячо пастушка і, скарыстаўшы момант, паваліў яго на зямлю. Пастушок заенчыў, але мяне не зачапіў—пабаяўся (ён парабкаваў у нас). Я трыумфаваў: як-бы там не было, але перамог я.

— Гм... Так перамагаюць слабыя,—іранічна ўхмыльнуўся Владэк.

— А мы хіба моцныя? Эх, калега... Л... наш—яблычка горкае... Паслухай,—рыўком ускінуў Аркадзь апушчаную галаву.—Да пераварoту я вучыўся ў гімназіі, і пэўна там у мой лексікон увайшло адно прыгожае слова. Паміж іншым, усе новыя словы я любіў завучваць.

— Пра якое ты слова?

— Але... Дзіўнае, ведаеш, слова—фінал.

Владэк здзіўлена паціскаў плячыма: якія глупствы пад хмелем можа вярзці чалавек!

— Яно, гэтае праклятае слова, мучыць мудрэй за кашмары... Павер, я бачыў яго ў сне... Дзікае тое слова прышло да мяне ў вобразе нейкага калматага страшыдла і пачало душыць. Я хацеў вырвацца і не мог...

— Аркадзь! Што ты плявузгаеш! Ад твае хандры мяне пачне зараз ванітаваць... Слушней было-б абмацаць слабейшыя звенні нашага плану.

— План надзвычай просты і трывалы. Нечаканасць удару і мімікрыя! [1])—выдатная стратэгія, га?

— Чакай,—вунь мястэчка.

Захопленыя спрэчкай, яны не заўважылі, як апынуліся на высокім аснежаным узгорку. У далячыні белае раўніны густа ляпіліся будынкі мястэчка. На пярэднім плане стаяла доўгая з новымі сценамі будыніна, пакрытая зверху снегавою шапкай. Трохі ўбок ад

---

[1]) Мімікрыя—ахоўная афарбоўка некаторых жывёл для больш зручнай барацьбы за існаванне.

новай будыніны застылі, як грозныя вартавыя, тры пачарнелыя ветраныя млыны з распасцёртымі драўлянымі крыллямі.

— Далей ісці не выпадае, трэба збочыць,—спыніўшыся, сказаў Аркадзь.

— Але сляды...

— Вецер замяце, не бядуй.

Мужчыны сышлі з дарогі і напрамкі накіраваліся к чарнеючаму ў далячыні лесу. У іншых мясцінах ногі глыбока правальваліся ў снег.

## II

Нават цяпер, зімою, ён ні на хвіліну, можна сказаць, не меў спакою. Яшчэ з восені ў малады калгас увайшла мала што не ўся вуліца Заямінка з прылягаючымі да яе вулачкамі і завулкамі; гаспадарка разраслася і на плечы палявода ляглі дзесяткі новых клопатаў. На яго высокім ілбе ў засені чорнага казырка бадай ніколі не разгладжваліся тугія маршчыны—у галаве талакою ішлі думкі. Вялікія турботы перапляталіся у безліччу малазначных, аднак нельга ніводнае прапусціць міма ўвагі: усюды трэба ўсё да парадку прывесці. Як паставілі Адама на гэтую пасаду, то з таго часу сінія вочы яго неяк нібы прыадкрыліся шырэй і з ціхім бляскам затоенай радасці ўдумліва пазіралі на дзівосны навакольны свет.

Дні праходзілі ў напружаным творчым мятушэнні.

Ужо ўстанавілася добрая санная дарога і частка мужчын тралявала на рум дрэва, а з астатнімі Адам вывозіў на загуменне лесаматэрыял,—калгас на прадвесні пачне будаваць новую канюшню.

Аднаго разу, выязджаючы за мястэчка, Адам сказаў мужчынам:

— Вы, хлопцы, можаце прама адпраўляцца, а я тымчасам па палетку праеду. Баюся, каб снегавая корка не пашкодзіла азіміне. Едзьце, я вас даганю!

— Заскоч, паглядзі!—крыкнуў яму з пярэдняе падводы гарласты Яўхім Сукала і, як толькі Адам звярнуў на другую дарогу, той гукнуў па каня і за ім бягом пусціліся ўсе вазакі.

Ледзь пачынала рассейвацца кволая ранішняя імглістасць. Гладкі чорны конік бег лёгка, нібы не дакранаючыся капытамі да вытаптанае дарожкі. Шурхалі і папісквалі палазы. Марозік!

Разоў са тры Адам злазіў з саней і ў некалькіх месцах прабаваў на вобмацак пругкую снегавую скарынку, стукаў нагою—ці такая яна, як пішацца ў агратэхнічным журнале. Непадалёку ад дарогі безмоўна драмалі пышныя хвойкі, аздобленыя срэбным напластаваннем інею, і на пагорку чарнела невысокая вышка, якую нямаведама навошта паставілі геадэзісты.

Адам стаяў мо' якую хвіліну. Гарачымі хвалямі ішла па целе кроў.

Якая дзівосная ў велічнай ранішняй цішыні шырокая палявая разлегласць!..

«Трэба такі пабаранаваць»,—вырашыў Адам і, ускочыўшы на сані, пагнаў мацней каня. Неспадзявана ён праехаў паўз двух мужчын, што сышлі з дарогі ўбок.

Незнаёмыя твары мужчын ажно мільгануліся. Але гэтага даволі было дзеля таго, каб дзесьці ў глыбокіх складках памяці ўстрапянуўся і зноў знік невыразны вобраз чалавека без імя.. далёкі і чутачку знаёмы твар. «Дзе я бачыў такога мужчыну? Дзе?.. А можа мне толькі здалося?!!» Як ні стараўся прыпомніць—нічога не выходзіла.

Ён працаваў круглы дзень, як у нейкім тумане. Рабіў адно, а думаў пра другое. Ён напружана шукаў у памяці таго апорнага пункта, адыходзячы ад якога можна ўзнавіць падзеі і вобразы мінулага. Перабіраў самыя малазначныя спатканні і падзеі, каб натрапіць на патрэбны след... Нарэшце махнуў рукою:

— Ат, глупства...

— Што ты?—марматнуў Яўхім, падкладаючы кол пад тоўстую калоду.

— Так сабе...—схамянуўся Адам.

Разам з усімі ён варочаў замеценыя снегам цяжкія калоды, а ў галаве назойліва снавалі разважанні: «Што гэта за людзі былі? Неслі мяне чэрці!.. Трэ' было запытаць дакуманты. От цяпер то я разумны, а каб гэта пад тую часіну такі розум...»,—дакараў ён самога сябе.

Лес аж разлягаўся ад гучнай гамонкі і крыкаў мужчын. У гурце вельмі-ж спорылася работа. Адзін другому ахвоты паддаваў.

Апошнія вазы панакладалі пад самы вечар і варочаліся дамоў на змярканні. Браўся марозік. Пад нагамі топка скрыпеў снег. Мужчыны ішлі каля вазоў подбегам, стукалі рукамі па кажухах, каб сагрэцца.

— Мароз, ліха на яго!

Пакуль паскідалі бярвенне і паставілі ў хлявы коней, празрыстыя сінія змрокі ахінулі мястэчка. Адам паспяшыў дадому. На прыгуменні яго спыніў вартаўнік кароўніка Яшка Бегунец. Круглы твар Яшкі быў заліты густою чырванню і неяк таемна блішчэлі пад казырком жвавыя вочы.

— Дай мне ў дапамогу аднаго чалавека.

— На што?—здзівіўся Адам.

Усхвалёваны Яшка, часта пераводзячы дыханне, коратка расказаў у чым справа. У адамавай душы адразу моцна варухнулася і застыла вострая трывога. «От яно што!..» Ён цяпер ясна ўбачыў, што зрабіў вялікую памылку,—гэтага ён ніяк не мог сабе дараваць. «Чаму я іх не запыніў?..» Унутры асядаў мутны асадак нездавальнення. Ён сказаў Яшку каго можна ўзяць на варту і пацягнуўся ў хату ў глыбокім роздуме.

Сціхала гамана сваіх і праезджых людзей.

Слаба свяціліся матавыя прамавугольнікі вокан.

Трывожнае замяшанне адчувалася ў кожным руху пешахода.

Вось прайшла маладая дзяўчына, дробна перабіраючы нагамі, і тонкі скрып замёр, паступова аддаляючыся.

Здавалася, нават цёмныя грамады хат з белымі шапкамі ніжэй прыціснуліся к зямлі і насцярожана ўслухоўваюцца...

Непрыветным бяздоннем сінела халоднае неба.

## III

Гэты патаемны скляпок пры гумне ў паломніку [1]) Аркадзь з бацькам выкапалі перад самай вайною. Стары аж са сну тады выбіўся, хадзіў аглядзеў усе куткі і не мог супакоіцца, пакуль не вельмі было дзе прыхаваць лепшае дабро з гаспадаркі. Нарэшце стары прыдумаў тады зрабіць хітры скляпок у паломніку пад падлогаю.

У гэтым скляпку цяпер прытуліліся Аркадзь і Владэк. Лепшага месца гэтак асталявацца, каб і шукаў, то не знойдзеш. Да аднае сцяны прыставілі столік, каля другое прымясціліся спаць. Гранаты, патроны, лішнюю зброю склалі ў скрынку і паставілі ў кут, каб не замінала.

Ціха. Чырвоным вузкім вокам санліва міргае свечка на прыбітай к сцяне бляшанай падстаўцы. Смуродзіць копаць...

Пасярод століка бутэлька з празрыстай вадкасцю, лусты хлеба, талерка з кусочкамі каўбасы, на рагу—два бліскучыя маўзеры.

На нізкіх чорных сценах скляпка блукаюць цьмяныя бляскі, варушацца фантастычныя цені. Недзе зверху шкробае мыш...

— ... За нашу няўміручасць!

Дзынкнула над сталом шкло. Прыціхла мыш...

Адным махам Аркадзь перакуліў у рот горкую вадкасць, гідліва зморшчыўся і грузна апусціўся на крэсла, напіраючы шырокімі грудзьмі на мулкі кант століка. Пасля некалькіх чарак яго язык зусім развязаўся.

— ... ты ўсміхаешся, Владэк? Дарэмна. Я не ганюся за грашыма. Калі хочаш ведаць, я сам аплачваю большэвікам два рахункі: адзін падалі яны мне ў дваццаць першым годзе, другі—у дваццаць дзевятым... О, я аплачу! Пра дваццаць першы год я, магчыма, і забыўся-б, але, калі наступае кепскае надвор'е, у левай назе ніжэй калена ные костка: там сядзіць кусочак свінца...

— Якім гэта чынам?

— Мне не хочацца ўспамінаць. Брыдкія ўспаміны! От прыпамінаю і халадок па спіне прабягае... Налівай! Чаго нюхаеш?.. Я быў тады ў атрадзе бацькі Балаховіча. Бацька будаваў бліскучыя планы наступлення на Слуцак. Падрыхтоўваўся налёт на Вызну, дзе была перадавая пазіцыя чырвоных часцей. Мы заначавалі ў невялічкай палескай вёсцы. Перад днём нечакана наскочылі чырвоныя, паднялі паніку. Падумай, іхніх, як потым высветлілася, быў толькі адзін узвод, але камандзір схітрыў; ён на ўвесь голас падаваў каманду: «Батальён наперад! Батальён—наперад, наперад!!!» і, ахопленыя жахам, мы ўцякалі ў споднай бялізне за раку—у лес. Мяне ранілі ў нагу. Я дапоўз да адзінокага хутара, там мяне прытулілі, а пазней, як уляглася сумятня, я пацiху перабраўся ў гэты скляпок. Рэвалюцыя не хацела жартаваць з нашым братам. Пад гарачую руку тады здраднікаў... хе-хе... пускалі ў расход. Але я мог забыць пра рану (калі тое было!), мог-бы даравадь дваццаць сем дзесяцін адрэзанай пры землеўпарадкаванні зямлі. Але другі рахунак... Налей мне чарку... У галаве шуміць...

[1]) Паломнік—прыбудоўка к гумну.

— О, табе не зразумець майго болю!.. Нас загналі ў Сібір, а ў нашай хаце асеў парабак!.. Гаспадарыць!..—ужо крычаў Аркадзь, страшна бліскаючы мутнымі вачыма.

— Цішэй...

Ён цяжка дыхаў, сціскаў валасатыя кулакі. Потым пахмурнеў яшчэ больш, палажыў стрыжаную галаву на рукі і сядзеў гэтак некалькі хвілін.

— Бацька памёр у Сібіры... Перад смерцю ён прасіў адпомсціць галадранцу, што выцяг яго з хаты, а сам запанаваў... О, не дарую! Я пакляўся слязмі!..

Аркадзь падпёр далонямі шчокі. Заспяваў. Тужлівым напевам клекатаў у горле хрыплы голас.

Свет лампадкі мігціць
І гарадь дарагія каралі...

— Удала!—ажыў, засумяціўся асавелы Владэк.—На яе сціплых грудзях зіхацяць дыяменты! А вочы... вочы... Памятаеш бальны вечар у пана Вжэжынскага?

... Каб другія ад нас памiралі!

— гвалтаваў Аркадзь. Замілаваны ўспамінамі, Владэк палажыў недаедзены кусок хлеба і пачаў падцягваць тоненькім рэчытатывам, недалужна выпучваючы налітыя крывёю рухлівыя вочкі:

Будзем доўга мы жыць,
Каб другія ад нас паміралі!..

Словы слабелі. Блыталіся языкі. Чорная, абкураная свечкаю, столь скляпка душыла, прыціскала чужыя галасы.

— Ты ўспомніў бал,—апатычна лыпаў мутнымі вачыма Аркадзь і грэбліва моршчыўся, тупа гледзячы на недапіты келіх.—Шыкоўны бал!.. Хе-хе... Я пачынаю сумаваць па жаночым целе... Хочу пакаёвай цішыні... Хе-хе... Звярыныя інстынкты? Ну і што?! Усё— к чорту!.. Даеш яе!..

— Не раві на ўсё горла.

— Пляваць я хацеў! Ух... горача...—ён шоўкавай хусцінкай сціраў з твару бліскучыя кроплі поту.

Зверху пачулася ледзь улоўнае шамаценне. Вострае вуха Владэка злавіла шум і ён схапіў са стала бліскучы маўзер, павольна падняўся і прылажыў вуха к дзверцам у столі. Упалі глухія ўдары... Владэк палажыў на месца маўзер і адчыніў дзверцы. У чорную адтуліну на падстаўленае крэсла ссунулася старая. У яе фартуху нешта было. Яна некалькі хвілін стаяла, зажмурыўшы старэчыя вочы; потым зашамкала бяззубым ротам:

— Як маецеся, дзеткі?

— Жывём, мамаша!

— Ой, шынок... шынок мой... Доля ваша сабачая...

— Маці...—насупіўся Аркадзь.—Няма чаго гараваць. Рэзаць трэба, кроў пускаць! Я не пераношу слёз... Ну...

— Калі-ж вы ўжо пойдзеце? Ой, што-ж я забылася... Я вам каўбаскі прынесла...—схапілася старая за фартух: — Сілкуйцеся, дзеткі...

— «Гаспадар» дома?

— Дзе бачылі—чэрці яго носяць... Не прыпыняецца.

— Садзіся, маці. У нас да цябе справа.

Старая асцярожна, ніба баючыся растрэсці сухія косці, апусцілася на крэсла і, прагарнуўшы хустку, наставіла тугое вуха. Па азызламу твару сына хадзілі жахлівыя чорныя цені.

Дагарала свечка. Асавела плюскала вузкае крывавае вока...

— Маці, калі ён застанецца дома—зайдзеш сюды.

Па чорных збуцвелых сценах папаўзлі, заварушыліся лахматыя цені. На ацёкшай расплаўленай свечцы сударгава ўсхліпнуў крывавы аганёк...

## IV

Таямнічае жыццё пачалося ў прыгранiччы.

Там, дзе з-пад снегавых намётаў вытыркала чорная павуціна калючага дроту, начную цемень свідравалі сотні вачэй. У звонкую марозную цішыню напружана ўслухоўваліся чуткія пагранічнікі. Цёплыя пальчаткі саграваді настуджаную сталь вінтовак. Ледзь варушыліся, цмяна паблiскваючы, чорныя іголкі штыхоў, нібы намацвалі нябачныя целы ворагаў.

За некалькі кілометраў ад граніцы на ўзлесках, на скрыжаваннях дарог, каля мястэчка, у прыгранічных сёлах—усюды, дзе мог паказацца вораг, стаялі вартавыя пасты мясцовага насельніцтва.

Трывога падняла людзей на ногі.

Недалёка ад мястэчка трэцюю ноч вартавалі калгаснікі з калгаса «Верны шлях». Мароз не даваў спакою, прабіраўся нават пад аўчыны кажухоў. Мужчыны тупалі і паціху лаялі тых, што парушалі творчую плынь калгаснай працы.

— Я-б іх, гадаў, сваімі рукамі перадушыў...—мармытаў Яўхім Сукала.—Запаляць гумны з сенам, а самі за загражджэнне... Дудкі! Хай дзесяць начэй не паспім, але на сваім паставім.

— Спакою няма,—злаваўся Адам. У галаве стаяў шум, апухшыя павекі былі цяжкімі, у скронях усёроўна як хто стукаў малатком.—Утыкаюць паганыя рылы ў чужое...

— Ого, ім не сядзіцца—карціць! Праўда такі: бяльмо на воку, як казаў настаўнік... (Яўхім памаўчаў, плюнуў убок).—Не пусцім назад, макам яны тут сядуць. А ведаеш што?

— Ну?

— Сёння бачылі на палетку след.

— Дзе?—насцаражыўся Адам.

— На Высокай горцы. Нехта ішоў у ботах—след павёў у лес.

— Сказалі начальніку?

— А як-жа?

Цішыня. Толькі снег рыпіць ды дзесьці не зусім далёка гулка загудзе, а потым зноў прыціхне матор—гэта манеўруе грузавая машына, абмацваючы цемень чырвонымі агнямі сваіх фар.

Адам курыў, хаваючы ў рукаў слабы аганёк папяросы. Глыбока зацягваўся горкім дымам. Гэтак лепш было думаць. У яго ўзніклі непагадняльныя супярэчнасці; ён пачынаў сумнявацца, што тыя, каго ён бачыў у тую марозную раніцу, былі дыверсанты. Тады ішлі ўдвух, аднак паводле апавядання Яўхіма, на ўзлессе павёў усяго адзін след. А дзе тады мог дзецца другі дыверсант? Ніхто не бачыў, каб тою дарогай ішоў пад мястэчка які-небудзь чужы чалавек.

Назаўтра, хмурай раніцай па мястэчку пабегла чутка, што ўночы, туды ўжо пад дзень, нехта спрабаваў падысці к кароўніку. Адам пашоў праведаць гэтую справу. Сапраўды на снезе засталіся сляды ад ботаў.

З адчыненых варот кароўніка паказаўся Яшка з прыпухлым ад бессані тварам. Млявымі крокамі падышоў к Адаму.

— А мне каторыя веры не даюць,—загаварыў пакрыўджаным тонам Яшка, пацiраючы левае вока.—Кажуць, мо' здалося што. Каб не гэтыя сляды, то мяне на смех-бы паднялі.

Яшка ахвотна расказаў пра начное здарэнне.

— ...і прапаў між гумен. Сёння чырвонаармейцы ўсе куткі тут перапаролі і нікога не знайшлі. Як у вадзе растаў... Мне цяпер і ўдзень боязна адсюль адыходзіць.

І ўжо шэптам:

— Начальнік заставы казаў, каб я вокам не маргнуў. Яны туляюцца недзе на нашым баку, бо цераз граніцу яшчэ не перайшлі.

* * *

Трывожны настаў час.

Як толькі вечар расхінае над аснежанай зямлёю свае халодныя сінія крыллі, таямнічыя шолахі пачынаюць блудзіць у прыгранiччы.

На змярканні з хаты, у якой жыве Адам, высоўваецца згорбленая Жуковічыха з рэшатам пад рукою. Можна падумаць, што яна ідзе ў гумно па якой гаспадарчай справе. Адам і Ганупя кожны дзень былі позна заняты працай. Вечарам пасля возкі дзерава Адам заказваў каму на якую заўтра ісці работу, а Ганупя тымчасам даіла калгасных кароў. Яны не заўважалі дзіўнай перамены ў паводзінах старое.

Згорблены чорны сілуэт марудна плыў да гумна, што стаяла непадалёку ад хлявоў у занесеным гурбамі снегу вішнёвым садзіку.

Тыя разы старая Жуковічыха вылазіла са свае баковачкі толькі ў выпадку самае пільнае патрэбы, а цяпер нават выходзіла да суседзяў, прыслухоўвалася да гаворак і шмат плакала па сваім сыну, што недзе гібее ў чужым краі... Старая расказвала, што яе сын прыслаў нядаўна з Сібіры пісьмо і, божа мілы, пра якія жахі піша ён, яе добры, гэтак несправядліва пакараны лёсам, сынок Аркадзь...

У сваёй баковачцы старая ўкленчвала на каленях перад маленькім абразком прасвятой багародзіцы... Яна гаварыла малітвы. Падслепаватыя вочы добра бачылі, што сын залішне смела ходзіць на краі бяздоння. Старую скручваў жах... Яна па некалькі гадзін засаб усё малілася ў сваім улюбёным куточку. Пакарэжаным сухім лісцём шуршэлі пергаментныя вусны і прасілі яўнай дапамогі ў маўклівага

госпада бога і слалі праклёны антыхрыстам з пяцікутнымі вогненнымі зорамі...

Яна выпаўзала на хату і назаляла слязмі.

— От, госпадзі... госпадзі... Як ён там пакутуе...

Аднойчы Адам не вытрываў: абрыдлі фальшывыя ўсхліпы.

— Ты, старая, не плач аб сыну,—ціха, праз зубы сказаў ён, адарваўшыся ад кніжкі.—Чэрці яго не скалупяць... Адно хай робіць. Працуе хай сумленна, то і жыць будзе па-чалавечаму. Гэта мне з вашай добрай ласкі адгараваць прышлося... Катарга настаяшчая была... Душыўся, душыўся, а прыходзілася, што як сабака галодны скавытаў пад дзвярамі. (Голас Адама ледзь задрыжаў, ён адвярнуўся к акну і казаў далей, пазіраючы ў шэрую ваконную муць. А калі пачне зубы вастрыць і агрызацца, то за контррэвалюцыю, ясна...

## V

Гудзе і стогне мяцеліца, і слоў чалавечых—не разабраць, не зразумець што к чаму... Лазіць вецер па шчылінах у сцяне, драпае нібы кіпцюрамі, пасвіствае, разрывае словы і нельга што-небудзь зразумець...

— ... Так...

— ... Апошняя ноч... Хе-хе...

— ... У цябе ўсё падрыхтавана?..

— ... Усё.

— ... Колькі цяпер?

— Тры ночы...

— Ты ўпэўнен, што ён...

— Маці казала... абавязкова... будзе дома...

— Добра. Ах, ч-чорт... Засвяці ліхтарык...—я нічога не бачу... Асцярожней... Даволі...

— ... значыць... каля вышкі... Бяжы туды з усіх ног. К таму часу я паспею... прыкончыць...

— ... каля вышкі...

— Цс...

— Што?

— Цішэй...

— ... Варотцы не рыпяць,—цягні к сабе...

— ... Выпраўка... Форма... Без лішніх слоў...

— ... Ясна...

Свішча вецер і абдае гарачы твар сцюдзёнымі пацалункамі. Зблыталіся словы... Што к чаму?.. Толькі—вышка, вышка!

У мяцеліцы, у сівай ночы, далёка за мястэчкам стаіць вышка, недарэчна падняўшы ўгару свой сухі чорны шкілет...

Там сыдуцца два чалавекі...

## VI

Два разы ў тыдзень збіраўся палітгурток. Комуністы вывучалі гісторыю партыі. Не зважаючы на празмерную загружанасць гаспадарчымі справамі і клопатамі, Адам акуратна наведваў гурток. Зімовымі вечарамі карпеў над кнігамі. З апошніх занятак прышоў апоў-

начы. У сенцах абтрос з вопраткі снег, абабіў мятлою валёнкі і толькі тады зайшоў у хату. Запаліў лямпу.

З ложка падняла галаву Ганулля:

— Дзе ты дасюль?..

— На занятках-жа.

— А-а...

— Мяцеліца на дварэ—свету не відаць.

— А я толькі што з кароўніка,—з захапленнем загаварыла Ганулля—«Красуля» была на цяленні, то я гэтыя часы не адступала ад яе. Сёння бычка яна прывяла. Смешны такі, цыбаты...

Ганулля з замілаваннем пазірала ў адамавы вочы: блакітнасць гасла і свяцілася ў іх удумлівая суровасць, і зусім як-бы не тыя вочы, не такія, як былі калісьці ў моладасці, але любыя, родныя.

— Ты мабыць не вячэраў?

— Не.

— Я такі бачу; што ўсё нечапана ў печы. Даставай там капусту; і мяса на скавярадзе...

На дварэ заходзілася мяцеліца, трубіла глухім басам у коміне. Адам апетытна павячэраў, не прыбраў са стала пасуды і, патушыўшы лямпу, лёг спаць. Па целу прайшла да асалоды прыемная млявасць, перад заплюшчанымі вачыма замітусілася мяккая аксамітная імгла.

Сон агарнуў адразу.

Колькі давялося спаць, ён не ведаў. Яму здалося, што ён адно паспеў заплюшчыць павекі. Яго будзіла Ганулля. Скрозь непераможную дрымоту ён ледзь-ледзь чуў, як нешта гаварыла ўзрушаная жонка; словы не даходзілі да свядомасці—заглухалі ў тумановай дымцы... Але Ганулля была няўмольнай.

— Не чапай... Спаць... спаць...—спрасонку смагла прашапталі вусны Адама; і ён ямчэй павярнуўся на ложку, адкінуўшы ў бок аголеную мускулістую руку.

— Чуеш?..

Адам штосьці нездаволена прамармытаў...

А ў сенцах чулася назойлівае і патрабавальнае бразгаценне клямкі.

— Ты аглух, ці што?.. Лёг як камень... Уставай!.. Нехта стукаецца!.. Чуеш?..

— Што?..

— Стукаюцца к нам...

— Дзе стукаюць?..

— Ай... ай... Устань ты, божа мой!.. Як нежывы! Можа няшчасце якое здарылася...

— Запалі агонь, а я выйду...—усхапіўся з пасцелі Адам.

Ён торапка ўзаткнуў на босую ногу валёнкі і вышаў. Па дзвярах сянец шкрабаў вецер, і звінела ў акенцы незакітаваная шыбка...

— Хто там?..

— Адчыняй—свае!—пачулася з-за дзвярэй.

Голасу Адам не пазнаў. Ён стаяў у нерашучасці. Паволі рабілася страшна... У цемені сянец стукнула лесвіца. Адам здрыгануўся і тут-жа ў думках пакпіў над сабою: «Мабыць кошка скочыла, а я...»

— Што вам трэба?

— Адчыняй!

— Хто-ж гэта?

З-за дзвярэй строга, з прыціскам на кожным складзе:

— Ка-мен-да-ту-ра.

У хату цераз парог пераступілі два чырвонаармейцы ў кароценькіх кажушках, падпяразаных шырокімі папружкамі. Твары чырвонаармейцаў былі захутаны ў шлёмы. На шлёмах і ботах бялеў густа налеплены снег. Высокі астаўся ў парозе; ён стаяў усё адно як у караўле—выцягнуты ў струнку з прыстаўленаю да нагі вінтоўкаю. Нізенькі, з вытыркшым са шлёма птушыным носікам, бойка прайшоў на сярэдзіну хаты, на-хаду папраўляючы бліскучую ад вільгаці кабуру.

— Адам Навіцкі?—звярнуўся сухатвары да Адама.

— Я,—спакойна сказаў Адам, скідаючы з плеч жакетку.

Ганулля заўважыла, што Адам здзіўлен і хвалюецца, але трымае сябе ў руках. Яна прыбірала са стала пасуду і кідала позіркі то на чырвонаармейцаў, то на мужа.

— Вы арыштаваны!

Ганулля як несла на прыпек гаршчок, так і выпусціла з рук. Гаршчок з трэскам разляцеўся на чарапкі. На момант Адам застыў у нерухомай позе, уваччу аж пацямнела, заспаны твар яго гэтак збялеў—нібы нябачная шурпатая рука ўміг сцерла ўсю чырвань са шчок.

— У вашым распараджэнні дзесяць хвілін.

З апушчанымі рукамі стаяла жанчына каля прыпеку і, нічога не зразумеючы, збянтэжана ўтаропілася на сухатварага чырвонаармейца. А той быў маўклівы, замкнёны, строгі... Хістаючыся, як аглушаны дручком па галаве, Адам падышоў к лаве і пачаў адзявацца.

Нейкі час хата скавана была ланцугамі бязмоўя.

— Яго?.. Што-ж гэта?.. Яго... За што?..—устрапянулася і залілася слязмі Ганулля.

Чырвонаармейцы маўчалі.

— Яго... Што-ж гэта?..—наўзрыд галасіла жанчына.

— А торба трэба мужыку?—здзекліва ўхмыльнуўся сухатвары.

— Не трэба,—перасохшым голасам запратэставаў Адам.

Але Ганулля не звярнула ўвагі на словы мужыка і нібы ўтрапёная кінулася ў сенцы, прынесла кусок сала і, наўзрыд усхліпваючы, пачала ладаваць торбу. Яна да таго разгубілася, што не памятала дзе што ляжыць.

— Дзе я паставіла?.. Дзе наша соль?..

— Соль?—зноў насмешліва азваўся нізенькі чырвонаармеец з птушыным носікам.—Шукай, цётачка, шукай. Соль спатрэбіцца—свяжыну саліць скора будзем.

На развітанні Адам сказаў, вінавата ўсміхаючыся куточкамі губ:

— Не плач. Гэта памылка, ты-ж павінна ведаць...

А на дварэ мяцеліца-мяцеліца... Снег засыпае вочы.

У Адама раптам узнікла моцная трывога. «Куды-ж яны мяне?.. Чаму мы пашлі ў канец вуліцы, а не к сельсовету?.. Што гэта?..»

— Выбачайце, вы дарогу ведаеце?

— Не размаўляць!

Нібы абухам па галаве... Грудзі ўсё больш набракалі трывогаю і гаркотаю. Дасюль ён не хацеў паказваць хваляваньня: у ім жыла дужая ўпэўненасьць у сваёй сумленнасьці. Нават ён не мог думаць, каб наперадзе яго магла чакаць колькі-небудзь сур'ёзная непрыемнасьць... «Ну за што яны мяне?.. А, дробязь. Можа якая памылка вышла??»—развясельваў ён сябе.

За мястэчкам, у сутоньні пранізанай вятрамі ночы дружна грукаталі і шасталі крыламі ветраныя млыны. Там недзе пры цьмяным сьвятле ліхтароў набеленыя мукою калгасьнікі завіхаюцца каля поўных мяшкоў... Гэтак блізка яны, свае людзі... Як толькі мінулі самую крайнюю хату гэтае глухое соннае вуліцы, з поля шугануў нясьцерпна сьцюдзёны парывісты вецер. Загадкавыя чырвонаармейцы спыніліся і закруцілі Адаму назад рукі, не зважаючы на яго пратэст. Адам аж сумеўся,—неяк адразу яго цюкнула, што дзеецца тут нешта незвычайнае і благое. Ён увесь напружыўся, каб адгнаць ад сябе здэтанаванасьць, і тады—уперагонкі, пабеглі ў галаве дапушчэньні і меркаваньні, аднак-жа яны не маглі пакуль што сарваць фіранку невядомасьці з паўстаўшае перад ім таямнічае загадкі.

Сухатвары зьнік. Высокі павёў арыштаванага ў поле, без дарогі— ў чыстае поле, ў ноч, у апраметную завіруху... Ногі дзе-ні-дзе западалі па калені ў снегавыя намёты.

— Куды ты вядзеш?—спыніўся Адам.

І замест адказу—гнеўнае:

— Ідзі! Някалі разважаць! Будзь упэўнены: тут няма ніякае памылкі! Дарэмна ты апраўдваўся перад жонкаю! Ідзі!.. Ідзі на сваю пагібель, злыдзень!

Глухі стогн вырваўся з грудзей... Гэты ўдар быў такі нечаканы і страшэнны, што Адам ледзь утрымаўся на нагах...

— Пазнаў, га? Чаму-б не—даўнейшыя знаёмыя! Яшчэ дзяцьмі мы дужаліся,—памятаеш? Ад таго дня я цябе ўзьненавідзеў. Ты ганарыўся сілай—і вось цяпер мы падужаемся апошні раз!.. Ну, ідзі!..

... Адыходзіў у прадоньне ночы і скрадаўся сівагрывымі вятрамі дружны грукат калгасных млыноў. Гэтак-жа блізка былі свае калгасьнікі... Каб-жа ведалі яны... каб зналі...

Патухалі цьмяныя аганькі смутных падзей.

.... І ўсё перабблыталася, замітусілася...

Так... так...

· З-пад напластаваньня гадоў падымаецца ўспамін (з якою дзіўнай дэталёвасьцю захавала тое памяць!..).

Плачам басаногага хлапчука пачынаўся ўспамін—касьцістая рука крыўды сьціскала маленькае сэрца... Сілы хапала—ён-бы змяшаў з пяском гэтага чыста прыбранага пузача, але... Выганяць... А сьвет— страшны, чужы: ні бацькі, ні маткі...

Так...

Сілы было многа... але...

Чаму я іх не затрымаў?.. Дорага прыдзецца заплаціць за памылку!..

Астацца падыспадам?..

Дзікім гневам набрынялі мускулы... Паварушыў звязанымі рукамі—толькі балюча хруснулі суставы... Сьціснуў сківіцы...

— Гадзіна ты! Нікчэмная гадзіна! Памятай!!! Ты заб'еш мяне, але сам адгэтуль не выйдзеш!.. Табе тут будуць канцы!!!

— Ха-ха!.. Нашоўся прарок!.. Ха-ха!.. Зарана прарочыш мне смерць! Папрасіў-бы лепей літасці! Чуеш? Твая пагібель будзе жудасная!.. Твая шкура адплаціць за ўсё! Чуеш?!

А ён праз сашчэмленыя зубы:

— Маўчы, гадзіна!

Разгневана насілася па полю мяцеліца. Здавалася, у сівай ночы ярасна схапіліся два волаты-звяры—валтузяцца, цяжка дыхаюць і стогнуць, узрываючы лапамі слупы снегавога пылу...

Ліхаманкава працаваў мозг... «Загінуць... тут... на зямлі свае радзімы... Шчаслівае жыццё... і загінуць...» І ў апошнія хвіліны ён пазнаў яе: страшэнна не хацелася паміраць у час гэтага вялікаснага красавання новага жыцця.

* * *

Да крыві Ганула прыкусвала губы, каб стрымаць дзікі плач. І не магла.

Душылі слёзы... Роспач і злосць на кускі рвалі грудзі. «Што-ж гэта?!. Жыла... не знала, што ён такі... Прадаўся... Хадзіў гэтыя дні як забойца... Чаго ён маўчаў?!. Не сказаў!.. Прадажнік!».

Кінулася на ложак, утуліла мокры твар у падушку. Уздрыгвалі плечы... «Не... не можа быць!.. Я не паверу! Гэтага не можа быць!.. Няпраўда!».

Усхапілася.

Чужая непрыветная хата...

Чорнае акно ў мышельніку...

«Не можа быць... Ён мяне гэтак кахаў... Ён-бы сказаў, каб што. Ён-бы не таіў ад мяне... О, не можа быць таго! Я запытаю ў самога начальніка, я раскажу яму праўду... Ён паверыць...»

Яна хутка апранула кажушок, накінула на сябе цёплую суконную хустку і выбегла на двор.

## VII

Усходжвалася мяцеліца. З пустэльных палеткаў прыходзілі на змроку сухія шолахі. Халоднакрылыя вятры зганялі к гумнам сыпкія снягі, блыталіся між будынкаў і, не знайшоўшы прытулку, ушякалі ў палявую змрочнасць і з дзікім свістам нясліадтуль белыя снегавыя воблакі.

Схаваўшы твар у высокі каўнер кажуха, Яшка тупаў вакол доўгага кароўніка; у другім канцы кароўніка, каля варот, што адчыняюцца на загуменную дарогу, стаяў дзядзька Яўхім і Яшка перакідаўся з ім скупымі словамі, нібы маючы намер штосьці сказаць, але не адважваючыся. Хлопца браў неўсцерп. У суматошлівыя ночы ён гарэў ваяўнічым запалам, да ўсяго пільна прыглядаўся, прыслухоўваўся, а недзе глыбока-глыбока цяплілася спакуслівая думка аб гераічным учынку, і пагардлівая ўсмешка ледзь кранала яго вусны: «Тады-б і яна не задзірала гэтак ганарыста свой нос... Не абзывала-б мядзведзем...»

З самага вечару Яшка аддаў вінтоўку дзядзьку Яўхіму, а сам некуды пацягнуўся.

— Куды-ж ты?

— Трэба палазіць дзе-небудзь,—ухіліўся Яшка ад прамога адказу.—А вы тут, пакуль я, адны паглядзеце...

— Няхай сабе так. Ты, чаго добрага, шпіёнаў не выпары!—кінуў услед Яўхім, ляскаючы затворам вінтоўкі і весела сам сабе смяючыся: «Бач, хітрун... Хоча схавацца ад старога чалавека. Нябось, спрактыкаванае вока паляўнічага бачыць па кім твае сэрца баліць. Гэ, брат, дудкі! Мяне не абманіш—ведаю якая цябе шпіёнка чакае... Ай, да хітрун!..»

Чамусьці Яшка не прыходзіў доўга. А тут, як на тое зло, і мяцеліца не заціхала. Усшалеўшы вецер круціў снегавы пыл сцюдзёным ўспененым вірам.

Яўхім пачынаў шпарчэй абыходзіць даўгі корпус кароўніка, стараючыся выстаўляць ветру плечы кажуха і ўцягваючы галаву ў казытлівую воўну высокага каўняра.

Яўхіма разбірала злосць. «Куды яго чэрці занеслі?.. От лайдак! На вячорках засядзеўся, каля Мані завіхаецца. Ай, да хітрун...»

І тут-жа прыходзіў да прымірэння. «Ну-ну, гуляй. На тое-ж і маладосць вам, каб ля каханай пазавіхацца. Гуляй ужо, гуляй,— не ўсё-ж табе каля кароўніка карпець».

... А сівая ноч завывала, сыпалася снегам...

## VIII

... І здавалася, у віхраметнай ночы валтузяцца і стогнуць два волаты—звяры...

— Стой! Ну от, ты прышоў да фінальнае грані! Фінал! Прыгожае слова, га?—і Аркадзь пырснуў у твар свае афяры пераможным рогатам.—Ты хацеў мае пагібелі, а загінеш сам, злыдзень!..—дыхаў ён смуродлівым перагарам.—Я распару табе жывот, жывому выцягну язык, паадрэзваю вушы і прывешу тут, от на гэтай вышцы! Сабачая кроў твая вымерзне і цела стане палохаючай косткай!..

З боку мястэчка грукнуў стрэл...

— Праваліў... маць тваю!—гнеўна вылаяўся Аркадзь і выцягнуў з-за пояса кінжал.

Адам не расчапляў сківіц. Зімовая сцюжа рассыпала па спіне ледзяныя ігліцы...

— Бачыш? Вось ён—твой бліскучы фінал!

Неспадзявана ўспыхнулі яркія аганькі кішэнных ліхтарыкаў. Калючае святло выхапіла з цемені дзве постаці.

З халоднай снегавой мятусні паўкругам высунулася чорнае шчаціннe штыхоў. Інстынктыўна Аркадзь хіснуўся назад і, узмахнуўшы кінжалам, з усяе сілы стукнуў Адаму ў грудзі. Адам плячыма ўпаў на снег. У парыве дзікага шаленства Аркадзь яшчэ раз ускінуў уверх руку, але трапны ўдар штыха з лязгам выбіў кінжал. Аркадзь рвануўся назад,—ён захацеў лепш памерці ў сутычцы, чым жывому здавацца ў рукі ворага. Аднак яго сударгавыя высілкі былі дарэмнымі—адусюль пазірала халодная сталь штыхоў.

Над распластаным на снезе чалавекам нахілілася некалькі чырвонаармейцаў.

— Жывы?..

На пытанне не пачулася адказу.

## IX

Тужліва звінелі тэлеграфныя драты, а слупы аж захлёбваліся басістым рокатам... А на душы яе было што—не раскажаш, каб і хацеў, не выплачаш таго, каб нават мора слёз стаяла ў жаночым сэрцы...

А мяцеліца... Вецер збівае з ног. Калючая жарства б'е ў твар. Ноч...

Гудуць слупы.

Спазмы душаць горла. Пякучы боль вострымі кіпцюрамі раздзірае сэрца... «Жыла і не ведала... Што-ж гэта? Не... Ён кахаў. Ён не мог хлусіць...»

Падбітай птушкай білася ў грудзях зняможанае сэрца. Душылі спазмы... І на ўсю ноч хацела крыкнуць—каб пачулі вострую нянавісць і нечалавечы боль, што перамяшаліся і закіпелі ў сэрцы... «А дзіця?..»—успомнілася Ганулі. «Там-жа яно ад плачу зайдзецца...» Яна ўгрунь кінулася назад.

У хаце не было агню. Гануля абмацала на камінку запалкі, засвяціла над калыскай. Хлопчык ляжаў раскрыты і цёр кулачкамі маленькі носік,—плакаў. Гануля накарміла малога і лягла ў пасцель. Думкі яе былі як ноч—цёмныя, чорныя, пераблытаныя. «Ён гэтак хораша гаварыў пра знойдзенае шчасце... Так... Да сёнешняе ночы я жыла ў радасці. Нарадзіўся сын—светлая ўцеха... і што-ж гэта?..» Бездапаможна скуголіла і прастуджаная мяцеліцай ноч, стукала ў ваконныя шыбы ледзянымі пальцамі... І здавалася Ганулі, што нехта чужы ідзе ў вароты, асцярожна шурхае па падваконню і зазірае ў хату мутнымі вачмі валацугі... Жанчына палохалася, хуталася з галавою ў коўдру. Аддаляўся, раставаў дзікі рогат мяцеліцы. Чамусьці марудна праплывала за акном ноч—мо' таму, што часта зазірала ў хату, а мо' з раны яе струменіла кроў: ніхто не чуў, як грукнуў на загуменні стрэл, мала хто бачыў узмах бліскучага кінжала.

На досвітку зайшоў Яшка. Хмурны нейкі і задуменны.

У печы ўжо выпальвалася: Гануля меркавала пайсці раней па-[illegible]ць каровы і даведацца пасля таго ў сельсовет. Змахваючы фартухом слёзы, яна расказала пра начны арышт.

— ... чырвонаармейцы, кажаш?—дапытліва зірнуў Яшка. Чорныя бровы ўздрыгнулі.

— Але. Прышлі сярод ночы і без гаворкі забралі яго. Нават торбы не паспела падрыхтаваць. Чорт ведае, што пашло...

— Ты не чула?

— Не...

Яшка працяжна ўздыхнуў.

— Сёння ўночы двух злавілі. Пад чырвонаармейцаў апрануліся. Адзін хацеў кароўнік спаліць, маленькі такі, нямудрашчы. Дзядзька Яўхім яго падстрэліў. А другі...

Гануля пляснула рукамі, загаласіла.

У расшыраных зрэнках жанчыны застыў жудасны спалох.

— Божа мой!.. Гэта-ж яны!!! Дзе Адам?!..

— Не плач...

— Што яны зрабілі?!

Страшэнная пакута агарнула змучаны бессанню і трывогамі твар жанчыны. А Яшка марудзіў: сядзеў каля стала; глядзеў сабе пад ногі і маўчаў.

— Забілі?! Чаму ты не гаворыш?!

З калыскі падало голас малое. Ледзь трымаючыся на нагах, Ганула падышла к дзіцяці.

У печы шыпелі прыпаленыя скваркі—не да іх было цяпер.

— Забілі?!. Яго забілі?

— Не палохайся...

Ганула трымалася за вяровачкі падвешанай к столі калыскі—ногі падкашваліся, і яна баялася паваліцца на падлогу. Яе погляд маліў, каб гэты хлапец сказаў хутчэй праўду, каб адкрыў страшную таямніцу і разам з тым на перакошаным твары можна было прачытаць: маўчы... маўчы, бо ты мяне заб'еш... я не перанясу гэтага... Я знаю: яго ўжо няма... Маўчы, хлопчык... А ў сярэдзіне—холад і пустэча...

— Не палохайся. Усё сышло добра...

— Яго забілі?!

— Ды не!

— Забілі??

— Сціхні. Чаго-ж плакаць... Адам жывы.

Заплаканы твар жанчыны прасвятлеў.

— Дзе-ж ён?..

— Цяпер напэўна ён ляжыць у больніцы. Яму тут зрабілі перавязку і ў раён—у цэнтральную больніцу—адправілі на машыне. Яго, ведаеш... ранілі... Добра што пагранічнікі прыспелі, а то быў-бы капут. Эх, на валаску адным вісела яго жыццё...

Яшка расказаў як усё было. На мокрым твары Ганулі цяклі буйныя празрыстыя слёзы. На сэрцы адлягло, палагаднела—нібы скрозь чарнату ночы прабіўся туды ласкавы сонечны прамень.

— Ну то я пайду,—падняўся з лавы Яшка і ўжо тонам сталага чалавека, злёгку чырванеючы, сказаў:

— А табе вельмі бедаваць не выпадае: выздаравее! Рана, кажуць, неглыбокая.

На сасмаглых вуснах Ганулі міжвольна выбілася светлая ўсмешка. Ёй гэтак хацелася верыць, што Адам вылечыцца!

— Каб-жа гэтак яно, як ты кажаш...—глыбока ўздыхнуўшы, прамовіла яна і падышла к печы.

Чуць займалася на дзень. На ўсходзе падымалася кволая празрыстасць.

Мяцеліца зусім аціхла, толькі белыя сляды пакінула—пухкія снегавыя гурбы.

У вялікасным спакоі прыходзіў сіні ранак.

Трэба было забыць на балючую рану ў сэрцы і ісці сустракаць новы дзень з поўнымі даёнкамі цёплага пахкага сырадою.

*Смалічы—Менск*

*Студзень 1936 г.*

*Ц. Аляксеенка*

## ПАСТУХ

Пад зарой шырокай, яснай
Зашумелі горда хвоі,
Заіграў пастух калгасны
Гучны марш ля вадапою.

Рэха ўдарыла ў даль сада,
Задрыжалі ў садзе вішні.
Неасяжным морам стада
На шырокі выган вышла.

Завагаўся лес рагаты
На ілбах быкоў здаровых,
Зараўлі ля кожнай хаты
Белалобыя каровы.

— Гэй, на луг, на луг шырокі
Ты выходзь, мой строй рагаты.
Там трава набухла сокам.
Смачнае
Травы багата.

Я травой той сакавітай
Скрозь усыпанай расою
Накармлю кароў да сыта,
Напаю на вадапоі;

Прыдуць вечарам даяркі,
Будуць радавацца ўдою.
Зацурчыць удой багаты,
Забушуе сырадоем.

Стада мерна йдзе лавінай,
Пад нагамі пыл клубіцца.
Туманы плывуць далінай,
На траве раса іскрыцца.

Пастух грае.
Сонца свеціць.
За ракой пасуцца коні.
Лес шуміць,
Лагодны вецер
Траў высокіх хвалі горне.

*А. Пятроў*

# ГАНСІ

*(Апавяданне з жыцця індускага хлопчыка)*

Вы ведаеце даяля? Калі не ведаеце, зайдзеце ў музей: вы знойдзеце яго чучала сярод трапічных птушак. Не падумайце, што гэта сарока. Праўда, даяль падобны да яе—такі-ж белы, з чорнымі плямамі і даўгім хвастом. Англічане празвалі яго «робінам-мегбі», гэта значыць рэпаловам-сарокай, бо па нораву даяль падобны да рэпалова, а па колеру да сарокі. Вядома, ён менш прыгожы, чым папугай, альбо масянзовы голуб. Затое гэта лепшая птушка-спявак Індыі, калі не лічыць мадраскага салаўя. Даяль не выкрыквае адным духам так як сарока «а», альбо як наша стракатуха-белабока, а выводзіць гучную музычную фразу: цін-цін-тррр-там, якую паўтарае на ўсе лады з ранку да захаду сонца. Не ведаю, ці праўда гэта, але кажуць, што ён пяе толькі для беднякоў і змаўкае, калі бачыць багатую вопратку і ганарыстыя твары.

Гледзячы на даяля, я ўспомніў аб адным індускім хлопчыку, якога звалі Гансі. У яго лёсе даяль адыграў не апошнюю ролю, хоць толькі спяваў і пагдядаў на Гансі круглымі вачыма. Вось чаму мне давялося расказаць пра яго.

* * *

Вячэрнія цені паўзлі ад лесу да берагу ракі. Гансі (ён быў падпаскам) гнаў стада ў паселішча. Сядзеў ён верхам на старым буйвале і даўгою бамбукавай палкаю падганяў кароў і авечак.

На ўскраіне лесу Гансі прыслухаўся.

— Цін-цін-тррр-там!—данеслася з вяршаліны велізарнага фігавага дрэва.

Гансі ўсміхнуўся. Ён знайшоў вачыма птушку і моцна закрычаў:

— Даяль, прынясі ледзянцоў!

— Цін-цін-тррр-там!—адказаў даяль і пераскочыў на другую галінку.

У паселішчы Гансі застаў незвычайнае ажыўленне. Перад халупаю старшыні сядзеў на лаўцы незнаёмы чалавек, адзеты па гарадскому. Вочы незнаёмца былі такімі, што маглі глядзець адначасова ў розныя бакі. Сівая барада веерам закрывала яго грудзі. Наўкола стаяў натоўп беззямельных рэптаў (сялян), сярод якіх Гансі ўбачыў і свайго бацьку.

— Дурні!—злосна крычаў незнаёмы.—Я паўтараю дзесяты раз:

мужчыны будуць атрымліваць па паўрупіі і дзве анны [1]), а жанчыны і падлеткі—па шасці анн у дзень. Вядома на сваіх харчах. Ці-ж гэта мала? Пераезд бясплатны. Кожны рабочы атрымае па чвэртцы акра зямлі для ўласнай гаспадаркі. Баракі новыя, прасторныя. Праца на чайнай плантацыі лёгкая. У святыя дні будзеце зусім вольныя. Харч танны і разнастайны. Месца здаровае.

— Саіб патрабуе занадта шмат для сябе,—баязліва кажа нехта з натоўпа.

Касавокі чалавек успыліў:

— Шмат?!—ускрыкнуў ён, ускочыўшы з лаўкі.—Я патрабую па трыццаць рупій з кожнага дарослага і па дзесяць рупій з падлетка. Гэта нікчэмная плата. Памятайце, што вы вернецеся дамоў багатымі людзьмі і будзеце ўсё жыццё дзякаваць мне.

Гансі не чуў канца размовы. Вечарам у халупе старшыні касавокі чалавек частаваў ромам самых уплывовых рэпстаў. Бацька Гансі прышоў дахаты п'яны, чаго з ім ніколі не здаралася. Раніцою ён абвясціў жонцы, што рашыў падпісаць кантракт на чатыры гады.

— Трэба паспрабаваць шчасця,—казаў ён.—У паселішчы работу знайсці цяжэй чым пэрліну на дне мора. Я вазьму з сабою Гансі і Бену. Аргуцці [2]) сказаў, што на плантацыі жыццё таннае і што гаспадар плаціць добрасумленна. Мы збяром некалькі сот рупій і заарандуем вучастак зямлі—акр альбо два. Тады нашы няшчасці спынящца.

Матка Гансі ўздыхнула.

— Чатыры гады!—прамовіла яна.—Я не пазнаю сваіх дзяцей, як яны вернуцца. Адкуль-жа ўзяць пяцьдзесят рупій для аргуцці?

— На гэта ёсць ліхвяры.

— Мы і без таго шмат вінны ім...

Пачаліся клопаты і зборы. Гансі пакінуў пасвіць жывёлу. Ён перабягаў з аднэй халупы ў другую, дзелячыся думкамі з сябрамі. Яму было і весела, і страшна, і сумна. Будучае ўяўлялася хлапчуку то радасным, то змрочным. Яго старэйшая сястра Бену адносілася да ад'езду вонкава спакойна, але Гансі ведаў, што ёй не хочацца выязджаць і што яна крадкам плача.

Напярэдадні ад'езду Гансі пабег на бераг ракі. Ён наведаў знаёмыя мейсцы і на развітанне праехаў на буйвале.

— Цін-цін-тррр-там!—пачуўся ў лесе голас даяля.

— Я выязджаю, даяль!—закрычаў Гансі.—Мы не ўбачымся цэлых чатыры гады.

— Цін-цін-тррр-там! Цін-цін-тррр-там!—адазваўся даяль. На гэты раз яго спеў прымусіў сціснуцца сэрца Гансі: ён заплакаў і бегма вярнуўся ў паселішча.

* * *

Была бязвоблачная раніца. Пасажырскі поезд стаяў каля перона. Машыніст—паўблакітны сінгалез [3]) чакаючы званка, глядзеў на сумятлівы натоўп. З-за яго спіны пазіраў качагар.

[1]) Адна рупія—65 кап., адна анна—4 кап.
[2]) Вярбоўшчык рабочых.
[3]) Сінгалезы складаюць асноўную частку насельніцтва вострава Цейлон.

— Зноў вязуць партыю індусаў,—сказаў качагар.—Можна падумаць, што на Цэйлоне няма рабочых.

— Самыя танныя рукі,—адказаў машыніст.—Іх гоніць з дому голад. Без індусаў паны плантатары не пабудавалі-б раскошных бунгале (палацаў).

Дзінь! Дзінь! Дзінь!

Машыніст выплюнуў чырвоную, ад батэля, сліну і даў свісток. Пры гэтым яго вочы спыніліся на гадзінніку. Роўна палова на дзявятую. Гэта даўгалыгі Томсон—дзяжурны на станцыі—дакладны нібы аўтамат.

Лёгкі нажым на рычаг. Паравоз уздрыгануў і, паскараючы ход, пакаціўся па рэйках. Машыніст высунуўся з акна. На гэтым участку трэба быць асабліва пільным: шлях ішоў праз Петтах—густа заселеную ўскраіну Каломбо. Толькі і глядзі каб не наляцець на воз альбо трамвай, калі вартаўнік у час не апусціў шлагбаум.

Вузкія вуліцы з радамі двухпавярховых дамоў, крытых чарапіцаю; базары, на якіх процьма людзей: будзійскія, магаметанскія, індыйскія храмы; сетка брудных каналаў, над якімі ўзвышаюцца будкі, рыкшы з пасажырамі...

Стоп! Што там на шляху? Так і ёсць—буйвал! Эх, д'яблы! Гу! Гу! Гу! Гу! Гу! Ага, бягуць, зганяюць. З-за гэтай жывёліны нядоўга з рэек зляцець. Які разява—пастух!

Бліскучая паверхня лагун, какосавыя гаі з радамі баракаў; абозы на шасэ; паселішчы, рысавыя плантацыі...

Ну цяпер уперад! Машыніст націснуў на рычаг і пусціў поезд на поўны ход.

Не гледзячы на тое, што вокны былі адкрыты, у вагонах «для чорных» было невыносна горача. Людзі сядзелі адзін ля аднаго, нават у праходах—мужчыны у адных павязках на сцёгнах, жанчыны—у рознакаляровых соры [1]) і кофтачках без рукавоў.

Нашым знаёмым—Гансі, Бену і іх бацьку ўдалося прымайстравацца ля акна. Ішоў дзесяты дзень іх вандравання, лічачы сем дзён праведзеных у цэйлонскім каранціне. Гансі хвалявала мноства новых уражанняў. Яго вочы ліхаманкава блішчэлі. Ён толькі і заняты быў тым, што ўставаў з лаўкі і высоўваўся ў акно.

— Што гэта? Што гэта?—пытаўся ён, паказваючы то на трамвай, то на вулічных гандляроў паветранымі шарамі альбо ліхтарыкамі.

Бацька, як умеў растлумачваў сыну.

— Тутэйшыя людзі не падобны на нашых,—задумліва праказаў Гансі.—Гэта сінгалезы? Дзіўна! Мужчыны і жанчыны адзяюцца аднолькава і мужчыны носяць доўгія валасы з грабенямі. Глядзеце, глядзеце—слон! Такі-ж, як і ў нас, толькі меншы. У яго на спіне хлопчык з карзінаю. І зебу гэткія, і буйвалы... Яны, як і ў нас, ляжаць у вадзе, а па іх разгульваюць чаплі. А што гэта за дрэва?

Бацька паглядзеў у акно.

— Гэта айні. Яно цвіце толькі адзін раз і потым гіне.

— Такіх дрэў у нас няма. Чаму яно цвіце ўсяго адзін раз?

---

1) Сукенка.

Глядзеце—якія вялізныя птушкі! Чырвоныя як агонь, а ногі даўгія—даўгія...

— Гэта фламінго,—сказаў бацька.

— Хлопчыку патрэбна ўсё ведаць,—заўважыў стары сусед.— Я бываў у Бірме, на Мадагаскары, у Ганалулу, у Сіяме. Чаго толькі не давялося бачыць! Ды вось я цвёрда ведаю адно: у розных краінах бамбукавая палка завецца па рознаму, але яна аднолькава балюча сцёбае па спіне нашага брата—кулі.

Поезд падышоў да станцыі. Пачуўся шматгалосы крык: курумба! курумба! У вокны накіраваліся дзесяткі рук з няспелымі какосавымі арэхамі. Пасажыры куплялі іх па шэсць цэнтаў за штуку. Прадаўцы жвава адсякалі ў арэхаў вяршкі, а астатнюю частку, напоўненую «малаком», падавалі ў вокны вагонаў.

Праз тры гадзіны поезд пачаў падымацца на горны хрыбет. Віды штохвілінна мяняліся. Быстрыя рачулкі з аброслымі папарацю і кустамі берагамі з шумам пеніліся сярод валуноў. Прыгожымі тэрасамі раскінуліся па схілах падзі (рысавыя палі), а вышэй—да горных вышынь—цямнелі пушчы. То тут, то там сярод лесу віднеліся вялікія прагалы з пабудовамі, пакрытымі жалезам альбо чарапіцай.

— Чайныя плантацыі,—растлумачыў сусед.

Поезд з грукатам уваходзіў у тунелі і выбягаў з іх захутаны дымам. Ён так крута паварачваў на краю бяздоння і вагон так гойдаўся, што ў Гансі замірала сэрца.

* * *

На маленькай станцыі рабочым загадалі сыходзіць. Іх сустрэў суровага віду чалавек і ў той-жа час павёў на плантацыю. Давялося доўга падымацца на гору, але Гансі не адчуваў стомленасці, бо любаваўся лясамі і вадападамі.

Па грабяні ўзгорка правільнымі радамі стаялі баракі («лініі», як іх звалі), а ніжэй—на беразе рэчкі—ўзвышаўся трохпавярховы будынак чайнай фабрыкі з круцячымся вадзяным колам.

Рабочых размясцілі ў бараках. Сямейных змясцілі ў малюсенькіх пакойчыках, падобных на хляўчукі, а адзінокіх—у агульных памяшканнях. Мэблі не было: замест пасцелі выдалі па адной старой цыноўцы.

Гансі з бацькам і сястрою далі вуглавы пакойчык. Праз страху цякло і гліняная падлога ў куце ператварылася ў гразь.

Калі рабочыя ўпарадкваліся, іх выклікалі ў кантору. Зморшчаны стары (кіраўнік плантацыі) сказаў з ганку невялікую прамову. Ён успамянуў умовы найму і папярэдзіў, што «бунтаваць» і «гультаяваць» не дазволіць. Кулі павінны выконваць устаноўлены парадак, беражліва адносіцца да гаспадарскай маёмасці, захоўваць у бараках чыстату, не п'янстваваць, не буяніць, паважаць сваё начальства. Прадукты можна купляць толькі ў краме гаспадара за наяўныя альбо ў доўг. У святошныя дні кулі будуць вольныя, калі не здарыцца якой-небудзь тэрміновай работы.

Нехта з натоўпу запытаў, калі дадуць абяцаныя ўчасткі зямлі. Кіраўнік ухіліўся ад простага адказу. Ён стаў гаварыць аб непахіс-

насці дагавароў і ў заключэнне выказаў надзею, што рабочыя будуць разважнымі, «як дзеці, у якіх ёсць клапатлівыя бацькі».

Ззаду кіраўніка стаяў кангані (наглядчык), той самы суровы чалавек, які прывёў рабочых на плантацыю. Ён хмура пaглядаў на сваіх падначаленых. Калі яго погляд спыніўся на Гансі, хлопчыка ахапіў незразумелы страх.

* * *

Наступнага дня, ледзь зашарэла неба, Гансі разбудзілі гукі там-тама. За паўгадзіны трэба было паснедаць, прыбраць памяшканне і ўзяць са складу ўсё патрэбнае для работы.

Гансі атрымаў высокую карзіну з чароту і разам з іншымі накіраваўся на плантацыю. Настрой у яго быў узняты. Ён глядзеў на горы, залітыя барвовым ранішнім святлом, на туман у цясніне, на нябачаны іней, які пакрываў траву,—і яго сэрца білася ад хвалявання. Усё, што ён бачыў, было такое новае і падобнае на чароўны сон!

Над абрывам стаяў прыгожы дом, абкружаны кветнікамі. У ім жыў гаспадар плантацыі. Гансі загледзеўся на дом і крыху адстаў ад рабочых. На яго завурчэў вялікі сабака, падобны да леапарда. Гансі спалохаўся і кінуўся даганяць сваіх.

На плантацыі рабочых разбілі на гангі (атрады) па дванаццаць— пятнаццаць чалавек у кожным. Кожным гангам камандаваў асобны кангані. Навічкоў расставілі каля чайных кустоў і растлумачылі якія флешы (парасткі) трэба зрываць. У пачатку справа ішла марудна: вочы разбягаліся па зелені і флешы выкоўзваліся з рук. Кангані заўважалі кожны промах, але не вельмі прычэпліваліся, бо ведалі, што людзі яшчэ не прызвычаіліся да работы.

Гансі збіраў чайны ліст не горш за іншых. Работа здавалася яму лёгкай і цікавай. Ранішняя прахалода прыемна асвяжала цела. Па прыкладу сястры, ён стаў зрываць флешы не толькі правай, але і левай рукою. Скора Гансі ўпэўніўся, што работа ідзе хутчэй, калі не апушчаць вачэй к карзіне, як кідаеш у яе парасткі, а засяроджваеш увагу на кусце. Гэты спосаб дазволіў Гансі высунуцца ў першыя шэрагі ганга.

— Так, так, добра,—гледзячы на яго, прыязна сказаў кангані.

Хлопчык узрадаваўся і стаў працаваць яшчэ жвавей.

Партыя Гансі складалася з жанчын і падлеткаў. Поруч працаваў другі ганг, за ім яшчэ і яшчэ. Велізарная плантацыя кішэла людзьмі. Чуўся шорах чайных кустоў, стрыманая гаворка, звон танных бранзалетаў і маніст. Парыўчаты вецер варушыў лісты цынхоны і камфарнага дрэва, якімі была абсаджана плантацыя.

Сонца падымалася ўсё вышэй; яго гарачыя прамені пяклі спіны і галовы рабочых. Шмат хто накінуў на сябе лёгкія пакрыўкі. Гансі прывык да спёкі, але ў яго ад напружанай работы разбаліся пальцы і паясніца. Ён усё часцей выпростваўся і апускаў рукі.

— Працуй! Працуй!—сурова пакрыкваў кангані.

У поўдзень пачуліся гукі там-тама. Частка рабочых пабегла да баракаў, а астатнія ўселіся пад кустамі, паснедалі тым, што заха-

пілі з сабою. Гансі з сястрою прымайстраваліся ў цяні дрэва і з'елі па рысаваму праснаку і банану.

— Дзе дад (бацька)?—запытаў Гансі.

— Не ведаю: бадай працуе ўнізе,—і сястра паказала на фабрыку.

— Тут прыгажэй, чым у нас,—сказаў Гансі, гледзячы на горы.— Што там блішчыць? Мора? Біп кажа, што вакол Цэйлона можна аб'ехаць на параходзе. Праўда?

— Не ведаю,—адказала сястра.

Гансі памаўчаў.

— Тут горы і мора, затое ў нас рэчка і лугі і бамбуковыя гаі,— задумліва сказаў ён.—А галоўнае—усё знаёмае, не тое, што тут.

Сястра ўздыхнула і лягла тварам у траву.

Зноў прагучэў там-там. Нібы з-пад зямлі з'явіліся кангані. Рабочыя сталі на свае месцы і іх рукі замільгалі вакол кустоў. Нясцерпна пякло сонца, чайныя лісты блішчэлі, як глянсаваныя, і мігцелі ў ваччу. Калі Гансі глядзеў удалячынь, ён бачыў, як струменілася ў цяснінах насычанае выпарэннямі паветра. Ад ранішняга ажыўлення навічкоў не засталося і следу; яны працавалі моўчкі і часта скоса паглядалі на сонца.

Раптам кангані ўзнялі крык і забегалі вакол сваіх гангаў: на плантацыі з'явіўся кіраўнік. На ім быў гарнітур белы як снег, а на галаве—шлем з шырокімі палямі. Не гледзячы на паджылы ўзрост, ён рухаўся і жэстыкуляваў з незвычайнай энергіяй.

— Чаму так марудна працуюць?—крыкнуў ён, падышоўшы да ганга Гансі.

— Навічкі, сэр,—адказаў кангані.

— Падганяй гэтых гультаёў! Не шкадуй палкі!

Ён прайшоў да іншых гангаў, адкуль разносіўся яго крык.

— Які злосны саіб!—ціха сказаў Гансі сястры.

— Маўчы!—адказала яна.

Кіраўнік доўга хадзіў па плантацыі і крычаў на рабочых і кангані. Калі ён пайшоў, усе ўздыхнулі вальней.

Нарэшце сонца кранулася далёкіх гор. Залатое воблака стала цагляна-чырвоным, потым—шызым. З цясніны стала дыхаць халадком. Калі сцямнела настолькі, што маладыя чайныя лісткі сталі зліваццa са старымі, загучэў доўгачаканы там-там. Кангані загадаў знесці сабраны ліст на фабрыку і здаць на склад карзіны.

Прышоўшы ў барак, Гансі ад знямогі паваліўся на цыноўку. Сястра сілком прымусіла яго з'есці крыху варанага пшана. Бацькі яшчэ не было. Гансі заснуў і бачыў у сне страшных яшчарак, якія гналіся за ім па плантацыі.

* * *

Прайшло васемнаццаць дзён. Гансі ўцягнуўся ў работу. Вядома, ён вельмі стамляўся, але спаў моцна і не бачыў у сне страшыдлаў. Кангані быў ім задаволены.

— З гэтага хлапчука будзе толк,—гаварыў ён пра яго.

Гансі навучыўся падначальваць свае рухі рытму. Ён быў ганарлівы, цярплівы і ўмеў працаваць з захапленнем. Даўно прайшоў

той час, калі ён зрываў у мінуту трыццаць—сорак парасткаў. Цяпер ён зрываў восемдзесят і больш, не забываючыся адначасова адкідваць у бок «бенджы» і «рыбіныя хвасты» [1].

Кангані пакрысе павялічваў яму норму збірання, хоць заробак хлопчыка заставаўся ранейшым.

* * *

— Гансі, у лес!

— Зараз.

Была нядзеля—дзень адпачынку.

Далёка адыходзіць ад баракаў не дазвалялася, але хлопчыкі ведалі лаз—зарослы кустамі яр, па дну якога можна было непрыкметна прайсці ў лес.

— Цяпер да «сланя»!

Так хлопчыкі празвалі каменную глыбу, якая некалі звалілася з скал. Каля яе шумеў чорны паток і распасцёрлася зялёная лясная палянка.

З дрэў нібы канаты і трапецыі віселі ліяны. Гансі з разгону схапіўся за ліяну і стаў гойдацца на ёй, пераймаючы рухі малп. Біп таксама ўзбіраўся на ліяну, але са стогнам апускаў руку.

— Што з табою?—са спачуваннем запытаў старэйшы з кампаніі Рамеш.

— Мяне стукнуў кулаком кангані. Я не магу павярнуць рукі,—паціраючы плячо, адказаў Біп.

— Давайце напяком «джэкаў»,—прапанаваў Керым.

Хлопчыкі нарвалі кучу пладоў дзікага хлебнага дрэва. У кустах Гансі знайшоў зялёную змейку і, дурэючы, абкруціў яе, нібы маністы, вакол шыі.

— Знімі! Знімі зараз-жа!—спалохана закрычаў Біп.—Хіба ты не ведаеш, што змея можа прырасці да скуры?

Гансі скінуў змейку, якая хутка адпаўзла ў кусты.

Неўзабаве каля «сланя» запылаў касцёр. Хлопчыкі нанізалі «джэкі» на лучынкі і, падрумяніўшы над вугалямі, узяліся з апетытам снедаць.

— Мне заўсёды хочацца есці,—тоненькім галаском сказаў Керым.—Вы смеяцеся? Мне застаецца крыху цёртага пшана, таму што рыбу і рыс з'ядаюць дзеці.

— Так, вас пяць чалавек,—паківаўшы галавою сказаў Рамеш.

— І матка не працуе!—падхапіў Керым.—Яна хутка памрэ: у яе ў грудзях злы дух.

Гансі мімаволі глянуў на сябра. Худзенькі твар Керыма быў не па ўзросту сур'ёзны. Ён здаваўся маленькім старым, асабліва ў тыя хвіліны, калі задумаўшыся, глядзеў у адну кропку. Яго мініатюрная постаць з выпіраўшымі рэбрамі казала пра вялікае знясіленне, якое ўжо ўспела падарваць сілы хлопчыка.

Скончыўшы з «джэкамі», сябры палеглі на траве. Біп нарваў

[1] Бенджы—парасткі без пучкоў на верхняй частцы. „Рыбіныя хвасты"—парасткі з недаразвітымі лістамі.

травінак і пачаў плесці з іх ланцужок. У далечыні пачуўся шум: стада малп бегла па вершалінах дрэў. Сярод зелені замільгалі хвасты і барадатыя фізіяноміі.

— Кажуць, можна ператварыцца ў малпу,—гледзячы ўгору, сказаў Керым.—Дзеля гэтага трэба з'есці анону [1]), якую малпа патрымала ў поўнач у роце.

— Гэта грэх,—заўважыў Гансі.

— Грэх ці не, а я хацеў-бы зрабіцца малпаю. Я ўцёк-бы з плантацыі і жыў у лесе. Сытна, добра!

Хлопчыкі жвава павярнуліся да яго.

— Уцячэш?

— Так.

— Як-жа ты ўцячэш? На плантацыі-ж ёсць сабака выведнік.

— Няхай будзе дзесяць, усё роўна ўцяку.

— Зловяць,—упэўнена сказаў Біп.

— Не, не зловяць: я намажу падошвы камфоравым маслам і сабака не знойдзе следу.

— Куды-ж ты пойдзеш?

— Да дому—у Індыю. Я ведаю дарогу да мора. Там я пайду да рыбакоў альбо схаваюся ў трум парахода.

У супроцьлегласць Керыму, Чаран быў буйны, моцна складзены хлопчык. Ён мог рабіць любую работу за выключэннем той, якая патрабавала спрытнасці. Ні штрафы, ні біццё не маглі зрабіць з яго добрага зборшчыка лісця. Кангані лічыў яго ўпартым, хоць Чаран з шкуры лез, каб не адстаць ад іншых. Прычапкі зрабілі яго злосным, ён стаў нялюдзімы і неахвотна сустракаўся з таварышамі.

— Хто ў цябе дома?—запытаў Рамеш.

— Цётка. Хоць суседзі перадалі, што яна памерла ад чумы. Значыць, няма нікога. Але я як-небудзь пражыву.

Хлопчык памаўчаў.

— Ведаеш што?—тоненькім голасам сказаў Керым:—Я ўцяку разам з табою, добра?

— Што-ж, калі хочаш...

— У мяне ў Індыі дзядзька і старэйшы брат. Але я не ведаю дарогі.

— Знойдзем.

— Глупства,—сказаў Рамеш.—З плантацыі кожны год уцякаюць ды не гэткія, як мы, дарослыя. А ці шмат каму ўдалося дабрацца да Індыі. Ці-ж ты забыўся, што здарылася з Дадабхаі і іншымі?

— Што? Я не ведаю,—сказаў Гансі.

— А тое, што Дадабхаі да смерці забілі кангані (кажуць, ён супраціўляўся як яго злавілі), а двое іншых цэлы год сядзелі ў турме. Бішану—што працуе на фабрыцы, «вандэру» выбіў кулаком вока.

«Вандэру» [2]) была мянушка кіраўніка плантацыі.

— А чаму не ўдалося ўцячы?—горача сказаў Біп.—І ты і я—

---

[1]) Невялікі плод, расце на дрэве з сямейства ананасавых.
[2]) Адзін з відаў індыйскіх малп.

усе ведаюць, што «вандэру»—чараўнік. Ён размаўляе з бутанамі, як мы з табою. Калі здараецца што хто ўцякае, бутаны дапамагаюць яму лавіць беглякоў.

— Гэта правільна,—згадзіўся Рамеш.

— Якія ў яго вочы!—нервова сцепануўшы плячыма, сказаў Керым.—Кажуць, ён бачыць уночы, як тыгра.

— Ого! Хто паглядзіць яму проста ў вочы, той усёроўна памрэ: будзе сохнуць, сохнуць, пакуль не памрэ. Залетась быў такі выпадак. У крывога Азісвара захварэла жонка. Кашляе крывёю... Ну, зусім памірае. Стары Арабінда знахарыў, знахарыў,—нічога не дапамагае.

— Арабінда добры знахар,—сур'ёзна заўважыў Керым.

— Пайшоў Азісвар да кангані. Жонка, кажа, памірае, дазволь застацца ў бараку. Той, сабака, як зашыпіць, як запырскае слінаю: Куст, крычыць, перарос, і так падразаць няма каму!— Азісвар усяляк просіць—кангані і слухаць не хоча. Што тут рабіць? Азісвар дае яму рупію. А кангані кажа:—дай дзве, тады дазволю.

— Дзве рупіі?—ўсклікнуў Гансі.

— Ды яшчэ, кажа, будзеш мне плаціць не па пяць цэнтаў з дзённага заробку (як усе плацяць), а шэсць.

— Ай-ай-яй!

— Вось шакал!

— Нічога не зробіш. Азісвар дастаў дзве рупіі, дае яму, а сам плача. А тут, як з-пад зямлі—«вандэру».

— «Вандэру»?!

— Усё бачыў стары тыгра. Падышоў да кангані—спакойна, не спяшаючы,—паклаў яму руку на плячо і кажа:—Што ты з кулі бярэш па пяць цэнтаў—я да гэтага справы не маю. Усе бяруць і ты можаш браць. А за тое, што ты іх аслабаняеш ад работы,—за гэта табе ўляціць. Паглядзі мне ў вочы!

— Ну, ну...—з хваляваннем сказаў Гансі.

— Той паглядзеў, ды як крыкне! А «вандэру» засмяяўся і кажа: ідзі, ідзі, галубок, ідзі.—Бідху недалёка стаяла, чула.—Ідзі кажа...

— Ну, ну, і што?

— Пайшоў кангані, хістаецца. Падыдзе да дрэва і стаіць, і стаіць, як слуп. А потым як пабяжыць! Больш яго не бачылі. Кажуць звар'яцеў.

— А Азісвар?

— Спалохаўся, пайшоў на работу. Жонка памерла. Усё прасіла перад смерцю яго паклікаць, ды так і не дачакалася.

Гансі (ён слухаў вельмі ўважліва) уздыхнуў.

— Страшна як,—страсянуўшы галавою сказаў ён.

— Ты тут нядаўна,—сказаў Чаран,—пажывеш—убачыш што колечы і страшнейшае. Таму я і хачу ўцякаць. Лепш галадаць, чым...

Стада сіняхвостых папугаяў з шумам расселася па дрэвах. Хлопчыкі ўзнялі галовы.

— Гэткіх папугаяў у нас няма,—сказаў Гансі.—У нас зялёныя, з чырвонай шыйкаю.

— Зялёных і тут шмат,—адазваўся Біп.

* * *

— А здарылася раз, што і «вандэру» давялося,—сказаў Керым.— Памятаеш, тры гады таму назад?—звярнуўся ён да Рамеша.

— Калі рабочыя бунтавалі?

— Як гэта было?—запытаў Гансі.

— Працавалі мы з ім (Керым кіўнуў на Рамеша) на чайным гадавальніку—што каля рэчкі. Прыкрывалі расаду ад сонца папараццю. Толькі чуем—крычыць на Крутым схіле. Што здарылася? Бачым бяжыць адтуль «вялікі саіб», а за ім—рабочыя. Яны там падрэзвалі чайныя кусты, чалавек шэсцьдзесят.

— Восем гангаў было—каля ста чалавек,—паправіў Рамеш.

— Спалохаліся мы: тыгр [1]) ці што напаў, ці дзікія сланы? «Вялікі саіб» пераскокнуў цераз канаву і пабег на гару, а рабочыя крычаць нам: «кідай работу! Ідзеце да канторы!»—Кангані наш закруціўся і даў драпака ў кусты, толькі пяткі мільгалі.

— Баяўся, каб і яму не папала,—растлумачыў Рамеш.

— Потым казалі, што «вялікі саіб» два разы аштрафаваў усю партыю: яму здалося, што дрэнна абрэзваюць куст. Пачаліся нараканні. «Вялікі саіб» прыгразіў, што аштрафуе трэці раз. Тады рабочыя пакідалі нажы. «Вялікі саіб»—напалохаўся і ўцёк.

— Ён некага яшчэ штурхануў,—заўважыў Чаран.

— Не ведаю. Мы пайшлі за рабочымі. А на ўсёй плантацыі нібы пчолы шумяць. Гангі перамяшаліся, жанчыны таўкуцца каля карзін, мужчыны бягуць, крычаць... Ой, што было! І ўсе да канторы. А каля баракаў у там-там б'юць, ззываюць... як на пажар.

— Кангані ў лес уцяклі! Як зайцы,—з смехам сказаў Рамеш.

— Ну а потым што было?

— Збегліся да канторы. Агарожу зламалі, кветкі вытапталі. Чатырыста-ж чалавек рабочых. Крык, шум, нічога зразумець нельга. Толькі чутно:—«кіраўніка! Кіраўніка!»—Выйшаў «вандэру» на ганак,—страшны, без капялюша, вочы блішчаць... Убачылі яго, паднялі шум, свіст. А ён махае рукою, значыць гаварыць хоча. Як сціхлі, стаў ён гаварыць, што бунтаваць няможна, а калі рабочыя чаго хочуць, могуць прыйсці да яго і папрасіць.—Я, кажа, жадаю вам дабра, усе гэта ведаюць.

Хлопчыкі з усмешкаю пераглянуліся.

— Калі воўк заблытаецца ў сілкі, ён таксама соладка пяе,—прабурчэў Чаран.

— Ой, як пачалі тут крычаць! А Джэнда (адважны быў, у пакунковым цэху працаваў, на фабрыцы) ускочыў на ганак і кулакамі перад «вандэру» махае.

— А «вандэру» што?

— Стаіць, не варухнецца. Рукі ў кішэнях, сам зверам глядзіць.

---

[1]) Хлопчык не ведаў, што на Цэйлоне тыграў няма.

— Спалохаўся, вядома, але не паказваў гэтага,—сказаў Рамеш.

— Як нашумеліся, ён і кажа: перакрычаць я ўсіх не магу. Выберыце пяць чалавек, няхай прыдуць да мяне ў кантору і скажуць, чаго вы хочаце.—Завярнуўся і пайшоў у кантору. Ну, крычалі, шумелі і выбралі пяць чалавек. Пайшлі яны, а «вандэру» ім кажа:— няхай рабочыя разыйдуцца ў баракі, інакш і слухаць вас не буду.

— Хітры які!—заўважыў Біп.

— Тут рабочыя пачалі спрачацца.—Адны кажуць: пойдзем у баракі, а другія не хочуць ісці. Мы, кажуць, гэтую старую лісіцу ведаем; ён толькі таго і хоча, каб мы пайшлі.

— Як жа вырашылі?

— Спрачаліся, спрачаліся і пачалі патрошку разыходзіцца. Старыя баламуцілі: пойдзем, кажуць, а то нас у бунце абвінавацяць і ў турму пасадзяць. Баяліся. А «вандэру», калі рабочыя пайшлі, запёр упаўнаважаных на ключ, а пад вакном двух паліцэйскіх з рэвальверамі паставіў. Так і прасядзелі да вечара ў канторы.

— І не захацеў гаварыць з імі?

— Вядома, не. Арыштаваў і ўсё. Джэндра і іншыя—чалавек трыццаць—хацелі іх вызваліць, а ўжо вакол канторы ўсе кангані і паліцэйскія сабраліся. У кожнага ў руцэ рэвольвер. Так і вярнуліся нічога не зрабіўшы.

— Тым бунт і скончыўся?

— Вечарам з'явіліся салдаты і арыштавалі сорак тры чалавекі. Потым прыехалі з горада важныя саібы, але ў рабочых нічога не пыталіся, а агледзелі баракі і клець. З імі хадзіў гаспадар і «вандэру». Пасля гэтага тыдні два не было ні тухлай рыбы, ні прэлага рысу. А потым... усё пашло па ранейшаму.

— Вінаваты самі рабочыя,—панура сказаў Чаран:—Ім не трэба было разыходзіцца. Тады «вандэру» здаўся-б.

— Усё роўна нічога-б не выйшла,—засупярэчыў Рамеш.

— З салдатамі жарты дрэнныя. Вось каб падтрымалі іншыя плантацыі...

— Што і казаць! Але плантацыя ад плантацыі далёка.

— Чаго рабочыя патрабавалі?—запытаў Гансі.

— Як чаго? Каб кангані не вымагалі грошай, каб кантора акуратна выплачвала заробак... Потым,—каб не штрафавалі з-за кожнага глупства, каб далі абяцаныя ўчасткі зямлі, не прадавалі псутых прадуктаў, не налічвалі працантаў на тавары, што бралі рабочыя ў доўг... Каб кангані і «вандэру» не біліся і не крыўдзілі дзяўчат, а то не праходзіла году, каб адна альбо дзве не ўтапіліся.

Хлопчыкі задумаліся. Біп пасадзіў на былінку мурашку і прымусіў яе бегаць уверх і ўніз.

— Уцяку—і ўсё,—рашуча сказаў Чаран.—Дык ты ўцякаеш са мною?—звярнуўся ён да Керыма.

— Так,—цвёрда адказаў Керым.

Калі хлопчыкі прыйшлі на плантацыю, было пасля поўдня. У цяню велізарнага фігавага дрэва наладзілі танец у гонар Сівы,—страшнага дзесяцірукага бога, які пасылае людзям пакуты. Чалавек трыццаць, размалёваныя белаю і чырвонаю фарбай, пад грукат

там-тама кружыліся вакол зробленага з дрэва ідала. Вялікі натоўп колцам абкружыў іх. Калі танцоры падалі ад знясілення, іх месца займалі іншыя. На веццi фігавага дрэва целяпаліся пярэстыя ануччы—скромныя даніны веруючых.

У самы разгар танца з-за барака паказаліся «вандэру» і гаспадар плантацыі—нізенькі тоўсты. З імі ішоў паджылы саіб у залатых акулярах. Яны спыніліся недалёка ад Гансі.

— Дзікія чорныя жывёлы,—сказаў гаспадар, з пагардаю гледзячы на танцораў.

— Яны вераць ва ўсякую чартаўню!—са смехам падхапіў «вандэру».—Ніводзін чорнаскуры не пойдзе вечарам у лес: за кожным дрэвам яму здаюцца бутаны—злыя духі з чырвонымі тварамі і ашчэранымі зубамі.

Паджылы саіб доўга глядзеў на танец.

— Гэта тамілы? [1])—запытаў ён.

— Так, сэр. Самыя танныя кулі, але ўсім вядомыя абармоты і гультаі. З імі трэба трымаць вуха востра.

— Я чуў, што яны часта ўцякаюць з плантацыі. Чым тлумачыцца ўцяканне?

— Глупствам,—злосна адказаў гаспадар.

— Сэр, напэўна, упершыню на Цэйлоне?—ветла запытаў «вандэру».—Сэр не ведае тутэйшых кулі. Гэта дарослыя дзеці. Яны жывуць фантазіямі, якія здзейсніцца не могуць і, як дзеці маюць патрэбу ў выхаванні. Кожная партыя людзей, якая прыязджае з Індыі, хварэе на адно: ім думаецца, што на плантацыі можна гультаяваць. Адсюль—непазбежнае расчараванне. Праходзіць шмат часу, пакуль кулі арыентуюцца ў абставінах і прывыкнуць да нашых законных запатрабаванняў. Большасць прывыкае, сэр. Нашы людзі ўмеюць быць цярплівымі і настойлівымі. Яны не дрэнныя выхавальнікі.

— Гэта правільна, калі выходзіць з таго, што мне давялося бачыць на плантацыях—з усмешкаю заўважыў паджылы саіб.

— Так, так, сэр,—яны прывыкаюць. Але ёсць хвароба больш небяспечная—туга па радзіме. Ёю хварэюць усе навічкі. Цяжка паверыць, але гэта так. Асабліва небяспечны першыя месяцы. Кулі рвуцца дамоў, нібы там рэчкі цякуць малаком. У гэтыя часы часта бываюць эксцэсы, накшталт спроб да ўцякання, альбо... Вядома, мы ўжываем патрэбныя захады: абкружаем увагаю, угаворваем. Але дзеці застаюцца дзяцьмі: іх не супакоіш разумнымі размовамі.

— Ці не знаходзіце вы, што гэтыя «хваробы» ідуць з эканамічнага і прававога становішча рабочых? Каб яно было лепшым...

Гаспадар зрабіў здзіўлены твар. Лепш, чым на яго плантацыі? Няхай кулі дзякуюць свайму Вішну альбо Сіву, што трапілі да яго. На суседніх плантацыях ім у сто разоў горш. Там іх сістэматычна аблічваюць, прымушаюць працаваць у святы, забіваюць да смерці... Ды што казаць! Трэба ведаць гэтых жывёл: іх хоць золатам абсып—усё роўна будуць нездаволены.

— Сэр гаворыць пра прававое становішча кулі,—цераз ліва за-

[1]) Так завуць жыхароў Паўднёвай Індыі.

ўважыў «вандэру».—Мы не дазволім сабе нічога, што забаронена законам. Але калі сэр мае на ўвазе фізічныя пакаранні, то без іх не абыйдзешся. Кулі—не еўрапейскі рабочы, у яго іншыя разуменні пра гонар. Цяпер ён пакараны і плача, а праз хвіліну будзе весела смяяцца. Ён разумее ў душы, што пакараны справядліва.

Гансі не разумеў англійскай мовы, але ён інстынктыўна адчуваў, што гаспадар і «вандэру» лаюць рабочых, а паджылы саіб спачувае ім. Гладка выбрыты роўны твар незнаёмца гаварыў аб дабратлівасці, а вочы весела і разумна блішчэлі праз шкло акуляраў.

—Які прыгожы хлопчык,—сказаў ён, глянуўшы на Гансі.—Але які схудалы! Напэўна гэтыя няўдзячныя кулі наўмысля галадаюць, каб зрабіць прыкрасць сваім гаспадарам?—з хітраю ўсмешкаю звярнуўся ён да «вандэру».

Гаспадар і «вандэру» кісла ўхмыльнуліся.

— З вашага дазволу я хацеў-бы агледзець баракі,—глянуўшы на гадзіннік, сказаў паджылы саіб.

— Просім, сэр.

Старэйшы кангані (ён суправаджаў саібаў) стрымгалоў кінуўся ў бліжэйшы барак. Адтуль у той-жа момант данёсся грамавы голас. З дзвярэй спалохана выбеглі дзеці.

Гансі пайшоў следам за саібамі. Нешта казала яму, што візіт паджылага саіба быў непрыемным для гаспадароў. Гэтая думка выклікала ў Гансі радаснае пачуццё. Значыць, ёсць людзі, перад якімі нават «вандэру» вымушан рабіць ласкавы выгляд («хаваць клыкі», як казаў Чаран).

У крайняй каморцы ляжаў чалавек. Нага яго была абкручана анучай.

— У час расчысткі лесу на яго ўпала дрэва—вытлумачыў «вандэру».—Гэтыя чорнаскурыя страшэнна неасцярожныя.

— Нага зломана?

— Так... не, ушыблена. Праз тыдзень будзе скакаць, нібы нічога і не было.

У другой каморцы курчыўся на цыноўцы юнак. Ён быў у бяспрытомнасці і трызніў. Ля яго сядзела жанчына—амаль дзіця. Калі ўвайшлі наведнікі, яна трывожна ўзняла на іх вялікія чорныя вочы.

— Учора яго ўжаліла кобра,—сказаў «вандэру».—Там, унізе на чайным гадавальніку. Па сваёй дурасліваcці. Але, здаецца, выжыве.

— Гэта яго сястра?

— Жонка, сэр. У гэтых дзікуноў жанчыны выходзяць замуж дзяцьмі.

Паджылы саіб нахіліўся да хворага.

— Па мойму, небарака ў агоніі,—памаўчаўшы, сказаў ён.— Проціатруту ўспырснулі?

— Зроблена ўсё, што трэба,—ухіляючыся адказаў «вандэру».

Чалавек пяць traслося у трапічнай ліхаманцы. Яны нагадвалі жывых мерцвякоў.

— Малярыя—наш біч,—уздыхнуўшы сказаў «вандэру».—Але што рабіць? Камар гняздзіцца ў кожнай лагчыне. Прабавалі асу-

шыць балоты—не дапамагае. Што год мы трацім дзесяткі кулі. Дзесяткі, сэр. А працы па горла, не хапае рук.

— Ці ёсць на плантацыі ўрач, бальніца?

«Вандэру» высока ўзняў бровы.

— О, не, сэр, мы не можам дазволіць сабе такое раскошы. Хворых лечыць адзін кангані, вельмі здольны і з ведамі чалавек. Разы два ў год прыязджае ўрадавы ўрач, ён дае патрэбныя парады. Трэба сказаць, сэр, што чорнаскурыя аддаюць перавагу лячыцца ў свайго брата—чорнаскурага. Тут ёсць адзін стары (яго лічаць чараўнікам, ён лечыць травамі і нашэптваннем). Вынікі здзіўляючыя.

Каля баракаў гулялі ў пяску голыя дзеці.

— Хто наглядае за імі ў рабочы час?—запытаў паджылы саіб.

— Кангані—наглядач за баракамі.

Паджылы саіб засмяяўся.

— Універсальны народ у вас—кангані! Яны і гангамі кіруюць, і хворых лечаць, і дзяцей няньчаць...

Пад дрэвам, абкружаны натоўпам цікаўных, стаяў аўтамабіль. Паджылы саіб развітаўся з гаспадаром і паехаў цераз плантацыю на шасэ.

* * *

У гэты вечар у гаспадара быў бал. З'ехалася шмат гасцей. Дом і веранда ззялі агнямі, грымела музыка. У барак прыбег кангані і стаў выбіраць самых прыгожых дзяўчат для танцаў, якіх хацелі паглядзець госці. Сястра Гансі прыкінулася, што спіць. Кангані штурхнуў яе нагою ў бок і загадаў падняцца.

— Надзень сваё ўбранне!—сказаў кангані. Бацька нахмурыўся, але змоўчаў. Сястра прыбралася і разам з іншымі дзяўчатамі пашла да гаспадара. Яны прыйшлі назад позна ўночы і з захапленнем расказвалі аб убранні пакояў і аб прыгожа апранутых саібах.

* * *

У гангу Гансі былі жанчыны з малымі дзяцьмі. Яны прывязвалі іх хусткамі да спіны і кармілі, прысеўшы пад чайным кустом. Кангані злавалі і падганялі іх. Каб дзеці не адрывалі ад работы, маткі затыкалі ім роцікі соскамі з макавым сокам. Дзеці спалі, але часта хварэлі на вольнасць. У аднэй работніцы дзіця памёрла на спіне; яно крычала, крычала, а потым змоўкла. Калі матка развязала яго, яно ляжала скруціўшыся нібы чарвячок. Кангані дакорліва паківаў галавою і дазволіў жанчыне аднесці трупік у барак.

— «Вялікі саіб» на фабрыцы. Занясі яму пісульку,—загадаў ён Гансі, нешта напісаўшы на шматку паперы.

«Вялікі саіб» быў памочнікам кіраўніка. Яму ў першую чаргу паведамлялі пра ўсе падзеі на плантацыі.

Гансі як віхор паляцеў да фабрыкі.

— Здаецца, наверсе,—сказаў рабочы, да якога Гансі звярнуўся з запытаннем дзе знаходзіцца «вялікі саіб».

Верхнія паверхі фабрыкі былі завалены таджутавымі палатнішчамі, якія былі нацягнуты ў выглядзе паліц на драўляных каркасах. На таттах тонкім пластам вяліўся чайны ліст. Памочнік майстра то тут, то там браў ліст на спробу. Калі ліст пры сцісканні зліпаўся

комам, яго грузілі на вазкі і вязлі да адкрытых люкаў. Раз! вазок перакульваўся і ліст знікаў у палатняным рукаве.

«Вялікага саіба» у валяльным аддзяленні не было. Гансі бегла спусціўся на першы паверх. Тут працавалі катальскія машыны Джонсона—шэрагі страшыдлаў, якія нібы сківіцамі перацiралі чайны ліст, што валіўся зверху з рукавоў. З ліста багата цёк зялёны сок, але ён скора ўсмоктваўся назад. Моцна пахла аміякам.

— Чаго ты шлындаешся тут, жэўжык!—закрычаў на Гансі прыганяты.—«Вялікі саіб» у сартыровачнай!—крыкнуў ён яму ўслед.

Гансі ўбег у суседняе памяшканне. Тут дзесяткі жанчын і падлеткаў, седзячы на падлозе, разбіралі рукамі пазліпаныя лісты. Жанчыны ціха спявалі сумную індыйскую песню.

Нехта аклікнуў Гансі. Гэта быў Рамеш, які таксама сядзеў перад кучаю лісця.

— «Вялікі саіб» нядаўна быў тут,—сказаў ён, даведаўшыся пра мэту прыходу таварыша.

— Як тут цікава!—аглядаючыся праказаў Гансі.

— Гм... Прасядзеў-бы ты тут з ранку да ночы—не гэтак-бы ты сказаў. Як канчаеш працу, нельга разагнуць спіну. І вочы заўсёды баляць...

— А хто там?—запытаў Гансі, паказваючы на крыху адкрытыя дзверы.

— Паглядзі, калі цікава.

У вялікім пакоі стаялі «сіроко»—трохпавярховыя печы, якія працавалі гарачым паветрам. Рабочыя выхватвалі з пячэй рашоты з лісцем і перастаўлялі іх з паверху на паверх. Раскаленыя печы дыхалі спёкаю. Людзі ласніліся ад поту, але іх рукі былі такія хуткія і дакладныя, нібы яны спаборнічалі ў складанай гульні. Тут нельга было адпачыць ні хвіліны, бо ліст мог згарэць у печы.

«Вялікі саіб» быў ля галоўнага майстра. Гансі пераступіў парог і замёр: за сталом, застаўленым чашкамі, сядзелі—гаспадар плантацыі, «вандэру», «вялікі саіб» і нейкі малады саіб з доўгім носам. Ногі Гансі прыраслі да падлогі, а сэрца ледзь не выскачыла з грудзей. Ён адчуў сябе так, нібы нечакана трапіў у гняздо змей альбо ў стада каракадзілаў.

Саібы дэгусціравалі чай [1]). Галоўны майстар—самавіты сінгалез з разумным і энергічным тварам працаваў, як жрэц: ён уласнаручна разліваў у малюсенькія чашачкі янтарна-зялёную вадкасць і пры гэтым коратка гаварыў незразумелыя словы: «пеко», «брокен-пеко», «гольдэн-тыно», «сушоны», «дуст»... [2]) Саібы разглядалі чай на святло і паласкалі ім рот, робячы пры гэтым глыбокадумныя твары.

Гансі ведаў, што галоўны майстар лічыўся вялікім тытэстарам [3]) і што яго не раз спрабавалі пераваблць на іншыя плантацыі. Ён атрымліваў дзесяць тысяч рупій і мог-бы атрымаць больш, калі-б захацеў. Рабочыя паважалі і любілі яго, бо ён быў гуманным чалавекам і часта дапамагаў тым, хто адчуваў патрэбу.

[1]) Дэгустыраваць—вызначаць па смаку і паху якасць чая.
[2]) Розныя сарты чаю.
[3]) Тытэстар—спецыяліст па вызначэнню сорта чаю.

— Сорт нядрэнны,—аблізаўшы губы, сказаў гаспадар плантацыі.
— А як думае сэр?—звярнуўся «вялікі тытэстар» да маладога саіба.
Той паспрабаваў і зморшчыўся. «Вялікі тытэстар» з неўразуменнем узняў бровы.
— Як! Сэру не падабаецца?—усклікнуў ён.—Гэта-ж лепшы рынычны сорт!
— Так... крыху... не,—у замяшанні прамармытаў саіб.
— Наш госць прывык піць чай з цукрам,—сказаў гаспадар тонам няні, якая просіць прабачэння за правіннасць дзіцяці.
— О-о! Сэр не спецыяліст! Так-так!
«Вялікі тытэстар» выбачліва ўсміхнуўся. Астатнія таксама ўсміхнуліся. Малады саіб пачырванеў як рак.
— Сорт добры, але... трэба дадаць крыху «пеко»,—сказаў «вялікі саіб».—Зусім крыху—для арамату.
«Вялікі тытэстар» энергічна матнуў галавою.
— На што?—Сорт цалкам адпавядае лонданскім кандыцыям.
«Вялікі саіб» працягваў мякка ўпірацца. Яго падтрымаў «вандэру».
— Калі не «пеко», то хоць «сушонага». Поўпроцанта, не больш.
«Вялікі тэтэстар» пачырванеў ад крыўды.
— Сэр можа загадаць змяніць сорт,—звярнуўся ён да гаспадара,—але ў такім выпадку...
— Не хвалюйцеся, дарагі м-р Гала!—спалохана ўсклікнуў гаспадар.—Сорт выдатны. Колер, арамат (ён пацалаваў кончыкі сваіх пальцаў). Я заўсёды казаў, што вы найвялікшы знаўца свае справы. Больш таго, вы чараўнік (не крыўдуйце, калі ласка). Усім вядома, што нашы сарты ідуць на лонданскім рынку па-за канкурэнцыі. Ні на шылінг страт! Прэміі ад біржавых маклёраў! Залатыя медалі на выстаўках.
«Вялікі тытэстар» прабурчэў нешта ў бараду. Ён ведаў, што гаспадар высока цэніць яго. Ды і як не цаніць чалавека, які ўмее добра рабіць грошы?
Гансі скарыстаў хвіліну маўчання і дрыжучы падаў запіску «вялікаму саібу». Той прачытаў і нахмурыўся:
— Гэтыя чорнаскурыя шчаняты дохнуць як мухі,—прабурчэў ён.—Скажы кангані, каб зараз-жа закапалі.
Гансі выбег з фабрыкі. У яго было пачуццё чалавека, які шчасліва пазбавіўся небяспекі. Яркае сонца і зяляніна напоўнілі яго душу весялосцю. Ён нёсся праз гадавальнік і раптам пачуў знаёмыя гукі:
— Цін-цін-тррр-там!
Гансі спыніўся як укопаны. На вяршаліне кетміі пераскокваў з галінкі на галінку даяль. Хлопчык упершыню ўбачыў яго на чужыне.
— Даяль! Даяль!—закрычаў ён у захапленні.
— Чаго крычыш?—запытаў стары, які вартаваў гадавальнік. Ён сядзеў пад кустом і выстругваў нажом калочкі.
— Ён прыляцеў! Прыляцеў!—крычаў Гансі, хлопаючы ў ладкі.
— Даяль? Адкуль прыляцеў?
— З Індыі, з нашага паселішча!

Стары ўсміхнуўся.

— Дуралей,—сказаў ён,—слухай, што я табе раскажу. Аднойчы на вяршыню Саманалы зляцеліся ўсе птушкі. Арол-шлеманосец кожнай даў працу: дзятлу ачышчаць святы банан ад казявак, цаплі і пелікану—лавіць для арла рыбу, нектарніку—збіраць у кветках мёд, чорнаму дронга—напутстваваць паміраючых.—А ты што ўмееш?—запытаў арол даяля. Тады арол уклаў у яго горла каштоўны ізумруд, які ўпрыгожваў карону змяінага цара.—Цяпер заспявай!—загадаў ён. Даяль узляцеў на вершаліну дрэва і заспяваў такую прыгожую песню, што птушкі захапляліся, слухаючы яе.—Ты будзеш нас весяліць,—сказаў арол.

Так і выйшла. Даяль спяваў і радаваў людзей і птушак. Злы дронга зайздросціў яму і аднойчы выклікаў яго на спаборніцтва. Калі заспяваў дронга, людзі сталі плакаць, чакаючы смерці. Калі-ж заспяваў даяль—беднякі пачалі смяяцца ад радасці, а багацеі... багацеі маўчалі: яны не чулі спеву.—Бачыш, я мацней за цябе,—сказаў дронга:—мяне слухаюць усе, а цябе толькі дуэху (жабракі) Што-ж,—адказаў даяль,—зато ў мяне шмат сяброў, а ў цябе няма ніводнага.

— Значыць, гаспадар і «вандэру» не чуюць даяля?—усхвалёвана запытаў Гансі.

— Вядома, не.

— А кангані?

— Яны таксама не чуюць, бо крыўдзяць бедных людзей.

— Я не хачу быць багатым. Я люблю даяля!—усклікнуў Гансі.

* * *

Дзіця вырвалі з рук маткі і закапалі пад дрэвам. Бацьку не паведамілі.—Я не знайшоў яго,—апраўдваўся кангані.

Бядняк толькі рукамі ўспляснуў, калі вярнуўся з працы.—Ды я-ж быў недалёка, каля фабрыкі,—гаварыў ён абліваючыся слязмі. Яго гора было такое вялікае, што ён ледзь не разбіў аб сцяну галаву.—Праклятыя! Праклятыя!—праз зубы паўтарыў ён. Суседзі ўзялі і палажылі яго на цыноўку.

* * *

Надышоў пярэдадзень вялікага свята Пуджы—дзень, вызначаны для ўцёкаў з плантацыі. Хлопчыкі не раз збіраліся каля «сланя», абгаварвалі план уцёкаў. У апошнюю хвіліну Чаран накіруецца не ў Каломбо, а на паўночную канцовасць вострава—у Анараджапуру, адкуль, па яго словах, да Індыі можна было «дакінуць каменем».

— Мы саб'ем кангані з панталыку,—казаў ён: праз Анараджапуру яшчэ не ўцякаў ніхто.

У гэтым мерапрыемстве, наколькі маглі, удзельнічалі ўсе хлопчыкі. Гансі і Біп самаахвярна адкладалі для беглякоў кавалачкі праснакоў, а Рамеш дастаў камфорнага масла—мазаць падошвы. Увесь гэты скарб захоўваўся ў надзейным месцы,—пад страхою барака.

Усё спрыяла ўцёку. Рабочых аслабанілі на два з паловай дні, і на плантацыі панавала перадсвяточнае ажыўленне. У поўдзень

асабліва гучна тарахцеў там-там. Жанчыны з скруткамі бялізны навыперадкі пабеглі да рэчкі. Даліна напоўнілася ўсплескамі вады, звонкімі галасамі і смехам. Частка мужчын накіравалася з сякерамі ў лес—насекчы маладых дрэўцаў для ўпрыгожання баракаў. Маляр—ён-жа каваль—узяўся паднаўляць фарбаю ідалаў (з Кендзі прыехаў брамін, мелася быць урачыстая цэрамонія). Падмяталі баракі, праветрывалі цыноўкі.

Вечарам перад баракамі запалалі дзесяткі кастроў, пад якімі апетытна шыпелі лучы (піражкі з рысам) і клекатаў у чыгунах керры, з рыбай, багата прыпраўлены перцам, цынамонам. Дзяўчаткі плялі гірлянды з кетмій і блакітнай тунбергіі, а мужчыны, седзячы на кукішках, брылі адзін аднаму галовы і рабілі на лбах litrознакаляровыя паметкі. Чуліся песні і жарты. Людзям хацелася хоць адзін раз у год забыцца на сваё беспрасветнае поўгалоднае жыццё, вольна ўздыхнуць, смачна паесці і павесяліцца. Нават кангані, сярод якіх былі прававерныя індусы, не пападаліся на вочы: ніхто не чакаў, што вялікае свята можа быць «зацямнена» якім-небудзь эксцэсам.

Хлопчыкі ўцяклі ў поўдзень, зараз-жа пасля сканчэння працы. У гэты вечар Гансі доўга не мог заснуць. Ён дапамагаў сястры што-небудзь зварыць, але яго думкі ляцелі да таварышоў. Дзе яны? Ці ўдасца ім дабрацца ў Індыю? Гансі так палка жадаў ім поспеху, што абяцаў богу Ганешы—абаронцу добрых пачаткаў—падзячную ахвяру каштоўнасцю ў палову дзённага заработку. «Не, ў цэлы»,—пахапліва дадаў ён, спалохаўшыся, што бог пакрыўдзіцца і зробіць якую-небудзь непрыемнасць.

Далячынь заснула; Гансі сеў на парозе барака. Ноч была цёмная, душная. На плантацыі вылі шакалы; ім уторылі прывязаныя сабакі, бегаючы ўсцяж дроту. У паветры карагодзілі мірыяды светлякоў; яны падымаліся высока, высока, да зор і кружыліся нібы падхопленыя віхурай, то ляцелі ў адным напрамку, над зямлёю, успыхваючы зеленаватымі агеньчыкамі. У траве і на дрэвах аглушальна трашчэлі цыкады. З шумам, над баракамі праносіліся стады лятучых сабак, а на гарах панура пераклікаліся начныя птушкі.

Недзе ў даліне зарычэў леапард.

— Ой, страшна!—прашаптаў Гансі і хутка вярнуўся ў каморку.

Чаран і Керым так спрытна зніклі з баракаў, што кангані сталі іх шукаць толькі на трэці дзень, раніцаю. Падняўся спалох. «Вандэру» як шалёны ўдарыў бацьку Керыма. Дасталося і дзяжурным кангані. У гэты дзень прыганятыя прычэпліваліся да рабочых, з-за ўсякай драбніцы, было шмат аштрафаваных, нават жанчын.

За беглякамі накіравалі дваіх кангані з сабакам выведчыкам.

— Зловяць хлапчукоў,—казалі рабочыя. Адсюль нават птушка не ўцячэ.

Прайшло некалькі дзён. Пасля сканчэння работы Гансі бегаў у дальні барак на спатканне з сябрамі. Тут хлопчыкі расказвалі адзін аднаму што чулі, свае меркаванні.

— Кажуць, кангані вярнуліся з пустымі рукамі,—усхвалёвана паведаміў неяк Біп.—Яны хаваюцца ад «вандэру», баяцца пакарання.

— Глупства!—засупярэчыў Рамеш.—Кангані абшукалі ваколіцы

Каломбо і падпільноўваюць нашых на прыстані. А сабака выведчык прапаў: напэўна яго задушыў мядзведзь.

— Сандра сказаў, што калі Керым і Чаран дабяруцца да Анараджапуры, то яны выратаваны. Там зусім чужая дзяржава, кангані не адважацца туды ісці,—сказаў Гансі.

— Чаму не адважацца?

— Іх там заб'юць.

— Малайчына Чаран. Гэта ён прыдумаў намазваць падошвы камфоравым маслам

— Яшчэ невядома, чым усё скончыцца...

— А вы ведаеце, што на плантацыі хутка будзе бунт?—з таямнічым відам запытаў Біп.

— Не. Хто табе казаў?

— Лесарубы не хочуць працаваць у даліне. Там дрэннае паветра. Хто прабудзе ў ім тры дні абавязкова захварэе на ліхаманку. Лесарубы прасілі «вандэру» перавесці іх на горны ўчастак, але ён адказаў, што застрэліць кожнага, хто кіне працу.

— Ну, не застрэліць... палохае.

— «Вандэру»? Ого!

— А што сёння ў нас было!—спалохана раскрыўшы вочы, сказаў Гансі.—Працавалі мы на восьмым участку. Зусім ужо вечар быў. Раптам Чандра—яна крайняй была—як закрычыць! Ай-ай! Ай! Ай! Так закрычала, так закрычала... Схапілася рукамі за нагу; а потым кінулася ў бок і ўпала. Вой, спалохаліся мы! А Нагша крычыць:—тынкалонга! Тынкалонга! [1])

— Во-о! Тынкалонга!

— Ужаліла яе ў нагу і папаўзла ў кусты. Вялікая, вялікая!

— А Чандра што? Памерла?

— Не ведаю. Кангані загадаў аднесці яе ў барак і кажа Нагшы:—займі яе месца! А Нагша баіцца, не хоча. Кусты густыя, трава... А што як тынкалонга зноў кінецца. Не ідзе, дрыжыць ад страху. Вой, як узлаваўся кангані! Схапіў Нагшу за руку і пацягнуў да кустоў.—Будзеш працаваць?—пытае. Нічога не зробіш, стаў Нагша працаваць. Зрывае флешы, а сам на кусты касавурыцца.

Рамеш аглянуўся.

— Калі-б «вандэру» і ўсіх кангані перакусалі тынкалонгі,—у поўголаса сказаў ён.

* * *

У непагодлівы вечар па бараках разнеслася вестка, што аднаго з беглякоў злавілі і прывялі ў кантору. Сваякі хлопчыкаў паспяшаліся даведацца. Выявілася, што злавілі Чарана. Керыма (па словах кангані) дагнаць не ўдалося.

— Няўжо ён уцячэ?—дзівіліся рабочыя.

Чарана пратрымалі тры дні ў канторы. Калі ён нарэшце з'явіўся на плантацыі, Гансі ахнуў ад жаху: твар сябра нагадваў сінебагро-

---

[1]) Адна з самых ядавітых змей.

вую маску, а на спіне ззялі палосы—сляды ўдараў буйвалавага гарапніка.

У той-жа вечар Гансі даведаўся падрабязна як яго лавілі. Хлопчыкаў нагналі на беразе нейкага пруду. Чаран пабег па беразе, але быў злоўлен і пакусан сабакам, а Керым кінуўся ў пруд, каб пераплысці на другі бок. Праз хвіліну яго ўцягнуў у ваду кракадзіл.

— Мне загадалі не расказваць пра гэта,—сказаў Чаран.—Таму маўчы як рыба. Інакш мяне заб'юць.

— Я ўмею маўчаць, калі трэба,—крыўдліва адказаў Гансі.

— Я ўсё роўна ўцяку,—памаўчаўшы, сумна сказаў Чаран.— Толькі цяпер я буду разумней: я ўцяку ў горы да пастухоў і пражыву ў іх да таго часу, пакуль пра мяне забудуць.

Праз месяц настойлівы хлопчык зноў уцёк з плантацыі. На гэты раз пошукі не мелі поспеху.

* * *

На плантацыю часта заходзілі багамольцы. Яны прабіраліся з Індыі да гары Саманале [1]), каб пакланіцца следу Сівы. Багамольцы расказвалі пра святых, якія жылі ў пячорах і жывіліся ягадамі; пра Бенарэс—цудоўны горад, у якім гэтулькі храмаў, «колькі зор па небе»; пра бацьку ўсіх рэк—Ганга; пра велічныя Гімалайскія горы; пра «сьвяцейшага з усіх святых месц»—Гангетры, куды не можа пранікнуць ні адзін грэшны чалавек. З слоў багамольцаў выходзіла, што трэба ўцякаць з гэтага свету, у якім пануе д'ябал і няма нічога, акрамя несправядлівасці і пакут. Рабочыя ўздыхалі і давалі багамольцам праснакі.

Быў гарачы поўдзень. Вакол старога багамольца сабраўся натоўп. Выбіраючы з вопраткі вошай, стары роўным голасам апавядаў пра святога Наўроджы.

— Яму было тысяча год. Ад старасці яго барада пажаўцела, а цела высахла, як дрэва, вырванае з коранем. Ён жывіўся адным рысам, які прыносілі яму ў дзюбах горныя галубы. Святы жыў ў пячоры, такой глыбокай, што ніхто не мог-бы дайсці да яе канца. Каля пячоры пеніўся паток з халоднай, як лёд, вадой. Калі надыходзіла раніца, Наўроджы выходзіў з пячоры і маліўся. У гэты час паток пераставаў шумець і рыбы высоўвалі з вады галовы, каб паслухаць святыя словы.

Аднойчы пачалася навальніца. Маланка запаліла велізарны баніян, на якім сядзеў бог малпаў Гануман. Сказаць дакладней, Гануман сядзеў у дупле (такім вялікім, што ў ім мог-бы змясціцца слон), а яго хвост спускаўся на тры лігі [2]) ў даліну.

— Чаму ён не схаваў хвост у дупло?—запытаў адзін з слухачоў.

— Такі даўгі хвост? Гэта было немажліва. Калі ўдарыла маланка, хвост загарэўся, як сухое ламачча. Ён гарэў так ярка, што людзі бачылі зарыва ў суседніх далінах. Гануман выскачыў з дупла і сунуў хвост у паток—каля самай пячоры святога Наўроджы. Пад-

---

[1]) Саманала альбо Адамаў Пік—адна з самых высокіх Цэйлонскіх гор (2262 м.)

[2]) 1 ліга—3 англійскіх мілі (каля 5 кіл.).

нялося воблака пары; яно трыццаць тры гады зацямняла горы. Калі пара ўзнялася, паток быў гарачы.

— А што здарылася з святым?

— Ён памёр ад гарачай пары, зварыўся як рыба ў катле. Засталася толькі барада; з яе адзін багамольны чалавек зрабіў сабе пояс. З таго часу яго не кранаді ні змеі, ні тыгры.

Гансі прагна запамінаў расказы багамольцаў. У яго палкім выабражэнні маляваліся карціны, то ўзрушальна-жахлівыя, то прывабныя. Часам яму дужа хацеласяператварыцца ў багамольца, альбо ў вандроўнага пілігрыма, у якога не было іншай мэты, акрамя выратавання душы. У залежнасці ад зместу расказаў, хлопчык уяўляў сябе то на беразе «малодшай сястры Ганга»—Джамне, з клумкам на спіне, у сяброўстве з іншымі вандроўнікамі, то ў зіяючым залатым храме Бенарэса, то ў змрочных цяснінэх Бхагіраці, дзе ён узбіраўся на стромкія скалы па шляху ў Гангетры. Ён нібы пераносіўся ў другое жыццё, у якім (цяжка паверыць) не было цяжкай працы, злосных выкрыкаў, біцця, прыкрасцяў, з якіх складалася жыццё на плантацыі.

Расказы багамольцаў дзейнічалі не на аднаго Гансі. Пасля адыходу гасцей то адзін, то другі рабочы даваў зарок пабываць у святых мясцах.

* * *

Біп меў рацыю, гаворачы пра нездаволенасць лесарубаў. У самы час летняга мусона па плантацыі пачала лютаваць малярыя. Захворвалі пераважна мужчыны, якія працавалі ў сырой даліне. Хвароба ускладнялася расстройствам страўніка і хутка прыводзіла да смерці. Прыехаў урадавы урач; ён злёгку агледзеў хворых і паехаў на іншыя плантацыі, дзе становішча было не лепшым.

У дажджлівы дзень захварэў бацька Гансі. Ён доўга трымаўся, але потым лёг і праз тыдзень памёр. Яго ў той-жа дзень закапалі на ўзлессі. Гансі і Бену не дазволілі праводзіць цела.

— Бацьку не ўваскросіце, а ліст пачынае пераспяваць,—жорстка сказаў кангані.

Дзеці плакалі каля кустоў і не абабралі шмат маладых флешай. Гэты дзень здаўся Гансі бясконцым. Калі яны вярнуліся ў барак, сястра пачала крычаць і біцца на цыноўцы. Суседка абліла яе вадою і начавала з імі, таму што яны баяліся спаць адны.

У дальнім бараку жыў стары,—той самы, што пабываў у шмат якіх краінах. У вольны час ён расказваў таварышам пра жыццё за морам. Гансі слухаў яго, затаіўшы дух. Па словах старога, беднякам усюды жылося аднолькава дрэнна.

— Як мышам у кіпцюрах кошкі,—любіў казаць ён.

— Сярод белых ёсць беднякі?—неяк запытаў яго адзін з слухачоў.

— Вядома ёсць,—спакойна адказаў стары.

— Чаму? Ці-ж саібы крыўдзяць сваіх?

— І белыя і чорныя, і жоўтыя—усе аднолькавы. Справа не ў колеры скуры, а ў грошах. Хто багаты, той і ўе з бедных вяроўкі.

Стары палюбіў Гансі і расказваў яму цікаўныя гісторыі пра

жорсткіх самадураў—раджаў,—пра лісіцу-чараўніцу, сланя, дурным маленькім мядзведжаняці.

— Цяпер ты бачыш, дружа, як жывецца на свеце,—сказаў ён Гансі пасля смерці бацькі.—Твой бацька быў здаровы, вынослівы чалавек, а яго забілі...

— Як «забілі»?! Хто?—збялеўшы, усклікнуў Гансі.

— Гаспадар і яго слугі. Яны прымусілі яго працаваць у небяспечным месцы. Можна-ж забіць не толькі нажом альбо палкаю.

Гансі доўга думаў пра словы старога.

— За гэта саібы адказваюць?—хмура запытаў ён.

— Не. Закон на баку багатых і дужых.

* * *

Пасля смерці бацькі Гансі адчуў востры сум па роднай хаце. Здаралася, ён сумаваў і раней, але з ім быў бацька, які ласкава гаварыў з сынам і ўмеў развесяліць яго. Праўда, заставалася сястра, але яна не магла замяніць бацькі і часта, задумаўшыся, не адказвала на яго запытанні. Гансі адчуваў сябе адзінокім і няшчасным, ён часта плакаў уначы, уткнуўшыся тварам у цыноўку.

У яго раптам знікла жаданне працаваць. Ён рабіў памылку за памылкай і яго ўжо двойчы аштрафавалі на дзённы заробак.

— Старайся, старайся, хлопчык,—казала суседка, цяпер, калі бацькі няма, ты павінен стаць старэйшым у сям'і.

Гансі ў адказ нізка апускаў галаву.

Суседка была добрай жанчынай. Яна клапацілася аб Гансі, як аб родным, хоць у яе самой было двое дзяцей. Гансі прывык да гэтай жанчыны. Ён нават перабраўся ў яе пакоік, з дазволу сястры, якая пасялілася з сяброўкаю.

* * *

— Гансі, табе ліст!

Хлопчык ад нечаканасці скамянеў.

— Мне?!—насілу выгаварыў ён.

— Твайму бацьку. Але ён памёр, а ты старэйшы ў родзе. Значыць табе.

Гансі ўзяў ліст і доўга разгублена круціў яго ў руках.

— Я не ўмею чытаць,—сказаў ён.

Сярод чатырохсот рабочых было толькі двое пісьменных: каваль і стары, які жыў у дальнім бараку. Гансі стрымглаў пабег да старога.

— Чрыджукта Анада,—з запінкамі прачытаў той на канверце.— Так, так, гэта твой пакойны бацька. Што-ж, паглядзім, пра што пішуць мерцвяку жывыя людзі.

Вакол Гансі і старога сабраўся натоўп. Атрыманне ліста з радзімы было на плантацыі рэдкай падзеяй; яго ажыўлёна каментыравалі і вылічвалі па ім час: «праз месяц пасля таго як Сукхан атрымаў ліст», альбо «гэта было яшчэ да атрымання Сукханам ліста».

Стары распячатаў замурзаны канверт і, старанна разгладзіўшы на калене складзены ўдвое лісцік паперы, пачаў слібізаваць. Ад хва-

лявання Гансі нічога не разумеў. Стары пераказваў прачытанае сваімі словамі.

— Значыць, так: дзед і бабка твае памёрлі,—гаварыў ён.— Напэўна старыя былі людзі? Няхай не ціснe на іх зямля! Потым Кам... хто такая Кам?

— Малодшая сястра,—прашаптаў Гансі.

— Яна таксама памёрла. Шкада, калі паміраюць дзеці... Ад чумы, ці што? Ага, не, ад голаду. Усе памерлі ад голаду—і старыя і сястра.

— А матка?—дрыжачым голасам запытаў Гансі.

— Ці-ж ліст не ад яе? Як яе завуць?

— Я не ведаю...

— Пэўна жыве. Пабачым далей.

Чытанне цягнулася больш гадзіны. Гансі адчуваў, што нявыносны цяжар прыгінае яго да зямлі. У скронях стукалі нібы молаты. Ён цмяна разумеў, што ад вялікай дружнай сям'і засталіся матка і двухгадовы брацік (не лічачы яго самога і сястры Бену). Але матка бадай таксама памерла: у лісце яна развітвалася з мужам і дзяцьмі.— Ляжыць твая матка, не ела ўжо шэсць дзён,—растлумачыў стары. Здарыўся зацяжны сухмень: палі і гароды выгаралі; ад распаленага пылу памеркла сонца; людзі пачалі разбягацца, грошы атрымоўваліся неакуратна: ліхвяр даведваўся на пошце і зараз-жа забіраў для пакрыцця даўгоў, прадаваць не было чаго, ды і ніхто нічога не купляў; у паселішча прывезлі пшаніцу, але раздалі толькі тым, хто акуратна выконваў падаткі; астатніх пагналі на грамадскую работу—капаць абвадняльныя каналы, хто капаў—тых кармілі, а дзеці, жанчыны і старыя паміралі з голаду, брамін казаў, што будзе агульная пагібель і забраў апошніх курэй у ахвяру Сіве...

— Вось, галубок, дрэнныя справы,—сказаў стары, скончыўшы чытанне.—Але ты не сумуй: у цябе ёсць рукі і галава на плячах. Пражывеш...

Нервы хлопчыка не вытрымалі... Ён усхапіўся і плачучы выбег з барака.

Восенню ў часткі рабочых скончыліся тэрміны кантрактаў. Не гледзячы на ўгаворы «вандэру» і кангані, толькі тры альбо чатыры чалавекі згадзіліся прадоўжыць іх.

— Дамоў! Дамоў—чулася на плантацыі. Людзі радаваліся, хоць у шмат каго з іх на радзіме не было кута.

Не абышлося без «непаразуменняў». Выявілася, што ў некаторых жонак кантракты складзены на два гады, а ў іх гаспадароў—на чатыры («калі жанчыне на плантацыі не спадабаецца,— яна зможа выехаць дамоў»,—украдліва казаў рабочаму аргуці,— «а калі спадабаецца—тэрмін можа быць павялічан»). Аднаго дня кангані выгналі з баракаў жанчын, у якіх скончыўся двухгадовы тэрмін дагавору.

— Мы хочам астацца з мужамі!—у роспачы крычалі жанчыны.

— Вон! Тут не амбалам! [1])—адказвалі кангані.

---

[1]) Гасцініца для багамольцаў.

Мужы кінуліся да «вандэраў». Адбыўся такі дыялаг:

— У цябе кантракт на чатыры гады?

— Так, саіб, але...

— А ў твае жонкі—на два. Няхай выязджае: баракі патрэбны для новых рабочых.

— Няхай саіб злітуецца і прадоўжыць тэрмін яе дагавора! Ей з дзяцьмі няма куды дзецца.

— Ну, хай так будзе, прадоўжу яшчэ на чатыры гады.

— На чатыры?! Гэта немагчыма, саіб, мне-ж засталося прапрацаваць толькі два гады. Калі скончыцца тэрмін, давядзецца пакінуць і жонку і дзяцей!

— Дзяцей сумееш забраць...

— Саіб!

— Досыць! Рабі як хочаш.

Выйсця не было. Мужыкі згаджаліся.

— Гладка зроблена!—з едкім смехам гаварыў стары рабочы.— Праз два гады муж будзе прасіць «вандэру» прадоўжыць яго ўласны кантракт. «Вандэру» прадоўжыць не на два, а на чатыры гады, і так без канца.

У суседкі і яе мужа таксама скончыўся тэрмін дагавора. У сям'і быў прыўзняты настрой.

— Заарандуем у ўрада два акры зямлі і будзем працаваць,— марыў муж.—Праўда, грошай мы сабралі мала, але на першыя часы хопіць.

— Аддамо замуж Хем: ей-жа ўжо адзінаццаць год. Можна знайсці заможнага мужа,—казала суседка.

— А Чота амаль мужчына,—будзе дапамагаць. Праўда, Мышанё? Васьмігадовы хлапчук ківаў галавою.

Гансі хадзіў як апушчаны ў ваду. Цяпер ён застанецца адзін, зусім адзін!

— Вазьміце мяне з сабою!—упрошваў ён са слязмі на вачах.

Суседка пяшчотна абдымала яго.

— Немагчыма, хлопчык: цябе не адпусцяць,—казала яна.— Будзь разважлівы. Нам таксама чатыры гады здаваліся вечнасцю, пакуль мы не ўцягнуліся ў гэтае жыццё.

— Я не ўцягнуся ніколі...

— Глупства! Трымай сябе ў руках. Ты мужчына.

Добрая жанчына перагаварыла з сяброўкай і ўстроіла ў яе Гансі.

* * *

— Пойдзем у лес, Гансі?

— Не.

— Пойдзем! Я раскажу, што здарылася ў чацвертым бараку.

— Не хачу я слухаць ніякіх гісторый.

— Што-ж ты хочаш?

— Нічога. Хачу вярнуцца дамоў...

— Вернешся не раней, чым праз тры гады. Пойдзем паглядзімо на штукара з малпай.

— Пакінь мяне,—нікуды я не пайду.

Пасля выезду суседзяў Гансі стаў пануры і задумлівы. Мары аб звароце дахаты не пакідалі яго ні днём, ні ўначы. У яго ўсё валілася з рук. Гэта была душэўная хвароба, якая з незвычайнай быстрынёй падрывала сілы хлопчыка. Лежачы ўначы на цыноўцы ён так ярка ўяўляў сабе родную хаціну, паселішча і берагі Гадаверы, якія абраслі бамбукам, што ўзбуджана ўзнімаўся і выбягаў з барака. Усё часцей і часцей яго ахоплівалі галюцынацыі, у час якіх ён выкрыкваў бяссвязныя фразы. Раней ён ведаў, што варта яму пастарацца,—і кангані не кране яго пальцам. Цяпер Гансі не мог прымусіць сябе сканцэнтраваць увагу на працы і вечна адчуваў страх перад пакараннем. Аднойчы, калі ён пачуў каля барака крык кангані, ён залез у цёмны кут і не выходзіў з яго палову дня.

— Хлопчык скончыць дрэнна,—казалі суседзі па гангу.—Ты-б паспрабавала развесяліць яго, Бену.

— Я сама хутка звар'яцею,—адказала дзяўчынка.

Неяк раніцою на плантацыі разнеслася вестка, што прывезлі новую партыю рабочых. Іх бачылі каля канторы—з дзяцьмі і дарожнымі пажыткамі. Казалі, што іх нанялі амаль задарма, што людзі не могуць стаяць на нагах ад голаду, што нават «вандэру» пакачаў галавою, як убачыў іх. Рабочыя з нецярплівасцю чакалі паўднёвага перапынку, каб даведацца, ці няма сярод прыбыўшых землякоў.

Вечарам Гансі пашоў паглядзець на навічкоў. Пры святле яны здаваліся шкілетамі, абцягнутымі сухою скурай. Рабочыя моўчкі разглядалі іх і ўздыхаючы гэтак-жа моўчкі адыходзілі з болем ў грудзях.

У Індыі голад! Пра гэта толькі і гаварылі ў бараках. Высветлілася, што сухмень ахапіў Дэкан і частку Бенгаліі. На працягу двух месяцаў вымерлі цэлыя паселішчы, цэлыя правінцыі. Войскі абкружылі ахопленыя сухменем раёны, бо ў іх успыхнула эпідэмія тыфу. Былі галодныя бунты, але іх падаўлялі з выключнаю жорсткасцю. Вядома, у найбольш жахлівым становішчы апынуліся беззямельныя раёны—вясковы пролетарыят, які прадаваў сваю працу памешчыкам. У яго не было ні запасаў, ні мажлівасцей знайсці працу. Гэтым карысталіся вербаўшчыкі. Яны наляталі нібы драпежнікі. Таропка, на кабальных умовах набіралі людзей і накіроўвалі ў Сіам, Афрыку, на астравы Ціхага акіяна. Разлучалі мужэй і жонак, пакідалі на пагібель старых. З тысячы чалавек выбіралі сотню,—самых моцных. Некаторыя выбіралі жанчын і дзяўчат. Іх вязлі на малаазійскія і афрыканскія рынкі,—«ва ўслужэнне саібам», як ім гаварылі. Урад не ўмешваўся: ён патрабаваў толькі, каб захоўваліся ўстаноўленыя фармальнасці...

У бараках было нязвычна ціха. Маткі цыкалі на дзяцей. Перадавалі падрабязнасці падзей, успаміналі—нібы пакойнікаў—тых, хто застаўся на радзіме.

На наступны дзень (была нядзеля) Гансі нечакана сустрэўся з «вандэру» і тым самым касавокім аргуці, які ўгаварваў яго бацьку падпісаць кантракт. Гансі ў замяшанні кінуўся ў кусты. Гэты чалавек здаваўся яму ўцелясненнем д'ябла—страшней за самога «вандэру».

Саібы ішлі да канторы і ажыўлёна размаўлялі.

— Згодзен: зараз гэта здыхляціна,—казаў аргуці,—але вы пад-

корміце іх тыдзень-два і яны будуць працаваць не горш іншых. Не турбуйцеся, я выбраў здаровых людзей.

— Гм... Шмат вы выкінулі ў мора, пакуль давязлі?

— Не больш пяці... ды і то дзетвару.

— Значыць, у Індыі можна наняць кулі задарма?—задумліва запытаў «вандэру».

— Іменна, задарма! Я завербаваў мужчын (дарослых, моцных мужчын) па чатыры, а жанчын і падлеткаў—на дзве анны ў дзень. На іх харчах! Пераезд за іх кошт! Кантракт на нявызначаны тэрмін! Вы калі-небудзь чулі пра такія ўмовы?

— Я-б згадзіўся абнавіць частку кулі,—сказаў «вандэру».

— Што-ж, праганеце сотню-паўтары самых лепых, я бяруся даставіць вам новых, удвая больш танных. Карыстайцеся выпадкам: голад не будзе цягнуцца без канца.

— Трэба падумаць...

— Мае ўмовы: восемдзесят рупій за жанчыну і падлетка—з дастаўкаю ў Каломбо.

— А мой куртаж?

— Ранейшы: дзесяць цэнтаў з рупіі.

Калі саібы прайшлі, Гансі вышаў з кустоў. У яго моцна білася сэрца. Ён упершыню адчуваў вострую нянавісць да людзей, якіх ён лічыў сваімі ворагамі. Гэта пачуццё ўзнялося з дна душы і з пакутнай сілаю авалодала хлопчыкам. Ён дрыжэў, як ад ліхаманкі, і яго рукі да болю сціскаліся ў кулакі.

— Праклятыя, праклятыя саібы!—прашаптаў ён, гледзячы ўслед мільгаўшым сярод кустоў постацям.

На павароце сцежкі з'явіўся чалавек. Гансі збег з узгорку і выскачыў на ўскраіну лесу. Нервовае ўзбуджэнне прайшло, але адчувалася страшэнная стомленасць. Ногі падгіналіся, хацелася легчы і заплюшчыць вочы.

— Цін-цін-тррр-там!—запеў на дрэве даяль.

Гансі здрыгануўся. Вядома, гэта быў той самы даяль, які жыў у бамбукавым гаі—на беразе Гадаверы—і сваімі звонкімі спевамі будзіў Гансі раніцою. Ён прыляцеў сюды, каб уцешыць яго і перадаць прывітанне ад маткі і брацік.

— Цін-цін-тррр-там!—зноў заспяваў даяль і пераляцеў на суседняе дрэва.

Гансі пайшоў за ім. Даяль спяваў паторгваючы, як заўсёды хвастом і ўсё далей і далей ляцеў углыб лесу. Гансі здавалася, што ён заве яго за сабою.

— Занясі мяне дамоў!—закрычаў Гансі і працягнуў рукі да птушкі.

— Цін-цін-тррр-там!—пеў даяль, паглядаючы на хлопчыка чорнымі, як вугаль, вачыма.

— Стой, чарцянё!—пачуўся голас, ад якога Гансі пахаладзеў. За ім гнаўся кангані, які сачыў, каб рабочыя не адыходзілі далёка ад баракаў.

Даяль захлопаў крыламі і паляцеў у лясны гушчар.

— Даяль! Даяль!—у адчаі закрычаў Гансі, і як мага пабег за ім.

— Стой, кажу!—гучэў голас кангані.

Гансі бег, спатыкаючыся на ліяны і не прыкмячаў кручкоў ра-

танга, якія ўядаліся ў яго цела. Перад ім мільгаў даяль, ён усё спяваў і забіў да сябе Гансі.

Раптам востры боль уназе прымусіў Гансі ўскрыкнуць. Ён нібы заблытаўся ў даўгой, халоднай ліане. Хлопчык страціў роўнавагу і ўпаў на зямлю. Калі ён падняўся, ён убачыў ачковую змяю, якая ўжаліла яго, а з другога боку—не менш страшную фігуру кангані з кіем у руцэ.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Увечары Гансі памёр і яго закапалі на ўскраіне лесу, побач з магілаю бацькі.

# ДА 25-ці ГОДДЗЯ ЛІТАРАТУРНАЙ ДЗЕЙНАСЦІ ДЗЕМ'ЯНА БЕДНАГА

## *Тав. ДЗЕМ'ЯНУ БЕДНАМУ*

*ЦК ВКП(б) і СНК Саюза ССР вітаюць Вас у дзень 25-годдзя Вашай большэвіцкай літаратурнай дзейнасці. 25 год Вы з гонарам нявеце сцяг паэта-большэвіка, чыё жыццё і вялікі талент, адданы справе рабочага класа і сялянства.*

*Працоўныя Совецкага Саюза ведаюць і высока цэняць Вашы творы, прасякнутыя арачай адданасцю справе Леніна і рэвалюцыйнай нянавісцю да ворагаў рабочага класа.*

*ЦК ВКП(б) і СНК Саюза ССР жадаюць Вам доўгіх год жыцця і далейшых поспехаў у Вашай творчай рабоце.*

***СНК Саюза ССР.*** ***ЦК ВКП(б).***

---

## *ПАЭТУ—БОЛЬШЭВІКУ*

*Дзем'яну Беднаму, паэту-большэвіку у дзень 25-ці годдзя ўдзелу яго ў большэвіцкім друку шчырае прывітанне ад Саюза Совецкіх Пісьменнікаў прыгранічнай ордэнаноснай Совецкай Беларусі.*

*Дваццаць пяць год Ваша паэтычная дзейнасць служыць справе пролетарскай рэволюцыі, з'яўляючыся моцнай зброяй у руках партыі. Сотні песень, паэм і вершаў паэта-большэвіка зрабіліся папулярнымі, любімымі сярод самых шырокіх мас працоўных нашай радзімы.*

*У дзень 25 ці годдзя літаратурнай дзейнасці жадаем Дзем'яну Беднаму з неаслабнай сілай яшчэ шмат гадоў тварыць на шчасце і радасць нашай квітнеючай краіны.*

***Праўленне Саюза совецкіх пісьменнікаў БССР***

---

## *Тав. ДЗЕМ'ЯНУ БЕДНАМУ*

*Дарагі Ефім Аляксеевіч!*

*Пісьменніцкая грамадскасць, як і ўся нашая краіна, горача вітае цябе, любімага паэта шырокіх пролетарскіх мас, у дзень 25-годдзя творчай работы ў большэвіцкім друку і жадае табе доўгіх год жыцця, здароўя і творчых поспехаў на карысць нашай вялікай радзімы, на карысць соцыялізма.*

*У гады царскай рэакцыі, у вялікія дні Кастрычніка, у перыяд грамадзянскай вайны, у гады бурнага соцыялістычнага будаўніцтва ты сваім мастацкім словам абуджаў вогненную нянавісць да ворагаў пролетарыята, ты натхняў працоўных на барацьбу, на подвіг, на перамогі. Тваё слова—слова пролетарскага трыбуна-паэта роднае і блізкае народным масам,—такое-ж гарачае і маладое, як і 25 год назад. Мы ўпэўнены, што цяпер, калі совецкі народ, кіруемы геніем вялікага Сталіна, стварыў моцныя асновы шчаслівага соцыялістычнага жыцця, твой талент пакажа гэтыя новыя радасныя перамогі у творах соцыялістычнай паэзіі. Твой талент яшчэ не раз паслужыць пролетарыяту ў надыходзячай барацьбе.*

***Праўленне Саюза совецкіх пісьменнікаў СССР.***

# РАННІЯ ВЕРШЫ ДЗЕМ'ЯНА БЕДНАГА*)

У час начны, на небакрай
Як ўзыйдзе месяц над лясамі,
Прыслухайся—радзімы край
Жывымі повен галасамі.

І ўсхвалёваны калі
Нямога гоману сугуччам,
Схіліся да грудзей зямлі,
Пачуеш ты з тугой гаручай:

Сярод лясоў, сярод палёў,
Пад небам хмурным і халодным
Не моўкнуць звоны ланцугоў
У адказ на стогн і боль народны.

1911 г.

## Санет

У палях радзімых льецца ціхі звон,—
Я слухаць так любіў яго калісьці
У час, калі праменнем залацістым
Заззяе далягляд і дзень адыйдзе ў сон.

Мілей цяпер мне гучны рэў і стогн
І моцны кліч трывожнага набата:
Як трубны гук ў адважны бой—салдата,
Мяне на горды ўчынак кліча ён.

Сярод турбот штодзённых і нікчэмных
Чакаю я, калі, як звон мяча,
Як навальнічны гром—і урачысты й гнеўны,—

У адплаты час, ў змагання грозны час,
Над бацькаўшчынай змучанай і беднай
Пракоціцца набата голас медны.

1912 г.

*) Надрукавана ў першым нумары „Праўды" 22 крас. (5 мая) 1912 г.

* * *

Пакуты нашай поўна чаша,
Ў адно зліліся кроў і пот.
Але не згасла сіла наша:
Яна расце штодзень, штогод!

Як сон—мінулыя знямогі,
У золаку—наступны бой.
Байцы ў чаканні перамогі
Кіпяць адвагай маладой.

Хай вораг хціва у бяссіллі
Не можа злосці шалу сцяць,
Сябры, мы станем да магілы
За праўду—пераможна сцяг!

1912 г.

*Пераклаў з рускай мовы* АЛ. ЗВОНАК.

*Дзем'ян Бедны*

## ПЕРШАЕ СЛОВА.

Ішлі праз Менск атрады франтавыя:
Ваякоў панства гналі змагары.
Першы раз убачыў вас тады я,
Беларусі песняры.
Не забыцца мне пра ліпы звязак
Беларускага пісьма.
І легенд і вашых дзіўных казак
Прыгажэй нібы няма.
Ды жыццё ўсе казкі перакрыла.
Гул бадзёры мкне з усіх канцоў.
Сёння ў Менск—вясёлай, быстракрылай—
Ідзе сям'я совецкіх песняроў
І з Масквы і з Кіева, Казані
І з Тіфліса і Баку.
Рознасць моў, а шлях адзін яднання,—
Заўжды адзіны шлях большэвікоў.
Пра майстэрства будуць іх размовы,
Пра паэтаў усіх і пра сябе.
Дый *між слоў хай будзе першым словам*
*Ваша слова аб барацьбе.*
Аб барацьбе прыгожай і бясстрашнай,
Аб барацьбе, дзе нашых сіл разгон,
Аб барацьбе, дзе слаўным сцягам нашым
Мы адзначым смерць фашысцкіх дзён.
Аб барацьбе суровай і разбежнай,
Рашаючай сусветнай барацьбе.
Прызыўны кліч свой да сям'і мяцежнай,
Баявой рабоча-зарубежнай,
— Забыўшыся, на час, аб флейце нежнай—
на баявой патрубім мы трубе!

*З рускай мовы пераклаў*
*А. АЛЕКСАНДРОВІЧ.*

*В. Кірпоцін*

# НАРОДНАСЦЬ ПАЭЗІІ ДЗЕМ'ЯНА БЕДНАГА

25 год таму назад Дзем'ян Бедны надрукаваў у большэвіцкай „Звезде" свой першы верш. Літаратурная дзейнасць Дзем'яна Беднага пачалася крыху раней супрацоўніцтвам у „Русском богатстве" ў гады рэакцыі.

Першае, што спыняе ўвагу ў самых ранніх творах Дзем'яна Беднага, гэта—арганічнасць сувязі яго паэзіі з глыбіннымі настроямі рабочых і сялян.

У тую пару лютавала рэакцыя. Бытавым з'явішчам сталі рэнегацтва і ныццё сярод дробнабуржуазных інтэлігентаў, учарашніх „папутнікаў" рэволюцыі. Меншавікі адмаўлялі мажлівасць новага рэволюцыйнага ўздыму ў краіне. Але рабочы клас, які атрымаў толькі часовае паражэнне, накапляў сілы для рашаючага рэволюцыйнага напору.

Адлюстроўваючы настроі перадавых рабочых, Дзем'ян Бедны саў:

Братья, не страшна ни злоба, ни измена,
Если в вас огонь отваги не потух.
Тот непобедим и не узнает плена,
Чей в тяжелый час не дрогнул гордый дух.

З самага пачатку супрацоўніцтва Дзем'яна Беднага ў большэвіцкім друку лёс яго паэзіі цяснейшым чынам сплятаецца з лёсам рэволюцыі, ленінскай партыі: „з гэтага часу,—піша паэт у кароткай аўтабіяграфічнай нататцы,—жыццё маё як струна. Расказваць пра яго ўсёроўна што даваць каментарыі да той вялікай колькасці рознаякасных вершаў што мною напісаны. Тое, што не звязана непасрэдна з маёю агітацыйнай літаратурнай работай, не мае асаблівай цікавасці і значэння".

І сапраўды, этапы творчасці Дзем'яна Беднага супадаюць з этапамі рэволюцыі. Яго вершы паслядоўна адлюстроўваюць большэвіцкую барацьбу ў падполлі з царызмам, пачатак рэволюцыйнага ўздыму, вайну, лютаўскую рэволюцыю, Кастрычніцкую перамогу, барацьбу з эсэрамі і меншавікамі, грамадзянскую вайну, новую эканамічную палітыку. Дзем'ян Бедны апявае соцыялістычную індустрыялізацыю, калгаснае будаўніцтва, бурныя тэмпы большэвіцкага наступу. Шмат бліскучых вершаў ён прысвяціў культурнаму будаўніцтву, барацьбе з рэлігійнымі забабонамі, барацьбе з во-

рагамі партыі, якія імкнуліся разлажыць яе знутры. Дзем'ян Бедны апявае веліч генія Леніна і Сталіна.

Тэмы паэзіі Дзем'яна Беднага заўсёды выцякаюць з задачы і абавязкаў комуністаў на чарговых этапах рэволюцыі.

Першы-ж яго твор, надрукаваны ў большэвіцкай „Звезде“, звярнуў на сябе ўвагу Владзіміра Ільіча. Ленін распытваў працаўнікоў легальнага большэвіцкага друку хто такі Дзем'ян Бедны, і раіў шырэй выкарыстаць яго вялікі талент для „Правды“. Рэволюцыйная творчасць Дзем'яна з самага пачатку была высока ацэнена нашай партыяй.

У Дзем'яна Беднага, паэта-большэвіка, шырокі сусветны кругагляд і такая-ж тэматыка. Ён адклікаецца на падзеі, якія адбываюцца ва ўсім свеце, у соцыялістычнай нашай радзіме, на капіталістычным Захадзе, на каланіяльным Усходзе.

У паэзіі Дзем'яна шмат сялянскіх тэм. І трэба сказаць, што ўсе складанейшыя пытанні палітыкі, пачынаючы з крытыкі царскіх мерапрыемстваў і канчаючы калектывізацыяй, Дзем'ян Бедны сумеў паказаць у вершах ярка, трапна, таленавіта, даходліва. У большэвіцкай агітацыі за соцыялізм сярод сялянства, яму належыць пачэснае месца.

Літаратурныя эстэты не раз дакаралі Дзем'яна Беднага ў агітацыйнай прымітыўнасці і спрашчэнстве. Няма нічога няправільней гэтых абвінавачванняў. Дзем'ян Бедны валодае майстэрствам большэвіцкай агітацыі. Ён у кожным пытанні вылучае галоўныя рашаючыя думкі без лішніх падрабязнасцей. Але ні ў байцы, ні ў фельетоне, ні ў паэме Дзем'ян Бедны не ўпадае ў спрашчэнства і схематызм.

Арыгінальнае і вялікае мастацкае майстэрства Дзем'яна Беднага ярка выявілася ў моўным ладзе яго паэзіі. Ідэі і вобразы, прасякнутыя святлом самага перадавога светапогляду, ён выражае дзівосна простай і правільнай рускай мовай, выкарыстоўваючы ўсё багацце яе слоўніка,

Рэволюцыю ў палітыцы, у эканоміцы, сельскай гаспадарцы, у бытавым укладзе творыць народ, пад кіраўніцтвам рабочага класа. Рабочыя і сяляне надзвычай добра дагаварваюцца па самых важных, цікавячых іх пытаннях на простай рускай мове. Праграма рэволюцыі, яе ідэалогія паказаны на зразумелай правільнай мове ў няўміручых творах Леніна і Сталіна. На гэтай-жа мове можна і патрэбна паказваць сэнс падзей рэволюцыі ў мастацтве—гэта вельмі добра зразумеў на справе Дзем'ян Бедны. Ён піша для мільённых мас і піша на мове даступнай мільёнам. Без сувязі з народам, з рабочымі і сялянамі, паэзіі Дзем'яна Беднага не было-б.

Строгая патрабавальнасць і прастата мовы характэрны для паэзіі Дзем'яна Беднага на ўсім яе 25 гадовым шляху:

Прост мой язык, и мысли тоже:
В них нет заумной новизны,—
Как чистый ключ в кремнистом ложе,
Они прозрачны и ясны . . . . . .
Нужна ли правде позолота?
Мой честный стих, лети стрелой—
Вперед и выше!—от болота
Литературщины гнилой!

Мова жыве і развіваецца. Рэволюцыя змяніла мову горада і ў асаблівасці вёскі. Але Дзем'ян Бедны ўносіць у свой паэтычны слоўнік толькі тыя змены, якія арганічны натуральны і неабходны.

Як часта ў літаратурным асяроддзі даводзіцца чуць размовы аб тым, што пачуцці чалавека рэволюцыі прымітыўны, пазбаўлены шэкспіраўскіх страсцей, непаэтычны. Паэзіі, моў, трэба дачакацца, покуль пачуцці савецкага чалавека культывуюцца,—тады іх можна будзе падаць сродкамі мастацтва.

Паэзія Дзем'яна Беднага з'яўляецца бліскучым абвяржэннем гэтых няправільных інтэлігенцкіх тэорый. Нянавісць да ворагаў, таварыская салідарнасць з людзьмі свайго класа, лютасць у барацьбе, радасць перамог, радасць заваяванага светлага жыцця, адданасць радзіме, гордасць за яе, воля да абароны яе, любоў да правадыроў рэволюцыі, правадыроў народа, Леніна і Сталіна з'яўляюцца невычарпальнай крыніцай натхнення і паэтычнай творчасці. Трэба ўмець адкрыць гэтую крыніцу, поўнаю душою піць з яе, зліцца з народам, жыць чым жыве народ,—і паэту, калі ў яго ёсць талент, ніколі не трэба будзе шукаць тэм, пакутваць, падганяючы радкі да чарговага заказу рэдакцыі: слова будзе паслухмянае яму, песня яго будзе з захапленнем паўторана масамі. Пачуцці Дзем'яна Беднага такія-ж як і пачуцці народа.

Шырыня комуністычнага кругагляда і эмацыянальная злітнасць з народам дазваляюць Дзем'яну Беднаму пісаць так многа і так хутка рэагаваць сваім вершам на палітычную злабадзённасць. Для паэта, у якога няма дастатковага шырокага палітычнага гарызонта, які не перажывае падзей рэволюцыі глыбока,—так, як перажывае іх народ, былі-б немажлівы тэмпы творчай работы Дзем'яна Беднага. Покуль такі паэт убачыць новае з'яўшча ды вывучыць яго, зразумее-прагадае ў часе, адна падзея зменіцца другою, і ліру патрэбна ўжо перабудоўваць на новы лад.

Дзем'ян Бедны паэтычна рэагуе на лозунгі партыі, на чарговыя падзеі так, як на іх палітычна адклікаюцца рабочы і сялянін,— хутка, жыва, трапна.

Вось чаму ў паэзіі Дзем'яна Беднага, пра што-б ён ні пісаў, заўсёды маецца яшчэ адна надзвычай важная тэма,—тэма чалавечай годнасці рабочага, селяніна, чалавека працы, савецкага чалавека.

Чытаеш вершы Дзем'яна Беднага і цябе ахапляе пачуццё гордасці за людзей, якія ў мінулым не асталіся пакорлівымі рабскай волі, якія падняліся на найвялікшую барацьбу, праявілі ў ёй шмат самаадданасці, розуму, кемлівасці, таварыскай салідарнасці, прадбачлівасці,—і змаглі дабіцца перамогі.

Дзем'ян ведае, што годнасць савецкага чалавека вызначаецца перш за ўсё барацьбою за ўмовы існавання, вартыя высокага чалавечага звання.

У адной з старых песень Дзем'яна Беднага пролетарскі бот наступным чынам навучае сялянскі лапаць:

Полна еще изрядно сору
Твоя плетеная башка.
Судьба твоя, как ни тяжка,

Тяжеле будет, знай, раз нет в тебе „душка"
Насчет отпору . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Уж сколько раз враги пытались толковать;
—„Ох, эти сапоги! Их надо подковать!"
Пускай их говорят. А мы-то не горюем.
Один за одного мы—в воду и в огонь.
Попрабуй-ка, нас тронь.
Мы повоюем!

Усведамленне сваей годнасці асабліва вырасла ў чалавека працы пасля Кастрычніка: вырасла яна і ў тых, хто раней хадзіў вечна згорбіўшыся.

Дзем'ян Бедны і слова знайшоў такое трапнае для таго, каб паказаць годнасць совецкага чалавека. У яго ёсць верш пад назваю „Распрямленные". І сапраўды пролетарская рэволюцыя, вызваліўшы народ ад гарба прыгнечання і жабрацтва, распрастала ўсіх совецкіх грамадзян,—„стройку жизни культурной, счастливой теперь ведут распрямленные люди".

Пачуццё ўласнай годнасці совецкага чалавека ў паэзіі Дзем'яна Беднага як і ў нашай рэчаіснасці, зліваецца з пачуццём годнасці совецкай соцыялістычнай радзімы.

Шмат выключных вершаў Дзем'ян Бедны прысвяціў абароне Совецкага Союза, апяванню яго сілы, яго магутнасці. Калі справа ідзе пра абарону совецкай радзімы, Дзем'ян Бедны, які ў гады грамадзянскай вайны вызначаўся сваімі баявымі песнямі, знаходзіць палкія і вострыя словы, каб паказаць гатоўнасць совецкага чалавека абараніць сваю радзіму, перамагчы яе ворагаў.

Обороняться, значит—бить!
И мы—в ответ на вражьи ковы—
Не скрою, к этому готовы!

Паэзія Дзем'яна Беднага зрабіла вялікія і featuresнастайныя паслугі і пролетарскай барацьбе, аж да паслуг сусветна-дыпламатычных. У сваім дакладзе на апошняй сэсіі ЦВК т. Молатаў спаслаўся на фельетон Дзем'яна Беднага „Политический Гаврик", як на „дастатковае растлумачэнне уругвайскага інцындэнта".

25 год стаіць Дзем'ян на пасту паэта пролетарскай рэволюцыі. Слова яго як і раней моцнае і трапнае, слова большэвіцкай вывучкі і вялікага талента:

Пусть грянут вражьи тулумбасы!
К грядущей грозной полосе,
Когда в боях столкнутся массы,
Узнает враг, кривя гримасы,
Что я—не перепел в овсе.
Что я—певец рабочей массы,
И что мои огнеприпасы
Еще истрачены не все.

*Г. Краснеўскі*

# ТАЛЕНАВІЦЕЙШЫ ПАЭТ НАШАЙ ЭПОХІ [1]

(*Да 6-годдзя з дня смерці В. В. Маякоўскага*)

Шэсць год прайшло з таго трагічнага дня, калі Маякоўскі назаўсёды пакінуў шэрагі байцоў і будаўнікоў соцыялізма. Але і сёння ён, праз свае творы, прадаўжае быць з намі як «живой с живым говоря». На працягу гэтых шасці год, «атакующий класс»—пролетарыят, каму ён аддаў «всю звонкую силу поэта», упісаў у гісторыю многа выключных старонак, якія расказваюць пра нячуваныя маштабы соцыялістычных дасягненняў, людскога гераізма, творчай страсці, дзярзання.

Бліскучае завяршэнне першай пяцігодкі ў чатыры гады, усенародны стаханаўскі рух у другой, невымерны ўздым заможнасці і культурнасці мас—вось справы, створаныя нашым народам за гэтыя шэсць год пад кіраўніцтвам ленінскай партыі, на чале з любімым другам, настаўнікам і правадыром таварышам Сталіным. «Построенный в боях социализм», за які з такім пафасам змагаўся з усімі ворагамі Маякоўскі—замацован назаўсёды, бо ён увайшоў у сэрцы 170-мільённага народа.

«И жизнь хороша и жить хорошо»—гэтыя словы паэта—байца гучаць сёння мільённагалосым рэхам па неабсяжных прасторах нашай краіны, клічуць і будзяць да новых дзярзанняў і перамог.

Моладзь совецкай краіны, наш многамільённы комсамол, з якім Маякоўскі заўсёды быў у такой вялікай і цеснай дружбе, з поспехам аваладвае вяршынямі культуры, навукі, тэхнікі, паказваючы штодзённа прыклады бязмежнага гераізма ў імя сваёй вялікай соцыялістычнай радзімы.

З трыбуны X з'езда комсамола тав. Косарэў сказаў гарачыя выдатныя словы:

«У шэрагах ленінскага комсамола мы павінны падрыхтаваць смелых, адважных, самаахвярных і вынослівых людзей, для якіх няма больш пачэснай задачы, чым абарона соцыялістычнай радзімы на самых небяспечных і перадавых пазіцыях.

Наша задача ў будучых бойках—перамагаць. Комсамолец—сын народа—не здасца, бо палон для яго бясчэсце, незмываемая ганьба...»

---

[1] Даклад, прачытаны 18 красавіка 1936 г. на вечары прысвечаным памяці В. В. Маякоўскага.

Гэтыя словы Косарэва напамінаюць нам вершы Маякоўскага, які горача заклікаў камсамольцаў да няспыннай работы па ўмацаванню абароны краіны:

На классовом фронте
Ширятся стычки,
Враг наступает и скрыто
И голо.
Комсомолия, готовься к перекличке
Боевой готовности
Комсомола.

Маладыя савецкія парашутысты, лётчыкі, танкісты, пагранічнікі далёка-усходнікі, гераічна ахоўваючы сацыялістычныя рубяжы, адказваюць сваёй краіне словамі Маякоўскага: «Готово! Есть!»

Хіба ўсё гэта, завяяванае і дасягнутае савецкай краінай, не ёсць лепшы помнік паэту, які заўсёды горача заклікаў ісці наперад і вышэй да блізкіх даляў «Солнечной Коммуны»?

Так, вялікая краіна сацыялізма дастойна шануе памяць свайго лепшага таленавіцейшага паэта, дзейнасць якога атрымала такую высокую ацэнку з вуснаў мудрэйшага з людзей—таварыша Сталіна. Гэтая ацэнка—голас усяго многамільённага народу, для якога Маякоўскі і яго рэволюцыйная творчасць блізкія, дарагія і дзейна любімыя.

Словы паэта, якія выражаюць пачуццё яго моцнай непарыўнай сувязі з сваім класам, гучаць сёння з усёй страснасцю і перакан аўчасцю:

Я счастлив,
что я
этой силы частица,
Что общие даже слезы из глаз.
Сильнее и чище
нельзя причаститься
великому чувству
по имени—
класс!

Гэтае пачуццё Маякоўскі лічыў самым каштоўным, самым дарагім у сваёй творчасці, змагаючыся з усім і ўсімі, што перашкаджала арганічнаму зліццю яго асобы і творчасці з пролетарыятам. Ён дасягнуў у гэтым сваім высокім і шчырым імкненні таго, што пролетарыят і рэволюцыя любоўна ўсынавілі Маякоўскага, даўшы яму пачэснейшае імя—лепшага, таленавіцейшага паэта сацыялістычнай эпохі.

Тут няма і ўпаміну пра якое-небудзь акадэмічнае кананізаванне Маякоўскага, якое так ненавідзеў, між іншым, сам паэт. Пролетарыят, атрымліваючы ўсю спадчыну паэта, бачыць і ведае сілу і слабасць яго творчасці, усю супярэчлівасць і складанасць яго ідэйна-паэтычнага развіцця.

Таму мы, аналізуючы творчы шлях паэта з пункту гледжання інтарэсаў рэволюцыі, паказваем на яго асобныя зрывы і недахопы, але ў гэтай крытыцы мы падыходзім да Маякоўскага, як да паэта, роднага і блізкага рэволюцыі, паэта, які лічыў служэнне рэволюцыі адзінаю і вышэйшаю мэтаю жыцця.

У чым-жа іменна веліч Маякоўскага, як паэта рэволюцыі, яе таленавіцейшага агітатара і песняра? У чым арыгінальнасць яго паэтычнага голасу, рытма, вобразаў? Якія істотныя бакі рэволюцыі адлюстраваў ён, як палітычны паэт?

Для ўсіх нас зусім відавочна, што гэтая тэма не можа быць вычарпана ў адным артыкуле: яна патрабуе вялікай работы нашых лепшых паэтаў, крытыкаў, літаратуразнаўцаў, якія сумеснымі намаганнямі здолелі-б навукова, дасканала вывучыць і паказаць масам велізарную паэтычную спадчыну Владзіміра Маякоўскага. У прыватнасці нам, якія працуюць тут у Беларусі, трэба прызнацца, што зроблена ў гэтым напрамку яшчэ вельмі мала. Наш абавязак—безадкладна ўзяцца за выкананне гэтай вялікай справы, важнейшая частка якой—пераклады твораў Маякоўскага на беларускую, яўрэйскую і інш. мовы, каб няўміручыя творы паэта сталі даступнымі для працоўных кожнай нацыянальнасці.

* * *

Шлях Маякоўскага да пролетарыята ляжыць праз цэлы шэраг вялікіх і складаных перашкод,—соцыяльных, філасофскіх, літаратурна-стылявых, асабова-бытавых і інш. Каб прабіцца праз гэтыя шматлікія перашкоды, трэба было быць чалавекам вялікага розуму, таленту, палкай нянавісці да старога свету і такой-жа палкай любові да свету новага, соцыялістычнага. Усё гэта ў Маякоўскага было ў наяўнасці і яно з'явілася зарукай яго перамогі.

Тут нельга не прыгадаць другога найвялікшага паэта, барабаншчыка рэволюцыі—Генрыха Гейне. Ён з вялікай нянавісцю бічаваў стары свет, параўноўваў рэволюцыю з сонцам, ён, геніяльны аўтар «Германії» і «Ткачоў» спыніўся ў нерашучасці перад словам: «пролетарыят». Ён убачыў у ім суровага богаборцу, які пасячэ «олеандровые рощи поэзии», а яго «кнігу песень» здасць у краму бакалейшчыка.

Гейне друг Маркса, трапны стралок рэволюцыйнай арміі, зыйшоў у магілу, не прышоўшы да правільнага разумення сутнасці місії пролетарыята.

Я прывёў гэты прыклад не для таго, каб кінуць цень на імя Гейне, альбо супроцьставіць яму Маякоўскага. Не, гэты прыклад я бяру толькі для ілюстрацыі таго, што нават некаторыя геніяльныя пісьменнікі, паэты, якія ідуць да пролетарыята з іншых класаў, часам спыняліся ў нерашучасці перад тым, як зрабіць канчатковы крок на гэтым шляху.

Маякоўскі жыў у іншую эпоху і ў гэтым была яго перавага.

Ён выступіў на літаратурную арэну ў эпоху пярэдадня Вялікай Пролетарскай Рэволюцыі, калі пролетарыят ужо выявіў сябе як адзіны клас, які можа не толькі вытлумачыць, але і перарабіць свет, даць гэтаму свету новыя соцыяльныя, палітычныя, філасофскія і эстэтычныя каштоўнасці. Расійскі пролетарыят пацвердзіў гэта ўсёю сваёю гераічнай барацьбой на барыкадах у дні 1905 г., у гады лютай рэакцыі і потым надышоўшага рэволюцыйнага ўздыму.

Асабістая біяграфія Маякоўскага не выпадкова пераплятаецца з рэволюцыяй, прыводзячы яго, чатырнаццацігадовага юнака ў шэрагі

большэвіцкай партыі. Юнак Маякоўскі—сын нястачы, якога выключаюць з маскоўскай гімназіі за тое, што не ўнесена плата за навучанне,—становіцца актыўным членам гэтай партыі, вядзе па яе заданню нелегальную работу, выбіраецца членам большэвіцкага МК, арыштоўваецца паліцыяй, рана праходзіць суровую школу царскай турмы, трапляючы на год у Бутыркі.

Маякоўскі скора адышоў ад партыі, захоплены ідэяй стварэння «левага мастацтва», якое прапаведвалася раннімі футурыстамі (Бурлюк, Хлебнікаў і інш.). Але ён заўсёды цёпла і любоўна ўспамінаў пра большэвіцкі перыяд свайго юнацтва і не толькі ўспамінаў: ён вынес з гэтага вельмі шмат для сваёй наступнай рэволюцыйнапаэтычнай работы.

Маякоўскі стаў футурыстам, хутка выявіўшы свае разыходжанні з «класічным» футурызмам. Для правільнай ацэнкі творчага шляху Маякоўскага няма патрэбы ў якім-небудзь ідэалізаванні, альбо ўпрыгожванні яго бунтарства, як спрабуюць гэта працягнуць некаторыя з былых футурыстаў [1]). Дробна-буржуазная літаратурнаэстэтычная група куба-футурыстаў, ставячы сваёй галоўнай мэтай барацьбу за «самовитое самоценное слово», выступала супроць акамянелых канонаў дваранска-буржуазнай паэтыкі, уводзіла ў паэзію мову вуліц і плошчаў экстравагантнасцю вобразаў «эпатыравала буржуа». Анархічнае бунтарства, багемны эксцэнтрызм футурыстаў вядома нічога агульнага не мелі з рэволюцыйнай барацьбой пролетарыята. Гэта зусім відавочна.

Гаворачы пра Маякоўскага—неабходна мець на ўвазе, што ён ужо ў раннія гады творчасці вылучаўся сярод іншых футурыстаў па сіле голасу і палкасці пратэста не толькі ў вузка-эстэтычным плане, але і ў сэнсе адмаўлення капіталістычнага правапарадку. Усякі, хто чытаў творы Маякоўскага ранняга перыяду мог заўважыць, што пры ўсім фармальным эксцэнтрызме большасць з іх аднак далёкія ад «словозвонной бесцели» Каменскага, альбо ад «ананасно-шампанской» паэзіі Севераніна. У Маякоўскага было не толькі самамэтнае наватарства формы, не толькі крыклівае арыгінальнічанне, але і велізарная зарадка кіпучай нянавісці да старога рабскага свету. Гэтая нянавісць покуль што здольна толькі лірычна плакаць, альбо рыкаць праклёнамі на пляцах, у ёй няма яшчэ арганізуючай, дысцыплінаванай класавай ідэі. Але ва ўсякім выпадку ніхто з футурыстаў (нават з групы «Гілея») не меў гэтай нянавісці да самаўладства і капіталізма ў такой меры і сіле як Маякоўскі [2]). Характэрна, што Маякоўскага вылучаў з футурыстаў яшчэ ў раннім перыядзе А. М. Горкі. Даючы адмоўную характарыстыку футурызму, як плыні, А. М. Горкі пісаў: «Вось вазьміце для прыклада Маякоўскага—ён малады, яму ўсяго дваццаць год, ён крыклівы, нястрымны, але ў яго несумненна ёсць дараванні. Яму трэба працаваць, трэба

---

[1]) Гэтая тэндэнцыя адчуваецца напрыклад у В. Каменскага ў кнізе „Юность Маяковского“, Заккніга, Тыфліс, 1931 г.

[2]) У артыкуле „И нам мяса“ (1914 г.) сам Маякоўскі так характарызуе футурызм: „Футурыстамі нас ахрысцілі газеты... Футурызм для нас малых паэтаў—чырвоны плашч тарэадора, ён патрэбен толькі для быкоў (бедныя быкі!—параўнай з крытыкай)“. Гослитиздат, 1935 г., т. 1, ст. 307.

вучыцца і ён будзе пісаць добрыя, сапраўдныя вершы. Я чытаў яго кніжку вершаў. Яна напісана сапраўднымі словамі». (Цытую па кнізе Каменскага—«Юность Маяковского», стар. 64).

З гэтых слоў А. М. Горкага,—найвялікшага майстра соцыялістычнага мастацтва,—можна заключыць, што ён ужо тады правільна ацаніў і прадбачыў у Маякоўскім будучага вялікага паэта.

Агідны твар капіталістычнага свету, з яго ўсеагульным прынцыпам—куплі-продажу, атрымаў адбітак ужо ў першых вершах Маякоўскага («Адище города», «Наше», «Послушайте» і інш.). Спачатку ўспрыйманне капіталістычнага горада ідзе па лініі паказу аднаго з яго тыповых бакоў: прастытуцыі, распусты. Такім успрыйманнем абумоўлена ў Маякоўскага наяўнасць адпаведных метафар: «Улица провалилась как нос сифилитика», «Гроба домов публичных», «Автомобиль подкрасил губы» і г. д. Самы горад успрымаецца як нейкі «Адище», у якім «казнятся» людзі ўсякімі пакутамі.

„Адище города окна разбили
на крохотные, сосущие светами адки.
Рыжие дьяволы вздымались автомобили
Над самым ухом взрывы, гудки."

Але не ў гэтым зрокава-гукавым, яшчэ падначаленым фармалістычнаму заданню ўспрыйманні навакольнага («Из улицы в улицу», «Порт» і інш.), заключаецца арыгінальнасць Маякоўскага—пратэстанта. Не, яго арыгінальнасць у тым, што ён упарта шукае «чалавека», свайго лірычнага героя, які стаў-бы носьбітам яго паэтычнага ідэала, яго апорным пунктам для далейшага руху наперад. Спачатку ён апелюе да «соцыяльнага дна», да ўсіх, «провалившихся носами», заяўляючы ім: «Я—ваш паэт». Лірычная тэма Маякоўскага—чалавек і любоў ва ўмовах капіталізма—трактуецца ім яшчэ абстрактна, утапічна, з пазіцый ідэалістычнай філасофіі. Самацэнны, біялагічна паўнакроўны чалавек-індывідуум накшталт Фейербахавага чалавека—вось такі ён ва ўяўленні Маякоўскага. Гэта—у перспектыве, а пакуль што, паэт прызнаецца:

„Я одинок, как последний глаз
у идущего к слепым человека".

Вось бязрадасны вывад паэта. Гэта не магло не прывесці яго да трагедыі «Владимир Маяковский» (1913 г.), у якой ён персаніфіцыруе ў самім сабе лірычнага героя. Асноўны канфлікт трагедыі: адзінота, безадзыўнасць, неразуменне паэта акружаючымі людзьмі і няўхільныя, адсюль песімізм і адчай. Мяшчанства, тупасць, звычкі, традыцыі людзей «без уха», «без глаза», «без головы», пакалечаных капіталізмам, «гора слёз» іхных, якія яны нясуць паэту—усё гэта толькі выклікае адчайны «замученный крик» у душы паэта. «И вижу—в тебе на кресте из смеха распят замученный крик».

У гэтым нервовым крыку мы ўжо ўлоўліваем палкасць пратэсту анархіствуючай адзінкі супроць сапраўднага аб'ектыўнага зла. У святле канкрэтных гістарычных абставін, пратэст у імя абстрактнага чалавека гучыць утапічна, але ён благародней і вышэй чым містычна-рэакцыйныя заклікі сімвалістаў, якія бачылі шчасце паэта ў тым, каб «не желать и не мыслить» (Мярэжкоўскі), альбо «Ни-

кому не сочувствовать, себя самого полюбив беспредельно» (Брусаў). Але гэта ўсё-ж была толькі утапічная мара.

Маякоўскі, не гледзячы на індывідуалізм, ужо тады разумеў, што жыццё патрабуе ад паэта іншага голасу, іншага шляху: «Думал радостный буду, блестящий глазами, сяду на трон, изнеженный телом грек. Нет. Век не забуду дорогие дороги, не забуду ваши ноги худые и седые волосы северных рек». У гэтых словах адчуваецца падцэнзурны намёк на катаргу і ссылку, куды заганяў царызм рэволюцыйных барацьбітоў. Паэт аддае перавагу гэтай цяжкой дарозе, замест дарогі эстэтычна самазадаволеных «изнеженных телом греков» буржуазнай паэзіі.

Не асвядомлены выбар жыццёвай і творчай дарогі барацьбы, не той, якая «протоптонней и легче», яшчэ зусім не азначаў, што Маякоўскі перамог у сабе бунтара-анархіста, не пазбаўленага месіанічнай ідэі глашатая цмяных новых праўд. Ён усё яшчэ знаходзіцца ў палоне шчырага, але утапічнага гуманізма, не ведаючы канкрэтных шляхоў да класа, які перабудоўвае свет. Ён покуль што толькі «бесценных слов транжир и мот».

Надышоўшая імперыялістычная вайна 1914 г. бясспрэчна садзейнічала паглыбленню палітычнай і мастацкай свядомасці паэта ў бок больш рэалістычнага ўспрыняцця рэчаіснасці і асэнсавання класавых супярэчнасцей грамадства. Але зноў такі гэты новы этап у разуменні рэчаіснасці Маякоўскім прыйшоў не зразу. Аб гэтым сам паэт так пісаў у сваёй аўтабіяграфіі: «война. Воспринял взволнованно. Сначала только с декоративной, с шумовой стороны».

У гэтых словах мы знаходзім пацверджанне таго, якія глыбокія яшчэ былі ў ім індывідуалістычна-эстэцкія настроі і традыцыі старай буржуазна-дваранскай літаратуры. Прайшоўшы праз эстэтызм і пацыфізм, Маякоўскі, нарэшце, загаварыў пра вайну сваім арыгінальным голасам, голасам паражэнца і зацятага ворага вайны:

„Вам прожигающим за оргией оргию
имеющим ванную и теплый клозет!
Как вам не стыдно о представленных к Георгию
вычитывать из столбцов газет?!“ („Вам!“)

Для Маякоўскага праблема «Как пронести любовь к живому» застаецца асноўнай. Пачуццё нянавісці і пратэста супроць капіталістычнага ладу, з яго халоднымі грашовымі інтарэсамі, з яго душою, ў якой «золотолапым микробом льется рубль», у імя якога вядзецца чалавечая мясарубка-вайна—удасканальваецца і канкрэтызуецца ў вядомай паэме «Война и мир» (1916 г.). Пацыфісцкая нервовая настраёвасць верша тыпа «Мама и убитый немцами вечер», тут змяняецца на больш дзейны заклік да паражэнства, просты зварот да тых, хто сотнямі тысяч гнілі і гінулі ў акопах:

„Никто не просил
Чтоб была победа
родине начертана.
Безрукому огрызку кровавого обеда
На чорта она“.

На фоне ўсеагульнай шавіністычнай агіднасці тагочаснай буржуазнай літаратуры, якая завывала на тэмы пра «святую рускую

зброю», пра «поход на Царьград» і г. д.—паэма Маякоўскага ўзвышаецца сумленнасцю голасу і ўваходзіць у гісторыю літаратуры, як выключны інтэрнацыянальны твор, у якім «средь воя і визга» буржуазнай літаратуры гучыць сапраўды «человечий голос». Скрозь крывавы туман вайны, паэт бачыў яшчэ няясныя абрысы новага грамадства і з вялікім пафасам пісаў:

„И он  
свободный,  
ору о ком я,  
человек—  
придет он,  
верьте мне  
верьте!"

Вайна з яе мільёнамі чалавечых ахвяр яшчэ больш абвастрыла распрацоўку асноўнай тэмы паэта: тэмы чалавека і яго лёсу ў капіталістычным грамадстве.

Ён усё ясней пачынаў адчуваць немажлівасць асабістага шчасця і паўнаты жыцця абяздоленых людзей ва ўмовах капіталізма. У адрозненне ад усіх іншых футурыстаў, якія ў большасці задавальняліся эксцэнтрычнымі практыкаваннямі ў справе эпатыравання буржуа і нанясення «пощечины ее вкусу», Маякоўскі востра, горача прарываецца да вялікай соцыяльнай тэмы, да перспектыў будучага, да сонца, да таго утапічнага ладу, дзе людзі будуць «бога самого милосердней и лучше!»

Лірычная праэкцыя да чалавека наогул, да абстрактнага героя застаецца па-ранейшаму, але ўдакладняецца аўтарскае паэтычнае разуменне асноўнай соцыяльнай прычыны зла—усемагутнасці капітала, які апутаў сваімі ланцугамі свет. Адсюль—інстынктыўнае імкненне да барацьбы і знішчэнне гэтых прычын, якія пазбаўляюць асабістасці масы людзей, калечаць іх.

Гэта новае соцыяльна-філасофскае паглыбленне Маякоўскага ў сваю тэму дае яму мажлівасць ужо ў «Облаке в штанах» (1915 г.) зрабіць прагноз адносна надыходзячай рэвалюцыі.

„Я,  
обсмеянный у сегодняшнего племени,  
как длинный  
скабрезный анекдот,  
вижу идущего через горы времени,  
которого не видит никто.  
Где глаз людей обрывается куцый  
главой голодных орд,  
в терновом венце революций  
грядет шестнадцатый год".

Лірычныя паэмы Маякоўскага «Флейта позвоночника» і «Облако в штанах» яшчэ насычаны індывідуалізмам, трагедыяй непадзеленай любві, элементамі фармалізма, пераймаючы шмат у чым каноны футурызма. Да пролетарскай рэволюцыі Маякоўскі ішоў адштурхоўваючыся ад індывідуалізма і празмернай фармальнай складанасці «Облака в штанах». Але важна адзначыць, што ўжо ў гэтых творах мы наглядаем вялікае імкненне да рэалістычнага асэнсавання

рэчаіснасці, да пазнання соцыяльных законамернасцяў, што паказвае на працэс упартай работы Маякоўскага над сваім светапоглядам. Гэтую работу можна ахарактарызаваць як пошукі паэтам моцнай філасофскай і соцыяльнай апоры для сваёй паэзіі. Абвастрэнне канфлікта паміж «я» і «светам» («Не поставить ли точку пули в своем конце») кажуць нам пра тое, як балюча, востра стаялі тады гэтыя пытанні перад Маякоўскім, калі

„Мысли крови сгустки
больные и запекшиеся, лезут из черепа".

Утапічны гуманізм Маякоўскага, сустракаючы тысячы перашкод у канкрэтным жыцці, ставіць яго лірычнага героя перад пытаннем: што-ж далей? Нават любоў, гэтае здавалася-б індывідуалістычнейшае пачуццё чалавека, робіцца немажлівым у гэтым жорсткім грамадстве, і сам «бог», гэты «всевышний инквизитор» са здзекам пасмейваецца над сваім жаласлівым рабом: «бог доволен. Под небом в круче, измученный человек одичал и вымер», яму не дазволена нават радасна кахаць, «что-б было без мук целовать, целовать, целовать».

Маякоўскі ў сваіх закліках да бунта супроць маральна-рэлігійных пут старога грамадства адчуваў надыходзячую рэволюцыю. Але і тут ім яшчэ не знойдзена рэалістычная формула для дзейнай барацьбы і перамогі над самадзяржаўным капіталістычным светам. Паэт яшчэ не ведае той асноўнай класавай сілы, якая здолее звaліць капіталізм і распрыгоніць чалавека і грамадства.

Няма ніякай патрэбы недаацэньваць значэнне паэмы «Облако в штанах», як пэўнага этапа ў творчасці Маякоўскага, таксама, як і ўзнімаць яго на пастамант нейкай «поэтической вершины» ва ўсёй паэзіі Маякоўскага, як спрабуюць гэта рабіць некаторыя «эстэты». Усім вядома, што сам паэт вельмі крытычна падыходзіў да «Облака в штанах» і неаднаразова паказваў на адмоўныя бакі паэмы.

У паэме «Человек» (1917 г.) паэт з усёй вастрынёй, якая мяжуецца з адчаем, утапічна шукае гармоніі асабовага і соцыяльнага ідэала, па свойму абгрунтоўваючы права людзей на сонца і радасць. «Человек от природы красив, сон создан для труда и радости»,—разважаў паэт.

У яго—«пара прекрасных рук», у «черепе-шкатулке—драгоценный ум», «под шерстью жилета бьется необычайнейший комок». Чалавек, адным словам «небывалое чудо двадцатого века». Што-ж яму перашкаджае скарыстаць гэтыя выключныя дары прыроды?—«Повелитель всего, неодолимый враг, «спрутообразный капитал»: «на мозгах верхом—закон, на сердце цепь—религия». Капітал, золата кіруюць светам і трымаюць у ланцугах чалавека.

„Рвясь из меридианов,
Атласа арак пенится.
Звенит золото ворот франков,
Долларов,
рублей,
крон,
иен,
марок."

Паэт разумее, што нельга перамагчы аднаму гэтага «повелителя всего», і таму ён называе яго сваім «соперником и неодолимым врагом».

* * *

Такім чынам мы бачым, што папярэдняя дзейнасць Маякоўскага, уся яго нянавісць да эксплуататарскага свету капіталізма, усе мары пра наступленне новай эры утапічнага соцыялізма, яго прадчуванне немінучасці соцыяльнай сутычкі паміж прыгнятальнікамі і прыгнечанымі шчыльна падводзілі яго да пролетарыята, як адзінай сілы, здольнай вырашыць асабовыя і грамадскія супярэчнасці.

«Прымаць ці не прымаць»?—такога пытання для мяне (і для іншых таварышоў футурыстаў) не было. «Мая рэволюцыя!»—кажа Маякоўскі ў сваёй аўтабіяграфіі. Ніхто не можа сумнявацца ў суб'ектыўнай шчырасці гэтых слоў, пацверджаных справамі Маякоўскага. Але прыняўшы пролетарскую рэволюцыю як сваю, аддана служачы ёй, ён удакладняў і паглыбляў сваё прыняцце рэволюцыі, перамагаючы ў сабе рэшткі індывідуалістычнай ідэалогіі. Ён з захапленнем вітае лютаўскую рэволюцыю, прыняўшы яе на некаторы час за тую рэволюцыю, якую ён чакаў, за свой ідэал,—але, прыглядзеўшыся уважліва да новых гаспадароў жыцця, ён пазнаў у іх асобе старых знаёмых,—уладароў «рублей, долларов, франков», якія ад «імя рэволюцыі» гналі салдат пад кулі і шрапнелі, каб давесці «вайну да пераможнага канца». З тым большай сілай ён накіроўвае на іх стрэлы сваёй нянавісці, заклікаючы масы ператварыць вайну імперыялістычную ў вайну грамадзянскую (верш «К ответу»).

Як паэт вялікай вулканічнай страсці і глыбокай думкі, захоплены энтузіязмам перамогшай пролетарскай рэволюцыі, Маякоўскі цалкам аддаецца яе тэмам, пафасу, дынаміцы. Ён шукае мастацкапаэтычных форм, у якія можна было-б укласці гіганцкі змест адбыўшайся першай у свеце рэволюцыі пролетарыята.

У выніку гэтых пошукаў з'явіліся такія творы Маякоўскага як «Левый марш», «Мистерия Буфф», «150 000 000» і інш.

У сваім «Левом марше» Маякоўскі, як ніхто, знайшоў выключную форму і пафас для таго, каб паказаць веліч рэволюцыі і глянуць у яе сонечнае заўтра.

„Там за горами горя
Солнечный край непочатый
За голод, за мора море
Шаг миллионный печатай".

У гэтых словах Маякоўскі выступае перад намі як выключны рэволюцыйны рамантык з невымернай паэтычнаю сілай мары, якая асвятляе вялікі шлях рэволюцыі.

В «Мистерии Буфф» і «150 000 000» паэтычнае заданне ў Маякоўскага выяўляецца ў пошуках мастацкіх сродкаў для перадачы планетарнай сутнасці рэволюцыі, яе гіганцкай барацьбы супроць усяго капіталістычнага свету. Тэма, якая не стаяла ні перад адным з самых найвялікшых пісьменнікаў свету. Маякоўскі браўся за яе не ў інтарэсах таго, каб праславіцца (наадварот ён лічыць аўтарам сваёй паэмы 150-мільённую масу), а ў імя таго, каб уславіць рэволюцыю, у якую ён горача верыў і якой хацеў сумленна служыць.

Паэт выкарыстоўвае з свайго паэтычнага арсенала такія сродкі, як гіпербала, сатыра, умоўныя (алегарычныя) вобразы, аратарска-разгаворную мову і інш. Пафас ён чэрпаў непасрэдна з самой рэвалюцыі, у якой сам быў актыўным удзельнікам.

Рэвалюцыйную масу ў 150 000 000 Маякоўскі персаніфіцыруе ў вобразе гіганта—Івана, які ідзе на смяротную барацьбу з сусветным капіталізмам, увасобленым у вобразе прэзідэнта Амерыкі Вудро Вільсона:

„И вот
Россия
Не нищий оборвыш,
Не куча обломков
Не зданий пепел—
Россия
вся
единый Иван;
и рука
у него—
Нева,
а пятки—Каспийские степи".

Маякоўскаму ў гэтых творах, не гледзячы на іх недахопы, удалося паказаць першы гераічны этап нашай рэвалюцыі. Яны адыгралі важнейшую ролю мастацкай агітацыі, якая натхняла барацьбітоў рэвалюцыі ідучых у бой. Дастаткова сказаць, што пастаноўку «Мистерия Буфф» прагледзела не адна сотня рабочых і чырвонафлотцаў, якія, між іншым, аднадушна ўказвалі на даступнасць і зразумеласць пастаноўкі, наўпярок поглядам многіх аматараў класіцызма. Недахопы гэтых твораў (немінучыя пры такім размаху тэмы) не змяншаюць іх гістарычнага значэння, як літаратурных помнікаў першай гераічнай паласы рэвалюцыі.

Маякоўскі вельмі многа змагаўся за рэвалюцыю, і вельмі страсна чакаў яе прыходу, каб аставацца халодным паэтам у адносінах да яе. Ён, наватар верша ў мінулым, які даў яму дэмакратычна-мітынговы слоўнік, аратарскую гучнасць, смелую метафарычнасць, страсную усхвалёванасць—ён не мог не думаць пра далейшае ўдасканаленне рэвалюцыйнай паэзіі, пра аснашчэнне яе новай зброяй, якую патрабавала эпоха.

І ён у сваім «Приказе № 2 по армии искусств»—з суровай патрабавальнасцю вызначае лінію гэтага палітычнага перааснашчэння паэзіі:

„Вам говорю
я —
гениален я, или не гениален,
бросивший безделушки
и работающий в росте,
говорю вам—
пока вас прикладами не прогнали:
Бросьте!
Бросьте!
Забудьте,
плюньте
и на рифмы,
и на арии,
и на розовый куст,
и на прочие мелехлюндии
из арсеналов искусств.

І ў заключэнне—лозунг:

„Товарищи,
дайте новое искусство—
такое,
чтоб выволочь республику из грязи."

Словы суровыя і далёка не «паэтычныя» для эстэцкага вуха. Але яны апраўданы інтарэсамі рэволюцыі, якая патрабавала ад паэзіі іншага ладу ідэй, слоў і вобразаў. Ён сам першым адгукнуўся на яе заклік, пайшоўшы на работу ў «Роста»—гэтую нябачаную да гэтага часу фабрыку новай зброі, у выглядзе вострага палітычнага плаката, які б'е без промаху па ворагу, які выклікае ўсмешку бадзёрасці, альбо складку задумлівасці на твары ў рабочага, селяніна, чырвонаармейца. У гэтую чорную работу «Роста» Маякоўскі ўносіў тэмперамент сапраўднага паэта рэволюцыянера, бо ён ведаў каму і для чаго патрэбна гэтая работа. У сваёй аўтабіяграфіі паэт піша пра гэты перыяд:

„Дни и ночи Роста. Наступают всяческие Деникины.
Пишу и рисую. Сделал тысячи три плакатов
И тысяч шесть подписей".

Падводзячы вынікі «ростаўскаму» перыяду сваёй работы, у прадмове да кнігі агітвершаў «Грозный смех», Маякоўскі не без гонару пісаў: «Гэта не толькі вершы. Гэта ілюстрацыі не для графічных упрыгожванняў. Гэта пратакольны запіс цяжэйшай трохгадовай рэволюцыйнай барацьбы, перададзенай плямамі фарбаў і звонам лозунгаў. Гэта мая частка велізарнейшай агітработы акон сатыры Роста. Няхай успамінаюць лірыкі вершы, пад якія ўлюбляліся. *Мы рады ўспомніць і радкі, пад якія Дзенікін бег з-пад Орла*». (падкрэслена мною—Г. К. Збор твораў, т. X, стар. 7).

Такі выключны вынік работы паэта ў «Роста», якая шмат дала яму, як паэту і рэволюцыянеру-байцу. Ён пайшоў адтуль толькі тады, калі былі гераічнай Чырвонай арміяй ліквідаваны «всяческие Деникины».

Былі і ёсць яшчэ людзі, якія, не разумеючы рэволюцыйнага тэмперамента Маякоўскага, думаюць, што аўтар «Окон Роста» быў чымсьці накшталт паэтычнага аскета, які з роздумам, без агня, рыфмаваў свае лозунгі. Гэтым беднякам па часці глыбокага пачуцця і палкасці неўцям, што Маякоўскі ўсяго сябе ўкладваў у работу над плакатамі і лозунгамі таму, што ў гэтым «малым» ён галавою і сэрцам адчуваў вялікае і любімае—сонечнае заўтра соцыялістычнага грамадства. Маякоўскі, які зняважліва ставіўся да «реалистов на подножном корму» сам быў рэалістам, акрыленым гарачай рэволюцыйнай марай аб будучыне. Ён не пераставаў марыць і тады, калі ствараліся «Окна Роста». Вось адзін з яркіх узораў мары паэта, узяты з надпіса да «Окна № 44», пад загалоўкам «Коммунары».

„Не пощадит никого рабочий удар,
дней пройдет гряда—
*и будут жить*
*под властью труда*
*все страны и все города.*

*Наши века.*
*Наши года.*
*Не страшны никакие узы.*
*Нашу правду,*
*Как солнце,*
*Никогда ни один не задует*
*толстопузый!"*

Вось у гэтай бясстрашнай, рэволюцыйнай мары ключ да правільнага разумення ўсяе творчасці Маякоўскага і ў прыватнасці да разумення «черной» паэтычнай работы па абслугоўванню «будзённых» патрэб рэволюцыі. Гэты рамантызм у лепшым сэнсе слова, жывіўся глыбокай верай паэта ў творчыя сілы пролетарыята і яго партыі.

Знаходзячыся арганізацыйна ў «ЛЕФЕ» Маякоўскі, не гледзячы на паасобныя памылкі і зрывы, працягвае сваю работу рэволюцыйнага наватара паэзіі. Яго ідэалам былі творы, якія-б «грубо и зримо» ўрываліся ў жыццё, былі палітычна вострымі, зразумелымі і дзейнымі да апошняга слова, каб іх работу можна было параўноўваць з вынікамі работы арганізаваных мас. Рыфму без сэнсавай нагрузкі, вобраз без актуальнага зместу ён катэгарычна адмаўляў, упадаючы часам у крайнасці лефаўскай тэорыі. (Да рэчы сказаць, што тычыцца лефаўскіх і рэфаўскіх тэорый, то Маякоўскі на кожным кроку ўзрываў іх, паднімаўся над імі, фактычна быў першым руйнавальнікам лефаўства.)

Увядзенне нэп'а выклікае ў свядомасці Маякоўскага рэцыдыў індывідуалізма. Суб'ектыўна-лірычная лінія, якая абарвалася ў паэта пасля рэволюцыі, у выніку яго адмаўлення ад асабовай тэмы, адраджаецца зноў у паэме «Про это». Але тут выразна чутны водгукі ранейшай трывогі, разгубленасці і няўпэўненасці ў самім сабе. Адбываецца пераклічка з ранейшай песімістычнай паэмай «Человек». Нэп павярнуўся да паэта сваім агідным «мурлом мешчаніна», які зноў растаўсцеў, стаў самазадаволеным і прагным. (Дадатныя бакі нэп'а паэт убачыў крыху пазней). Гэта гіпербалізацыя небяспекі мяшчанства выклікае ў ім эмоцыю трывогі за лёс рэволюцыі; недзе ў душы паэта варушыцца сумненне ў перабудоўчай, ачышчальнай сіле рэволюцыі.

„Сомнете периной
И волю, и камень
Коммуна и то завернется комом.
Столетьями жили своими домками,
И нынче зажили своим домкомом".

У гэтым смярдзючым, абывацельскім быту гіпербалічна ўспрынятым, паэт бачыць амаль непераможнага ворага, які здолен загубіць рэволюцыю і робіць адсюль песімістычны вывад; лірычны герой раздвойваецца: у той час як адзін з двайнікоў яшчэ раз спрабуе крытычна даследваць жыццё і знайсці ў ім пункт апоры, другі сумным сілуэтам «вбит в перила моста», гатовы кожную хвіліну пахаваць свае сумненні ў хвалях Невы.

Нам памятна ў першыя гады нэп'а тая заразная прыліплівая хвароба, што завецца дробна-буржуазнай бесхарактарнасцю, якая ахапіла некаторыя групы дробнабуржуазнай інтэлігенцыі і нават няўстойлівыя элементы комсамола і партыі. У гэтай істэрычнай публікі

былі свае палітычныя правадыры і паэты, накшталт контррэвалюцыйнага фразёра Троцкага, яго зброяносца—Варонскага, кулацкага плакальніка Сяргея Есеніна і інш. Паэты «Кузніцы» таксама пачыналі аплакваць адступленне «железного Мессии». Адзін з саратнікаў Маякоўскага—Асееў пісаў тады:

„Как я стану
Твоим поэтом, коммунизма племя,
если крашено рыжим цветом
а не красным время".

Маякоўскі ў паэме «Про это» аддаў некаторую даніну гэтым дробнабуржуазным настроям, калі гаварыў, што «и стих и дни не те». З гэтага часовага крызіснага становішча Маякоўскі скора выйшаў, наўпярок правакацыйнай пісаніне трацкістаў, якія хвалілі ў ім іменна гэтыя рэцыдывы дробнабуржуазнай бесхарактарнасці, і якія ўсяляк ахайвалі аўтара «Мистерии Буфф», «150 000 000», паэмы «Ленин» і інш. Як заўсёды было ў паэта, ён зрабіў над самім сабою самакрытычны допыт, з прыстраснасцю адчуў сваю памылку, горача ўзяўся зноў за работу над стварэннем новых твораў, у якіх заблішчэлі-б яшчэ неадлюстраваныя бакі вялікай рэволюцыі.

Прышоўшы да пролетарыята, Маякоўскі шчыра імкнуўся да таго, каб па-праву насіць высокае імя рэволюцыйнага паэта, не думаючы, вядома, пра «бронзы многопудье» ў будучым. Ён не любіў звання ў крэдыт і пачаў задумваць такі твор, у якім яго рэволюцыйны тэмперамент і партыйнасць знайшлі-б сваё адэкватнае, паэтычнае адлюстраванне. І вось у 1924 г. ён піша адзін з сваіх лепшых няўміручых твораў, паэму «Владимир Ильич Ленин», прысвечаную Расійскай Комуністычнай партыі большэвікоў. Можна сказаць, што ў гэтым творы паэт трымаў экзамен на майстра вялікай рэволюцыйнай паэзіі. Ён вытрымаў гэты экзамен з гонарам. Паэма ахоплівае эпахіяльна-грандыёзныя падзеі, якія Маякоўскі асэнсоўвае як марксіст і мастак: векавая, вялікасная драматычная барацьба эксплатуемых супроць сваіх эксплаататараў, гераізм мас, іх палкая вера ў лепшае будучае, бязмежная любоў да свайго геніяльнейшага правадыра Леніна, мужнае гора мільёнаў, якія аплакваюць смерць Ільіча, лірычна ўсхвалёванае яднанне мас з партыяй—усё гэта знайшло сабе пераканаўчае, простае і ўзвышанае адлюстраванне ў паэме. Найглыбейшым пафасам гучаць строфы, прысвечаныя Леніну:

„Мы хороним самого земного
Изо всех прошедших по земле людей.

. . . . . . . . . . . . . . .

Землю всю охватывая разом
Видел то, что временем закрыто.
Он, как вы и я, совсем такой же,
Только может быть у самых глаз
Мысли больше нашего морщинят кожей,
Да насмешливей и тверже губы, чем у нас".

Няхай тут няма яшчэ закончанага вобраза самага лепшага і мудрага сына і правадыра чалавецтва, але тут у наяўнасці велізарная любоў і высокае натхненне паэта, які гатоў «жизнь свою, глупея от восторга, за одно его дыхание отдать».

Маякоўскі праз гэтую сваю паэму дасяг самага задушэўнага, самага палка-жадаемага: ён адчуў як ніколі сваё арганічнае, кроўнае адзінства з Леніным, з партыяй «причастившись великому чувству «класс».

„Я буду писать
и про то
и про это,
Но нынче
не время
любовных ляс.
Я
всю свою
звонкую силу поэта
Тебе отдаю,
атакующий класс.
Пролетариат—
неуклюже и узко
тому,
кому
коммунизм—западня.
Для нас
это слово—
могучая музыка,
Могущая мертвых
сражаться поднять“.

Маякоўскі ў сваёй паэме з глыбокім хваляваннем і абаяннем гаворыць пра мужную барацьбу ленінскай партыі, якая ўвасабляе «мозг класса, дело класса, силу класса, славу класса». Паэт, знаходзячыся на самай высокай «вышке»—«вышке партии», ганарыцца сваёй партыйнасцю, усведамленнем таго, што «партия единственная, что мне не изменит». Так глыбока разумеў партыйнасць свае творчасці Маякоўскі.

Калі-б нават Владзімір Маякоўскі і не напісаў нічога больш, акрамя паэмы Ленін (якая да рэчы ёсць паэма і яго асабістай перамогі над сваім мінулым у імя комунізма), то і тады ён увайшоў-бы ў гісторыю рэволюцыі, як яе вялікі таленавіцейшы паэт. Асобныя недакладнасці паэмы ідуць ад грандыёзнасці тэмы, яе гістарычнай непаўторнасці, для паўнаты адлюстравання якой неабходны геній мастака роўнага Леніну. Але вялікі талент Маякоўскага зрабіў вялікую справу для ўсяго сусветнага пролетарыята, даўшы яму мастацкі адчуць веліч барацьбы атакуючага класа, абаянне асобы Владзіміра Ільіча Леніна, чалавека і правадыра, адчуць сталёвую магутнасць выхаванай ім партыі. Гэта не мала для любога вялікага паэта.

Пасля паэмы «Ленин», якая гэтулькі-ж эпічная па матэрыялу, як і лірычная па сваёй танальнасці, мы можам смела сказаць, што Маякоўскі быў па сваёй паэтычнай структуры найглыбейшым лірыкам. Ён умеў асвойваць у лірычным плане самыя вялікія і рознастайныя з'явы рэволюцыйнай эпохі. І калі яму ўсё-ж даводзілася «наступать на горло собственной песне», то гэта толькі ў тым сэнсе, што ён імкнуўся к поўнаму зліццю ў адным голасе асабістай і рэволюцыйна-класавай песні, без усякіх фальшывых абертонаў.

тэмпераментам песні, мы чуем усё часцей і часцей у паэта, чым бліжэй ён падыходзіў да літаратуры пролетарыята, вызваляючыся ад перажыткаў «лефаўства».

* * *

Паспяхова заканчваецца аднаўленчы перыяд у краіне. У маладой рэспубліцы кіпіць гарачая творчая работа. Новая эканамічная палітыка ў руках партыі пролетарыята служыць інтарэсам рэволюцыі. У соцыялістычнай краіны шмат усякіх ворагаў. Маякоўскі ў гэты час займаецца справамі, якія ён наўмысля ахрысціў самай антыэстэтычнай, здавалася-б, назвай: «рэволюции ассенизатор и водовоз». Ён, прызнаны майстра адточанага, палітычна-вострага верша, з вялікім натхненнем чаканіць рыфмаваныя лозунгі, дабіваючыся, каб не адно зярнё думкі, слова, рыфмы не прапала дарма, не дайшоўшы да вуха і сэрца чытача. Ён энцыклапедычны ў тэмах сваіх агітак, фельетонаў, сатыр, гумарэсак, хронік,—ён сапраўды, кажучы яго ўласнымі словамі, «не гнушался никакой работой, никакой темой революции, о строительстве народного хозяйства и писал агитки по любому хозяйственному вопросу». У арсенале гэтых вострых стрэлагітак мы знаходзім надзвычайную рознастайнасць: барацьба з алкагалізмам, з клапом, з гразёю, напамінанне пра небяспекі з боку кулакоў, барацьба з гультаямі, слова пра пазыку, пра рабочую кватэру, заклік да комсамольцаў мацаваць абарону краіны, сатыры на бюракрата, на пашляка, на мешчаніна, на баязліўца, гарачае слова ў карысць бесперапынкі, выкрыццё «кандидатов из партии» і г. д.

Усюды Маякоўскі на варце, ён заўсёды добрасумленны ў апрацоўцы, шліфоўцы верша. Часам, гэты паэтычны багач бедаваў пра тое, што вось моў «бедна у мира слова мастерская». Між тым, сам ён на кожным кроку абвяргае гэты свой афарызм.

У сваёй кнізе «Как делать стихи» Маякоўскі паказаў нам сваю «творчую лабараторыю», тэхналогію паэтычнага майстэрства, сваю сістэму «нарыхтовак» паэтычнай «руды» і ператварэнне яе ў звінючы моцны метал гатовых вершаў. Маладыя паэты заўсёды знойдуць для сябе ў гэтай кнізе (не гледзячы на наяўнасць у ёй спецыфічнай лефаўскай тэрміналогіі) масу навучальнага і патрэбнага не ў форме гатовых рэцэптаў, а для самастойнага мыслення і работы. Навучальны, напрыклад, расказ Маякоўскага пра тое, як ён «с боем» заваёўваў, прымерваў, шліфаваў кожнае слова і радок у будучым сваім бліскучым вершы «На смерть Есенина». Гэта не азначае, што яму не хапала таленту, натхнення, глыбокай думкі. Гэта азначае тое, што ён, маючы ўсё гэта ў дастатку,—падобна Пушкіну, Гейне і інш. геніям, лічыў паэзію адказнейшай, часам крапатлівай працай. Вось чаму ён казаў, што «поэзия—производство. Труднейшее, сложнейшее—но производство». Сталая сувязь Маякоўскага з масамі, непасрэдная праверка сваіх твораў праз успрыняццё гэтых мас, крапатлівае накапленне слоўнасэнсавых «нарыхтовак», пошукі арыгінальнага, свайго паэтычнага паказу,—усё гэта падначальвалася галоўнай мэце—даць максімальна-мастацкія і ідэйна-ўзброеныя вершы.

Усякай вершаванай нікчэмнасці ён быў заўзятым ворагам і сам не ніколі не дапускаў. Ён ненавідзеў прадстаўнікоў «поэтических садо-

водств», нікчэмных фармалістычных выкрунтасаў, халодных рэгістратараў «входящих впечатлений», але адначасова быў таксама і супроць тых, якія былі «реалистами на подножном корму».

Рэалізм у разуменні Маякоўскага—гэта паэзія шырокіх соцыялістычных гарызонтаў, яснай мэтаімкнёнасці і дальняга рэволюцыйнага прадбачання.

Ён сам паказваў бліскучыя ўзоры паэзіі соцыялістычнага рэалізма, акрылёнага бадзёрай рэволюцыйнай марай, у сваіх паэмах «Ленин», «Хорошо», «Во весь голос», у цыкле вершаў «Заграница». Возьмем для прыклада цыкл яго вершаў, прысвечаных замежжу». Нас хвалюе і здзіўляе ў гэтай кнізе вершаў вялікасная цэльнасць думкі, пачуцця і веры паэта, які сапраўды ўмее «за каждой мелочью революцию мировую найти». Кожны верш, незалежна ад тэм, прасякнут моцным пафасам, які ідзе ад глыбокай упэўненасці паэта ў правату і непераможную магутнасць пролетарскай рэволюцыі, як надзеі і гордасці ўсіх прыгнечаных і эксплаатуемых. Другое меркі пры падыходзе да з'яў і фактаў заграцічнага жыцця Маякоўскі не ведаў. Вось цікавы штрых, які характарызуе ідэйную мэтанакіраванасць паэта ў яго назіраннях замежжа.

У вершы «Версаль» (з цыкла «Париж») мы чытаем такія радкі:

„Я все осмотрел,
пощупал вещи.
Из всей
красотищи этой
Мне
больше всего
понравилась трещина
на столике
Антуанетты.
В него
штыка революции
клин
вогнали
пляша под распевку,
когда
санкюлоты
поволокли
на эшафот
королевку".

Тут паэт выступае не як рафініраваны эстэт, а як нашчадак санкюлотаў, прадаўжальнік іхнай рэволюцыйнай справы, якому эстэтычна прыемна не проста «прыгожае», а тое, што асоцыіруецца з гістарычнай барацьбой і перамогамі рэволюцыі санкюлотаў—папярэднікаў пролетарыята.

Неабходна паказаць на прынцыповыя змены ва ўзаемаадносінах паміж асабовай і грамадскай тэмай, у параўнанні з папярэднім этапам «Мистерии Буфф» і «150 000 000». Змена гэта заключалася ў тым, што Маякоўскі, як мы паказвалі ўжо, адмаўляецца на значны час ад асабовай тэмы, ад лірычнага голасу і прыходзіць да яго зноў. Але прыходзіць ён ужо як соцыялістычны лірык, які сумеў сінтэзаваць свае асабістыя пачуцці, думкі і самую форму паэзіі з рэволюцыяй і пролетарыятам.

У паэме «Про это», пра якую гаварылася вышэй, паэту яшчэ не ўдаецца дасягнуць гэтага сінтэза, там яшчэ асабовая тэма знаходзіцца ў супярэчнасці з рэчаіснасцю.

У паэме «Ленин» лірычны голас паэта дасягае вялікай сілы і ўпэўненасці, бо паэт адчувае, што ён далучыўся да «великого чувства, по имени класс».

Вось чаму, у гэтай паэме ўжо няма абязлічанасці падобна «Мистерии Буфф» і іншым творам. Наадварот, паказваючы падзеі, паэт да глыбіні душы ўсхвалёван імі, ён жыве ўсімі пачуццямі мас, імкнучыся ў кожным раздзеле выказаць свае асабістыя адносіны да падзей.

Кастрычніцкая паэма «Хорошо» з'яўляецца працягам лініі, пачатай паэмай «В. И. Ленин» і паказчыкам няўхільнага набліжэння Маякоўскага да пролетарскай літаратуры і соцыялістычнага рэалізма.

У пачатку паэмы «Хорошо» маюцца радкі, якія нагадваюць некаторыя лефаўскія ўстаноўкі: «Телеграммой летит строфа! Воспаленной губой, припади и попей из реки, по имени—факт».

На самой справе, паэма з'яўляецца ярчэйшым абвяржэннем гэтай тэорыі, паказваючы яшчэ раз, як Маякоўскі рэволюцыянер, паэт-наватар, перамагаў Маякоўскага тэарэтыка-лефаўца.

Крыху пазней (1930 г.) выступаючы на канферэнцыі МАПП Маякоўскі рэзка асудзіў тэорыю і практыку ЛЕФА, назваўшы яго «эстетической группой», «замкнутым в себе эстетическим предприятием». У сваёй паэтычнай практыцы, як ужо адзначалася вышэй, ён значна раней пачаў парываць з лефаўскім «эстетическим предприятием».

Паэма «Хорошо» па ахопу гістарычных падзей (10-годдзе Кастрычніцкай рэволюцыі) з'яўляецца вялікім эпічным творам. Па аўтарскіх адносінах да матэрыялу: лірычным, сатырычным і одычным; па сіле абагульнення, тыпізацыі з'яў—буйнейшым рэалістычным творам. «Хорошо»—гэта апафеоз рэволюцыі пролетарыята, якая *добра* робіць сваю вялікую справу наўпярок усім ворагам і ўсялякім перашкодам. Вядома, такога твору «не уложишь в прокрустово ложе литературы факта».

Сваю ідэйна-паэтычную задачу паэт фармуліруе адразу-ж у пачатку паэмы:

„Я хочу, чтобы с этою
        книгой побыв,
из квартирного мирка
шел опять на плечах пулеметной пальбы
Как штыком,
        строкой,
                просверкав,
Чтоб из книги,
                через радость глаз,
от свидетеля счастливого,—
в мускулы
            усталые,
                лилась
строящая
        и бунтующая сила".

Гэтае самазаданне паэта вызначала ўвесь лад і стыль паэмы: яна павінна быць дзейнай, яснай і простай, але разам з тым і філасофскі глыбокай, каб не стаць літаратурнай аднадзёнкай. І мы бачым, да якой крайняй прастаты і глыбокай народнасці даводзіць Маякоўскі свой верш у лепшых мейсцах паэмы.

А гэтыя паэтычна лепшыя мейсцы як раз і паказваюць на новую тэндэнцыю ў яго паэзіі, на прыходзячае арганічнае зліццё асабовай і грамадскай тэмы на антымістычнай аснове ў адрозненне ад тэмы «Про это». Аб гэтым красамоўна гаворыць сам паэт: «И я, как весну человечества, рожденную в трудах и в бою, пою мое отечество, республику мою».

Маякоўскі, які ў паэзіі адным з першых зразумеў і паказаў такую, сусветна-гістарычнай важнасці з'яву, як перамога ў свядомасці працоўных мас соцыялістычнага пачатку над уласніцкім, замяніўшы слова «маё» на слова «наша». Гэтае ўсведамленне выклікае ў паэта пачуццё гордасці і радасці. Разумеючы сваё арганічнае зліццё з пролетарыятам, ён гаварыў голасам будаўніка і гаспадара краіны:

„Моя фамилия
        в поэтической рубрике
Радуюсь я—
        это мой труд
Сливается в труд
        моей республики."

Тут няма якога-небудзь эгаізма, а ёсць вялікае пачуццё радасці паэта, які ідзе ў ногу з сваім класам, усхвалёванага свядомасцю велічнасці соцыялістычнай працы, у якой ён прымае асабісты ўдзел. Гэта акрыляла Маякоўскага, выклікала мажорна-лірычны голас, які так моцна гучыць у заключнай страфе паэмы:

„Жизнь прекрасна
        и удивительна.
Лет до ста расти
нам
  без старости.
Год от года расти
        нашей бодрости.
Славьте молот
        и стих
землю молодости."

Гэтыя словы гаварыў чалавек і паэт, па-сапраўднаму закаханы ў жыццё, у творчасць рэволюцыі, які «ненавидел всяческую мертвечину». І ў гэтай паэме Маякоўскі рэаліст не разлучаецца з марай пра соцыялістычнае заўтра, поўнае новых перамог, яркага сонца і радаснага жыцця людзей:

„Я вижу—
        где сор сегодня гниет,
где только земля простая—
на сажень вижу,
                из-под нее
коммуны
        дома
            прорастают."

Мы ясна чуем тут пераклічку з такім шэдэўрам соцыялістычнай лірыкі Маякоўскага, як вершы «О советском паспорте», «Во весь голос» і інш.

Паэт і грамадзянін соцыялістычнай краіны,—ён ганарыўся усведамленнем гэтага, натхняўся ім, кіпеў жаданнем жыць і тварыць для сваёй маладой магутнай радзімы. Ён, як ніхто, падняў пачуццё совецкага соцыялістычнага патрыятызма да ступені вялікай хвалюючай лірычнай тэмы:

„Я волком был,
выгрыз бюро крайком.
К мандатам почтения нету.
К любым чертям с матерями
катись
Любая бумажка,
но эту...
Я достаю
из широких штанин
Дубликатом
бесценного груза.
Читайте,
завидуйте,
я—
гражданин
Советского Союза."

Сёння—гэтыя пафасна-гордыя словы выражаюць свядомасць мільёнаў совецкіх грамадзян, усяго соцыялістычнага народу, прасякнутага глыбачэзным пачуццём совецкага патрыятызма.

Будучы гісторык Вялікай Пролетарскай Рэволюцыі несумненна выпіша гэтыя геніяльна-простыя і ўзвышаныя словы лепшага паэта нашай эпохі ў якасці эпіграфа да аднаго з раздзелаў, у якім ён будзе расказваць нашчадкам, як вырастала і фарміравалася новае найпрыгажэйшае пачуццё ў 170-мільённага народа—пачуццё сыноўняй любві, і совецкага патрыятызма да сваёй соцыялістычнай радзімы.

* * *

Маякоўскі з'яўляецца прызнаным майстрам совецкай паэзіі і творцам шэрагу шэдэўраў нашай соцыялістычнай лірыкі. «Ён быў і застаецца лепшым таленавіцейшым паэтам нашай эпохі». Ён займае пачэснае месца не толькі у совецкай, але і ў сусветнай рэволюцыйнай літаратуры, якую ён узбагаціў і падняў на вышэйшую ступень радам сваіх таленавіцейшых рэволюцыйных твораў. Вось чаму ён сапраўдны класік совецкай паэзіі.

Такі бліскучы вынік яго багатага і супярэчлівага творчага шляху. Ён завяршыўся ўступленнем Маякоўскага ў шэрагі расійскай асацыяцыі пролетарскіх пісьменнікаў (РАПП) у 1930 г. незадоўга да смерці. Гэты вынік быў падрыхтаваны пастаянным шчырым і гарачым удзелам Маякоўскага ў барацьбе і будаўніцтве соцыялістычнага грамадства, якое ачышчала яго думкі і пачуцці ад рэштак індывідуалістычнага мінулага.

«Калі я ўвайшоў у РАПП, то толькі таму, што ўся папярэдняя работа мяне да гэтай справы прывяла»—казаў Маякоўскі ў лютым

1930 г. на канферэнцыі МАПП Маякоўскі сумленна, як рэвалюцыянер, змагаўся з усімі перашкодамі ў сабе і па-за сабою, заўсёды кіруючыся адным дэвізам: служыць і служыць вялікай справе рэвалюцыі. Ён уносіў у гэтае сваё служэнне ўвесь свой талент вялікага паэта, усе пачуцці і думкі лепшага совецкага грамадзяніна. Ён пакінуў для совецкай паэзіі велізарную паэтычную спадчыну, здзіўляючую па багаццю зместу, форм, жанраў, выяўленчых сродкаў, майстэрства.

Ён быў таленавіцейшым майстрам паэзіі, паказваючы ўзоры работы над вершам, заўсёды крапатліва збіраючы раскіданае ў масах, у жыцці золата паэзіі, заўсёды ўдасканальваючы «оружия любимейшего род». Таму яго сучасныя творы, па-сапраўднаму простыя і народныя, захоўваюць разам з тым глыбіню філасофскага абагульнення, мастацкую тыпізацыю і палітычную дзейснасць.

На Маякоўскім выхоўваліся і будуць выхоўвацца дзесяткі маладых паэтаў. Вучачыся ў Маякоўскага наша совецкая паэзія брала і бярэ ў Маякоўскага ўсё лепшае, што стварыў яго вялікі талент у галіне зместу і формы.

Маякоўскі і ўвесь яго творчы шлях абавязвае кожнага паэта да сумленнай вучобы, выключаючы ўсякую легкадумнасць, голае перэйманне, якія могуць толькі абражаць яго памяць.

Усе апошнія творы Маякоўскага красамоўна сведчаць пра творчы аптымізм, пра ўсё ўзрастаючае майстэрства і лірычную сілу яго таленту. Маякоўскі меркаваў напісаць вялікую паэму, у якой ён думаў паказаць сябе «Во весь голос». Ён пакінуў нам толькі свой няўміручы ўступ да гэтай паэмы.

Вялікая пролетарская рэвалюцыя дала Маякоўскаму сапраўдны голас найвялікшага паэта. Яна любоўна ўсынавіла яго, даўшы яму імя, якое будзе гучэць у вяках: «лепшага таленавіцейшага паэта соцыялістычнай эпохі».

Але і ён сам, як сапраўдны сын і паэт рэвалюцыі, ўсё сваё жыццё і ўвесь свой талент прысвяціў служэнню рэвалюцыі, будучы партыйным паэтам у лепшым і глыбокім сэнсе гэтага слова.

Вось чаму гучаць так «весомо», «зримо» і пераканаўча словы паэта ў паэме «Во весь голос»:

„И все
поверх зубов вооруженные войска,
Что двадцать лет в победах пролетали,
до самого
последнего листка
я отдаю тебе,
планеты пролетарий.

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Явившись в Цекка
Грядущих светлых лет
Над бандой поэтических
рвачей и выжиг.

Я подниму, как большевистский
партбилет
Все сто томов
моих
партийных книжек."

*Янка Казека*

# З НЕВЫЧАРПАЛЬНАЙ КРЫНІЦЫ

*(Да пытання пра мастацкія вытокі творчасці Янкі Купалы перыяду „Жалейкі“)*

„Высочайшая похвала, какой только может в наши дни удостоиться поэт, самый громкий титул, каким только могут теперь почтить его современники или потомки, состоит в слове „народный поэт“.

*Вісарыён Белінскі.*

Аляксей Максімавіч Горкі—буйнейшы рэвалюцыйны пісьменнік і выдатны знаўца народна-дэмакратычнага фальклору—у сваім бліскучым дакладзе на першым усесаюзным з'ездзе савецкіх пісьменнікаў гаварыў, што літаратурнае мастацтва—мастацтва слова—бярэ свае вытокі з народнай вуснай творчасці. Ён крапатліва прааналізаваў развіццё слоўна-мастацкай творчасці. На канкрэтных прыкладах паказаў, як, пачынаючы з самых старажытных часоў, убірала ў сябе мастацкая літаратура выдатнейшыя вобразы герояў і з'яў, у розныя часы створаныя фальклорам.

«Найбольш глыбокія і яркія, мастацкі дасканалыя тыпы герояў створаны фальклорам, вуснай творчасцю працоўнага народу»,—гаварыў Аляксей Максімавіч. І пасля, ужо ў заключнай прамове на з'ездзе ён яшчэ раз асабліва падкрэсліў пытанне вытокаў літаратурнага мастацтва: «Паўтараю: пачатак мастацтва слова ў фальклоры. Збірайце наш фальклор, вучыцеся на ім, апрацоўвайце яго»,—даваў ён наказ усёй арміі творцаў пролетарскай савецкай літаратуры.

Чаму Аляксей Максімавіч такую выключную ўвагу аддае фальклору, так выразна акрэслівае ролю яго, як вытока сапраўднага мастацтва слова? Чаму ён заклікае не толькі пісьменнікаў, але і ўсю савецкую грамадскасць вывучаць фальклор, вучыцца на багацейшых матэрыялах вуснай народнай творчасці?

А. М. Горкі гаворыць гэта аб фальклоры працоўнага народу, найбольш дэмакратычных пластоў грамадства. І зразумела: толькі фальклор працоўных мас можна лічыць уласна народнай творчасцю.

Вобразы герояў фальклору—гэта дасканалыя, адчувальныя вобразы людзей, надзеленых глыбокімі тыповымі социяльна-псіхалагічнымі рысамі, характэрнымі для той социяльнай групы, якая ства-

рала даны вобраз. Гэта «вобразы, у стварэнні каторых гарманічна спалучаліся рацыю і інтуіцыю, мысль і пачуццё. Такое спалучэнне магчыма толькі пры непасрэдным удзеле стваральніка ў творчай рабоце рэчаіснасці, у барацьбе за аднаўленне жыцця». (М. Горкі). Толькі працоўны народ, працуючы, ствараючы помнікі матэрыяльнай культуры, мог шматгранна, багата і маляўніча адлюстраваць у вуснай творчасці усю сваю жыццёвую практыку, праўдзіва апець сувörасць паднявольнага жыцця пры эксплаататарах, апець свае багатыя думкі і мары пра шчаслівае чалавечае жыццё. Вялікая і прыгожая фантазія ў народа!

А на колькі цяжкое было паднявольнае жыццё, наколькі вялікая панавала галеча і бяспраўнасць,—гавораць вусныя народныя песні. Часам соцыяльны прыгнёт пануючых класаў і нязносная эксплуатацыя параджалі ў песнях матывы адчаю. Маці не радавалася свайму дзіцяці, яна аплаквала яго і сваю горкую нядолю, зычыла яму лепш смерць, чым жыццё і панскую кабалу. Вось што яна пела над яго калыскай:

Схавайся ты, дзетка,
На божу пасцельку.
Няхай твае вочкі
Заплюснуць на векі:
Не ўбачыш ты гора,
Гора мужыкова.
Не ўзнаеш ты долі,
Кроўкай палітое.

(Песня „Не плач, маё дзетка..." З кнігі С. Васілёнка „Пад панскім бізуном", ст. 17).

Векавы прыгнёт, неадступнае «гора», жудасць і беспрасветнасць жыцця налажылі на большасць дарэволюцыйных песень працоўнага сялянства свой адбітак. Песня не магла быць радаснай, вясёлай, калі навокал панавалі паразітызм, жорсткая эксплаатацыя, гвалты, няволя. Яна была балючая, як і само жыццё, мела цягучую і аднастайную мелодыю. Праз сваю песню працоўны селянін выказваў сваё гора, скаргі набалелай душы.

Я ў мора знясу гора,
Я на камень палажу,
Няхай топіцца ліхое...

гаворыцца ў адной песні. Працоўны чалавек вякамі вынашваў гарачую думу аб тым, каб пазбыцца назаўсёды гора. Песня гэта ўзнікла яшчэ ў часы прыгону. Пролетарыят у той час толькі зараджаўся, яшчэ не склаўся ў моцную сілу, а працоўнае сялянства само не магло пакончыць з прыгнятальнікамі, хоць і змагалася ўвесь час, адказваючы на ўціск памешчыкаў-прыгоннікаў безупыннымі бунтамі. Пакаленні людзей сходзілі ў магілу, не растаючыся з думамі аб волі і шчасці, аб «яснай долі», але ў жыцці сваім не бачылі ніводнай прасветлай мінуты. Смерць была як-бы паратункам. «Тое мора», у якім чалавек хацеў «утапіць» свае гора, «перасохла», а дарожкі да яго «зараслі». «Хто хадзіў, той не вярнуўся», многа людзей загінула,

«шукаючы» волі. Канчаецца песня словамі праклёну і крыўды, абурэння і адчаю:

Тады гора ты ўтопіш
Як свой век ты пражывеш,
Век працоўны, век нявольны
Да магілкі данясеш.

(З кнігі С. Васілёнка „Пад панскім бізуном", ст. 17).

«Вельмі важна адзначыць,—гаварыў у сваім дакладзе Аляксей Максімавіч,—што фальклору зусім чужы песімізм, не гледзячы на той факт, што творцы фальклору жылі цяжка і пакутліва-рабская праца іх была абяссэнсена эксплаататарамі, а асабістае жыццё бяспраўнае і безабароннае. Але пры ўсім гэтым калектыву як-бы ўласціва ўсведамленне яго неўміручасці і ўпэўненасці ў яго перамозе над усімі варожымі яму сіламі».

Менавіта так. Якой-бы цяжкой і непамернай не была эксплаатацыя, як-бы не здзекваліся паразітычныя класы грамадства, як-бы працоўных не апутвала царква «пропаведдзю песімізма»,—усё адно нельга было знішчыць веры працоўных у лепшую будучыню, веры ў свае сілы і праўду, нельга было задушыць светлых чалавечых мар. Працоўныя масы стваралі песні, легенды, казкі і другія жанры вуснай творчасці. Яны апявалі сваё гаротнае жыццё, свае надзеі і чаянні. Будучы прыгнечанымі і бяспраўнымі, яны марылі аб волі і шчасці, з гарачай любоўю апявалі людзей—змагальнікаў, людзей магутных, пратэстуючых. Яны, вечна карпеючы ў голадзе і галечы, марылі аб «скатерти-самобранке» і інш.

Фальклор у сваёй аснове мае магутны аптымізм, гераічную рамантыку, прагнасць да жыцця і волі, гнеў, крыўду, пратэст і нянавісць да прыгнятальнікаў. Наколькі вялікая любоў народу да лепшага жыцця, «долі» і шчасця,—відаць хоць-бы з жніўнай песні, запісанай намі ў 1929 годзе на Бабруйшчыне (в. Кострычы, Любанцкага сельсовета). Тут побач з паказам рабскай цяжкай працы жанчыны на полі багатыроў маем і ярка-выражанае імкненне «шукаць» сваю долю.

— Што-ж ты, доля, вячэрала?
— А ні сухі я хлеб ела:
Слёзачкамі праганяла,
Сваю долю праклінала.
Дзе-ж ты, доля, падзелася?
Ці ты ў моры ўтапілася,
Ці ў бару згубілася?
Калі ў моры ўтапілася,
Дак я цябе шукаць буду,
Калі ў бару згубілася,
Дак я цябе гукаць буду!

У дэмакратычным фальклоры «гора», «няволя», «воля», «нядоля», «доля», «бяда»—абагульняючыя вобразы соцыяльнай рэчаіснасці. Яны насычаны багатым соцыяльным зместам.

Становіцца зразумелым, чаму буйнейшыя пісьменнікі і паэты чалавецтва здолелі стварыць незабываемыя вобразы змагальнікаў, ... багатыя літаратурныя тыпы. Яны ў сваім творчым ме-

тадзе ішлі непасрэдна ад жыцця, бралі з невычарпальнай крыніцы— народна-дэмакратычнага фальклору—не толькі самыя вобразы герояў, але і мастацкія сродкі, яркія маляўнічыя фарбы для сваёй творчасці. Яны апрацоўвалі фальклор, выкарыстоўваючы з яго ўсе прагрэсіўныя, дэмакратычныя элементы. У рускай літаратуры Н. А. Някрасаў, у украінскай літаратуры паэт-дэмакрат Тарас Шэўчэнка становяць сабою бліскучы прыклад пленнага выкарыстоўвання дэмакратычнага фальклору. Яны імкнуліся ствараць свае творы па ўзору лепшых фальклорных твораў.

Народны паэт Совецкай Беларусі Янка Купала належыць да ліку такіх паэтаў. Як ніхто іншы ў беларускай літаратуры ён шырока і плённа выкарыстоўвае багацейшыя магчымасці беларускай дэмакратычнай фальклорнай лірыкі. Янка Купала арганічна звязан з фальклорам. Яго багатая, шматгранная творчасць бярэ лепшае з вуснай народнай лірыкі. Паэт змагаецца за стварэнне песень,—простых і мудрых, як народная песня.

«Вялікія заслугі павінен мець народны паэт перад сваім народам»,—сказаў на юбілейным вечары, прысвечаным 30-годдзю літаратурнай дзейнасці народнага паэта Янкі Купалы, пісьменнік братняга украінскага народу І. Мікітэнка. Надзвычай добра сказана. І вялікія заслугі мае народны паэт Янка Купала перад сваім беларускім народам, а таксама перад другімі братнімі народамі СССР. Нездарма ён заслужыў такую выключную павагу да сябе і любоў не толькі беларускага народу, але і другіх братніх народаў, насяляючых вялікі Совецкі Саюз.

* * *

У беларускую літаратуру Янка Купала прышоў у 1905 годзе, калі па ўсёй «единой и неделимой» магутнымі патрасаючымі раскатамі грымелі грымоты першай рускай рэволюцыі, калі нястрымная воля працоўных мас пад кіраўніцтвам пролетарыята крышыла слупы, на якіх стагоддзямі трымалася самаўладства. Працоўнае сялянства, якое на сваіх плячах зносіла цяжар эксплуатацыі «трох слупоў імперыі»—памешчыцтва, царызма і царквы, а таксама растучай буржуазіі, кулацтва—цёмнае, забітае «бяспраўнае і безабароннае» пашло ў рэволюцыі за пролетарыятам, «за зямлю і волю».

В. І. Ленін у артыкуле «Л. Н. Толстой» (збор твораў, III выд., том XIV), гаворачы аб буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі 1905—1907 гг., пісаў:

«Адна з галоўных адразняльных рыс нашай рэволюцыі заключаецца ў тым, што гэта была сялянская буржуазная рэволюцыя, у эпоху вельмі высокага развіцця капіталізма ва ўсім свеце і параўнальна высокага ў Расіі. Гэта была буржуазная рэволюцыя, бо яе непасрэднай задачай было звяржэнне царскага самаўладства, царскай манархіі і разбурэнне памешчыцкага землеўладання, а не звяржэнне панавання буржуазіі. У асаблівасці сялянства не ўсведамляла гэтай апошняй задачы, не ўсведамляла яе адрознення ад больш блізкіх і непасрэдных задач барацьбы. І гэта была сялянская буржуазная рэволюцыя, бо аб'ектыўныя ўмовы высунулі на першую чаргу

пытанне аб змене карэнных умоў жыцця сялянства, аб ломцы старога сярэдневяковага землеўладання, аб «расчыстцы зямлі» для капіталізма, аб'ектыўныя ўмовы высунулі на арэну больш або менш самастойнага гістарычнага дзеяння сялянскія масы».

У абстаноўцы напружанай класавай барацьбы, грозных баёў рэвалюцыі загучала купалаўская песня, простая, але з моцным соцыяльным пратэстам і выразнай класавай накіраванасцю (Першы верш «Мужык» надрукован 15 (28) мая 1905 г.).

Яго высунулі песняром бяднейшыя пласты сялянства, народныя нізы. У творчасці Янкі Купалы першага перыяду—так званага перыяду «Жалейкі» (1905—1907 гг.)—гэта найбольш гучны, дэмакратычна-рэволюцыйны голас сялянства. Купалу рэволюцыя ўзняла на вышыню народнай рэволюцыйнай хвалі. У гады рэволюцыі паэт найбольш поўна і соцыяльна праўдзіва адлюстраваў жыццё бяднейшага сялянства, разбуранага няшчаднай памешчыцка-капіталістычнай эксплуатацыяй, здолеў смела і рашуча выказаць гнеў і крыўду працоўных мас, выразіць іх ідэі і рэволюцыйныя патрабаванні. Паэт выразіў «і сілу і слабасць, магутнасць і абмяжованасць» (Ленін) сялянскага рэволюцыйнага руху.

Нас цікавяць мастацкія вытокі творчасці Янкі Купалы першага перыяду. З гэтай мэтай мы і прааналізуем яго першы зборнік вершаў «Жалейка» (выйшаў у 1908 г.), дзе прадстаўлены, праўда, далёка не ўсе вершы паэта, напісаныя ім за тры гады—1905, 1906 і 1907, г. зн. у гады першай рэволюцыі.

Янка Купала адразу запеў ад імя шырокіх народных мас, запеў пра «долю і волю».

Грай мая жалейка,
Пей, як салавейка!
Апявай нядолю,
Апявай няволю
І грымі свабодна,
Што жыве край родны!

Гэта эпіграф да «Жалейкі». Такі патэтычны і надзвычайна шчыры «загад» дае паэт сваёй «музе». І «муза» выканала яго. Першая кніжка паэта—яркі ўзор рэволюцыйна-дэмакратычнай паэзіі, народнай лірыкі.

Песня! Які вялікі сэнс укладваецца ў гэта простае слова! Далёка не кожнаму паэту ўдаецца пісаць вершы, якія потым спяваўбы народ, якія-б моцна ўвайшлі ў яго жыццё, у яго штодзённы абіход. Ствараць такія творы вельмі цяжкая, але ўдзячная справа, якая пасільна толькі высока-адароным паэтам, арганічна, кроўна звязаным з сваім народам. Толькі паэт, які добра ведае думы і імкненні, усе пачуцці і мыслі свайго народу, здолее ствараць для яго песні.

А ў «Жалейцы» вялікая колькасць вершаў—песні.

Нездарма ў 1911 годзе, у час разгулу чорнай агалцелай рэакцыі расійскага самаўладства і чорнасоценшчыны, А. М. Горкі звяр-

тае ўвагу скептыкаў на маладую беларускую літаратуру. У сваёй рабоце «Аб пісьменніках самавучках» ён прыводзіць перакладзены ім на рускую мову верш Янкі Купалы «А хто там ідзе» (змешчан у «Жалейцы»)—гэту «красамоўную і суровую песню, у якой паэт выступае ў імя нацыянальнага вызвалення беларускага народу». Горкі пісаў, што гэта песня «стане на час народным гімнам беларусоў». Сілу гэтай песні Горкі бачыў у тым, што яна ішла ў самыя шырокія масы працоўнага сялянства, што сама яна вырасла непасрэдна з вуснай народнай творчасці.

Янка Купала ў гэтым выключным па сіле і яркасці вершы дае разгорнуты рэалістычны вобраз працоўнага беларускага народу, якім усюды пагарджалі, якога багатыя нават не лічылі людзьмі, а проста «быдлам».

А хто там ідзе, а хто там ідзе
У вагромністай такой грамадзе?
— Беларусы.
А што яны нясуць на худых плячох,
На руках у крыві, на нагах у лапцёх?
— Сваю крыўду.
А куды-ж нясуць гэту крыўду ўсю,
А куды-ж нясуць на паказ сваю?
— На свет цэлы.

Як блізка такое апісанне беларусоў да вобраза, створанага вялікім паэтам-дэмакратам 60—70-х гадоў 19 ст. Н. А. Некрасавым у яго вядомай паэме «Железная дорога».

Видишь, стоит, изможден лихорадкою
Высокорослый больной белорусс:
Губы бескровные, веки упавшие,
Язвы на тощих руках,
Вечно в воде по колено стоявшие
Ноги опухли, колтун в волосах.
Ямою грудь, что на заступ старательно
Изо дня в день налегала весь век...

Канчаецца верш «А хто там ідзе» магутным пратэстам супроць сацыяльна-нацыянальнага ўціску, словамі рэвалюцыйна-сялянскай праўды:

А хто гэта іх, не адзін мільён,
Праўду несць навучыў, разбудзіў іх сон?
— Бяда, гора.
А чаго-ж, чаго захацелася ім,
Пагарджаным век, ім сляпым, глухім?
— Людзьмі звацца.

Па свайму рытмічнаму складу верш «А хто там ідзе»—баявая песня. Вялікая і шчырая любоў у Купалы да песні, як да народна-фальклорнай, гэтак і да сваёй. Паэт не перастае гаварыць аб песні. У адным з ранніх вершаў «Каму вас, песні?...» паэт пытаецца ў самога сябе: «Каму вас, песні, я, нясмелы, тут буду пецъ, снавацъ з душы, з душы няшчаснай, набалелай?.. Паэт добра ведае цану сваёй песні, ведае, што багатыя («светлыя», але «зласлівыя») не захочуць яе і знаць. Песня паэта ім не да спадобы, не па нутру

«О, веру, веру, што загнаны, мяне не здрадзіць мой народ!»—узрушана гаворыць паэт. Ён ведае, каму спяваць свае песні, хто іх зразумее, прыме да сэрца і надорыць любоўю свайго паэта. Гэта працоўны народ—«цёмны і акаваны». Адзінае хвалюючае жаданне ў паэта: навучыцца пісаць песні для працоўнага народу. К моманту выхаду Янкі Купалы і Якуба Коласа на літаратурную арэну працоўныя масы сялянства не мелі сваіх песняроў. І Янка Купала бярэ на сябе пачэсную справу: ствараць для іх простыя, зразумелыя, даступныя песні. Асабістае шчасце паэта ў тым, каб яго песні пашлі ў нетры беднаты, узнімалі масы на барацьбу з прыгнятальнікамі, будзілі ўсіх, «хто спіць, хто цярпіць без віны». Вось як Янка Купала выражае гэта жаданне ў вершы «Чаго-б я хацеў».

Дык-жа знайце, чаго-б я хацеў
Аб чым думачкі толькі мае:
Каб мой люд маю песню запеў
І пазнаў, аб чым песня пяе!

Паэт моцна, кроўна звязан з нізамі працоўнага сялянства. Таму і песня для яго так дарага, ён арганічна звязаў свой лёс з лёсам песні. У яго няма «сілачкі» «зрачыся, пакінуць» песню. Песні паэта нараджаюцца ў цяжкай і ўпартай барацьбе з соцыяльнай няпраўдай у жыцці, у змаганні з варожымі сіламі.

Выплакаў вас сэрцам,
Высніў вас душою,
Б'ючыся з нядоляй
Б'ючыся з бядою

(„Да песень").

Паэт рад, што свае песні стварае для тых, хто «горам багат». І таму ён з гонарам заяўляе, верачы ў сілу сваіх песень.

Са мной вы, я з вамі
Вечна будзем жыць.

(Там-жа).

Беларуская нацыяналістычная буржуазія і памешчыкі бачылі вялікі рэалістычны талент Янкі Купалы. Яны сустрэлі выхад паэта на літаратурную арэну вельмі варожа. Больш за ўсё ім было ненавісна, што Янка Купала запеў пра праўду, што ён смела загаварыў у абарону мужыка. Прыслужнікі беларускай буржуазіі адразу-ж пачалі прыкладваць усе намаганні, каб пазбавіць Янку Купалу яго соцыяльных вытокаў—сувязі з рэволюцыйнымі нізамі вёскі,—і перацягнуць у лагер нацыяналістычнай буржуазіі. Яны «баяліся», што талент Купалы можа дарэмна загінуць, бо хіба можа «чэрнь» надарыць паэта і славай і пашанай. І яны ўзмоцнена імкнуліся скіраваць Янку Купалу на шлях апявання нацыяналістычнага «адраджэння бацькаўшчыны». Толькі не ўдалося ім дабіцца гэтага ў гады рэволюцыі. Купала застаўся верным працоўным масам, ён выкрывае сапраўдныя меркаванні нацыяналістычных служак буржуазіі. У вершы «Адповедзь» ён з пагардай звяртаецца да іх: «Вы, паны, мяне з песняй к сабе прызываеце...» Янка Купала ведае, чаго будзе каштаваць

яму «рай ніколі няснены», «доля і слава», якую яму абяцаюць гэтыя «паны». Паэт усімі ніцямі моцна звязан з вясковай беднатой, акрылёны соцыяльнай праўдай і магутнасцю рэволюцыйнага сялянства, ён, не вагаючыся, знаходзіць, што адказаць «панам».

Так, паночкі, у будучу славу не верыцца,
І пустых абяцанак мне слухаць не міла;
А што ў сэрцы маім і душы цяпер дзеецца,
Буду пець, громка пець, пакуль возьме магіла.
Буду пець не за славу праз вас абяцаную;
Буду пець, бо люблю свайго краю паляны.
Буду пець, бо люблю сваю песню загнаную,
Буду пець, бо мне дар гэты доляй пасланы.

(„Адповедзь").

І ў вядомым ужо вершы «Чаго-б я хацеў» Янка Купала рашуча адмяжоўваецца ад прыслужнікаў буржуазіі, якія і хітрасцю і падманам заклікалі паэта да сябе. Паэт моцна і страсна ненавідзіць сваіх класавых ворагаў, агаляе іх прадажніцкую эксплуататарскую сутнасць.

Мне не трэба багатых другоў;
Даўно знаю пахлебствы я іх,
Іх малітвы да ўсякіх багоў
І з пагардай пагляд на другіх!
Не хачу з імі быць за сталом... і г. д.

«Панам» пазней, ужо ў перыяд рэакцыі, удавалася зламаць волю паэта, скарыстаўшы ўдалы момант, калі Купала, расчараваны часовым паражэннем рэволюцыі (тут і выявілася хісткасць і непаслядоўнасць яго дробна-буржуазнай ідэалогіі), аддаўся настроям песімізма.

Цікавы і прыгожы ўзор песні стварыў Янка Купала ў гады рэволюцыі 1905—1907 гг. Часта Купала пеў пра песню. Невыпадкова ў «Жалейцы» знаходзім твор, які так і завецца «Песня аб песнях». Песня апяваецца на ўсе лады, з ёю звязана мноства рознастайных эпітэтаў, метафар і параўнанняў. Абстрактнае паняцце «песні» ў мастацкі разгорнутым паказе набывае выразна адчувальную канкрэтнасць.

Плачаце вы, песні,
І я з вамі плачу.

(„Да песень").

Або:

Усё выллю і ў свет
Песняй лётнай пашлю".

(„З маіх песень").

Песні мае, песні!
Смуткаў маіх дзеці.

(„Да песень").

А ў вершы «Плачуць мае песні» Янка Купала звяртаецца да песні, як да жывой і паслухмянай істоты:

Кіньце плакаць, песні,
Горка, нешчасліва.

І ў працоўным народзе маем такую-ж непасрэдную, непадкупную любоў да песні, у якой абмалёўваецца паднявольнае жыццё, бядацкая нядоля, а таксама шуканні волі. Народ любіць свае песні, бо ў іх адлюстроўваецца яго праўда.

Гэта-ж праўда, што да рэвалюцыі беззямельны селянін, абліваючыся потам на панскіх палетках, а малазямельны селянін, карпеючы на сваёй вузенькай палосцы, як удала сказаў Янка Купала, «галасілі песні». «Галасілі песні» і жнеі. (Ніжэй мы разгледзім верш Купалы «Песня жней», у якім пасля кожнай страфы прыпеў канчаецца словамі: «І песню жаласна пяём»). Багата народных фалькпорных песень маюць у сабе апяванне песні. І тут песня аздабляецца самымі разнастайнымі эпітэтамі і метафарамі, праз якія і выражаецца любоў да песні. Адна з многалікіх жніўных песень, напрыклад, пачынаецца так:

Сама пайду дарогаю,
Голас пушчу дуброваю,
Няхай голас адгукнецца...

(Запіс мой. Бабруйшчына).

Тут «голас»—гэта песня. Іменна ў такой фальклорнай абмалёўцы песня нам уяўляецца вельмі рухавай і лёгкай, крылатай, яе, як птушку, можна «пусціць дуброваю», а яна хутка адгукнецца, вернецца назад. Праўда, з гэтай абмалёўкі нельга меркаваць аб іншых уласцівасцях песні, уявіць яе поўнасцю. Але ў другіх песнях, галоўным чынам у жніўных, паказ песні разгортваецца, канкрэтызуецца ў метафарычным плане. Напрыклад: «Запяем малодку на ўсю глотку!» Песня метафарычна паўстае ў выглядзе жанчыны-маладкі.

Вершы «Жалейкі», у якіх Янка Купала апявае рэвалюцыйна-дэмакратычныя ідэалы вясковай беднаты, вызначаюцца вялікай прыгожасцю, мастацкай дасканаласцю. Купалаўскую паэзію «Жалейкі» жывіла соцыяльная рэчаіснасць вясковай беднаты, жывіла рэвалюцыя. Дасканаласць мастацтва вершаў паэта тлумачыцца тым, што паэт у гады рэвалюцыі быў з працоўным народам, яго песні ўзраслі непасрэдна з фальклору і жывой народнай гутаркі. Дэмакратычна-рэвалюцыйны фальклор і жывая народная гутарка,—вось крыніцы вобразаў і вобразных сродкаў паэзіі Купалы, вытокі яго рэалістычнага пісьма. Багацці гэтых крыніц Купала выкарыстоўвае з уласцівым яму майстэрствам і ўмельствам. Гэтыя крыніцы служаць для яго як-бы своеасаблівай паэтычнай сыравінай. Патрабуецца цяжкая і вялікая работа паэта, каб атрымаўся меладычны, лёгкі верш. Купала, як і ўсе буйныя майстры паэтычнага слова, працягвае развіццё фальклору пад сваім пяром, дапамагае працэсу фармавання вуснай народнай творчасці. Яго творы ішлі ў самыя шырокія масы вясковай беднаты, станавіліся здабыткам працоўных мас і як узор, дапамагалі стварэнню новых фальклорных песень. Ніжэй, пры аналізе паасобных вобразаў і вершаў, мы ўбачым цеснае ўзаемадачыненне паэзіі Купалы і фальклорнай лірыкі. У Купалы-рэаліста нідзе няма стылізацыі фальклору, няма падробкі пад народную творчасць, прыстасавання да яе ўзораў, няма наіўна-натуралістычнага спісвання фальклорных вобразаў. У яго вершах і рытмічны

склад фальклорны, і мастацтва абмалёўкі, і кампазіцыйна-стылявыя прыёмы надзвычай блізкія да фальклорных. Усе лепшыя мастацкія традыцыі фальклору Купала перанёс у сваю лірыку.

Проста, прыгожа, праўдзіва і сурова гучыць яго песня з «Жалейкі». Яго вершы маюць вялікую сілу тыпізацыі. Асноўныя вобразы зборніка—і вобраз беззямельнага селяніна, і вобраз малазямельнага селяніна, вобразы парабка, жабрака, сіроткі—выпісаны паэтам з шчырасцю і любоўю, абвеяны непасрэднай лірычнай цеплынёй. Адразу адчуваецца роднасць Купалы з гэтымі людзьмі.

Вось вобраз беззямельнага селяніна. З вялікай праўдзівасцю Янка Купала малюе беззямельнага ў вершы «З песень беззямельнага».

У цябе, саколіка,
Ані свайго полейка,
Ані свайго воліка,
Ані свайго століка.

Так у гэтай суровай песні ажывае вобраз беззямельнага. Ён яшчэ паўней акрэсліваецца, разгортваецца глыбей у вершы «На старую ноту».

Весела пан з паняй
Едзе за граніцу,
Мужыка-ж хоць зубы
Кладзі на паліцу.
Аручы чужое,
Ад Юр'я да спаса,
Сабе й не згарусціў
К восені запасаў.
Бясхлеб'е глухое
На стале засядзе,
Яго з дзяцьмі, з жонкай
Пасвара, павадзе.

У беззямельнага нічога няма свайго. Каб як-небудзь цягнуць поўжабрачае жыццё, «доля» гоніць яго да пана, рабіць чужому, за бясцэнак губіць свае сілы.

Ой, ды лёгкай служба
Нідзе не бывае,
Бо служба—не дружба,—
Няволя цяжкая.
Трэба ведаць, знаці
Службы гараванне:
Позна легчы спаці,
А ўстаці зарання.

(„Ад рана да рана").

Абеззямеленае сялянства, выкінутае з каляіны дробна-уласніцкай гаспадаркі, і стварала армію наёмнай рабочай сілы для памешчыцка-прыгонніцкіх фальваркаў. (Вялікая частка абеззямеленых напаўняла гарадскі рынак рабочай сілы). «Вольная» наёмная праца ў пана была па сутнасці тым-жа прыгонам. Прыведзеныя вышэй рад-

кі з верша «Ад рана да рана» надзвычай блізка змыкаюцца з песняй часоў прыгону, якая пачынаецца словамі: «А ў нашага пана...» [1])

А ў нашага пана
Цяжкія прыгоны:
Як загоняць з панядзелку,
Дзяржаць да суботы;
А ў суботу на работу,
А ў нядзелю на варту.

Паказ гаротнага становішча абяздоленага селяніна, вялікай соцыяльнай няпраўды ў грамадстве эксплаататараў і прычын яе дасягае выключнай сілы і праўдзівасці ў адным з лепшых вершаў «Жалейкі».—«Вось тут і жыві...»

Няма хлеба, няма солі,—
Чужому рабі;
Няма шчасця, няма долі,—
Вось тут і жыві!

Прайшло лета, прайшла восень,—
Падаткі нясі,
А дзяцей абдзёртых восем!
Вось тут і жыві!

Працуй цяжка дні і ночы,
Пагарду цярпі;
Сказаў праўду—дзяруць вочы,—
Вось тут і жыві!

«Вось тут і жыві!»—гэта не адчайны крык, не плач. Гэта смелае абурэнне па адрасу паноў і самаўладства, якія давялі працоўнага селяніна да галоднага жабрацкага становішча.

Ёсць у Янкі Купалы вершы, дзе ён малюе эксплаатацыю жаночай працы. Характэрным у гэтых адносінах будзе верш «Песня жней». Пры доўгай панскай пастаці, «пагнуўшы ў крук худыя спіны» працавалі жанчыны-жнеі. Працавалі і спявалі пра сваю цяжкую працу.

Агніста сонца прыпякае,
Ў губах язык засох, як косць,
Пот горкі вочы залівае,
Змачыў кашулю ўсю як ёсць.

І пасля кожнай страфы прыпеў:

І дружна жнем,
І паддаем
Адна аднэй
Ахвоты больш,
І песню жаласна пяем.

Але заключная страфа з прыпевам ужо гучыць па-другому. Жудасны малюнак працы раптам змяняецца набалелай іроніяй на паноў. І прыпеў ужо зусім новы.

Гэй, жнема, бабкі і дзяўчынкі,
Гаруйма, гора не напасць;
Пан справіць гучныя дажынкі;
За пот, кроў, слёзы—водкі дасць,

1) С. Васілёнак „Пад панскім бізуном“, ст. 19.

Мы будзем піць,
Як гора п'ём,
Паноў хваліць,
[ дружна ім
Скрозь слёзы песню прапяём.

«Песня жней» Янкі Купалы выразна пераклікаецца з народнымі песнямі жней, якія ўзніклі яшчэ ў часы прыгону, былі шырока распаўсюджаны сярод сялянства і спяваліся аж да Кастрычніцкай рэволюцыі.

Вось пачатак адной такой песні:

Добры наш пан, добры наш пан,
Добры да работы:
Ой, як займе з панядзелку
Рабі да суботы.
А ў нядзельку раненька
Усе званы звоняць,
А атаман з дзесятнікам
Насіць снапы гоняць [1]).

У парадыйную форму «хвалы» «свайго» пана жанчыны-сялянкі ўкладваюць сваю нянавісць і крыўду, свой пратэст. У другой песні, якая распрацоўвае аналагічны матыў, пратэст і праклён выказваецца проста:

Бадай пану ў двары страшна,
Як нам сонца ў полі зашла,
Сонца зашло, а мы жнём,
Пры месяцу снапы носім,
Пры зорах у копы кладзем,
Апаўночы дамоў ідзем... і г. д [2])

Янка Купала паказаў, як нарастае магутны гнеў і крыўда ў абяздоленага сялянства. Многа адпакутвала яно, але, калі прышоў час расплаты, то селянін вуснамі паэта грозна і смела пытаецца ў сваіх ворагаў:

Гэй, растлумач выроддзе ўражжа,
Трутні, зладзеі пчольных прац!
Чаму, дзе труд крывавы ляжа,
Цвіце загон, стаіць палац?
Чаму я сею, а другія
З сяўбы маёй збіраюць плён. („З прасоння").

Умее селянін выказаць сваю крыўду і праўду. Умее і разлічыцца з панамі. І калі ў 1905 годзе ў гарадах са зброяй падняліся рабочыя супроць царызма і капіталістаў, услед-жа паднялося ў вёсках сялянства. Сяляне бралі стрэльбы, косы, сякеры, цапы і ішлі на сваіх адвечных прыгнятальнікаў—на паноў, забівалі іх, знішчалі маёнткі, адбіралі зямлю, секлі лес. І Купала клікаў на барацьбу, клікаў увесь «бедны люд» згуртавацца, ісці здабываць «долю сілай сабе».

Дружна ідзі, бедны люд, калі сонца к касьбе
Кліча з неба ды голадам мучышся ты;
Рэж траву, дабывай долю сілай сабе
Часам выйдзеш і ты з беднаты, з цемнаты.
(„Касьба").

[1]) С. Васілёнак „Пад панскім бізуном", стар. 19.
[2]) Там-жа, стар. 18.

Працоўныя масы ведалі, аб якой «касьбе» ішла рэч. Так у гэту вобразна-алегарычную форму Янка Купала ўкладвае выразны смелы кліч да рэволюцыйнай барацьбы. Ён паўтарае яго многа разоў у сваіх творах, дзе проста, а дзе алегарычна, але так, што ў гэтай алегорыі адразу відаць яе сапраўдны сэнс. У вершы «Касцу» ён зноў кліча выходзіць «на касьбу», «на вайну з травой».

На вайну з травой ідзі,
Касі гладзенька, глядзі!
Пяруны, грымоты б'юць,—
Ты касі, адважным будзь,
Гоп, гоп, гоп!
Ты адважным будзь!
Пяюць пташкі за вакном,
Лепшай долі даўно жджом...
Ну, досць коску ўжо кляпаць,
Час з калодкі уставаць.
Гоп, гоп, гоп!
Час ужо ўставаць!

У вуснай творчасці прыгнечанага народу дамінуючымі былі матывы класавага гневу, крыўды, нянавісці да эксплуатататараў, апяванне рэволюцыйных імкненняў. Яшчэ ў пачатку артыкула прыводзіліся прыклады з соцыяльнай фальклорнай лірыкі, дзе мы бачылі апяванне гаротнага жыцця, цяжару панскай кабалы, бяспраўнасці, імкнення шукаць лепшай долі і жыцця; там мы бачылі праклён і абурэнне супроць багатых. Надзвычайна вялікая колькасць песень мае ў сабе праклён і рэволюцыйны пратэст.

Бадай пана не хавалі,
Каб сабакі разарвалі,
Пахавалі пры даліне,
Каб па пану ваўкі вылі.
Бадай пана громы ўбілі,
Як мы ручкі патамілі [1])

Як бліскуча нагадвае соцыяльны праклён у народнай песні гэткі-ж па характару праклён у вершы Купалы «Гоніш мяне, панічок...» Пакрыўджаны селянін, адчуваючы сваю праваду, праклінае пана: «А ты гоніш?! Каб-жа ты цягаўся таксама!» А ў другой народнай песні маем адкрыты і смелы намёк на тое, што трэба знішчаць паноў. Датуль не будзе «дабра» у нашым краі, пакуль народ не знішчыць іх,—гаворыцца ў песні.

Няма дабра ў нашым краі,
Бо паноў багата.

(Песня „Ой, чаго-ж ты...")

Матыў успявання моцнага, стойкага, «вольнага чалавека»—рэволюцыянера-барацьбіта ідзе ў лірыку Янкі Купалы ад рэволюцыйна дэмакратычных імкненняў сялянства. Ён прадыктован рэволюцыяй. Вось як узнёсла і гераічна гучыць яго песня аб людзях, якія змагаліся на барыкадах у 1905 годзе.

І вышлі людзі сільныя
На бітву на крывавую,
Ды смерцяю акрыліся,
Хоць несмяротнай славаю

(„Я відзеў душы сільныя").

[1]) С. Васілёнак. „Пад панскім бізуном", стар. 18.

Гэтыя «людзі сільныя»

Змагаліся з няпраўдаю,
Змагаліся з кайданамі,
З кайданамі
З людскіх касцей кованымі.

Нараджаецца цудоўная «Песня вольнага чалавека». Перад намі «вольны чалавек»—барацьбіт, рашучасці і волі якога не пахіснула нават паражэнне рэволюцыі і турма. Вобраз «вольнага чалавека» створан з вялікай любоўю, як і ў дэмакратычным фальклоры.

„Дарэмна свістамі нагаек
Застрашыць хочуць тыраны,
Нагнаўшы чорных соцень шаек,
Акулі рукі ў кайданы,—
Душой я вольны чалавек,
І гэткім буду цэлы век!

У гэтых двух вершах Янка Купала паднімаецца да вялікага мастацкага абагульнення рэволюцыйнай сялянскай праўды, ствараючы вобраз «вольнага чалавецтва», адважнага барацьбіта. Таму так упэўнена гучыць заключная страфа вершу:

Ці-ж людзі сонца згасіць могуць
Згасіць, як свечку, яснасць дня?
І волі-ж дэспаты не змогуць,
Бо воля сонейку раўня.

З вобразам «вольнага чалавека»—змагальніка арганічна звязан ў дэмакратычным фальклоры вобраз «волі». Думку аб волі, аб знішчэнні панска-капіталістычнай эксплуатацыі і нявольнічага рабскага жыцця працоўныя масы вынашвалі доўгія гады. У гады рэволюцыі 1905—1907 гг. сялянскія масы пад кіраўніцтвам пролетарыята змагаліся за «зямлю і волю». Не дзіва, што здаўна ў рэволюцыйна-дэмакратычным фальклоры вобраз «волі» належыць да ліку самых любімых і прыгожых вобразаў. Гэты вобраз заключае ў сабе шырокае мастацкае абагульненне соцыяльна-рэволюцыйных ідэалаў.

Янка Купала стварае крыштальны вобраз волі, абвеяны глыбокай пачуццёвай лірыкай, нежнай любоўю. Яго вобраз становіць сабою простую адпаведнасць фальклорнаму вобразу волі.

І люблю-ж я, люблю
Гэту волю сваю!
Зямлёй лягу ў зямлю
Вазьму волю сваю.

Так пачынаецца верш «Воля». Шчырае прызнанне паэта і выражае народную любоў да волі. Невыпадкова паэт гнеўна гаворыць у вершы «Ад рана да рана»: «Хто не любіць волі,—не нашага роду». Путы нявольніцтва моцна сквалі працоўны народ. Пазбавіцца іх, бачыць свой народ вольным,—такое жаданне не пакідае паэта. Ён гаворыць, што не бачыць яму шчасця да тых часоў, «пакуль волі не ўбачыў над роднай зямлёй!» У няволі не могуць «радасцю азвацца» песні паэта. «Толькі-б воляю жыць, толькі-б путаў не знаць»,—

прагне паэт. І ён прыкладае ўсе сілы, каб раскаваць «песні ўсе ў ланцугу», якім яго скаваў свет няпраўды і багацця.

Сокалам-бы вольным
Паляцеў у свет гэты...

У песнях працоўнага сялянства вобраз волі таксама абвеян прыгожай, яснай фантастыкай, багатымі марамі, узнёслай рэволюцыйнай рамантыкай. Вялікае было жаданне мець волю, не знаць пут рабства. Вось як выражана жаданне волі ў песні, якая пачынаецца словамі: «Ішлі мы да двару»:

Дайце вы мне вольку,
Я ў зязюльках апынуся,
Дайце вы мне вольку,
Я да пташак прылучуся [1])

Паэт моцна верыць, што воля прыдзе толькі разам з рэволюцыяй. Яе трэба здабываць сілай, адваёўваць у барацьбе з «няволяй». І паэт актыўна ўключаецца ў змаганне працоўнага люду. Зноў паўстаюць алегарычныя вобразы «касца» і «касьбы». За знешняй кальцоўска-пастаральнай абмалёўкай выступае Купала рэаліст-рэволюцыянер. Рэволюцыйны змест вобраза «касца» нават не хаваецца пад алегарычнай вопраткай у вершы «З песень нядолі».

Ой, пайду я ў поле,
Як-бы на вайну,
Шукаючы волю
Шаблячкай махну!

Дарэчы, сама форма верша Янкі Купалы з'яўляецца вострай пародыяй на кальцоўскі верш. Слова «шаблячка» і параўнанне «як-бы на вайну» разбураюць кальцоўскую кананічную форму, так удала адпавядаючую «удальцу-касцу». Нават традыцыйны кальцоўскі выклічнік (у Кальцова не «Ой, а «Ох») набывае не толькі новае сэнсавае значэнне, але і новае рытмічнае гучанне, ён выконвае функцыю пародыі.

Канкрэтна-адчувальную форму набыў у песнях Янкі Купалы народна-фальклорны вобраз «мужыцкага гора». Як і вобраз волі, вобраз «мужыцкага гора» канкрэтызуецца метафарычна, раскрываецца ў складанай, багатай сістэме метафар, эпітэтаў. Выдатны малюнак гора бачым у вершы «Дзе ні вылецi з няволі»:

Горам чорным, ой, багата
Надарыла люд наш доля;
Гора ў хаце і за хатай,
Гора ў полі і за полем.

Гора паўстае ў выглядзе рухавай, чорнай, жудаснай здані, якая неадступна крочыць за селянінам:

А за імі, нібы хмара,
Йдзе мужыцкае ўслед гора [2]).

---

[1]) Бядуля „Вера, паншчына і воля ў беларускіх народных казак і песнях", стар. 108.

[2]) Аналагічная з'ява і ў фальклоры. І там гора паўстае ў выглядзя жывой чорнай здані:

Туды гора не даступіць,
Туды гора не ступнець,
Дзе ты костачкі паложыш.
(Песня „Людзі добрыя, скажэце...").

На базе векавой цемры і некультурнасці, панавання няпраўды і баязлівасці перад невядомымі сіламі (яе вякамі прапаведвала хрысціянская царква), у выніку неразумення з'яў прыроды ўзнікаюць ў масе сялянства т. з. народныя прыметы. Прыметы былі як-бы мастацкім абагульненнем жыццёвай практыкі і нагляданняў чалавека над з'явамі акружаючай рэчаіснасці. Яны ўзнікалі іменна ў выніку бяссілля селяніна змагці з'явы прыроды яшчэ ў старажытныя часы, перадаваліся з пакалення ў пакаленне, відазмяняліся. Янка Купала спецыяльна выкарыстоўвае прымету, каб яшчэ больш паглыбіць і без таго жудасны і трагічны малюнак гора, галечы ў хаце абяздоленага селяніна.

Пуста ў свірне і ў адрынцы,
Свінка хоча штось здыхаці,
Вые сучка на дзядзінцы—
Памрэ нехта ў гэтай хаце.
(„Ды не вылеці з нявол꞉").

Соцыяльныя вытокі творчасці Янкі Купалы і рэволюцыйны дэмакратычнага фальклору адны: жыццё абяздоленага люду, барацьба яго з сваімі прыгнятальнікамі. І калі мы гаворым, што вобразы фальклору ствараюцца людзьмі, якія непасрэдна ўдзельнічаюць «у творчай рабоце рэчаіснасці, у барацьбе за абнаўленне жыцця» (М. Горкі), трэба гаварыць, што вобразы паэта Янкі Купалы перыяду рэволюцыі 1905—1907 г.г. створаны ў непасрэднай барацьбе паэта разам з усім бедным людам за рэволюцыю, за знішчэнне эксплуатацыі, за абнаўленне жыцця. Роднасць соцыяльных вытокаў і ставіць Янку Купалу блізка да дэмакратычнага фальклору.

У паказе жыцця, побыту, працы сялянства Янка Купала выкарыстоўвае багаты матэрыял соцыяльна-бытавой фальклорнай лірыкі, працоўнай песні, прыказак. Гэта дапамагае паэту ствараць эпічныя вобразы людзей шматграннымі, жыццёвымі.

Значную цікавасць уяўляе прыказка ў вершах Янкі Купалы. Імкненне да кандэнсаванага паказу, да афармлення закончанай думкі ў надзвычайна кароткі афарыстычны сказ, прыводзіць паэта не толькі да выкарыстання самых прыказак, але і да наследвання прыказцы. У вершы «Песня аб песнях» знаходзім такую прыказку, якая становіць сабой узор народнага афарызма: «Бо што спісана пяром, не выйме й сякера». Зноў-ткі, Купала не проста скарыстоўвае прыказку ў вершы. Прыказка ў вершы іграе новую ролю, акрэслівае думку верша, робіць яе больш выразнай. (Дарэчы, у жывой народнай мове, гэта-ж прыказка аформлена крыху інакш: «Што напісана пяром, не вырубіш і тапаром»).

У тым-жа вершы «Песня аб песнях» Янка Купала, гаворачы аб вялікім значэнні песні, параўноўвае народ, які не мае сваіх песень, з бедным абяздоленым селянінам. Прыказку ён тут ужывае ў іранічным пераносным сэнсе: «Кепскі з нас той гаспадар, што не мае хлеба». Часам разгорнутае параўнанне ён будуе з народных прыказак. Напрыклад:

Бо, як там кажуць: шапка
на злодзеі гарыць,
Ці—парасё хто ўкрадзе,
таму ў вушах пішчыць.
(„І як тут не смяяцца").

З другога боку Купала сам стварае надзвычай многа прыказак, якія дужа цяжка адрозніць ад народных. У прыказках Купалы захоўваецца народна-фальклорная прастата, лаканічнасць, манера пабудовы сказаў. Вось некаторыя з іх, найбольш тыповыя: «Хоць пагарду цярплю,—мушу быць глух і нем». («Я мужык-беларус»). Або такі сатырычны афарызм, які мае ўсе рысы прыказкі, укладвае Купала ў вусны беднага селяніна, якога пан выганяе з хаты, хоць той і «плаціў акуратна»; «З табой-жа мы браты, як лічыць з Адама» («Гоніш мяне, панічок»).

Песеннасць, меладычнасць, музыкальнасць,—вось гэта і вылучае выгадна паэзію Купалы, становіць яе блізка да лепшых узораў рэвалюцыйна-дэмакратычнай лірыкі фальклору.

Купала—паэт—песеннік. Нават самыя назвы вялікай колькасці вершаў гавораць аб песні («Каму вас, песні?..», «З маіх песень», «Да песень», «Песня аб песнях», «Плачуць мае песні», «З восенніх напеваў», «З песень нядолі», «З песень аб сваёй старонцы», «з песень аб бітвах», «Песня вольнага чалавека», «З песень беларускага мужыка», «З песень беззямельнага», «Песня жней» і г. д.). А другія назвы вершаў маюць у сабе фальклорна-песенны лад. («Гэй, ты, сэрцайка...», «Як пайду я, пайду...», «А хто там ідзе?»; «Гоніш мяне, панічок...» «Ой чаму на хаты гэтыя» і многа іншых).

Бадай усе вершы Купалы маюць у сабе фальклорную структуру. Рытмічна-інтанацыйная будова ў яго паэзіі блізка стаіць да рытмікі народных песень. Яна характарызуецца кананічнай строгасцю і правільнасцю, лірычнай меладычнасцю, гібкасцю вершу. Верш з-пад пяра паэта льецца вольна, выключна лёгка. І калі чытаеш Купалаўскі верш, то глыбока адчуваеш яго музыкальнае гучанне, музыкальную закончанасць страфы. Музыкальная страфа—неад'емная ўласцівасць нават такіх суровых вершаў, як «Ах, ці доўга...», «Вось тут і жыві». «З восенскіх напеваў» і інш.

Прачытаўшы многія вершы Янкі Купалы, цяжка паверыць, што гэта не фальклорныя запісы, а песні, створаныя паэтам. Характэрным у гэтых адносінах будзе верш «З песень беззямельнага». Тут нават расстаноўка слоў зроблена строга ў адпаведнасці з народнай песняй.

Першая страфа вершу:

Ох, як гляну, гляну я
На жыццё паганае,
Цісну́ць думы званыя,
Жалем выліваныя,

— гучыць запевам і наладжвае на песенны лад увесь верш. Народна-фальклорны запеў—характэрная рыса купалаўскай лірыкі. Пераважная большасць твораў «Жалейкі» пачынаецца запевам. Надзвычайна цёплым, лірычным запевам пачынаецца верш «Да сваіх думак»:

Думкі, думкі—весялушкі,
Скуль вы узяліся,
Што ў душы, як тыя птушкі,
Песняй азваліся?

Вялікую ролю ў народнай песні адыгрывае запеў. Ён як-бы з'яўляецца веснікам асноўнай думкі ў песні, з яго пачынаецца самая песня. Запеў вызначае характар песні, вызначае сюжэтнае яе развіццё. Часта запеў служыць зваротам да аб'екту песні. Невыпадкова, што вядомая ўжо нам песня, у якой апяваецца імкненне чалавека ўтапіць у моры сваё гора, пачынаецца такім вельмі ўдалым і характэрным запевам:

Людзі добрыя, скажэце,
Ай дзе мора адшукаць
Любыя суседкі, не салжэце,
Як дарожаньку спазнаць.

Якая вялікая сіла роднасці паміж гэтым фальклорным запевам і запевам у песні Янкі Купалы «Ах, ці доўга»..., дзе паэт апявае жаданне «бедных, заганяных мужыкоў» развітацца з «бядой», з горкай нядоляй.

Ах, ці доўга, браце, будзем
Пад няволяю стагнаць?
Ах, ці доўга сваё шчасце,
Сваю долю праклінаць.

Як і ў фальклоры, у лірыцы Купалы досыць часта сустракаецца прыпеў. Пасля кожнага пэўнага адрэзку вершу паўтараецца адзін які-небудзь найбольш характэрны рэфрэн (часам цэлая страфа, а то й болей). Аб значэнні прыпева некалькі слоў было сказана вышэй, калі гаворка ішла пра верш «Песня жней». У вершы «І як тут не смяяцца», Янка Купала, апісваючы эксплуататараў-крывасмокаў (пан, доктар—«пан вяльможны», ксёндз; аканом «пузаты», шляхціц, старшыня-кулак) пасля «песенькі» пра кожнага з іх падае рэфрэн-прыпеў, намякаючы на тое, што трэба іх знішчаць:

І як тут не смяяцца,
І праўды не сказаць:
Варон на свеце многа,
Ды некаму страляць.

Ад дэмакратычнага фальклору Янка Купала ўнаследаваў і такую выдатную рысу сваёй творчасці, як скупасць сродкаў выражэння. Даволі прыгадаць хоць-бы невялікі па размеру верш «А хто там ідзе», дзе паэт здолеў даць шырокае мастацкае абагульненне нацыянальнага прыгнёту беларускага працоўнага народу і нарастання магутнага вызваленчага руху.

Роднасць паэзіі Янкі Купалы з фальклорам ярка выяўляецца ў кампазіцыйнай пабудове вершаў.

У вуснай народнай творчасці найбольш пашыраным з'яўляецца песенны паралелізм. У песні паралельна развіваюцца як-бы два матывы: з аднаго боку—матыў якой-небудзь з'явы прыроды, а з другога боку—матыў соцыяльнай ці бытавой з'явы. Разам яны становяць разгорнутае параўнанне. Як узор, мы прывядзём песню, пабудованую строга па прынцыпу паралелізма:

Ліпавая лісцiначка
Каля ліпкі ўецца,
З ліпкай растаецца:

— Аставайся, ліпачка,
З голлейкам, з карэннейкам.
Маладая дзевачка
Каля мамкі ўецца,
З мамкай растаецца:
— Аставайся, мамачка,
З сынкамі, з сокалкамі.

(Запіс мой, в. Кострычы, Бабруйшчына).

Праз такое разгорнутае параўнанне ападанне ліста і яго раставанне з дрэвам упадабняецца раставанню дзяўчыны з маткай. Кампазіцыйны прынцып песеннага паралелізма шырока выкарыстоўваецца і Янкам Купалам. Ён ляжыць у аснове пабудовы верша «Ой, чаму на хаты гэтыя»:

Ой, чаму на хаты гэтыя
Зышла восень з халадамі,
Калі людцы не сагрэтыя
Трасуцца пад лахманамі?!
Ой, нашто, нашто няшчаснага
Парадзіла мяне маці,
Калі долі шчасця яснага
Не магла з жыццём мне даці?!

Па прынцыпу песеннага паралелізма напісаны вершы «Плачуць мае песні», «З восенскіх напеваў» і інш.

У фальклорных песнях кампазіцыйны прынцып паралелізма мае многа адразняльных рыс. Вядома многа відаў такога паралелізма.

Асобную ўвагу заслухоўваюць песні, у якіх спачатку даецца зварот да аб'екта песні, а потым адказ на гэты зварот.

Вось песня: «Ах, ты, сонца, сонейка...» [1])

Маладая дзяўчына-жняя звяртаецца да сонца з скаргай, што яно «раненька ўзыходзіць» і «позненька заходзіць».

Ах, ты, сонца-сонейка,
Я на цябе віну маю,
Віну маю вялікую:
Што ты раненька ўзыходзіш,
Што ты позненька заходзіш.

Ад імя сонца адказвае жняя. Дзяўчына ведае, што не сонца вінавата, не доўгі летні дзень дае ёй рабскую працу, а пан. Дзяўчына выражае свой гнеў на пана, сваю крыўду праз адказ сонца.

Ах ты, дзеўка-дзевунька,
Не віную-жа ты мяне,
Віную-жа ты свайго пана.
Хоць я раненька ўзыйду,
Цябе на ніўцы я знайду,
Хоць і позненька зайду,
Цябе на ніўцы пакіну.

Такую кампазіцыйную пабудову часта можна знайсці ў вершах Янкі Купалы, Адказ паэт дае часам ад імя аб'екта, да якога звяртаецца ў песні, а часцей за ўсё ад свайго імя. У вершы «Да сваіх

[1]) С. Васілёнак „Пад панскім бізуном", стар. 18.

думак» пасля звароту да сваіх думак з запытаннем адкуль яны ўзяліся, паэт дае адказ, але праз новыя запытанні:

Ці зрадзіў вас дух абадзяны
У хатцы дзюравай
На зямельцы акаванай,
Бязвольнай, бясправай?
Ці ў калысцы ў ліповай
Са мной узраслі вы,
Як дзіцём вучыўся мовы
Вясёлы, шчаслівы?

і г. д.

Фальклорныя адзнакі мае ў вершах Янкі Купалы і інтанацыйны прынцып кампазіцыі. Увесь верш «Эй, скажы, мужычок!» пабудован па прынцыпу запытанняў. Нават запеў пачынаецца запытаннямі. (У фальклоры гэты зварот з запытаннямі да аб'екта песні вельмі распаўсюджаны).

Эй, скажы, мужычок,
Дзе ты долю падзеў?
Ці ўтапіў у ручаёк,
Ці прапіў, ці праеў?

Для вуснай народнай творчасці характэрна шырокае ўжыванне сказаў з інверсійнай пабудовай, і, галоўным чынам, з інверсіяй не дзеяслоўнай, а прыметнікавай. Верш Янкі Купалы «З песень беззямельнага» увесь складаецца з сказаў з прыметнікавай інверсіяй.

І клянеш напэўнае,
Гора неразвейнае,
Долю пустасейную,
Долю беззямельную
Толькі думы думныя
Чуюць хмары буйныя,
Хвоі, елкі шумныя,
Дый не людзі чуйныя.

Часта ў народных песнях можна сустрэць умаўчанне. Апавяданне раптоўна і нечакана абрываецца, але сэнс умоўчанага відавочан. У вершах Купалы бывае такое-ж умаўчанне. К умаўчанню паэт прыходзіць у сілу шматлікіх прычын. Часта гэта было з-за цэнзурных умоў, калі нельга было адкрыта заяўляць таго, аб чым думаеш:

Аб славе цуднай граюць сурмы,
Аб шчасці люду усяго;
Завуць змагаць няволі штурмы,
Завуць... ой, многа да чаго!...

А ў вострым аблічальным вершы «І як тут не смяяцца» паэт праз умаўчанне дасягае большага камічнага эфекта:

Вось ксёндз, служэбнік божы,
Увесь навучае люд,
Каб у касцёл хадзілі,
Каб не грашылі тут,
Каб к жонкам, на вячоркі
Не бегалі чужым,
Бяднейшым памагалі
А сам?.. Ну, бог і з ім!

Янка Купала ўзбагаціў беларускую літаратурную мову лепшымі сродкамі рэалістычнай, сакавітай і чыстай народнай мовы, мовы шырокіх пластоў працоўнага сялянства і фальклору. Таму купалаўская мова такая блізкая да фальклору, з моцна выражаным народным каларытам.

Народна-фальклорнае ўжыванне слова ў памяншальным, ці павялічальным значэнні знаходзім і ў Янкі Купалы. Праз ужыванне слова ў памяншальным значэнні ў вершы «З песень беззямельнага») («у саколіка, ані палейка, ані воліка, ані століка») малюнак галечы беззямельнага селяніна набывае вялікую выразнасць і моц. Багата рознастайных слоўна-мастацкіх прыёмаў паэтызуецца, выкарыстоўваецца паэтам з вялікім умельствам. Калі чытаеш яго вершы, то можа стварыцца ўяўленне, што метафары, эпітэты і параўнанні кананізіраваныя, застылыя. У дадзеным выпадку, калі і можна гаварыць аб канонах, дык толькі таму, што Купала не пераходзіць за рамкі багатай і сакавітай вобразнасці вуснай народнай творчасці. Надзвычайная прастата, лаканічнасць і яснасць думкі ўкладзена ў мастацкія сродкі (метафары, эпітэты і г. д.)

Бедныя людцы крыюцца ў хатцы („Восень").
Цэлае лета біўся, не жарты" (Там-жа),
Маладосць, вясёласць не жылі са мною (З восенскіх напеваў)
Не дало жыццё мне ні поля, ні хаткі, па чужых кутках век сіл
гублю астаткі" („Плачуць мае песні").
„Што год вясну бачым, гуляючы ў полі, дый вясны на сэрцы
не знаў я ніколі". („З восенскіх напеваў").

Можна прыводзіць безліч падобных прыкладаў.

Эпітэты ў паэзіі Янкі Купалы таксама бяруць выток з фальклору і жывой гутаркі народу. Характэрна тое, што паэт і ў выкарыстанні эпітэтаў наследуе фальклору, не перасыпае сваіх вершаў залішне эпітэтамі, але затое бярэ самыя трапныя і яркія. У надзвычай мастацкім вершу «Вось тут і жыві» на 8 чатырохрадковых строф маецца толькі 4 эпітэты: мароз вялікі, час рабочы, пот крывавы, дзеці абдзёртыя. Часцей за ўсё ў «Жалейцы» сустракаюцца такія кананізаваныя народна-фальклорныя эпітэты: жыццё паганае, гора неразвейнае, доля горкая, шчасце яснае, горкая нядоля, нягодная зіма, доля сіроцкая, вецер вольны, сокал зорнавокі, сокалам вольным, вочы ясныя, ясненькай зарой, злая доля, аканом пузаты і многа іншых. Асаблівае месца ў паэзіі Купалы займаюць назоўнікавыя эпітэты. Гэта рыса паэтам унаследвана ад фальклору:

Думкі, думкі-весялушкі... („Да сваіх думак").
Мкнуў-бы птушкай-весялушкай... („Думкі")
Хто паслухае песню-жаль маю? (Гэй, ты, сэрцайка)
Бачым сонца кругом, бачым сонца-вясну („Засвяціла цяпло")
Гоман птушак-пяюх льецца ў вушы твае („Вясна").
После гэтакай працы-мачыхі... („Заход сонца").

Параўнанні, як і метафары і эпітэты, сваімі карэннямі ўваходзяць у народную творчасць. Яны дужа тыповыя, даюць яскравае ўяўленне аб параўноўваемай з'яве.

Бо ты-ж надта цёмны, браце, як тытун у табакерцы...
(„Хоць, ты, сэрца...")

Вераб'ю па калена, што сею, расце... („Гэта крык, што жыве Беларусь").
А там голы, як бубен, папар... (Там-жа).
І пракос ў пракос вырастае, як строй,—пан з карэтай бы пэўна праехаў, між іх, („Касьба")
Ен мужыкоў, як ліпак, абдзёрці ва ўсім рад.
(„І як тут не смяяцца").

Не заўсёды Янка Купала быў паслядоўным у сваім творчым метадзе.

Паражэнне рэволюцыі 1905-07 гг. нарадзіла расчараванне ў Янкі Купалы, нарадзіла песімізм. Янка Купала не здолеў падняцца вышэй задач буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі, не ўсвядамляў, як і сялянства, задачы «звяржэння панавання буржуазіі» (Ленін). Пасля паражэння рэволюцыі, у гады рэакцыі Янка Купала адыходзіць ад рэволюцыйнай барацьбы народу, ад канкрэтнага паказу жыцця сялянскіх нізоў. Гэта выкарыстоўвае беларуская нацыяналістычная буржуазія. У гады рэакцыі «панам» удалося апутаць рэалістычны талент Янкі Купалы. Янка Купала пераходзіць на пазіцыі буржуазнага нашаніўскага адраджанізма, нацыянал-дэмакратызма.

Нават і ў «Жалейцы» ёсць моманты ідэйнага зніжэння, паасобныя матывы нацыяналістычнага адраджанізма. Але яны не значныя. Так, напрыклад, у вершы «Любімось, мае суседзі», Янка Купала становіцца ў позу «ўцяшыцеля» і заклікае беларускі народ не да класавай барацьбы, а да класавага супрацоўніцтва, «жыці ў згодзе», па-суседску.

Пасля 1908 г. зніжаецца ранейшая рэалістычная, фальклорная сіла паэзіі Янкі Купалы. Як ні дзіўна, а Купала пачынае стылізаваць фальклор, падрабляцца пад народную песню з буржуазна-нацыяналістычных пазіцый. Купала адыходзіць у свет алегарычнасці, містыкі, суб'ектывісцкай буржуазнай лірыкі. Купала пачынае жывіцца рэакцыйнымі элементамі фальклору.

Але вялікі талент у Янкі Купалы. Нават у гады самай злой рэакцыі Купала рваўся з палону нацыяналізма.

Цяжкі і складаны шлях прайшоў народны паэт Беларускай Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікі Янка Купала.

І толькі тады, калі Янка Купала ў выніку клопатаў камуністычнай партыі і ўраду Беларусі прышоў у соцыялістычную рэчаіснасць, калі ён назаўсёды звязаў свой лёс з лёсам пераможнага пролетарыята,—яго песня зноў загучала вольна, лёгка, абаяльна-прыгожа. Непасрэдна з вытокаў—з фальклору калгаснага сялянства і яго жывой мовы—узрастае яна. Янку Купалу, як закаханага юнака, натхняе наша радаснае, шчаслівае, заможнае жыццё. З невычарпальнай крыніцы—багатай аптымістычнай вуснай творчасці працоўнага народу—Янка Купала прагавіта чэрпае і дасканалыя вобразы і маляўнічыя фарбы. Янка Купала наследуе лепшым традыцыям «Жалейкі».

Яго вершы апошніх гадоў—гэта велічны гімн у імя і на славу нашай квітнеючай ордэнаноснай рэспублікі, на славу вялікіх народаў Савецкага Саюза, на славу соцыялізма і вялікага Сталіна.

# БІБЛІЯГРАФІЯ

## Ад „Русальчыных сцежак" да „Героя нацыі"

*(Заўвагі пра зборнік „Пункт апоры" Э. Самуйлёнка)*

„Форма без содержания — пошлость, часто довольно благовидная, содержание без формы — уродливость, часта поражающая трагическим величием, как мифология древне-германского мира, — оно — содержание без формы, следовательно не действительность, а призрачность".

(*Белінскі*, „Ліст да Боткіна", 1841 г.).

Многія з нашых крытыкаў залішне захапіліся незвычайнай фабульнасцю і актуальнасцю тэмы аповесці „Тэорыя Каленбрун" і „Праглядзелі" істотныя недахопы, якія перашкаджаюць творчаму развіццю пісьменніка і якія характэрны не толькі для гэтай аповесці, а і для некаторых твораў, напісаных Самуйлёнкам раней і пазней за „Тэорыю".

Некаторыя з нашых крытыкаў механічнае перанясенне законаў будовы авантурна-прыгодніцкага рамана з прыёмам „тайн" у савецкую літаратуру — успрынялі як новую якасць нашай літаратуры. Самуйлёнак аб'яўляўся першым беларускім фабулістам, у той час, як сам пісьменнік у сваіх выступленнях на сходах і пленумах, унутрана адчуваючы ўсю „несостоятельность" фабулізма „Тэорыі" — адмаўляўся працягваць надалей у сваёй творчасці кампазіцыйныя прыёмы гэтай аповесці і выказваўся за сапраўды рэалістычныя прыёмы фабульнай літаратуры.

Некаторыя з нашых крытыкаў (у гэтым у вялікай ступені вінаваты і аўтар гэтай рэцэнзіі), шукаючы філасофскага апраўдання прыёма „тайн", імкнуліся пагадніць прыёмы буржуазна-авантурнага рамана з рэалізмам нашай літаратуры.

Нічым іншым, як некрытычным успрыманнем Самуйлёнкам спадчыны старой авантурна-прыгодніцкай літаратуры можна растлумачыць тое, што вялікі соцыяльны змест жыцця і змагання комуністычнай партыі Польшчы не знайшлі свайго адпаведнага мастацкага адлюстравання ў аповесці „Тэорыя Каленбрун". У аповесці вялікая соцыяльная тэма была гвалтоўна ўціснута ў схему авантурна-прыгодніцкай фабулы.

Залішняе захапленне аўтара „вострымі вугламі" „тайн", залішняе захапленне знадворнай эфектыўнасцю фабулы з'явіліся прычынай таго, што змест аказаўся падпарадкаваным форме.

Гэтымі прычынамі можна растлумачыць тое, што амаль уся палітычна-масавая работа раённай партарганізацыі польскіх комуністаў засталася па-за ўвагай аповесці. У чытача можа стварыцца ўражанне, што раённая партарганізацыя стаіць як бы па-за масамі і ў замкнутых канспірацыйных умовах вядзе сваю працу, што комуністычнае падполле амаль не звязана з масамі, або нават сцэна забастоўкі ў аповесці эпізадычная. Гэтымі прычынамі можна растлумачыць і тое, што вобразы Чэста (кіраўніка райпартарганізацыі) і сержанта Дроба — атрымаліся далёка не поўнымі, што паказ аперацыйнага кіраўніцтва з боку Чэста ўсёй работай арганізацыі, — падменены прамовай Чэста на сходзе.

Слепа следуючы па слядах знадворнай „событийности" — Самуйлёнак не мог рабіць падрабязных і поўных зарысовак персанажных вобразаў, таму, у самым

цэнтральным месцы паказу пералому ў псіхаідэалогіі сержанта Дроба,—пісьменніку прышлося мастацкі паказ падмяніць публіцыстычнымі рэмаркамі ад сябе:

„Штуршок (для перабудовы) ёсць магутны класавы інстынкт".

„Справа ў тым, што ён (Дроб) не можа больш чакаць, не можа больш заставацца ў баку ад барацьбы, ён, сын пролетара Лукаша Дроба. Яго месца ў першых шэрагах ланцугоў, што ідуць на прыступ, і ён гэта месца займе".

Безумоўна, мы не маем права гаварыць пра ўсю аповесць, як пра „фармалістычны выкідыш". На старонках аповесці мы можам бачыць рад трапных псіхалагічных зарысовак і бытавога і соцыяльнага характару. Глыбокай соцыяльна і псіхалагічна з'яўляецца сцэна гутаркі паміж маёрамі Каленбрунам і Пфэрц-Дабравольскім у рэстаране, дзе перад чытачом паўстаюць „разумныя" і агідныя сыны польскага фашызма.

Незабыўнай з'яўляецца сцэна гутаркі паміж комуністамі Янам і Вронам, пасля адыходу комуніста Крамарчыка на мяжу. Праўда, не заўсёды з аднолькавай мастацкасцю выпісаны вобраз комуніста Крамарчыка.

Можна было-б яшчэ прыгадаць некалькі ўдалых мясцін у аповесці, але не ў гэтым справа. Справа ў тым, што ў аповесці гэтыя паасобныя ўдалыя мясціны не складаюць і не могуць скласці таго глыбокага мастацкі скандэнсаванага малюнка, які-б адлюстроўваў асноўную тэму аповесці: барацьбу комуністычнай партыі Польшчы супроць польскага фашызма, за пролетарскую рэволюцыю. Рэалістычны струмень у творчасці Самуйлёнка, які знаходзіць сваё выражэнне ў паасобных рэалістычна напісаных мясцінах аповесці, у пазнейшых творах пісьменніка выліваецца ў больш поўнае, больш рэалістычнае адлюстраванне жыцця.

Спадарожнікам прыёма „тайн" заўсёды бывае матыў выпадковасці, які не выкідае з усяго працэсу разгортвання падзей, а часамі і не характэрны для яго

Я маю на ўвазе „сляпую выпадковасць", якую Самуйлёнак часта бярэ на пракат у авантурна-прыгодніцкай літаратуры. Гэтая выпадковасць у большасці выпадкаў стварае знадворную „событийность", знадворную эфектыўнасць падзей. Па сутнасці—яна часамі так-сяк устанаўлівае ўзаемасувязь паміж падзеямі, часамі гэтая ўзаемасувязь падзей (устаноўленая выпадковасцю) бывае такою слабай, што вельмі цяжка ўстанавіць унутраную арганічнасць сюжэта, яго ўнутраную цэльнасць.

Сержант Дроб зусім выпадкова трапляе ў габінет дэфензівы. Зусім выпадкова складаецца сітуацыя: або самому быць выданым дэфензіве, або забіць Каленбруна і Дабравольскага. Выдаць сябе ці забіць Каленбруна і Дабравольскага—гэта азначае ў самым-жа пачатку аповесці парваць, знішчыць усе фабульныя лініі твору. Каб выратаваць фабулу аповесці, неабходна адшукаць яшчэ адну „сляпую выпадковасць". Зусім выпадкова справа канчаецца добра для Дроба, які матэрыялы гутаркі паміж маёрамі перадае ў парт-арганізацыю.

Мы добра ведаем, што анархічная капіталістычная культура напоўнена выключнымі выпадковасцямі, жахамі, асуджанасцю. Але мы гаворым пра дзеянні комуністычнай партыі Польшчы, усе дзеянні якой разлічаны не на выпадковасці, не на выкарыстоўванне авантурных выпадковасцей (або-або), а на глыбокі аналіз падзей, на глыбокі і цвёрды ўлік падзей у іх сукупнасці, на глыбока прадуманую тактыку ад пачатку і да канца. Вось у чым вялікая памылка Самуйлёнка. Нічым не прадугледжаная выпадковасць, якая-б выдала Дроба дэфензіве—так ці інакш прывяла-б да пагібелі плана комуністаў аб ліквідацыі Тэорыі Каленбруна.

Ісці на складанейшую аперацыю палітычнага характара, цвёрда не праверыўшы ўсю абстаноўку, з якой можна сустрэцца, цвёрда не праверыўшы ўсе свае крокі—нельга.

Нельга сказаць, што кампазіцыйныя прыёмы аповесці „Тэорыя Каленбрун" не маюць сваёй „гісторыі" ў творчасці Самуйлёнка. Яны ў значнай ступені падрыхтоўваліся папярэдняй творчасцю пісьменніка.

У крыху іншай форме ўлюбёнасць у знадворную фабульнасць твору, якая таксама ствараецца пры дапамозе матыва выпадковасці—мы сустракаем у творы „Русальчыны сцежкі" (зборнік твораў „Пункт апоры"), які напісаны раней за „Тэорыю".

У апавяданні расказваецца пра помсту кулака Хвашча калгаснікам. Але па ўсяму ходу апавядання адчуваецца, што не „помста" з'яўляецца галоўным, пра што хоча расказаць аўтар, не класавая барацьба на вёсцы так цікавіць аўтара.

Аўтара цікавіць не сутнасць з'яў, рэчаў, а сам працэс „делания явлений". Адпаведна гэтаму будуецца фабула апавядання.

Хвашча раскулачылі. Прачытаўшы апавяданне—чытач здзіўлена запытае: „Такога кулака-міраеда, як Хвошч—ні ў якім разе нельга пакідаць у яго „харомах", такі заняты вораг рэволюцыі, які раней канкурыраваў з абшарнікам—апрача шкодніцтва—нічога ў наша будаўніцтва прынесці не можа: яго трэба выслаць з Беларусі (не трэба забываць, што падзеі адбываюцца ў 1930-31 гг.). Але аўтар „пакідае" Хвашча ў яго хаце. Калі не зрабіць гэтага—фабула апавядання не „вытанцуецца". Бачыце, аўтар, нават, для гэтага знайшоў „жыццёвы" матыў: Хвошч прыкінуўся смяртэльна-хворым і калгаснікі з літасці да ліквіданага ворага пакінулі яму адзін пакой у доме.

Звычайна ў аматараў самажыўнай займальнасці твору галоўную ролю адыгрывае канцоўка твору. Тут на дапамогу прыходзіць тая-ж „сляпая выпадковасць". Практычнае выкананне сваёй помсты Хвошч ускладае на рэцыдывіста Гузка. Гузок павінен падпаліць калгасныя будынкі, якія раней належылі абшарніку. Былы маёнтак абшарніка і былы маёнтак Хвашча размяжоўвае вялікае балота, якое ўслана „русальчынымі сцежкамі", ці проста сцежкамі, якія прароблены качкамі. Гузок выходзіць з хаты (у якой застаўся Хвошч) і ідзе праз балота да калгасных хат, каб прывесці ў выкананне свой агідны план. Але... бачыце... Гузок у балоце зблудзіўся і прыняў хату, дзе знаходзіўся Хвошч за былы маёнтак абшарніка. У выніку—Хвошч згарэў. Гузок істэрычна пачынае расказваць калгаснікам пра тое, што гэта ён падпаліў хату.

Колькі нежыццёвасці, наіўнасці і надуманасці, і гэта ўсё „в угоду" фармалістычнай фабульнасці твору... Цікава тое, што Гузок „выпадкова зблудзіўся", Гузок, які ведае ўсе „русальчыны сцежкі" балота, які мае вялікую практыку рэцыдывізма. У развязцы вельмі невыразна дадзена разгадка „тайны" таго, што Гузок зблудзіўся.

Пісьменнік дае шараду—чытач павінен яе развязаць. Прыходзіцца некалькі разоў перачытваць апавяданне, каб зразумець яго фабулу.

Гэтае апавяданне падкрэслівае тое, як часта Самуйлёнак, імкнучыся паарыгінальнічаць,—пападае ў палон фармалізма, дзе „прием искусства есть прием затрудненной формы, увеличивающей долготу и трудность восприятия", дзе „воспринимательный процесс... самоцелен..."

Матыў выпадковасці скарыстоўваецца пісьменнікам у некаторай ступені ў творах, якія напісаны пазней за „Тэорыю", напр. у апавяданні „Цагліна казэмата" і нават у такім рэалістычным творы, як „Герой нацыі" як Штанге атрымаў магчымасць зрабіць рэволюцыйную прамову праз радыёстанцыю ўрада ў Нямеччыне).

У апавяданні „Цагліна казэматаў" ўжо не знадворная фабульнасць цікавіць аўтара, а суровая гісторыя старога і новага свету. Але ставячы перад сабой гэтыя задачы, Самуйлёнак часамі яшчэ цягнецца да матывіровак выпадковасцю, якія праўда адыгрываюць далёка не першаступянёвае значэнне ва ўсёй кампазіцыйнай структуры твору.

Пра гісторыю казэмата расказваюць рабочыя. Каб раскрыць усю глыбіню вобраза казэмата—прытулку катаванняў і смерці,—аўтар падшуквае кампазіцыйны матыў, які-б у максімальнай ступені мог раскрыць ідэю твора. Цагліна казэмата часамі можа расказаць тое, што чалавек ніколі не раскажа. Разбураючы казэмат, рабочыя выпадкова натыкаюцца на цагліну з надпісам. Надпіс зрабіў загінуўшы ў казэмаце сын Сцепановіча—старога рэволюцыянера. Надпіс на цагліне адкрывае змрочную гісторыю пра тое, як загінулі тысячы гераічных рэволюцыянераў ад рукі катаў капітала.

Магчыма ў дадзеным выпадку цяжка аспрэчваць права пісьменніка на гэтую матывіроўку выпадковасцю. Гэтая матывіроўка выпадковасцю, магчыма, тут гучыць у некаторай ступені рэалістычна. Жыццё не адмаўляе выпадковасці, і мастацтва гэты факт абыходзіць не павінна. Але тав. Самуйлёнак залішне аддае ўвагу ва ўсёй сваёй творчасці матывіроўцы выпадковасцю.

У творах „Паляўнічае шчасце", „Герой нацыі", напісаных у рэалістычным плане, Самуйлёнак зусім інакш трактуе пытанні фабульнага разгортвання.

Твор „Герой нацыі"—адзін з лепшых твораў Самуйленка, тым і вызначаецца сярод іншых твораў аўтара, што ён хвалюе сваім глыбокім зместам, умелым размяшчэннем матэрыялу, цікавай яго падачай. Няхай у ім адчуваецца некаторы ўплыў твора „На заходнім фронце без перамен", няхай пісьменнік у ім яшчэ поўнасцю не паказвае сябе, як сфармаваўшагася мастака, але гэты твор га-

ворыць пра рост пісьменніка, пра яго ўзмужаласць. Самуйлёнак бярэ звычайную тэму „развенчивания“ патрыятызма, які ў першыя дні імперыялістычнай вайны ахапіў некаторыя найбольш хісцкія слаі інтэлігенцыі і адсталую частку рабочага класа Захаду. Глыбока псіхалагічна паказан вобраз інтэлігента Штанге, які прайшоў імперыялістычную вайну, які вельмі дорага заплаціў за свой „патрыятызм“ і які прышоў да рабочага класа.

Паглядзіце, як глыбока соцыяльна, глыбока псіхалагічна гучаць радкі пра жыццёвы лёс Штанге:

„Больш не ўбачыць Франц свайго бацькі—капітана Карла Штанге. Вялізны жалезны параход вышаў з гавані і пайшоў, дні і ночы разбіваючы магутнымі грудзямі грозныя сівыя хвалі мораў, і прыйшоў, нарэшце, такі час, што ў невядомых шыротах далёкага акіяна сустрэла параход самая вялікая хваля. Параход трэснуў і знікнуў у пене і шуме вод. Так уяўляў Франц пагібель свайго бацькі.

Увосень, у той-жа самы год, маці, убраная ў чорнае, суровая і маўклівая, прывяла ў школу вясёлага, легкадумнага хлапчука Франца. Яго запісалі ў кнігу і з тае пары звалі яго Франц Штанге. Гэтыя два словы не разлучаліся потым ні ў спісах універсітэта, ні ў спісах фабрыкі, ні ў вайсковых, ні ў шпітальных рэестрах. Разлучыліся яны толькі тады, калі Франц стаў інвалідам, і замест слова Франц людзі гаварылі „калека“. Атрымоўвалася: калека Штанге. Магчыма, калі над целам Штанге вырасце груда зямлі пад чорным крыжам, тое першароднае слова, якім звала яго маці, зноў сустрэнецца са словам „Штанге“. Сапраўды не напішуць-жа яны: тут ляжыць калека Штанге“.

Апавяданне „Герой нацыі“—апавяданне пра драму і трагедыю асобы ў капіталістычным грамадстве. Ці праў Самуйлёнак, калі ён робіць акцэнт на трагізм лёсу асобы ў капіталістычным грамадстве? Безумоўна—праў. Трэба дадаць тое, што, паказваючы гэты трагізм асобы—пісьменнік паказвае шлях для пазбаўлення ад гэтага трагізма. І калі ў празмерным перагружванні трагічным у аповесці „Творы Каленбрун“ адчувалася часамі „літаратурнае какецтва“ пісьменніка,—дык гэтага зусім нельга сказаць пра апавяданне „Герой нацыі“.

Крыху раней за апавяданне „Герой нацыі“ Самуйлёнак напісаў апавяданне „Паляўнічае шчасце“ (якое таксама змешчана ў зборніку „Пункт апоры“). Па прыёмах напісання яно стаіць як-бы ў баку ад амаль усіх твораў, надрукаваных пісьменнікам. Апавяданне можна аднесці да тыпу псіхалагічных апавяданняў з акцэнтам на мастацкую партрэтнасць. Як і „Герой нацыі“, так і „Паляўнічае шчасце“ сведчаць пра нясупынныя пошукі пісьменнікам той мастацкай формы, якая-б дала магчымасць найбольш поўна адлюстроўваць жыццё. Здзіўляе толькі тое, што не ўсе мясціны апавядання, не ўсе вобразы выпісаны з аднолькавай чоткасцю і сілай. Калі асноўная тэма ўзаемасувязі паміж грамадскім і асабовым у вобразе конюха Лаўрона раскрываецца поўна, дык гэтага зусім нельга сказаць пра вобраз старшыні калгаса Васіля. Вобраз Васіля можна ахарактарызаваць нават той рэплікай, якую кідае Васілю Лаўрэн: „Ты мне тут кніжныя словы не выкручвай. Я ведаю, што ў цябе язык на масле“. Васіль не мае сваёй адменнай мовы, усё ў яго выходзіць неяк па-кніжнаму, па-казённаму. Ен добры кіраўнік. Але вобраз гэтага кіраўніка нічым не адрозніваецца ад тысячы вобразаў, якія можна сустрэць у няўдалых нарысах, ці падарожных нататках. Васіль гаворыць пра вялікія ідэі будаўніцтва. Чытаеш і думаеш: не верыцца, што такі чалавек можа гаварыць пра вялікія ідэі. Няма ў гэтага чалавека таго вялікага жыцця, няма ў яго таго інтэлектуальнага багацця, якое-б яму дала магчымасць так шырока гаварыць пра вялікія ідэі.

Чалавек гаворыць кніжнай мовай, і чытач яму не верыць. Ён рупар ідэй. Каб паказаць арганізацыйныя здольнасці Васіля—Самуйлёнак дае замалёўку сходу калгаснікаў. Васіль гаворыць прамову, супыняе найбольш неарганізаваных калгаснікаў, адказвае на некалькі рэплік калгаснікаў, ці замаскаваўшыхся падкулачнікаў. Так паказваюцца арганізацыйныя здольнасці, арганізацыйнае кіраўніцтва бальшэвікоў калгасным будаўніцтвам у многіх беларускіх творах. Пара ўжо з гэтым пакончыць. Савецкі чытач хоча ўбачыць вобраз комуніста не толькі на сходзе. Паказаць комуніста на сходзе значна лягчэй, чым паказаць яго ў кожным звяне жыцця. Справа не ў тым паказваць ці не паказваць кіраўніка на сходзе. Справа ў тым, што многія з нашых літаратараў асноўным у паказе бальшэвіка лічуць паказ яго на сходзе, паказ яго праз прамову. А гэта дрэнна. Нам могуць сказаць: Васіль паказваецца і ў быту. Так. Але што гэта за паказ? Ці не будзе гэты паказ беднай ілюстрацыяй да паказу Васіля на сходзе?

Васіль кахае Алену. Адразу сказаць ёй пра свае пачуцці ён неяк не адваж-

ваецца; задужа ён „скромный“ і сантыментальны да жанчын. Сустрэча з Аленай: Васіль робіць некалькі дзесяткаў надсонаўскіх „вздохов“, потым аслупянела маўчыць. Далей аўтар кажа: „І тады здарылася нечаканае. Алена шырока развяла рукі, і Васіль адчуў гарачае дыханне і шоўк валасоў на сваёй шчацэ, рукі Алены моцна абвілі яго шыю і сціснулі. Апамятаваўся Васіль тады, калі за Аленай грукнулі дзверы. Ён доўга стаяў на месцы“. („Пункт апоры“, стар. 109). Якраз, як у шаблонных сантыментальных раманах.

І неяк здзіўляешся, калі побач з схэматычным вобразам Васіля ў творы сустракаеш такі глыбокі і поўны вобраз, як вобраз конюха Лаўрэна,—цэнтральны вобраз апавядання. Але і вобраз Лаўрэна ў яшчэ большай ступені атрымаўся-бы глыбокім, каб іншыя вобразы апавядання былі паказаны мастацкі пераканальна.

Вобраз Лаўрэна гаворыць пра тое, што Самуйлёнак можа стварыць добры псіхалагічны партрэт не малага соцыяльнага значэння, прычым партрэт арыгінальны, цікавы і глыбокі. Вобразы старыкоў найбольш удаюцца нашым пісьменнікам. Можна прывесці шэраг прыкладаў з беларускай літаратуры. Лаўрэн вельмі добра даглядае коней, гэта яго грамадскі абавязак, гэта яго радасць. Ён актыўны ўдзельнік у калгасным жыцці, не гледзячы на сваю старасць. Усё, што даручаецца яму, ён выконвае сапраўды па-ўдарнаму і сапраўды па-майстэрску. Але, у яго ёсць асабістыя абавязкі, „лірычны куток“ яго жыцця: ён паляўнічы. Лаўрэн марыць пра сваё паляўнічае шчасце. Начамі ён не спіць і падпільноўвае выдру. Каб раскрыць узаемасувязь „лірычнага кутка“ Лаўрэна з яго грамадскімі ўчынкамі,—аўтар паказвае сутнасць гэтага „лірычнага кутка“.

Асноўны тэзіс аўтара ў тым, што „лірычны куток“ чалавека, жыццё гэтага „кутка“ вымяраецца грамадскімі ўчынкамі чалавека, ступенню яго ўдзелу ў грамадскім жыцці. Лаўрэна не пакідае думка: забіць выдру і купіць радыёпрыёмнік. Здарылася так, што намер Лаўрэна, голас яго „лірычнага кутка“ ставяць на пагрозу зрыву ільнанарыхтоўкі калгаса. Перамагла ў Лаўрэне сіла грамадзяніна. Ён пакінуў паляванне на выдру і пайшоў дапамагаць калгаснікам у ільнанарыхтоўках. Абстаноўка, жыццё патрабавалі ад Лаўрэна на хвіліну забыць пра свой „лірычны куток“. З болем ён пакідае паляванне і ідзе ў калгасныя гумны.

Звычайна, калі пісьменнікі гавораць у сваіх творах пра ўзаемасувязь грамадскага з асабістым—заўсёды заўважаеш, што вобразы, якія павінны глыбока раскрыць гэтую ідэю,—у сапраўднасці з'яўляюцца толькі беднай ілюстрацыяй да ідэі. Так атрымалася ў Самуйлёнка з вобразам Васіля. Але далёка не так атрымалася з вобразам Лаўрэна. Не ілюстрацыя да ідэі, а глыбокае раскрыццё псіхаідэалогіі селяніна-калгасніка, які робіцца свядомым будаўніком бяскласавага грамадства.

З вялікай цеплынёй, з вялікай павагай да новага чалавека, з вялікім адчуваннем прыроды, расказвае Самуйлёнак пра паляванне Лаўрэна і пра яго справы конюха.

У вобразе Лаўрэна мы бачым таго новага селяніна-калгасніка, які пачынае па-новаму глядзець на усю прыроду, які з раба стыхіі прыроды ператвараецца ў свядомага гаспадара прыроды, які пачынае зусім па-новаму глядзець на ўсе рэчы і з'явы соцыяльнага, маральнага і бытавога парадку. Сіла гэтага вобраза ў тым, што Самуйлёнак здолеў дастаткова поўна паказаць калгасніка ў яго дачыненнях да навакольнага свету. Адчуваецца—перад табой не ілюстраваная ідэя, а жывы, разумны чалавек—свядомы будаўнік новага жыцця.

У яго свая мова, часам перасыпаная старымі зваротамі, старымі словамі, у яго свой арыгінальны спосаб мыслення.

У гэтым творы няма той пагоні за „событийностью“, якая была ў ранейшых творах Самуйлёнка. Нават на першы погляд фабула апавядання—бедная. Але гэта толькі так здаецца. Апавяданне створана ў жанры псіхалагічных апавяданняў. Усялякае празмернае „Привнесение событийности“ (а яе мы наогул не адмаўляем, калі яна не робіцца самамэтнай) у апавяданні магло-б толькі пашкодзіць.

Здавалася-б, гэтая-ж самая ідэя ўзаемасувязі паміж грамадскім і асабовым, якая ставіцца ў творы „Пункт апоры“—павінна была-б мець не менш моцнае мастацкае выражэнне. Далёка не тое мы маем у сапраўднасці.

Аперан—навуковы работнік у галіне авіяцыі, у мінулым—начальнік авіятрада—сумуе, бачыце, таму... што фізічны стан яго здароўя не дазваляе яму кіраваць авіямашынай. Ен сумуе па нейкай стыхійнай вольнасці лётніка. Згадзімся з тым, што ў жыцці можна сустрэцца з такім фактам. Аперан сам называе свой сум „мяшчанствам“. Нас цікавіць, як Аперан пазбаўляецца ад мяшчанства. Аперан некалькі гадзін сядзіць у сябе ў пакоі, потым выходзіць на балкон, потым

зноў ідзе ў пакой, потым ідзе ў кіно, якімсьці чынам выходзіць, што дэманструецца кінофільм, створаны якраз пра яго ўдзел ў грамадзянскай вайне. Пасля кіно, пасля таго, калі працэс „брожения“ у яго перабудове адбыўся—ён сустракаецца з таварышам па ўдзелу ў грамадзянскай вайне—Біргам. Бірг у некалькіх словах з палітграматы пераконвае Аперана ў тым, што адрыў ад грамадства і замыканне ў сабе—рэчы вельмі шкодныя. Праз некалькі гадзін Аперан пачынае глядзець на свет зусім іншымі вачыма, ён „перабудаваўся“. Так людзі ў сапраўднасці не перабудоўваюцца. Адчуваецца, пісьменніку не хацелася ісці па збітаму шляху паказу мінулага праз размову двух таварышоў, праз апавяданне таварыша (як гэта часта робіцца нашымі пісьменнікамі). Пошукі навізны ў падачы матэрыялу—рэч добрая. Але тое, што аўтар абраў за новае ў падачы ўспамін пра мінулае—якраз не адпавядае ні ідэйнаму замыслу аўтара, ні фабуле апавядання. На першы погляд факт з кінофільмам здае навізной у сэнсе падачы матэрыялу. Але гэты факт неяк прыцягнуты за валасы ў аповесці.

Каб паказаць поўна перабудову чалавека, мала паказаць яго мінулае, потым звесці на гадзіну з чалавекам—сапраўдным бальшэвіком. Неабходна перабудову паказваць у канкрэтным дзеянні чалавека, у яго штодзённых суадносінах, дачыненнях да навакольнага жыцця.

Аперан больш думае, ніж дзейнічае. Яго адносін да навакольнага свету, паказаных праз канкрэтныя яго дзеянні, у апавяданні мы не заўважаем. „Думаючы“ Аперан перабудаваўся. Аперан залішне займаецца „рэфлексіяй“, залішне займаецца самааналізам. Жыцця Аперана, у поўным сэнсе слова, у аповесці амаль няма, бо няма яго дзеянняў, а ёсць разважанні. Адсюль, каб паказаць перабудову гэтага чалавека, аўтар ухапіўся за кінофільм. А кінофільм выканаў-бы сваю службовую ролю вельмі добра, каб Аперан быў шырока паказаны ў дзеянні. Адсюль адчуваецца штучнасць увядзення ў аповесць кінофільма.

Асаблівую ўвагу Самуйлёнку трэба было-б звярнуць на сваю мову. У большасці яна носіць адзнаку афіцыйнасці, публіцыстычнасці, а часам кніжнасці.

Вось як гаворыць Аперан: „Эпоха будаўніцтва і перапробкі чалавечага матэрыялу аказалася мне не па плячу. Мне патрэбны рамонт. Я не вытрымаў іспыты ў новай, складанай абстаноўцы“ („П. Р.“, стар. 212).

А вось гаворыць аўтар вуснамі Аперана:

„Усё гэта было там, далёка... Але ці-ж меншай сілы, ці-ж меншай упартасці і самаадданасці патрабуе сучасны этап барацьбы, даны ўчастак соцыялістычнага фронту?“ (стар. 204).

А вось зусім няўдалае абыгрыванне слова „націснуць“, якое перакрыжоўваецца з газетнасцю, у горшым сэнсе слова.

Гаворыць Васіль—старшыня калгаса:

„—Заўтра пачынаем штурм...

— Трэба націснуць будзе...“ (стар. 107).

Наогул—большасць герояў Самуйлёнка гавораць не арыгінальнай і сваёй, а афіцыйнай мовай.

Вось гаворыць сам аўтар:

„Такім чынам, мае права ён, Спяпан, стары пролетары, стаць на капітанскім мосціку“ (стар. 25).

Усё падобнае да слоў „такім чынам“ „націснуць“, яшчэ сведчыць пра слабыя моўныя сродкі аўтара. Гэтыя недахопы звязаны з недахопамі, якія характэрны для ўсяе творчасці Самуйлёнка.

І не авансы ідэалагічнага і мастацкага парадку могуць даць сапраўдную пуцёўку да творчых перамог пісьменніка, а больш удумлівае вывучэнне з'яў жыцця, звязанасць з жыццём, сур'ёзная і ўдумлівая праца пісьменніка над сабой.

*П. Хатулёў.*

# ХРОНІКА

**Падрыхтоўка да Пушкінскіх дзён.** Прэзідыум БелАН разгледзіў пытанне аб падрыхтоўцы да стагоддзя з дню смерці вялікага паэта Александра Сяргеевіча Пушкіна. У мэтах папулярызацыі сярод працоўных культурнай спадчыны Пушкіна вырашана правесці спецыяльную сесію Акадэміі, прысвечаную жыццю і дзейнасці паэта. Тэматычны план Пушкінскай сесіі даручана распрацаваць народнаму паэту БССР акадэміку Якубу Коласу.

Інстытуту Літаратуры і мастацтва даручана выпусціць да гадавіны спецыяльны нумар „Запіскі Інстытута", прысвечаны Пушкіну і прыняць актыўны ўдзел у выданні твораў Пушкіна Белдзяржвыдатам.

Усе навуковыя супрацоўнікі інстытута Літаратуры і мастацтва, філасофіі і нацыянальных меншасцей прыцягваюцца да правядзення дакладаў аб Пушкіне сярод рабочых і калгаснікаў.

**Конкурс на біяграфію А. С. Пушкіна.** Дзяржлітвыдат абвясціў конкурс на біяграфію А. С. Пушкіна. Па ўмовах конкурса гэта павінна быць брашура ў 4—5 аўтарскіх аркушаў. Тэрмін прадстаўлення рукапісу ў гатовым для друку выглядзе—15 кастрычніка 1936 г.

Біяграфічны нарыс павінен задавальняць усім патрабаванням навукова-папулярнай кнігі.

На фоне пушкінскага часу сацыяльных, эканамічных, палітычных і культурных тэндэнцый эпохі павінна быць паказана жыццё паэта, яго творчасць і гістарычнае значэнне вялікага рускага паэта.

У брашуры павінен быць паказан светапогляд вялікага паэта і вытлумачана яго грамадска-літаратурная дзейнасць і значэнне для развіцця сучаснай савецкай літаратуры.

Вызначаны прэміі: 10 тысяч рублёў, 5 тысяч рублёў, 3 тысячы рублёў.

**Пушкінскі каляндар:** Па прапанове Пушкінскага камітэта каляндарная рэдакцыя Соцэгіза выпускае да стагоддзя з дня смерці Пушкіна мастацкі каляндар-пяцідзёнку, прысвечаную памяці Пушкіна. Каляндар будзе выдадзен у колькасці 250 тысяч экземпляраў на добрай паперы з вялікай колькасцю ілюстрацый.

**Пушкінскі вечар ў школах.** У сувязі з набліжэннем сотай гадавіны з дня смерці Пушкіна ў школах Гомеля адбыўся рад вечароў, прысвечаных памяці паэта. Адзін такі вечар нядаўна быў праведзен у школе № 1. Сіламі школьнага драматычнага гуртка былі паказаны ўрыўкі з драмы „Барыс Гадуноў" і інсцэніроўка паэмы „Цыганы". Вучні выступалі з дэкламацыяй асобных твораў Пушкіна. Таксама былі выканаваны вакальныя і музычныя нумары.

**Маскоўская абласная Пушкінская камісія** складае карту ўсіх месц у сталіцы і вобласці, дзе бываў вялікі паэт. Па папярэдніх падліках такіх пунктаў налічваецца 101.

**Пераклады твораў Пушкіна на беларускую мову.** Над перакладамі твораў Пушкіна працуюць зараз беларускія паэты. Алесь Дудар скончыў дзве часткі „Еўгенія Онегіна". Пятрусь Глебка працуе над перакладам „Барыс Гадуноў", Аркадзь Куляшоў перакладае паэму „Цыганы". М. Хведаровіч перакладае „Каўказскі пленнік". Уся работа над перакладамі павінна быць скончана у лістападзе месяцы бягучага году.

**Зборнік народных песень.** Акадэміяй Навук створана брыгада па падрыхтоўцы зборніка народных песень. У Акадэмію Навук СССР выязджаў навуковы працаўнік для адбору народных песень, якія запісаны фальклярыстамі ў 1906 годзе на тэрыторыі былога Клімавіцкага павета. Адабрана для зборніка каля 40 песень, якія яшчэ да гэтага часу нідзе не друкаваліся.

Фальклорная секцыя адбірае народныя песні з запісаў Шэйна і Раманава. Лепшыя з іх былі ўключаны ў зборнік.

У зборнік увойдзе таксама частка песень, якія прысланы ў Акадэмію на конкурс лепшага запісу фальклора.

**Паседжанне рускай секцыі пры ССПБ.** 9-га мая адбылося пашыранае паседжанне членаў рускай секцыі, на якім абмяркоўваліся пытанні перабудовы

работы. На сходзе прысутнічалі ваенныя таварышы, студэнты, рабочыя літгурткоўцы і інш.

На сходзе абрана бюро секцыі і прыняты план работы на летнія месяцы. Вырашана правесці тры вялікія творчыя вечары, з іх адзін вечар будзе цалкам прысвечаны рабоце рабочых літгурткоўцаў.

На паседжанні было заслухана паведамленне аб выданні першага вялікага альманаха рускай секцыі. У альманаху, які разлічан на 12—16 аркушаў, прымуць удзел Галаўчынер, Шарапаў, Курдзін, Шапавалаў, Глазырын, Садоўскі, Шапіра і інш.

**Да юбілея Якуба Коласа.** У гэтым годзе спаўняецца 30-годдзе творчай дзейнасці народнага паэта БССР Якуба Коласа. Прэзідыумам праўлення саюза совецкіх пісьменнікаў выдзелена камісія па правядзенню юбілея. У склад гэтай камісіі ўвайшлі тт. Купала, Клімковіч, Александровіч, Лынькоў, Галавач і інш.

**17-га мая пачаў свае гастролі ў Віцебску рускі драматычны тэтр Заходняй вобласці.** Тэатр дасць у Віцебску 45 пастановак. У рэпертуары: „Горе от ума“, „Отелло“, „Аристократы“, „Далекое“ і інш.

20 мая ў Віцебску скончыў свае гастролі Беларускі дзяржаўны тэатр оперы і балета. На 25 спектаклях тэатра прысутнічала звыш 20 тысяч глядачоў. Тэатр выехаў на гастролі ў Гомель.

**У Віцебску прыехаў украінскі тэатр імя Шэўчэнкі.** Тэатр пакажа п'есы „Платон Крэчэт“. „Васса“ Жэлезнова, „Пагібель эскадры“ і інш. На вакзале артыстаў сустракалі прадстаўнікі партыйных і совецкіх арганізацый горада. Свае спектаклі тэатр пачаў 22 мая п'есаю „Платон Крэчэт“.

**Новыя музыкальныя творы.** Кампазітар Туранкоў апрацаваў для Дзяржаўнай капелы БССР пяць народных песень: „Ой, зялёненькі мой дубочак“, Ты чырвоная каліна“, „Забалела ты мая галованька“ і інш. Для ансамбля народных інструментаў Туранкоў напісаў музыку „Беларуская фантазія“ і апрацаваў дзве яурэйскія народныя песні.

Тэатр імя Вс. Мейерхольда прыехаў на гастролі ў Менск. Тэатр пакажа 4 спектаклі — „Лес“ Остроўскага, „Свадьба Кречинского“ А. В. Сухова-Кабыліна, „33 обморока“ паводле трох жартаў А. П. Чэхава: „Юбілей“, „Медведь“ і „Предложение“ і „Горе уму“ Грыбаедава.

---

СНК БССР прызначыў начальнікам Упраўлення па справах мастацтва пры СНК БССР тав. Пасюкевіча, Петра Осіпавіча.

## ПА САЮЗУ ССР

**Кіносцэнарый да 20-годдзя Кастрычніка.** У маскоўскім доме совецкага пісьменніка адбылася 11 мая пры ўдзеле тт. Кержэнцава, Шчэрбакова, Ангарава і Шумяцкага нарада групы кінодраматургаў, якія працуюць над сцэнарыямі для фільмаў да 20-годдзя Кастрычніцкай рэволюцыі. З дакладамі аб тэматычных планах совецкіх кіноарганізацый на 1936-37 гг. выступілі тт. Усіевіч, Сакалоўская і Піотроўскі. Аб сваіх творчых заяўках гаварылі прысутнічаўшыя на нарадзе пісьменнікі і сцэнарысты.

Большасць творчых заявак, як высвятлілася з дакладаў і выступленняў, не адпавядаюць гістарычнаму значэнню юбілейнай даты, аўтары не распрацоўваюць вялікіх праблемных тэм, якія совецкая кінематаграфія павінна асвятліць у дні вялікага рэволюцыйнага юбілея.

Тав. Шчэрбакоў адзначыў, што з многіх дзесяткаў названых на нарадзе сцэнарыяў і тэм толькі 2-3 могуць з'явіцца сапраўднымі юбілейнымі творамі, якія вырашаюць праблему вялікага гістарычнага значэння.

Тав. Шчэрбакоў і Кіршон паведамілі, што Саюз совецкіх пісьменнікаў сумесна з ГУКФ і камітэтам па справах мастацтваў у бліжэйшы час наладзяць самы непасрэдны нагляд за ходам работы па падрыхтоўцы кіносцэнарыяў да 20-годдзя Кастрычніка.

**Шэкспіраўская сесія.** Кафедрай заходніх літаратур ІКП літаратуры была праведзена Шэкспіраўская сесія. На сесіі абгаворана даклады С. Дзінамава „Канцэпцыя В. Фрычэ пра Шэкспіра“, А. Джывелегава „Італія і Шэкспір“, І. Нусінава— „Класавая прырода творчасці Шэкспіра“, М. Дзератані „Шэкспір і антычнасць“. Б. Райх „Шэкспір у ацэнках германскага фашызма“, С. Брэйдбурга „Заўвагі Л. Талстога на тэкст трагедыі „Рамео і Джульета“, а таксама даклады слухачоў ІКП літаратуры: Е. Красной—да пытання аб мове Шэкспіра, А. Наумавай—„Шэкспір і народ“, Т. Рокотава і Нікалаевай.

**Юбілей Руставелі.** Па пастанове ЦК КП(б) Грузіі у 1937 годзе будзе святкавацца 750 гадовы юбілей з дня нараджэння геніальнага грузінскага паэта, аўтара паэмы „Той, што носіць тыграву скуру“ Шота Руставелі. Сярод іншых мерапрыемстваў да гэтае даты мяркуецца выдаць акадэмічнае выданне гэтай паэмы. Для канчатковага ўстанаўлення тэкста паэмы Ру-

ставелі па пастанове ЦК КП(б) Грузіі выдзелена камісія, у якую ўвайшлі праф. К. Кекелідзе, А. Шанідзе, І. Джавахішвілі, І. Абуладзе, В. Берыдзе, С. Какабадзе, пісьменнікі П. Ігорока і К. Чычынадзе.

**Памяці яўрэйскага пісьменніка Шолам-Алейхема.** У маі споўнілася 20 год з дня смерці вядомага яўрэйскага пісьменніка Шолам-Алейхема. На радзіме пісьменніка ў гор. Пераяслаўлі, Кіеўскай вобласці былі праведзены даклады аб жыцці і творчасці Шолам-Алейхема.

Па пастанове Пераяслаўскага гарадскога савета на сцяне доміка, ў якім нарадзіўся і правёў сваё дзяцінства пісьменнік, прыбіта мемарыяльная дошка.

**Юбілей народнага паэта Чувашыі Н. І. Полорусова-Шэлепі.**

Чувашская рэспубліка святкавала 17 мая ў г. Чэбоксары 30-цігоддзе літаратурнай дзейнасці і 55-годдзе з дня нараджэння старэйшага свайго народнага паэта Нікалая Іванавіча Полорусова-Шэлепі.

Як і большасць чувашскіх дарэвалюцыйных пісьменнікаў, ён пачаў пісаць у перыяд рэвалюцыі 1905—7 гг. Ужо першы яго твор „Россия" быў вострай сатырай на цара і яго бюракратычную зграю—на царкву і папоў.

Вялікая плённая работа Шэлепі асабліва развівалася пасля Кастрычніка. Яго творы выданы трымя вялікімі зборнікамі. Сярод гэтых твораў асабліва вызначаюцца песні пра вялікую пролетарскую рэвалюцыю, пра Чырвоную армію, пра Леніна і Сталіна, пра новую соцыялістычную Чувашыю.

Урад Чувашскай рэспублікі, надаючы вялікае значэнне 30-гадовай творчай дзейнасці Шэлепі, пастанавіў правесці яго юбілей як усерэспубліканскае свята.

Пастановай ЦВК ЧАССР Шэлепі надана годнасць народнага паэта Чувашскай рэспублікі.

**125-годдзе з дня нараджэння В. Г. Белінскага.** Ленінградскія літаратурныя арганізацыі рыхтуюцца да 125-годдзя з дня нараджэння вялікага рускага публіцыста і крытыка В. Г. Белінскага. У доме пісьменніка імя Маяковскага, інстытуце рускай літаратуры, Акадэміі навук, школах і рабочых клубах адбудуцца вечары і ўрачыстыя паседжанні, прысвечаныя памяці В. Г. Белінскага.

## ЗА МЯЖОЮ

**Антыфашысцкі з'езд польскіх пісьменнікаў.** 16 і 17 мая ў Львове адбыўся першы з'езд польскіх пісьменнікаў і мастакоў, прысвечаны абароне культуры супроць фашызма.

На з'ездзе прысутнічалі відныя польскія пісьменнікі і публіцысты: Ржымоўскі, Ванда Васілеўская, Зегадловіч, Кручкоўскі і інш. З'езд абраў у ганаровы прэзідыум Ромен Ралана, Максіма Горкага, Жуль Ромена, Генрыха Манна, італьянскага антыфашысцкага пісьменніка Сілоне і польскага пісьменніка Андрэя Струга. На з'ездзе была зачытана прывітальная тэлеграма ад парыжскай міжнароднай асацыяцыі абароны культуры.

Група прафесароў Варшаўскага універсітэта і асобныя групы польскіх пісьменнікаў Варшавы і Кракава заявілі, што яны далучаюцца да пастаноў з'езда.

АДКАЗНЫ РЭДАКТАР *М. ЛЫНЬКОЎ.*

РЭДКАЛЕГІЯ: *А. Александровіч, Я. Бранштэйн, М. Клімковіч, Я. Колас, Я. Купала, М. Лынькоў, І. Харык, К. Чорны.*

АДРАС РЭДАКЦЫІ: **Менск, Савецкая, 68. Дом Пісьменніка. Тэлефон 25-394**

## ЗМЕСТ





